

**Апостал Павел. Дрэва, разьба. XVIII ст. Вёска Прошкава Глыбоцкага р-на Віцебскай вобласці. (Зараз — у Музеі старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АН БССР).**

# 1.91 СПАДЧЫНА

**ЧАСОПІС БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ**


## У НУМАРЫ:

НАРОД, ГІСТОРЫЯ, КУЛЬТУРА


**Вярнуць нацыянальныя скарбы.** «Круглы стол» . . . . . . . . . 2
**Лявон Крывіцкі.** Нельга абысці маўчаннем . . . . . . . . . 10
**Адварды Будзька, Максім Гарэцкі, Леапольд Родзевіч.** Успаміны пра Івана Луцкевіча . . . . . . . . . 18
**Анджэй Кемпфі.** Аб «сталічным Наваградку» і аб наваградскай Божай Маці Замкавай . . . . . . . . . 21


ВЯРТАЕЦЦА ДА ЧЫТАЧА


Публіцыстыка **Алеся Гаруна** (Аляксандра Прушынскага) . . . . . . . 25
**Францішак Аляхновіч.** Беларускі тэатр 33


ПАЭЗІЯ


**Віктар Шніп.** Вершы . . . . . . . 44


ДАКУМЕНТЫ І ЛЮДЗІ


**Памёр ад «ожирения сердца»...** . . . . 45


ДАСЛЕДАВАННІ, МЕРКАВАННІ, ГІПОТЭЗЫ


**Уладзімір Мехаў.** Пра Аляксандру Ізмайловіч і не толькі пра яе . . . . 46
**Генадзь Кісялёў.** Ці было такое выданне? 51
**Алесь Кушнярэвіч, Уладзімір Маскалёў.** Цікавыя знаходкі з Гальшан . . . 55
**Ганна Мезенка.** Гарадское ўпарадкаванне Беларусі ў люстэрку урбананіміі . . 56


СІЛУЭТЫ ПРОДКАЎ


**Мікалай Шкялёнак.** Леў Сапега . . . 58
**«Летапіс Вялікіх князёў Літоўскіх»** . . 78


СКАРБНІЦА


**Юры Верашчака.** Аб найменнях — «Гуды»,— «Крывічы»,— «Русь» . . . 85


ПОМНІКІ СУСВЕТНАЙ КУЛЬТУРЫ


**Новы Запавет Госпада нашага Ісуса Хрыста.** Пераклад **Анатоля Клышкі** . . . 92


ДУМКА РЭЦЭНЗЕНТА


**Анатоль Сабалеўскі.** Вяртанне класікі . . 105
**Алесь Вішнеўскі.** З ракі памяці . . . 110





**ЧАСОПІС ВЫДАЕЦЦА КОШТАМ ТВЦ «ПАЛІФАКТ» БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ**

Мастацкі рэдактар У. Я. КРУКОЎСКІ.
Тэхнічны рэдактар З. М. МІКІШЧАНКА.

Адрас рэдакцыі: 220029, Мінск, Старажоўская, 5. Тэл. 34-24-54, 34-26-50.

Здадзена ў набор 24.12.90. Падпісана да друку 11.02.91. Фармат 70×100 1/16. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 10,15. Ум. фарб. адб. 22,4. Ул.-выд. арк. 12,87. Тыраж 9458 экз. Зак. 1140. Цана 1 руб.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79.

Выходзіць 6 разоў на год.
Выдавецтва «Полымя»
Мінск

# ВЯРНУЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СКАРБЫ

## «Круглы стол» па пытаннях захавання і вяртання спадчыны

**Нядаўна ў рэдакцыі часопіса адбылася размова, у якой прынялі ўдзел доктар філалагічных навук, старшыня камісіі «Вяртанне» пры Беларускім фондзе культуры Адам Язэпавіч Мальдзіс, доктар фізіка-матэматычных навук, намеснік старшыні Сойму Беларускага народнага фронту «Адраджэньне» Юрый Віктаравіч Хадыка, кандыдат філалагічных навук Арсень Сяргеевіч Ліс, дырэктар архіва-музея літаратуры і мастацтва БССР Ганна Іванаўна Сурмач, мастак Яўген Сяргеевіч Кулік, пісьменніца Вольга Міхайлаўна Іпатава, загадчык аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН БССР Лідзія Іванаўна Збралевіч.**

В. ІПАТАВА. Некалькі апошніх гадоў у нашым друку гаворыцца аб захаванні і вяртанні народу яго гістарычнай і культурнай спадчыны. У Фондзе культуры была распрацавана праграма «Вяртанне». Але што канкрэтна змянілася за гэтыя гады, што зроблена і што трэба зрабіць для таго, каб мець рэальныя вынікі намаганняў грамадскасці, паколькі пра дзяржаўныя высілкі ў гэтым кірунку, як мне здаецца, і гаварыць не прыходзіцца?

А. МАЛЬДЗІС. Што тычыцць нашай камісіі, то яна працуе ўжо некалькі гадоў, і вынікі яе працы ёсць — узяць хаця б слуцкі пояс, які перадаў беларусам Анджэй Цеханавецкі, нашчадак князёў Мсціслаўскіх і Заслаўскіх, які цяпер жыве ў Англіі. Мы адшукалі сляды бібліятэкі Храптовічаў у Кіеве, правялі многія іншыя акцыі... Мы выйшлі на польскае консульства, атрымалі нейкія рукапісы, мікрафільмы з-за мяжы. Зроблена многае, вяртанне — гэта не толькі вяртанне ў прамым сэнсе, бо мы не можам вярнуць многія рукапісы і кнігі, але яно мае і такую форму, як публікацыя, увядзенне ў навуковы ўжытак, калі той ці іншы тэкст становіцца даступным для даследчыкаў. Напрыклад, у Вільнюсе, у рукапісным аддзеле бібліятэкі АН Літвы захоўваецца раман беларускага пісьменніка В. Вальтара, ён жыў у Латвіі, рана памёр. Цяпер гэты раман «Роджаныя пад Сатурнам» рыхтуецца да друку ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», хаця мікрафільм з тэкстам мы атрымалі з вялікімі цяжкасцямі. Такім жа чынам мы атрымоўвалі і іншыя рукапісы, напрыклад, «Полацкі сшытак», некаторыя канты XVIII стагоддзя. Але разам з тым зроблена і мала, таму што на грамадскіх пачатках зрабіць можна нямногае.

В. ІПАТАВА. Няўжо нашы дзяржаўныя структуры не займаюцца вяртаннем спадчыны?

Г. СУРМАЧ. Безумоўна, займаюцца. Але перад тым як расказаць пра нашу работу, я хачу падкрэсліць, што беларускае Адраджэнне пачыналася не на тэрыторыі сучаснай Беларусі, а ў Вільні; у Чэхаславакіі, дзе была беларуская эміграцыя і працаваў урад БНР, і там ёсць таксама нямала дакументаў. Шмат што ў нашай гісторыі звязана і з Польшчай. Ну і, нарэшце, нямала дакументаў

асела ў архівах і бібліятэках Расіі. У розны час наша спадчына вывозілася туды, вывозілася мэтанакіравана, і на сённяшні час многія нашы даследчыкі ездзяць туды і працуюць, асабліва ў Маскве і Ленінградзе. Дарэчы, Галоўархіў нашай рэспублікі правёў выяўленне нашых фондаў па цэнтральных дзяржаўных архівах БССР — дакладней, гэта было зроблена Галоўным архівам СССР, але па нашай просьбе.

В. ІПАТАВА. Хацелася б ведаць пра гэта больш падрабязна.

Г. СУРМАЧ. У Маскве, у Галоўархіве СССР, знаходзіцца галоўны фондавы каталог, пошукі, што дзе знаходзіцца, вядуцца праз ЭВМ. У выдавецтве БелСЭ неўзабаве будзе выданы даведнік па нашых архівах і дакументах, і многія даследчыкі атрымаюць, нарэшце, нейкія сістэматызаваныя звесткі.

Хачу спыніцца на той вялікай даследчыцкай рабоце, якая вядзецца за мяжой нашай беларускай эміграцыяй.

Пра тое, што зроблена імі, мы даведаліся толькі ў апошнія гады, бо да перабудовы ўсё, што тычылася замежжа, было пад суровым покрывам таямніцы.

Гаворачы пра эміграцыю, я маю на ўвазе перш за ўсё эмігранцкую хвалю 2-ой сусветнай вайны, бо гэта была частка беларускай інтэлігенцыі, якая тут, на Беларусі, займалася даследчыцкай працай, не спыняла яе і там, аддаючы ёй час, сілы і сродкі. Калі ў нас пачаліся кантакты з заходняй эміграцыяй, мы са здзіўленнем убачылі, колькі там зроблена. Паколькі я шмат займалася адраджэннем пачатку стагоддзя (у нас ёсць нават архівы з музея Луцкевічаў, праўда, няшмат, усяго 300 папак), а сённяшняя эміграцыя якраз і звязана з віленскім перыядам, то я сапраўды як бы нанова пазнаёмілася і звязала для сябе, здавалася б, даўно абарваныя ніты падзей, даследаваныя людзьмі, чые прозвішчы хацелася б назваць: айца Надсана ў Лондане, дзе ёсць Скарынаўка, цэнтр, створаны ім для беларусаў. Ён збіраў беларускія архівы, тое, што ўвогуле магло б быць страчана. У яго там ёсць архіў Шчаглова (Кулiковiча), кампазітара, якога мы амаль не ведаем, а ў якога ёсць дзве нацыянальныя оперы «Лясное возера» і «Усяслаў Чарадзей». Ён скончыў Маскоўскую кансерваторыю, песні яго-ныя і сёння спявае Данчык. У Полацк на Скарынаўскае свята прыехалі Дынглі, Пікарда — прадстаўнікі цэлай групы даследчыкаў з Англіі. Дарэчы, мы ведаем, што там актыўна працуюць у галіне беларусістыкі, там чытаюць лекцыі, падтрымліваюць сувязь з Беларуссю.

Яшчэ асяродкі беларускай культуры на Захадзе — у Амерыцы і Канадзе, дзе ёсць інстытуты беларускай культуры. У Амерыцы выдатную бібліяграфію твораў Скарыны выдаў Вітаўт Тумаш. Апроч таго, не магу не ўспомніць Зору і Вітаўта Кіпеляў — ім належыць бібліяграфія Янкі Купалы і Якуба Коласа.

В. ІПАТАВА. Але ж зробленае імі павінна стаць набыткам усёй беларускай культуры, бо яно — неад'емная частка гэтай культуры. Што ў гэтым плане першаснае?

Г. СУРМАЧ. Мы, архівісты, шукаем, але хацелася б большых публікацый у нашых выданнях, у прыватнасці, у часопісе «Спадчына». Гэта яго прамы абавязак — данесці да беларускага чытача тое, што зроблена нашымі землякамі.

Ю. ХАДЫКА. Безумоўна, народ павінен ведаць праўду, асабліва тое, што з падзей апошніх дзесяцігоддзяў, у прыватнасці, ў 20—30 гады, адбывалася на Беларусі. Архівы, дзе хаваецца такая праўда, пакуль як бы закрытыя, альбо прыватныя — у Амерыцы. Але вяртанне гэтых вельмі важных дакументаў можа адбыцца толькі тады, калі наша Беларусь будзе сапраўды дэмакратычнай дзяржавай. Я не думаю, што тыя людзі, якія валодаюць, скажам, перапіскай дзеячаў БНР, творамі пісьменнікаў, што апынуліся за мяжой, захочуць нешта сюды перадаць пры тым становішчы ў рэспубліцы, якое мы назіраем зараз.

В. ІПАТАВА. Маецца на ўвазе тое, што, трапіўшы сюды, гэтыя дакументы могуць знікнуць, цяпер ужо назаўсёды, як зніклі многія творы арыштаваных некалі і загубленых Сістэмай дзеячаў беларускай культуры?

Ю. ХАДЫКА. Так, і таму, магчыма, пакуль што лепей іх проста друкаваць і накіроўваць для работы за мяжу нашых гісторыкаў, пакуль там яшчэ ёсць жывыя людзі і жывыя сведкі гістарычных падзей. Да таго ж, пытанне аб замежных дакументах і замежных архівах нельга адрываць ад дакументаў, якія існуюць тут, у Беларусі, але пакуль недасягальныя ні для навуковых супрацоўнікаў, ні для шырокай грамадскасці, яны ў архівах НКУС, Інстытута гісторыі партыі,

іншых установ — а яны павінны стаць даступнымі для сапраўдных даследчыкаў, а не купкі людзей, якія абыходзяцца з імі так, як ім захочацца.

І проста смешна, калі свае ж архівы недаступныя, нават ставіць пытанне вярнуць архівы, якія ўтрымліваюць дадатковую інфармацыю, сюды, на Беларусь.

В. ІПАТАВА. Але калі не закранаць тэму БНР і яе дзеячаў, пра якіх толькі-толькі пачынае прасочвацца ў друк нейкая вельмі малая інфармацыя, а ўспомніць пра адкрытыя для даследчыкаў, але раскіданыя па ўсім Саюзе часткі нашых архіваў, то ці трэба ставіць усё ж пытанне аб іх вяртанні ў рэспубліку?

Г. СУРМАЧ. Сапраўды, нашы даследчыкі працуюць у Маскве і Ленінградзе, але ў іншыя гарады прыязджаюць нячаста. Хаця магу ўспомніць пра тое, што нядаўна два навуковыя супрацоўнікі з Беларусі ездзілі ў Іркуцк, дзе жылі нашы ссыльныя пісьменнікі, яны знайшлі там многа дакументаў, зрабілі копіі і цяпер працуюць з гэтымі дакументамі.

А. ЛІС. Мне здаецца, што архівы цяпер нам проста не аддадуць. Калі б кампетэнтныя людзі паехалі па архівах і зрабілі копіі, гэта ўжо была б вялікая падмога для даследчыкаў. У 20-я гады такое пытанне — вярнуць нашу спадчыну — ужо ставілася, у прыватнасці, Доўнар-Запольскі гаварыў аб вяртанні Літоўскай метрыкі, якая знаходзіцца ў Пецярбургу і належала Сінадальнай бібліятэцы. Праўда, цяпер там заварушыліся і хочуць нешта выдаваць суполкай вучоных Саюза і Польшчы. А чаму без нас? Яшчэ некалі Улашчыку даводзілася даказваць, што там, у метрыцы, старабеларуская мова. Гэта я сёння магу сказаць студэнтам пра тое свабодна, а некалі гэта была страшная крамола — што Літоўская метрыка напісана старабеларускай мовай.

Ю. ХАДЫКА. Гэта вельмі характэрна, што менавіта дзеячы 20-х гадоў выказалі ўпершыню думкі, што і сёння здаюцца крамольнымі, хаця такая перабольшаная сціпласць беларускіх вучоных не мае пад сабой ніякіх падстаў, таму што патрабаванне вярнуць архівы, дакументы, мастацкую спадчыну на радзіму адпавядае міжнароднаму праву. Мы ведаем, што зараз абмяркоўваецца пытанне, як вярнуць на радзіму парфенонаўскія фрызы, і, калі ставіць задачу — рабіць копіі, то копіі гэтыя трэба было б пакінуць менавіта там, дзе зараз знаходзяцца аўтэнтычныя творы, а самі архівы павінны быць вернуты на Беларусь.

Г. СУРМАЧ. Ці ведаеце Вы канкрэтныя прыклады такога вяртання?

Ю. ХАДЫКА. Германія вярнула большасць помнікаў, якія захоўваліся ў берлінскіх музеях.

А. ЛІС. Германіі было прасцей. А вось што вярнулі Англія ці Іспанія сваім калоніям, напрыклад?

Ю. ХАДЫКА. Думаю, што і Англія не зможа доўга супрацьстаяць рашэнням, якія прынялі ЮНЭСКО і іншыя міжнародныя суполкі. Гэта толькі справа часу. Дарэчы, і складанасць з парфенонаўскімі фрызамі ў тым, што яны былі фармальна набытыя, ёсць дакументы продажу і інш. А пра якія дакументы вы можаце гаварыць у дачыненні да беларускіх каштоўнасцяў, якія часта былі проста выцягнутыя з музеяў Беларусі ў выніку рабавання?

Л. ЗБРАЛЕВІЧ. Больш за ўсё кніг было вывезена з Беларусі на пачатку 1-ай сусветнай вайны, калі ў 1914 г. ішла масавая эвакуацыя, і нашы кнігі траплялі не толькі ў Маскву альбо Петраград, але ў цэнтральную зону Расіі — напрыклад, Саратаў. Вось чаму на нашай тэрыторыі не аказалася скарынаўскіх кніг.

З практыкі сваёй работы ў бібліятэцы АН БССР магу сказаць, што вось ужо некалькі дзесяцігоддзяў мы займаемся пошуковай працай. Мы ездзілі не раз у Маскву, Ленінград, працавалі ў дублетных фондах і цікавіліся тым, што мела дачыненне да Беларусі, паднімалі гістарычныя крыніцы і апісанні. Галоўным чынам гэта былі выданні, якія апісвалі маёмасць цэркваў і манастыроў беларускіх губерняў, і там, дарэчы, ёсць запісы, дзе, у якой царкве што ўзята. Як правіла, гэта былі кірылічныя кнігі, што адлюстроўвалі гісторыю беларускага кнігадрукавання.

В. ІПАТАВА. А якія кнігі з таго, што вы знаходзілі, вярнуліся на Беларусь?

Л. ЗБРАЛЕВІЧ. Кнігі, я маю на ўвазе кірылічныя, нам аддавалі ў Маскве і Ленінградзе. Гэта былі дванаццатыя-трынаццатыя экземпляры дублетных кніг, якія, уласна кажучы, былі сталічным бібліятэкам не надта патрэб-

ныя. Ленінская бібліятэка, напрыклад, пакідала сабе каштоўныя кнігі, якія ў свой час былі вывезены з нашых земляў, а мы задавальняліся тым, што горшае. І так набралі больш за 500 экземпляраў.

Дарэчы, мы сабралі і такую картатэку — дзе, у якіх цэрквах Беларусі знаходзілася тая ці іншая кніга, і самі прыязджалі з экспедыцыямі, ужо ведаючы пра тую ці іншую кнігу і спрабуючы прасачыць за яе лёсам: калі забралі, куды, хто забіраў ці вывозіў.

Але гэта — складаны шлях. ВыВаз пачаўся даўно. Калі ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. у Расіі, у Пецярбургу, была арганізаваная археаграфічная камісія, то сюды рэгулярна пачалі прыязджаць экспедыцыі і метадычна, з губерні ў губерню, выбіралі з цэркваў метрычныя запісы, дакументы, кнігі. Тады гэта здавалася місіяй, а сёння мы не маем сваіх уласных архіваў у той колькасці, у якой яны існавалі. Магчыма, што зараз гэтыя дакументы захоўваюцца ў цэнтральных гістарычных архівах, але былі яны вывезеныя гвалтоўным чынам.

Яшчэ мноства дакументаў ішло ў Вільню, дзе ў сярэдзіне мінулага стагоддзя была таксама арганізаваная археаграфічная камісія, архіў старажытных грамат. Там былі выдадзены цэлыя тамы дакументаў, але і яны ўключаюць далёка не ўсё, што там было. Строеў, які нейкі час кіраваў зборам гэтых дакументаў, пісаў пра тысячы, дзесяткі тысяч адзінак, што былі зафіксаваныя ў каталогах. І зараз хацелася б мець хаця б інфармацыю пра архівы і дакументы, у якіх было адлюстраванае не адно стагоддзе багатага і разнастайнага жыцця нашага народа.

А. ЛІС. Частка іх была перададзена ў 20-я гады Польшчы.

В. ІПАТАВА. Мы сёння нічога не сказалі пра часы нямецкай акупацыі. Вядома ж, што рабаўніцтва ішло і ў гэтыя часы, прычым досыць арганізавана і мэтанакіравана. Падчышчалася ўсё, што яшчэ заставалася.

Г. СУРМАЧ. К. Езавітаў, вядомы дзеяч беларускага латышскага асяродку, піша, што яго выклікалі ў свой час нямецкія ўлады і пыталіся — дзе могуць быць культурныя беларускія каштоўнасці? У немцаў жа была спецыяльная служба, якая мэтанакіравана займалася вывазам культурных каштоўнасцяў, адзначаючы, калі якую станцыю прайшоў той ці іншы цягнік. Наш гістарычны архіў прыпынілі ў Калінінградзе і вярталі яго, у тым ліку і радзівілаўскі архіў, менавіта адтуль.

В. ІПАТАВА. З Беларусі вывозіць, мабыць, было няцяжка: яна была як бы «нічыя», яе нацыянальна свядомая інтэлігенцыя планамерна вынішчалася. Сёння справа Адраджэння такая ж вострая, як і на пачатку стагоддзя, а можа, нават яшчэ цяжэйшая. Працуючы ў часопісе «Спадчына», мы балюча адчуваем магутнасць скажонага, фальсіфікаванага погляду на гісторыю не толькі агульнай масы насельніцтва, але і немалой часткі тых, хто і павінен бы несці праўдзівае веданне ў тыя ж масы. Таму мы з удзячнасцю гаворым пра высілкі тых, хто шукае для часопіса выяўленчы матэрыял, дапамагае нам. Адзін з такіх аўтараў — мастак Яўген Кулік, якому я і перадаю слова.

Я. КУЛІК. Мне здаецца, што ўся наша работа па вяртанні спадчыны праводзіцца на аматарскім узроўні. Кожны даследчык, які даследуе нейкую часціну агульнай гісторыі культуры, знаходзіць пэўныя дакументы па гэтай часцінцы, але гэта росшук прыватны. Усе цывілізаваныя народы ідуць па шляху дзяржаўнай заклапочанасці пра лёс спадчыны. Што з таго, што апублікуем адзін, два, тры ці нават стос цікавых дакументаў? Каб сістэматычна вялася росшукавая праца, то мы маглі б стварыць агульны каталог усіх помнікаў, што знаходзяцца за межамі Беларусі. Дарэчы, замежныя даследчыкі змаглі б болей дапамагаць нам. І такі зводны каталог з вопісамі, можа, найбольш важны сёння, бо наша праца была б мэтанакіраванай. Вяртанне мастацкай спадчыны яшчэ і не пачыналася. Калі ў Фондзе культуры стваралася такая камісія, то гэта зноў жа была размова аматараў: калі хто што памятае, няхай раскажа. Але Фонд культуры і гэтую аматарскую работу звузіў, адна надзея на «Бацькаўшчыну», культурна-асветніцкае таварыства: можа, ім удасца скрануць гэтую фурманку?

Г. СУРМАЧ. Я не зусім згодна са сцвярджэннем, што праца ідзе толькі на аматарскім узроўні: дзяржаўныя архівы працуюць над гэтай тэматыкай, і мы збіраем кнігі, дакументы. Я сама ўвесь час бываю ў Вільні і кожны раз прывожу нешта цікавае. Вось нядаўна, напрыклад, увесь архіў лістоў Людвікі Войцік (Зоські Верас) перайшоў да нас. У Тулейкаў, цудоўнай беларускай сям'і

з Вільні, мы ўзялі шмат фотакартак віленскага перыяду, якіх у нас няма ў Беларусі, шмат кніг. Мы супрацоўнічаем з Целешам у Рызе, з беларусамі ў Польшчы — Сакратам Яновічам, Юрыем Туронкам, адтуль увесь час ідуць бандэролі з кнігамі. Мы звярнуліся і да беларусаў у Амерыцы з просьбай паспрыяць збору як мага большай колькасці дакументаў. Вы ж разумееце: ёсць неабходнасць рабіць копіі таго, што знаходзіцца ў адным экземпляры, усё можа здарыцца і з замежнымі архівамі. Адыходзяць людзі, праходзіць час. Ці захоча гэтым займацца моладзь?

А. ЛІС. Вось і ў Чэхаславакіі быў цікавы беларускі архіў. І, дарэчы, лёс яго дакладна не вядомы і да гэтага часу.

Г. СУРМАЧ. Ён у Парыжы.

А. ЛІС. Я мяркую пра гэта па надрукаваным Ул. Калеснікам у «Полымі» эпісталярыі, дзе ёсць лісты Тамаша Грыба, узятыя, дарэчы, у вас у архіве...

Г. СУРМАЧ. Грыб быў загадчыкам гэтага архіва рады БНР.

А. ЛІС. Так, ён і стварыў гэты архіў, дзе ёсць шмат чаго цікавага для даследчыкаў.

Г. СУРМАЧ. Гэты архіў быў у Празе, у нас ёсць ліст 1938 г. Захаркі да ўрада Чэхаславакіі, каб прызначылі новага загадчыка, бо Тамаш Грыб памёр. Далей быў Мюнхен, і сляды архіва нібыта згубіліся. Удалося выявіць, што ён трапіў у Швейцарыю, а адтуль — у Парыж. Апякуецца ім жонка, дакладней, удава Міколы Абрамчыка, якая нікога да яго не падпускае, нават з эміграцыі.

А. ЛІС. Думаецца, што гэта частка архіва. А другая — недзе ў нас. Бо руская частка архіва апынулася ў Маскве, пасля вайны кампетэнтныя органы ім цікавіліся, і можна здагадацца, што з гэтага вынікае. Я толькі спадзяюся, што не ўсё спалена.

В. ІПАТАВА. Дарэчы, пры Саюзе пісьменнікаў створана камісія па пошуку літаратурных архіваў, якая будзе супрацоўнічаць з КДБ у галіне агульных намаганняў па рассакрэчванні ўсяго, што тычыцца здабыткаў культуры.

А. ЛІС. Першыя «знаходкі» даюць нам такія значныя творы, як дзённік Мікуліча. Трэба абавязкова падняць справу Б. Тарашкевіча, мы ж дасюль не маем беларускай «Іліяды». І хаця адзін з тых, хто ў 1931 г. прайшоў праз НКУС, гаварыў, што там попелу было па калена, можа, захаваліся якія творы А. Смоліча, В. Ластоўскага, Я. Лёсіка — словам, усіх буйных дзеячаў культуры, хто не мінуў трагічнага лёсу асуджаных за любоў да Бацькаўшчыны.

Я рады тут пачуць пра плён працы нашых архіўных работнікаў. Але ўсё ж проста неабходна стварыць агульную «групу пошуку», якая б паехала на нейкі час у Маскву, Ленінград, у іншыя архівы і там мэтанакіравана працавала.

В. ІПАТАВА. Я думаю, гэтым павінен заняцца будучы Скарынаўскі цэнтр.

А. МАЛЬДЗІС. Вядома, на грамадскіх пачатках рабіць такую справу нельга, яе мог бы ўзначаліць нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Скарыны. Але мы ўпусцілі час. Дакладней, не мы, а ўсё заблыталася ў бюракратычных цянётах. Мару: адкрыецца Цэнтр, і там будуць працаваць спецыялісты — мастацтвазнаўца, спецыяліст па рукапісах, па дэкаратыўна-прыкладным мастацтве — як мінімум, тры чалавекі. Сапраўды, выходзіць з прапановамі па вяртанні на дылетанцкім узроўні нельга. Трэба дакументальна даказваць: «Такая вось карціна была вывезена ў такім годзе, вось туды і туды». Тады толькі з намі пачнуць размаўляць і выслухоўваць.

Г. СУРМАЧ. Паколькі некалі разам з В. Чамярыцкім і Н. Загорскай мы займаліся распрацоўкай прапаноў па структуры Цэнтра і нават ездзілі ў Грузію, каб пазнаёміцца з іх здабыткамі, то цалкам падтрымліваю ідэю аб тым, што галоўным каардынатарам пошукавай работы павінен стаць Цэнтр. Там можа быць інфармацыйная картатэка ўсяго, што ёсць з нашых архіваў у свеце. Галоўнае зараз — не столькі вяртанне, сколькі ўлік.

А. ЛІС. А для гэтага павінна быць прафесійная, добра падрыхтаваная, нацыянальна свядомая група людзей, якія працуюць у адным месцы. Так, Скарынінскі цэнтр — гэта тое, што можа аб'яднаць намаганні музеяў, архіваў, асобных энтузіястаў.

Ю. ХАДЫКА. Гаворка на такім узроўні павінна была адбыцца 30, можа, 40 гадоў назад. Вылучаць, дзе знаходзяцца беларускія архівы, аб'ядноўваць намаганні энтузіястаў... Мы нібыта зусім забываемся на тое, што Беларусь пры-

няла Дэкларацыю аб суверэнітэце, дзе абвяшчае, што яна валодае сваёй тэрыторыяй, можа ствараць сваю армію, мець сваю незалежную гаспадарку. Але я не ўпэўнены, што ўлады, якія мы зараз маем, будуць стаяць за паслядоўны суверэнітэт. Ды, падпісваючы саюзны дагавор, яны не павінны забыць ні пра Чарнобыль, ні пра вяртанне спадчыны. Не можа быць ніякіх сумненняў у тым, што суверэнная дзяржава не мае права вярнуць свае, нарабаваныя некім, каштоўнасці. Гэта павінна быць умоваю падпісання дагавора. Што гэта ў нас за рабская псіхалогія — «вернуць — не вернуць?», «давайце ездзіць, давайце прасіць» — я катэгарычна не згодны з такім пунктам гледжання!

Я. КУЛІК. Цалкам згаджаючыся з Юрыем Віктаравічам наконт спадчыны, якая знаходзіцца ў межах Саюза, мы не павінны забываць, што велізарныя пласты нашай культуры — і па-за межамі Саюза. Між тым, мы яшчэ самі не вызначылі, што ж такое наша спадчына і якія прэтэнзіі мы можам мець да суседзяў. Не сакрэт, што многае з нашай спадчыны нашы суседзі залічваюць сабе. Менавіта з-за гэтага выйшаў абсалютна рабаўнічы падзел музея Луцкевічаў. Які гэта падзел, калі ўсё самае каштоўнае гістарычнае і мастацкае было пакінута ў Літве, а нам перадалі «адчэпнае» — што-кольвечы з этнаграфіі. Тое самае, як дзялілі славутую нясвіжскую калекцыю Радзівілаў пасля вайны, што зрабілі з цудоўнай калекцыяй Сапегаў — усё апынулася ў Польшчы. Так і цяпер — пры падпісанні дагавору (а, на маю думку, у любой форме падпісаны сёння дагавор не забяспечыць самастойнасць Беларусі) вяртанне культурнай і гістарычнай спадчыны павінна быць абавязковай умовай. Але звесткі, агульныя звесткі пра тое, што дзе знаходзіцца, павінны быць у рэспубліцы. Гэта будзе шматтомны каталог — за ўсе вякі, з усімі падрабязнасцямі, датамі.

Паколькі мы суверэнная і незалежная дзяржава, то гэта павінна быць цэлая служба, своеасаблівы «камітэт выратавання спадчыны».

В. ІПАТАВА. Але найбольш рэальным было б стварэнне такога «камітэта выратавання» менавіта пры Скарынаўскім цэнтры.

Я. КУЛІК. Магчыма. Але марудзіць з яго стварэннем нельга.

Ю. ХАДЫКА. З вяртаннем архіваў, канешне, могуць быць складанасці. Узяць хаця б віленскія. Яны ствараліся менавіта ў Вільні. І таму мы можам ставіць пытанне аб адраджэнні беларускага музея ў Вільні, а не аб вяртанні яго экспанатаў.

Я. КУЛІК. І гэта таксама будзе вяртаннем — вяртаннем музея беларускаму народу.

Г. СУРМАЧ. Але і нам патрэбная гэтая спадчына!

В. ІПАТАВА. Дарэчы, сярод пытанняў, якія часта задаюць нам чытачы, ёсць і такое — адмаўляючыся ставіць пытанне аб вяртанні нашай спадчыны, якая застаецца ў Літве, ці не здраджвае сам БНФ (за тое, што літоўцы далі памяшканне для правядзення ўстаноўчага з'езда Беларускага народнага фронту і г. д.) нацыянальным інтарэсам нашага народа?

Ю. ХАДЫКА. Гэта тыпова правакацыйныя заклікі — і трэба было б апублікаваць дакументы БНФ, дзе ўсё абгаворана. Патрабаваць вяртання музея Луцкевічаў будзе цяжка таму, што гэта пярэчыць міжнароднаму праву: музей быў створаны на тэрыторыі Вільні, і Вільня, як і асяродак беларусаў, з'яўляецца гаспадаром гэтай спадчыны. Другое — што мы можам патрабаваць катэгарычна, каб з літоўскіх калекцый і музеяў усе помнікі, якія паходзяць з фондаў Луцкевічаў, былі вернуты туды. Але ж ёсць Радзівілаўскі летапіс у Маскве, ёсць Лаўрышаўскае евангелле, якое ў Кракаве, і ў Польшчу паехала шмат каштоўнасцяў, паколькі наяўнасць Беларусі адмаўлялася сталінскімі ідэолагамі і ў 1921 г., а польская — т. зв. польская — спадчына вярталася ў Польшчу на працягу, здаецца, сямі гадоў, то шмат што з нашых скарбаў было вывезена. І смешна было б гаварыць: «Дайце нам копію Лаўрышаўскага евангелля» — гэта яны могуць сабе пакінуць копію. Гэта ж відавочна!

Л. ЗБРАЛЕВІЧ. Але зараз да нас у бібліятэку сталі прыязджаць з Германіі, весці размовы аб вяртанні кніг, што прыбылі па рэпатрыяцыі.

Ю. ХАДЫКА. Калі мы імкнемся да таго, каб нашы скарбы вярталі нам, то трэба вяртаць і чужое. Я ведаю, што ў касцёле на Залатой горцы была Кёнігсбергская калекцыя, дакладней, нейкая яе частка.

А. ЛІС. Крыўдна, што кнігі з яе намі не выкарыстоўваліся, здаецца, нават гнілі там, у касцёле.

Г. СУРМАЧ. Адзін са шляхоў вяртання — гэта абмен. Таму што ёсць у Польшчы нашы матэрыялы, а ёсць і наадварот — у нас тое, што належыць да польскай культуры. Дарэчы, архівы ўступаюць у такія кантакты. Але ёсць і цяжкасці — тыя ж дакументы БНР нарадзіліся ў Празе.

Ю. ХАДЫКА. Мне здаецца, там проста было месца захоўвання...

Г. СУРМАЧ. Там жа працаваў Урад БНР. Але я не настойваю, бо ў некаторым сэнсе вы маеце рацыю.

Я. КУЛІК. Кожны ўрад прадстаўляе тую дзяржаву на чужой тэрыторыі, да якой ён належыць. Яго дзейнасць адносіцца да ўласнай гісторыі, дзе б ён ні быў.

Г. СУРМАЧ. У той час, калі мы маглі вярнуць нашу спадчыну, мы не зрабілі гэтага. У 1946 г. сумна вядомы Лукаш Бэндэ напісаў пісьмо Якубу Коласу, які тады быў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук БССР, дзе казаў, што бачыў у Вільні стосы беларускіх кніг, матэрыялы па гісторыі і прасіў каго-небудзь прысланць, каб усё гэта забраць у Мінск. Літоўцы тады не былі зацікаўленыя ў гэтых матэрыялах, бо трэба было шмат працаваць з імі, сістэматызаваць і захоўваць. І што мы зрабілі?

Я. КУЛІК. Гэта не мы. Гэта той рэжым, заложнікамі якога былі мы ўсе.

А. ЛІС. Навошта паўтараць гэтую сумную гісторыю, якая вядома ўсім?

В. ІПАТАВА. Яна вядомая толькі вузкаму колу асоб, а шкада. Трэба ведаць сваё мінулае, каб не паўтараць памылак у будучым.

А. ЛІС. Я магу дадаць два факты. Калі паслалі людзей разбіраць гэты музей, то паслалі абсалютна некампетэнтных асобаў, хаця і былі яны прадстаўнікамі нашай Акадэміі. Яны хадзілі па горадзе і шукалі сабе ў краме розныя рэчы. А літоўцы паглядзелі, хто да іх прыехаў, і далі ім адчэпнае.

Я. КУЛІК. Я далучаюся да выказанай думкі ў адносінах да віленскага музея — ён павінен працаваць для аднаўлення самасвядомасці беларусаў, няхай і ў Вільні. Але нам трэба працаваць над стварэннем сістэмных звестак пра ўсю экспанатуру гэтага музея — дзе што знаходзіцца. Як толькі яны з'явяцца і будуць апублікаваны — нам можна ўжо будзе ставіць пытанне аб аднаўленні і працы музея. Самі літоўцы не будуць тут праяўляць ініцыятыву. Тым болей, што частка экспанатаў Віленскага музея знаходзіцца ў прыватных калекцыях, асабліва творы выяўленчага мастацтва, а таксама матэрыялы фонду.

Ю. ХАДЫКА. І ўсё ж тут ёсць пэўная супярэчнасць. Я зноў хачу нагадаць Рыжскае пагадненне: спачатку была дасягнута дамоўленасць паміж двума ўрадамі аб тым, што каштоўнасці, якія знаходзяцца на тэрыторыі РСФСР, будуць вернутыя Рэспубліцы Польшчы. А потым былі створаны камісіі, якія правялі сістэматычную працу і падзялілі гэтую спадчыну. Таму я лічу, што саюзны дагавор, які неўзабаве будзе абмяркоўвацца, абавязкова павінен паставіць гэтае пытанне — аб звароце спадчыны беларускага народа. Ставіць у катэгарычнай форме — адраджэнне Віленскага музея, вяртанне з архіваў... Калі мы гаворым пра наяўнасць яе у Томскім універсітэце, іркуцкіх архівах — то трэба ж улічваць, што гэта былі месцы ссылкі беларускай інтэлігенцыі. Прымусовыя выезды, калі можна так сказаць.

Г. СУРМАЧ. А калі яны — арганічная частка мясцовых архіваў?

Ю. ХАДЫКА. У Томскім універсітэце, як вядома, было знойдзена шмат беларускіх летапісаў, гэта не толькі дакументы позніх часоў. Якая арганічная прычына з'яўлення там нашых летапісаў?!

Я. КУЛІК. Уся гэта праца, праца на далёкую перспектыву, павінна даць нашым людзям уяўленне, што ж яны згубілі. Таму даследчыцкая работа павінна апярэджваць усю іншую. Мы павінны ўвесці ў навуковы і даследчыцкі абарот аб'ём страчанага, яго вартасць. Узяць стварэнне 5-томнай «Гісторыі мастацтва Беларусі». Як цяжка праходзіў працэс уводзін ў яе помнікаў культуры, якія знаходзяцца на тэрыторыі сённяшняй Польшчы, і нават віленскіх! А многія шэдэўры нам і не вернуць, таму што на іх стварэнне прэтэндуюць многія народы. І хаця тут не вельмі падабаецца слова «копіі», я дапускаю стварэнне, напрыклад, музея з копій — скажам, «Музей сармацкага партрэта».

Ю. ХАДЫКА. Не, мы ж не пярэчым адзін аднаму. Якраз і ідзе гаворка пра тое, што працэс вяртання не будзе лёгкім. Нешта будзе аспрэчвацца, высвятляц-

ца. Я лічу, што найгалоўнейшая мэта, якую трэба ставіць ужо сёння — вяртанне. А да гэтага можна вывучаць, рабіць копіі, альбомы.

Я. КУЛІК. Яшчэ археолагі неяк клапоцяцца пра публікацыю, расказваюць пра раскопкі, у тым ліку і на тэрыторыі сучаснай Літвы. А вось альбомаў твораў выяўленчага мастацтва няма.

Г. СУРМАЧ. Мы ж зараз будзем пераглядаць усе нашы гістарычныя канцэпцыі, таму, каб па-сапраўднаму ведаць уласную гісторыю, літаратуру, мы павінны ведаць, што ў нас было, што дзе знаходзіцца цяпер. Механізаваны пошук інфармацыі — вось што павінна быць найпершым. Наша работа патрэбна для кансалідацыі нацыі.

Ю. ХАДЫКА. А для работы ў архівах іншых рэспублік ці краін павінна быць рашэнне на самым высокім узроўні, іначай вас проста не пусцяць у архівы. Таму пачынаць трэба з гэтых рашэнняў.

В. ІПАТАВА. Думаецца, трэба пачынаць з таго, каб сабраць разам усіх, хто хоча і можа займацца пошукамі нашай спадчыны, з'яднаць намаганні грамадскасці і моц дзяржаўнай палітыкі.

А. МАЛЬДЗІС. Але нават дзяржаўныя структуры, спецыяльна не накіраваныя на такую работу, не заўсёды могуць зрабіць гэта на належным узроўні. Скажам, калі мы звярнуліся да музеяў з просьбай дапамагчы нашай камісіі, нам, сапраўды, тое-сёе прыслалі, у прыватнасці, з Віцебскага музея. Аднак музей не можа даць камандзіроўкі, не можа дазволіць работніку месяцамі займацца росшукам. Патрэбныя дадатковыя сродкі, кваліфікаваныя спецыялісты. Скажам, з ЗША прыслалі плёнкі з копіямі так званых александрыйскіх матэрыялаў аб тым, што, дзе і калі было вывезена. Але гэтыя плёнкі трэба апрацаваць, апісаць. Ці, скажам, з Заходняй Германіі, цяпер ужо Германіі, у Калінінград былі перададзены матэрыялы Штэйна, па лініі Фонда культуры — што, дзе, куды трапіла з Беларусі ў Заходнюю Германію. Матэрыялаў такіх многа. Мы паспрабавалі паслаць туды чалавека на нейкі час. Але калі ён прыедзе на грамадскіх пачатках на некалькі дзён, то гэта нічога не дае.

А калі хтосьці будзе нам адбіраць патрэбнае, то гэта таксама не дасць плёну: адкуль, напрыклад, гэты чалавек будзе ведаць, што Хруцкі — беларус? Так што ў першую чаргу патрэбны сродкі і кваліфікаваныя спецыялісты. Так робіцца ва ўсім свеце, толькі не ў нас, бедных. Мы лічым, што на такую вось працу грошы траціцца дарэмна.

А між тым у ЗША ёсць вялікая цікавасць да нашай спадчыны, ёсць людзі, якія б маглі стварыць такі фонд беларускай спадчыны. Але для гэтага трэба зарэкамендаваць сябе. Пад ляжачы камень вада не цячэ. Наперадзе — вялікія намаганні і цяжкая праца па выратаванні ўласных скарбаў.

І рабіць гэта трэба цяпер.

Матэрыялы «круглага стала» падрыхтавала
**Вольга ІПАТАВА**

# НЕЛЬГА АБЫСЦІ МАЎЧАННЕМ

У «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі» ёсць сціплая даведка пра Івана Луцкевіча, дзе сказана: «... беларускі археолаг, этнограф і грамадскі дзеяч. (...) У Пецярбурзе ўдзельнічаў у стварэнні Беларускага гуртка народнай асветы, рэдагаваў літаграфаванае выданне «Калядныя пісанкі», у зборніку «Вязанка» выдаў літаратурную спадчыну Я. Лучыны. Адзін з арганізатараў Беларускай сацыялістычнай грамады, уваходзіў у рэдакцыі газет «Наша доля» і «Наша ніва». Вёў археалагічныя і этнаграфічныя даследаванні, вывучаў старажытную гісторыю Беларусі, адкрыў і апісаў Аль-Кітаб, быў ініцыятарам стварэння Беларускага музея ў Вільні, першай беларускай гімназіі...»

За гэтай кароткай і сухаватай даведкай стаіць жыццё нястомнага барацьбіта за беларускую справу, жыццё, напоўненае бурнымі падзеямі і няспынным змаганнем. Кожная яго старонка — гэта як бы этапы развіцця беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Нават сёння гэтае імя ўспамінаецца не дужа часта. Іван Луцкевіч — своеасаблівая і яскравая постаць у гісторыі беларускага адраджэнцкага руху. Ён не толькі пакінуў выразны след у гісторыі гэтага руху, але даў яму моцны штуршок наперад, у значнай ступені акрэсліў напрамак развіцця, хаця сам пражыў усяго 38 гадоў і памёр ад сухотаў у самым росквіце сваёй грамадскай актыўнасці.

Бацька Івана, Іван Якімавіч Луцкевіч, паходзіў са збяднелай шляхты даволі старажытнага роду ў Мінскай губерні. Аб гэтым сведчыць фамільны герб Навіна, пра які маюцца пісьмовыя звесткі ажно з XIV ст. Іван Якімавіч зямельнай маёмасці ўжо не меў. Ён быў вайскоўцам, удзельнічаў у Крымскай вайне ў чыне капітана, за баявыя заслугі ў абароне Севастопаля быў узнагароджаны двума крыжамі (св. Георгія і св. Ганны) і двума медалямі. На вайне быў паранены і з войска дэмабілізаваўся. Вядома, што ў шасцідзесятых гадах быў арандатарам у маёнтку пана Вайніловіча ў Тарасевічах Бабруйскага павета. Адтуль, відаць, вядзецца яго знаёмства і прыяцельскія адносіны з вядомым беларускім паэтам Вінцуком Дуніным-Марцінкевічам, які, жывучы нейкі час па суседстве ў Карытне, прысвяціў яму ў 1868 г. верш, напісаны па-беларуску.

Сям'я Івана Якімавіча была каталіцкай. Як у тыя часы было заведзена, у хаце гутарылі па-польску. Афіцэр царскай арміі, сам ён беззаганна валодаў расейскай мовай, але пры гэтым у сялянскім асяроддзі не цураўся беларускасці, шанаваў мову «простага» народа, аб чым вымоўна сведчыць зварот да яго Вінцука Дуніна-Марцінкевіча па-беларуску. У біяграфічным нарысе 1920 г. пра Івана Іванавіча Луцкевіча так характарызуюцца настроі і светапогляд сям'і Луцкевічаў: яна «...жыла ўспамінамі аб напалеонаўскім паходзе і паўстаннях 1831 і 1863 гадоў, жыла ідэаламі дэмакратызму з часоў французскае рэвалюцыі і паўстанчаскімі настроямі, у ёй панаваў заўсёды шчыра дэмакратычны дух,— і гэтым духам былі прасякнуты дзеці, што шукалі ў школе дружбы не панічоў, а сыноў мужыцкіх». Дарэчы, дзядзька Сцяпан (брат Івана Якімавіча) удзельнічаў у паўстанні 1863 г. і быў расстраляны царскімі карнікамі ў Мінску — у лесе, на тым месцы, дзе цяпер знаходзіцца чыгуначны вакзал.

Іван Якімавіч быў жанаты двойчы. Першая жонка памерла пры родах, пакінуўшы дзве дзяўчынкі. Ад другой жонкі меў пяцёра дзяцей, самы старэйшы і быў Іван. Маці Івана, Зофія Эмерыкаўна Лычкоўская, паходзіла таксама з небагатай шляхецкай сям'і, якой належаў фальварак Ракуцёўшчына каля мястэчка Краснае, што ляжыць на палавіне дарогі між Маладзечнам і Радашкавічамі. Зофія да фальварка дачынення ўжо не мела, але ёй дастаўся ў спадку драўляны дамок у Мінску на Садовай вуліцы над самым берагам Свіслачы. У Ракуцёўшчыне гаспадарыў яе брат Вацлаў Лычкоўскі. Фальварак у той час меў не больш як 25 гектараў зямлі. Ракуцёўшчынай называлася і вёска, што знаходзілася побач з фальваркам. Дарэчы, летам 1911 г. там больш як два месяцы быў госцем наш вялікі паэт Максім Багдановіч, які прыехаў туды па запрашэнні братоў Івана

і Антона Луцкевічаў да іхняга дзядзькі. Гэтая цудоўная мясціна з узгоркамі, палямі ды лугамі, сярод якіх вілася рэчачка Уша, натхняла Максіма да напісання цэлага шэрагу прыгожых лірычных вершаў.

Іван Луцкевіч нарадзіўся 28 мая 1881 г. у Шаўлях Ковенскай губерні (цяпер Шаўляй, Літва), дзе ягоны бацька ў той час працаваў на чыгунцы. Неўзабаве бацьку перавялі ў Лібаву (цяпер Ліепая, Латвія.) У 1890 г. Іван пачынае вучыцца ў Лібаўскай гімназіі. Праз 5 гадоў сям'я вяртаецца на бацькаўшчыну ў Мінск і пасяляецца ў доме маці. Пасля смерці бацькі ў 1897 г. Іван таксама пераязджае ў Мінск, дзе працягвае вучобу ў Мінскай гімназіі. Пасля заканчэння, у 1902 г., ён паступае на юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта і адначасова ў Археалагічны інстытут. З гэтага часу і пачынаецца яго актыўная грамадская дзейнасць.

Ужо ў сярэдняй школе Іван дужа цікавіцца гісторыяй, ад трэцяга класа гімназіі пачынае калекцыянаваць старыя манеты і іншыя старасвецкія рэчы, частка з якіх трапіла потым у яго багатую калекцыю, што стала асноваю першага беларускага гісторыка-этнаграфічнага музея. У Мінскай гімназіі ён арганізуе гурток прагрэсіўнай моладзі, каторым апякуецца Казімір Кастравіцкі (беларускі паэт Карусь Каганец). Нацыянальнае самаўсведамленне ў гуртку — гэта вынік зацікаўленасці гісторыяй свайго краю, нечакана заўважанага парадаксальнага становішча шырокіх працоўных мас насельніцтва Беларусі, якое гаворыць на сваёй роднай мове, а церпіць прыгнёт, здзек і пагарду з боку паноў, чыноўнікаў ды жандараў, што гаворац на чужых для яго мовах — польскай ці расейскай. Чужую мову чуе народ у касцёле ды ў царкве, сваёй жа жывой і сакавітай мовай карыстаецца толькі ў хаце ды ў сваім багатым фальклоры.

У жывой душы Івана гэтыя супярэчнасці выклікалі здзіўленне і абурэнне, жаданне змяніць такое становішча. Дастаткова глыбокія веды па гісторыі гавораць яму пра тое, што гэтак было не заўсёды. У Мінску ён пазнаёміўся з вядомым беларускім археолагам старэйшага пакалення Генрыкам Татурам. Гэтае знаёмства перарадзілася ў блізкае сяброўства і было дадатковым штуршком да заняткаў археалогіяй і гісторыяй свайго краю ды стымулам да паступлення ў Археалагічны інстытут у Пецярбурзе.

Апынуўшыся ў асяроддзі студэнтаў, сярод якіх было нямала выхадцаў з Беларусі, ён стараецца згуртаваць іх, аб'яднаць на грунце патрыятычных пачуццяў, накіраваць да дзейнасці дзеля пашырэння асветы свайго народа. Ужо восенню 1902 г. ён арганізуе «Беларускі кружок народнае асветы», выдае адозвы з заклікам несці асвету ў беларускую вёску.

Пры яго ўдзеле выходзіць літаграфаваная аднаднёўка «Калядная пісанка», рыхтуецца да друку літаратурная спадчына Янкі Лучыны (Неслухоўскага) у зборніку пад загалоўкам «Вязанка». І ўсё гэта — ва ўмовах забароны беларускае мовы ў друку!

Пад уплывам цесных сувязей з шырокім колам інтэлігенцыі, прагрэсіўных рабочых і студэнцтва канчаткова фарміруецца светапогляд Івана, убіраючы ў сябе найбольш прагрэсіўныя плыні эпохі: марксісцкую філасофію, ідэі сацыялізму, лозунгі змагання за сацыяльную справядлівасць. Іван шукае кантактаў з рознымі рэвалюцыйнымі арганізацыямі, сыходзіцца з сацыялрэвалюцыянерамі, знаёміцца з сёстрамі Ізмайлавічанкамі з Мінска, добра вядомымі з іх пазнейшай дзейнасці пад час рэвалюцыі 1905 г. Калі вясной 1903 г. з-за падрыхтоўкі першамайскай дэманстрацыі ў Пецярбурзе Ізмайлавічанкі былі арыштаваныя, трапляе ў турму і Іван — ён зайшоў на іх кватэру, дзе была паліцэйская засада. Амаль усё лета 1903 г. ён праседзеў у турме, прыняў удзел у галадоўцы палітвязняў, захварэў. Магчыма, гэта і быў пачатак сухотаў, што перадчасна давялі яго да магілы.

Выйшаўшы на свабоду, ён не пакідае думкі аб стварэнні беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі, і ўжо ўвосень 1903 г. існуе «Беларуская Рэвалюцыйная Грамада» (назву гэтую надаў ёй Іван). Удзельнікі Грамады — прагрэсіўныя беларускія студэнты пецярбургскіх вышэйшых навучальных установаў, у тым ліку Вацлаў Іваноўскі, брат Івана Луцкевіча — Антон, многа рабочых родам з Беларусі. Мэты БРГ самыя радыкальныя — змаганне супраць самадзяржаўнае ўлады, за дэмакратычны лад: зямлю для сялян, фабрыкі і заводы для рабочых. Яна патрабуе нацыянальнае свабоды для беларусаў: школы на роднай мове



Іван Луцкевіч.



Скульптура Р. Яхімовіча.



Апошні партрэт Івана Луцкевіча, зроблены В. Дыдзякасам перад выездам у Закапанае (чэрвень 1919 г.).



і роўных для яе правоў у краі.

Хутка дзейнасць арганізацыі пераносіцца на Беларусь. Ствараюцца яшчэ два цэнтры: у Мінску з удзелам Казіміра Кастравіцкага, Антона Трэпкі, Аляксандра Уласава, Антона Шабуні і ў Вільні — Алаізы Пашкевіч (Цёткі), братоў Умястоўскіх, Фелікса Стацкевіча, Аляксандра Бурбіса.

У сваёй дзейнасці БРГ кіруецца прынцыпамі інтэрнацыянальнай салідарнасці, імкнецца супрацоўнічаць з рэвалюцыйнымі партыямі суседніх паняволеных народаў. У сувязі з пачаткам руска-японскай вайны супольна з Польскай партыяй сацыялістычнай, сацыял-дэмакратычнымі партыямі Літвы і Латвіі яна выдае на чатырох мовах адозвы антываеннага характару. Пры дапамозе сяброў з ППС за мяжой выдаюцца беларускія агітацыйныя брашуры, што заклікаюць да барацьбы з самадзяржаўем, выступаюць супраць дужа непапулярнай у народзе вайны. Іван Луцкевіч прымае ўдзел ва ўсіх асноўных мерапрыемствах Грамады, каардынуе работу яе паасобных цэнтраў.

Аднак пры ўсім гэтым ён не пакідае сваіх навуковых пошукаў, наадварот — у 1904 г. заканчвае Археалагічны інстытут і атрымлівае камандзіроўку для навуковых доследаў на Беларусь і для далейшае навукі ў Вену. У Вене ён вучыцца ў «Славянскім семінары» пры універсітэце пад кіраўніцтвам прафесара Ягіча. Выезд за мяжу даў магчымасць бліжэй пазнаёміцца з нацыянальна-вызваленчымі імкненнямі іншых паняволеных народаў. Так, пабываўшы ў Львове, Луцкевіч бліжэй сыходзіцца з украінскім вызваленчым рухам. Затым у Кракаве і ў Варшаве знаёміцца з многімі польскімі вучонымі і кіраўнікамі Польскай сацыялістычнай партыі, якая зноў дапамагае наладзіць выданне сацыялістычных брашур на беларускай мове і дастаўляць іх кантрабандай на Беларусь. Ён стараецца пазнаёміць прагрэсіўныя кругі грамадства іншых краін з лёсам абяздоленай Беларусі, выклікаць спагадлівыя адносіны да барацьбы свайго народу за свабоду. Адначасна ён не мінае нагоды паглыбіць свае веды па гісторыі ды здабыць які каштоўны экспанат для сваёй калекцыі, з якой марыць стварыць у будучыні першы беларускі музей.

У пачатку 1905 г. Іван ізноў у Пецярбурзе. Ён прыехаў, каб закончыць навуку на юрыдычным факультэце універсітэта.

Выклікае здзіўленне яго працавітасць, яго здольнасць праяўляць адначасна самую разнародную дзейнасць, усюды паспяваць, усюды іграць кіраўнічую ролю. Цікавы эпізод з пачатку таго ж 1905 г., апісаны ва ўспомненым біяграфічным нарысе, выдадзеным у першую гадавіну яго смерці: «...Іван Луцкевіч, як натуральны і ўсімі прызнаны галава беларускага руху, атрымлівае ад Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады мандат на з'езд прадстаўнікоў сацыялістычных партый у Фінляндыі. Гэта — першае міжнацыянальнае выступленне адраджаючагася беларускага народу, прадстаўленага пакуль што адзінай яго партыяй — і з таго часу беларусам адчыняецца дарога на сусветную палітычную арэну. У Фінляндыі, на з'ездзе, Іван Луцкевіч сустракаецца з прадстаўнікамі ірландцаў; як сыны народу, каторы сам гэтак многа перацярпеў ад чужацкага ўціску, яны выказваюць свой шчыры спогад беларускім байцам за волю і шлюць ім прывет і адзнаку Ірландыі — зялёны трыліснік, а таксама невялікую суму грошай, як падмогу партыі на выдавецтва».

1905 г. для Івана Луцкевіча — гэта год напружанай палітычнай дзейнасці, актыўнага ўдзелу ў рэвалюцыйных падзеях на тэрыторыі Беларусі. Ён вяртаецца з Пецярбурга ў Мінск, дзе цяпер найбольш актыўная дзейнасць БРГ. Другім цэнтрам рэвалюцыйнай барацьбы пад сцягам Грамады была Вільня, дзе поруч з А. Бурбісам, Умястоўскім найбольш актыўна праяўляе сябе Цётка. Яе вершы агітацыйнага характару «Хрэст на свабоду» ды іншыя, што былі выпушчаны ў выглядзе лістовак, сталі дужа папулярнымі сярод віленскага пралетарыяту, яны былі як бы праграмай партыі, выказанай у паэтычнай форме.

У тыя рэвалюцыйныя гады Іван Луцкевіч праявіў сябе як выдатны прамоўца. Выступаў на мітынгах заўсёды пабеларуску, што з энтузіязмам успрымалася рабочымі і сялянамі, для якіх існаванне побач з іншымі рэвалюцыйнымі партыямі беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі мела вялікае значэнне.

17 кастрычніка 1905 г. у Мінску адбыўся расстрэл мірнага мітынгу на Прывакзальнай плошчы. Ініцыятарам крывавай расправы быў губернатар

Курлоў. У адказ на гэтае злачынства эсэрамі супольна з грамадаўцамі быў падрыхтаваны замах на Курлова і вышэйшых чыноў жандармерыі. Дом Луцкевічаў стаў канспіратыўнай кватэрай, дзе перахоўваліся зброя і боепрыпасы. Маці Івана і Антона Луцкевічаў здагадвалася аб дзейнасці сыноў, але адносілася да гэтага спагадліва. Пасля няўдалага замаху Пуліхава, якога за гэта павесілі ў Мінскай турме, Івану Луцкевічу разам з братам Антонам пад пагрозай арышту давялося ў пачатку 1906 г. пакінуць Мінск і пераехаць у Вільню на нелегальнае становішча.

Рэвалюцыя 1905 г. мела велізарнае значэнне ў жыцці беларускага народа. Яна ўзняла шырокія масы беларусаў да актыўнай барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, выклікала ўздым творчых сіл народа. Нягледзячы на наступленне рэакцыі, у снежні 1905 г. адбываецца партыйны з'езд Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады. На гэтым з'ездзе прымаецца новая праграма партыі і новая назва: «Беларуская Сацыялістычная Грамада». Іван Луцкевіч уваходзіць у ЦК партыі. Пачынаецца новы этап беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Адначасна гэта і новая старонка ў біяграфіі Івана Луцкевіча, звязаная з яго пераездам у Вільню. Не маючы сталага месца жыхарства, жывучы пад чужым прозвішчам, ён і далей вядзе актыўную арганізацыйную дзейнасць у рамках Грамады. Выдаюцца лістоўкі, арганізуецца забастовачны рух. Канспірацыйнай кватэрай, дзе адбываюцца партыйныя канферэнцыі Грамады, з'яўляецца кватэра Цёткі, браты якой былі афіцэрамі царскай арміі, што ў нейкай ступені гарантавала бяспеку. Па ініцыятыве Грамады ўлетку 1906 г. у Вільні быў скліканы з'езд народных настаўнікаў, у якім удзельнічаў і Якуб Колас, і дзе было вырашана заснаваць тайны саюз беларускіх настаўнікаў, мэтай якога была беларусізацыя народных школ на Беларусі.

У канцы лета 1906 г. на партыйнай канферэнцыі Грамады Іван Луцкевіч першы выказаў думку пра легальную беларускую газету. Па яго ініцыятыве ды непасрэдным удзеле Антона Луцкевіча, Аляксандра Уласава і Цёткі ў верасні 1906 г. выходзіць першы нумар першай беларускай перыядычнай газеты «Наша Доля». Ды ў хуткім часе большасць нумароў яе была канфіскавана і далейшы выпуск забаронены ўладамі. Але газета памяняла назву і ў лістападзе 1906 г. выйшла як «Наша Ніва», якая выдавалася аж да восені 1915 г.

Характар і значэнне газеты дужа трапна і лаканічна акрэсліў Ігнат Дварчанін у прадмове да сваёй «Хрэстаматыі новай беларускай літаратуры» (Вільня, 1927). Ён кажа: «...«нашаніўскай парой» ахрышчана ня толькі цэлая пара літаратуры, але гэты назоў адносіцца і да ўсяго духоўнага беларускага жыцця наогул... «Наша Ніва» гуртавала вакол сябе ўжо свядомую Беларусь, у «Нашай Ніве» пабачылі свет творы нашых найлепшых пісьменнікаў, якія давалі тут парады і кіруючыя ўказанні; некаторыя з іх проста выхаваліся і развіліся пры часопісе... У адносінах да прыгожага пісьменства пара называецца «нашаніўскай» яшчэ таму, што ўсе пісьменнікі, якіх выхавала на сваіх старонках «Наша Ніва», мелі ясна акрэслены характар твораў, які радніў іх між сабою, злучаў іх у адным рэчышчы-кірунку самой часопісі і досіць рэзка адрозніваў, як ад ранейшых, данашаніўскіх пісьменнікаў, так і ад пазнейшых. «Наша Ніва» была тою ракою, дзе зліваліся ўсе рэчкі і ручайкі твораў паадзінокіх пісьменнікаў... Выдатнейшыя дзеячы, якія стаялі на чале ўсяе працы каля «Нашай Нівы», былі: Іван і Антон Луцкевічы, Аляксандр Уласаў, Антон Лявіцкі, Алаіза Пашкевіч...».

Сёння з нашаніўскіх паэтаў, якія асабіста былі знаёмы з Іванам Луцкевічам, засталася ў жывых бадай толькі Зоська Верас. У сваіх успамінах аб Горадзенскім гуртку беларускае моладзі, яна, расказваючы аб спектаклі, наладжаным гуртком у 1911 г., з вялікай цеплатою кажа: «Публікі было шмат... Але найбольшую радасць адчувалі мы, бачыўшы дарагога госця з Вільні. Іван Луцкевіч на нашы запросіны не адмовіўся прыехаць. Пасля ў «Нашай Ніве» № 8 за 1911 г. змясціў карэспандэнцыю».

Поруч з працай у «Нашай Ніве» Іван Луцкевіч займаўся навукова-даследчай работай у галіне археалогіі і гісторыі Беларусі. Яго калекцыянерства мела ясна вызначаны напрамак: на аснове праўдзівай гісторыі абгрунтаваць права беларускага народа на самавызначэнне. Як паляўнічы за звя-

рыной, ганяўся вучоны за экспанатамі для сваёй калекцыі і здабываў іх самымі нечаканымі спосабамі. У біяграфічным нарысе падаецца такі факт (мабыць, за 1907 г.): «Даведаўшыся, што ў Кракаве ў аднаго з лідэраў ППС Іодкі ёсць друкаваны па-беларуску Літоўскі Статут, Іван Луцкевіч, не маючы магчымасці атрымаць легальнай дарогай пашпарт, пераходзіць нелегальна граніцу і так жа нелегальна варочаецца да краю з цэннай здабычай». Нагадваю, што пасля рэвалюцыі 1905 г. Іван Луцкевіч жыў на нелегальным становішчы пад чужым прозвішчам, хаваючыся ад паліцыі, ажно да 1908 г.

Леапольд Родзевіч, успамінаючы аб сваіх сустрэчах з І. Луцкевічам, нагадвае ўласныя словы, якімі ў той час ён выказаў захапленне працай збіральніка і вучонага: «Адкапалі, пане археолагу, сваёй шчырай, сумленнай працай, адкапалі праўду Беларусі, абаранілі ад руйнуючага часу, ад шкоднай паняверы, здзеку (...) гэтая праўда шырыцца, расце, як зара світання...».

У калекцыі Івана Луцкевіча з'яўляецца срэбны пярсцёнак з магутнага пальца князя Усяслава Полацкага (XI ст.), Біблія Скарыны, успомнены вышэй Літоўскі Статут, цэлы шэраг беларускіх старадрукаў, рукапісных кніг, летапісаў, дзяржаўных грамат Вялікага княства Літоўскага, пісаных па-беларуску, багатая калекцыя слуцкіх паясоў, старажытная зброя, прадметы з археалагічных раскопак з розных куткоў Беларусі, каштоўны збор старажытных манет, народная разьба па дрэве, абразы, тканіны, народная вопратка, музычныя інструменты...

У калекцыянерскай працы яму многа дапамагае здольнасць лёгка знаёміцца і збліжацца з людзьмі, тактоўнасць, глыбокая эрудыцыя, уменне здабываць сяброў сярод людзей самага рознага грамадскага асяроддзя і нацыянальнасцей. У нарысе 1920 г. чытаем аб ім такія радкі: «Горача кахаючы свой народ, жадаючы забяспечыць яму правы гаспадара на яго зямлі, Іван Луцкевіч як у асабістых адносінах да людзей, так і ў палітыцы быў заўсёды далёк ад вузкага нацыяналізму: ён разумеў, што культурнае і эканамічнае падняцце беларускага народа цесна звязана з падняццем усяго краю. І ён гатоў быў працаваць поруч з усімі, хто ішоў гэтай жа дарогай. Ён шукаў збліжэння з усімі шчыра краёвымі элементамі, нягледзячы на тое, якой яны нацыянальнасці».

Амаль ад самага пачатку выхаду ў свет «Нашай Нівы» калекцыя І. Луцкевіча перахоўвалася ў памяшканні рэдакцыі на вул. Завальнай, 7. Хаця было далёка да стварэння музея, але ўжо тады калекцыя выконвала важную ролю, прапагандуючы гісторыю Беларусі сярод перадавой беларускай інтэлігенцыі, натхняла пісьменнікаў, што гуртаваліся вакол «Нашай Нівы». Многія творы Янкі Купалы навеяны памяткамі мінуўшчыны, што знаходзіліся ў рэдакцыі. Максім Багдановіч, пабачыўшы ў калекцыі Луцкевіча старадаўнія кнігі, летапісы, слуцкія паясы ды іншае, піша цэлую нізку вершаў «Старая Беларусь», што змешчана ў зборніку «Вянок».

У 1912 г. першы раз трапляе ў Вільню Змітрок Бядуля. Моцнае ўражанне робіць на яго атмасфера «Нашай Нівы» і сабраныя там прадметы беларускай старасвеччыны. У сваім эсэ пад загалоўкам «Святое гэта месца!..», прысвечаным Івану Луцкевічу, ён піша:

«...Крэпка пачынае біцца сэрца маё ад нейкай абхопліваючай яго святасці. Не вачыма, а самай душою пачынаю я ўглядацца ў даль мінуўшчыны. ...Нехта нявідзімы чытаець мне старую гісторыю, і розныя абразы старыны малююцца мне: і беларускія князі са сваімі дружынамі, у нацыянальныя вопраткі прыбраныя... І народ, каторы не сароміцца мовы сваей... ...Усё гэта даець энергію і надзею. Багата наша будучына! Багаты наш Беларускі Народ! Многа шчырых сыноў ёсць на Зямельцы Яго!..

...Святое гэта месца, бо яно родзіць зярняты прасветы для ўсяго вялікага Беларускага Народу».

У 1914 г. Івану Луцкевічу ўдаецца знайсці ў вёсцы Сорак Татар пад Вільняй незвычайна цікавую кніжку: гэта «святая кніга» — Аль Кітаб, па якой маліліся татары, што пасяліліся ў Літоўскім княстве яшчэ з часоў Вітаўта. Кніга была напісана арабскімі літарамі па-беларуску. Яна дала бясцэнны матэрыял для беларускай філалогіі, для вывучэння старой беларускай мовы XVI—XVII стагоддзяў і адкрыла дарогу для далейшых пошукаў у гэтым напрамку. Пошукі вучонага шмат дапамаглі пазнейшым даследчыкам, хаця сам ён пісаў мала. Ёсць асобныя публікацыі ў розных перыядычных выданнях —

беларускіх, расійскіх, польскіх, літоўскіх, але бібліяграфія яго работ па гісторыі і археалогіі пакуль што адсутнічае.

Сучаснікі сцвярджалі, што ён быў больш практыкам, чым тэарэтыкам; часта выступаў з лекцыямі, рэфератамі, апошнія гады перад вайной выкладаў гісторыю мастацтва ў артыстычнай школе Рыбакова ў Вільні.

Відаць, яго характару найбольш адпавядаў непасрэдны кантакт з людзьмі. Максім Гарэцкі расказваў пра першую сустрэчу з ім: «Першы раз увідзіў я Івана Луцкевіча ў пачатку жніўня 1913 г. у віленскай беларускай кнігарні на Завальнай, 7. У цёмным пакойчыку за крамаю, сярод усякае старадаўняе беларушчыны, рупліва і рухава нахіляўся ён над трэснутай вазай, меркаваў з вялікай любасцю, як заляпіць шчарбіну. Пачуўшы маё імя, адарваўся ад свайго інтарэсу, сказаў мне колькі дужа ласкавых слоў і зараз клапатліва звярнуўся да свайго чалавека ў справе здабывання паперы на чародны нумар «Нашай Нівы». За паўмінуткі яго ўжо ня было... Дзве асаблівасці кінуліся мне ў вочы: еўрапейскасць выгляду і энергічнасць Івана Луцкевіча... Вуха, прызвычаенае да славеснай размазні, бясконца-нуднай гутаркі ці маркотнай маўклівасці замучаных ідэйнасцю грамадзян Беларусі, было прыемна заваблена сціснутай, кароткай і цэннай, а галоўна — энергічна-рашучай гутаркай гэтага правадыра беларускага руху... Хацелася і ногды схапіць карандаш і запісываць за ім, каб ды ня згубілася, бо сам Іван Луцкевіч работу свайго пяра ўсё адкладаў на пазнейшы, вальнейшы ад чорнае працы час,— усё адкладаў і забраў ад нас сваё знаццё з сабою ў труну...»

Праз колькі год пачалася першая сусветная вайна. Іван Луцкевіч не пакідае грамадскай і культурна-асветніцкай працы, хаця актыўнасць беларускага вызваленчага руху значна змяншаецца. Перастае выходзіць газета «Наша Ніва». Тэрыторыя Беларусі падзелена спачатку ваенным фронтам, а затым умовамі Брэсцкага міру. Жывучы ў Вільні, Іван Луцкевіч па магчымасці адстойвае інтарэсы беларускага насельніцтва гэтага краю, актыўна ўдзельнічае ў працы Беларускага камітэта дапамогі пацярпеўшым ад вайны. Пры Камітэце канцэнтруецца і асветніцкая праца. У лістападзе 1915 г. у Вільні адкрываецца першая беларуская пачатковая школа. Не хапае настаўнікаў. Стараннямі Івана Луцкевіча і Цёткі ў снежні таго ж года пачынаюць працаваць беларускія настаўніцкія курсы, дзе ён і выкладае. Пасля адкрываецца 5 беларускіх пачатковых школ. У 1916 г. па яго ініцыятыве арганізуецца Беларускі настаўніцкі саюз — і гэта ў горадзе, дзе перакрыжоўваліся інтарэсы многіх народаў, а адносіны акупацыйных улад да беларускага адраджэнцкага руху былі дастаткова непрыхільныя.

Тым часам і стан яго здароўя значна пагаршаецца. У тыя часы туберкулёз лёгкіх быў хваробай практычна невылечнай, а цяжкія ваенныя ўмовы не спрыялі лячэнню. Да таго ж, у пачатку 1918 г. прыйшла вестка аб тым, што ў Мінску, за лініяй фронту, памерла маці.

Аднак і цяпер ён не спыняе сваёй працы: стварае ў Вільні Беларускае навуковае таварыства і кіруе гэтай арганізацыяй, паступова перадаючы Таварыству ўсе свае каштоўныя зборы беларускай старасвеччыны. Перспектыва стварэння першага беларускага музея робіцца ўжо больш рэальнай. Але, на жаль, мара Івана Луцкевіча здзейснілася толькі праз 2 гады пасля яго смерці. Музей быў адчынены ў Базыльянскіх мурах (вул. Вострабрамская, 9) у 1921 г. і пратрываў амаль 25 гадоў. За гэты час ён значна павялічыў колькасць сваіх экспанатаў і ўвесь час быў сапраўдным асяродкам беларускае культуры на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі.

Можна дзівіцца яго энергіі і адданасці беларускай справе. У 1918—1919 гг., калі ўлады ў Вільні змяняліся, як у калейдаскопе, ён дабіваецца дазволу на адкрыццё Віленскай Беларускай гімназіі. Яму ўдаецца здабыць для беларускіх устаноў тыя ж Базыльянскія муры, дзе з 2-га лютага 1919 г. і пачынае сваю працу гімназія. Першым яе дырэктарам стаў М. Кахановіч. Іван Луцкевіч таксама працуе выкладчыкам у гімназіі. Адначасова ён з'яўляецца сябрам калегіі выяўленчых мастацтваў пры Камісарыяце асветы, чым абавязкам была ахова помнікаў, арганізацыя музеяў, мастацкіх школ і інш.

Максім Гарэцкі ўспамінае яшчэ 2 сустрэчы з Іванам Луцкевічам. У лістападзе 1914 г. ён быў на фронце паранены асколкам нямецкай гранаты, і яго паклалі ў шпіталь у Вільні. Дзякуючы добраму знаёмству Івана Луцкевіча з начальнікам шпіталя, Максіму былі ство-



Партрэт Івана Луцкевіча работы праф. Хатулёва. Вільня, 1914 г.



Іван Луцкевіч. Вільня, 1916 г.

раны найлепшыя ўмовы. У дадатак «...тут жа працавала міласэрнаю сястрою і клала пад падушкі «Нашу Ніву» нябожчыца Цётка, наша незабытная пяснярка і рэвалюцыянерка Алаіза Пашкевічанка... после ж таго, як мяне даведаўся Іван Луцкевіч, я ляжаў там як у сваёй хаце пад апекай маткі і добра лепшаў. Прыехаўшы ў Вільню праз чатыры гады, вясною 1919 г., і зайшоўшы да Івана Луцкевіча, я ўвідзіў яго ў непараўнальна горшай хворасці, чымся калісьці бачыў мяне ён. Хворы дужа ўзрадаваўся, што я прыехаў віленцам на помач, пачаў казаць пра нямецкую акупацыю, жаліцца. Жальба знямоглага байца сціснула маё сэрца, хацелася плакаць, крычэць, праклінаць благую долю. Не паказаў я гэтага яму, як мне баліць, а толькі дзівіўся, чаму ён сам бядуець толькі ўсё аб справе і зусім не зважаець на свой блізкі канец. Да яго выезду ў Закапанае залучаў я на знамянітую ў нашым руху кватэру на Віленскай, 33, і заўсёды знаходзіў у хворага поўна гасцей. Сюды вялі дарогі з усіх беларускіх устаноў Вільні; сюды ішоў кожны беларус, што праездам у Вільні; сюды ішоў кожны паступовы грамадзянін краю, каб пагаманіць аб справах краю».

У палове чэрвеня 1919 г. Іван Луцкевіч выязджае на лячэнне ў горную мясціну Закапанае ў Польшчы, але ўжо зусім у безнадзейным стане. Вярнуцца адтуль яму ўжо не давялося — ён памёр 20 жніўня на чужыне далёка ад Радзімы.

За сваё кароткае жыццё зрабіў ён нямала для беларускага адраджэнцкага руху. Адна Віленская Беларуская гімназія на працягу чвэрці веку ўзгадавала шмат маладой беларускай інтэлігенцыі. Сярод тых, што выкладалі і вучыліся ў яе мурах, ёсць многа знаных дзеячаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху.

Гэтая жменя звестак аб жыццёвым шляху Івана Луцкевіча можа служыць толькі як бы эскізам да яго біяграфіі.

Але ўжо сёння ясна: гэта постаць у нашай беларускай культуры, якую ўжо не ўдасца абмінуць, абысці маўчаннем.

**Лявон КРЫВІЦКІ**

# УСПАМІНЫ ПРА ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА

У канцы 1905 году першы раз пачуць прышлося мне пра беларускую Сац. Грамаду ў Вільні. Дачуўся я гэта ад Браніславы Родзік (цяпер Умястоўскай), каторая ў Рызе тады хавалася якісь час, з Новай Вялейкі прыехаўшы пасьля акцябрскай рэвалюцыі. Захацелася мне тады зараз пазнацца з «грамадзянамі». І незадоўга (на Запусты ў 1906 годзе) прыехаў я з Рыгі ў Вільню з пісьмом ад Родзічышкі да Пранука Умястоўскага, каторы належыў да «Грамады» і вёў рэвалюцыйную работу сярод салдатаў. Ад Умястоўскага дастаўся я на конспірацыйную кватэру «Грамады» — на Хівінскую вуліцу у д. № 44 да «Цёткі», каторая жыла ў афіцэрскай кватэры свайго брата В. Пашкевіча. Лучыў я туды на зборышча Камітату Бел. Сац. Грамады. Там я першы раз і пазнаўся з Іванам Луцкевічам. Ён блізка што адзін толькі і заняўся тады са мной. Насамперш спытаўся — да якой працы я хацеў-бы ўзяцца: да палітычнай ці да культурнай? Я адказаў, што да культурнай працы маю больш ахоты заняцца. «Дык добра» — кажаць — «ёсьць у нас «Кола Беларускай Асьветы», далучайцеся да працы ў Коле».

Найбліжэй запазнацца із ім прышлося мне пасьля 1910 году, калі я пераехаў быў жыць у Вільню. Да дружбы і да кумпаніі быў ён як даўней так і пазьней і аж да сьмерці — скоры. Умеў вышуківаць беларускіх прыхільнікаў, умеў зацікавіць беларускім рухам шмат каго. На беларускія газэты і кніжкі з усей яго энергіяй здабываў грошы то пазычаючы, то зарабляючы перакупам і прадажай старасьвецкіх рэчаў. Шмат бяды меў здабываючы грошы на пільныя расплаты за беларускія выдавецтвы і на даўгі; аж мне здаецца, што ад прыкрасьці з гэтага стаўся нэрвовым. Гэты дэфэкт нажыўшы — нажыў сабе і абідчыкаў. Часта знэрваваны, а яшчэ часьцей недаеўшы, згаладаўшы, зьбедаваны — надарваў сваё здароўе і сухот сабе нагнаў.

Зьбіраючы старасьвецкія рэчы адкладаў тое, што з Беларусі мела быць ці што для беларусаў маець значэньне; такім парадкам сабраў надта шмат важных для беларусаў старасьвецкіх памятак, з каторых меўся ён зрабіць пачатак для Беларускага Музэю. На яго гледзячы і ад яго шмат налаўчыўшыся сталі старасьветчыну вышуківаць разам із ім, а пасьля і самі адны — Ластоўскі Вацлаў і Зямкевіч Рамуальд.

Пяром мала (гэтым затое шмат займаецца Іванаў брат Антон), але языку сваймy не даваў ён спакою. Беларускую агітацію ён вёў — каб падлічыць — найбольш ад усіх з беларусаў. Сьмела усюды выступаў з беларускім словам, шчыра бараніў справу беларускіх — і з гэткім характарам пратрываў да сьмерці. Якім быў шчырым, вытрывалым працаўнікам беларускай справы — то такога пашукаць! Вялікая, вялікая, шкода страціўшы яго!

Яго памяці, як першага беларускага архэолёга, павінен быць заложаны першы беларускі музэй, аб каторым трэба як найхутчэй пастарацца.

**Адварды БУДЗЬКА**

20.VII.1920 г.
Вільня.

Першы раз увідзіў я Івана Луцкевіча ў пачатку жніўня 1913-га году ў віленскай беларускай кнігарні на Завальнай, 7. У цёмным пакойчыку за крамаю, сярод усякае старадаўнае беларушчыны, рупліва і рухава нахіляўся ён над трэснутаю вазаю, меркаваў з вялікай любасьцю, як заляпіць шчэрбіну. Пачуўшы маё імя, адарваўся ад свайго інтарэсу, сказаў мне колькі дужа ласкавых слоў і зараз клапатліва зьвярнуўся да свайго чалавека ў справе здабываньня паперы на чародны нумар «Нашае Нівы». За паўмінуткі яго ўжо ня было: пабег да нейкага Папа, дзе

---

Успаміны Адварда Будзькі, Максіма Гарэцкага і Леапольда Родзевіча друкуюцца паводле зборніка «Памяці Івана Луцкевіча» (Вільня, 1920).— **Рэд.**

спадзяваўся дастаць паперы напавер; бо меў з тым Папам якуюсь агульную прыгоду з часу рэволюцыі і пагромнага настрою ў Вільні. Тады Іван Луцкевіч быў здаровы і жыцьцерадасны чалавек. Дзьве асаблівасьці кінуліся мне ў вочы на беларускім полі: эўропэйскасьць выгляду і энэргічнасьць Івана Луцкевіча. Вока, прызвычаенае да беларускай дэмакратычнай, казаў той, нядбайнасьці ці проста нічым незакрытай неахайнасьці ў вопротках і апрананьні, было прыемна заваблена эўропэйскай, скажу я, акуратнасьцю ў яго скромным косьцюме. Тое самае было і ў манерах, і ў абхаджэньні з людзьмі. Вуха, прызвычаенае да славеснай размазьні, бязконца-нуднай гутаркі ці маркотнай маўклівасьці замучаных ідэйнасьцю грамадзян Беларусі, было прыемна заваблена сьціснутай, кароткай і цэннай, а глаўнае энергічна-рашучай гутаркай гэтага правадыра беларускага руху. Пры ўсім тым мова яго — жывая і літэратурная, прыгожая беларуская мова; пры ўсім тым яго ідэолёгія — народная, сялянская беларуская ідэолёгія. Яго мова захоплівае, даець веру і надзею, будзіць паснулыя сілы. Яго вочы гараць і прыкоўваюць да намаляваных яго словам абразоў, істнуючых і ідэальных. Тыя істнуючыя абразы паўстаюць і сьпіраюцца, родзяць дурную няверу, што гэта жывы чалавек і чалавек-беларус так гаворыць... А тыя ідэальныя абразы здаюцца дасьціглымі, бо прахопішся і відзіш ня сон, а запраўднасьць, што жывы чалавек і чалавек-беларус так гаворыць... Гутарка Івана Луцкевіча была зазвычай цікаўная і цэнная, бо ён меў багатае навуковае знацьцё і аж да сьмерці йшоў разам з сусьветным прогрэсам. Хацелася іногды схапіць крандаш і запісываць за ім, каб ды ня згубілася, бо сам Іван Луцкевіч работу свайго пяра ўсё адкладаў на пазьнейшы, вальнейшы ад чорнае працы час,— усё адкладаў і забраў ад нас сваё знацьцё з сабою у труну. Хто-ж мог думаць, што сьмерць ужо вартуе гэткі цэнны мозаг? Пасьля першае сустрэчы я бачыўся з Іванам Луцкевічам даволі рэдка: каморніцкая (землямерская) служба, а потым вайна аддалялі мяне ад Вільні. Перад самай, здаецца, масьлянкай 1914-га году, у той жа кнігарні, ён, добры палітык, напрарочыў вайну і шкадаваў, што якраз на гэткі час выпадае мне адбываньне салдатчыны. І ўжо ў лістападзе 1914-га году сустрэліся мы ў віленскім гошпіталі «Мішмерас Хойлем», дзе я ляжаў цяжка паранены, з аскялёпкам нямецкае гранаты ў назе. Ня блізкі сьвет і мокрае надвор'е, а Йван Луцкевіч даведаўся мяне пры першай магчымасьці, прынёс вінаграду, разгаманіў мяне, быццам дыхнуў сьвежай струёй няўмірушчага жыцьця.

Загадчык «Мішмерас Хойлема» доктар Ром быў блізкі друг Івана Луцкевіча. Тут жа працавала міласэрнаю сястрою і клала пад падушкі «Нашу Ніву» нябожчыца Цётка, наша незабытная пясьнярка і рэволюцыянэрка Алёізія Пашкевіча. Гэны гошпіталь быў наогул самы лепшы з усіх, якія відзіў я за час вайны; посьле-ж таго, як мяне даведаўся Іван Луцкевіч, я ляжаў там як у сваёй хаце пад апекай маткі і добра лепшаў. Прыехаўшы ў Вільню цераз чатыры з гакам гады, вясною 1919-га году, і зайшоўшы да Івана Луцкевіча, я ўвідзіў яго ў непараўнавана горшай хворасьці, чымся калісьці бачыў мяне ён. Хворы дужа ўзрадаваўся, што я прыехаў віленцам на помач, пачаў казаць пра нямецкую окупацыю, жаліцца. Жальба зьнямоглага байца сьціснула маё сэрца, хацелася плакаць, крычэць, праклінаць благую долю. Не паказаў я гэтага яму, як мне баліць, а толькі дзівіўся чаму ён сам бядуець толькі ўсё аб справе і зусім не зважаець на свой блізкі канец. Да яго выезду ў Закапанае залучаў я на знамянітую ў нашым руху кватэру на Віленскай, 33, і заўсёды знаходзіў у хворага поўна гасьцей. Сюды вялі дарогі з усіх беларускіх устаноў Вільні; сюды ішоў кожды беларус, быўшы праездам у Вільні; сюды йшоў кожды паступовы грамадзянін краю, каб пагаманіць аб справах краю. Хворы ня мог улежаць спакойна, варушыўся, пачынаў горача гаварыць і, што на узьдзіў, курыць, але страшны кашаль душыў яго і кідаў назад на падушку. З вялікай, нявымоўнай мукай у вачох хапаўся чалавек за грудзі і сьціхаў, а госьці спаміналі, што трэба разьвітацца, даць яму спакой. Ах, не шкадаваў сябе хворы, не шкадавалі яго адданыя справе госьці. Прыйшоў канец, страта адбілася на ўсей рабоце, і адсутнасьць кальнула пустымі вачыма самых аптымістычных, найменей зьвязаных у рабоце з памершым.

**М. ГАРЭЦКІ**

Вільня, 1920.

Апошні раз мы сустрэліся ў гарадзкім тэатры.

— Добры вечар!

— Добры... Як справы? Што новага?

— Нічога асаблівага,— кажу я.— Вось кульгаю патрошку па сваей пуцявінцы. Бяда толькі...

І пачаў я жальбаваць на свае няўдачы, прасіць парады ў сваёй працы. А ён з увагай, спагадай выслухаў і так міла, проста, прыязна раіў, навучаў. І гутарылі мы ўсё аб адным: аб справах беларускіх.

— Але сягоньня тэатр ажно покаіцца ад народу — усьцешыўся я.

— І гэта наш беларускі тэатр, беларуская публіка, беларускі дух — гордасьць, надзея!

— А ці памятаеце вы, паночку, як гэты тэатр толькі пачынаў прабіваць цьвёрды грунт векавога няхайства, як вы прыяжджалі з Вільні ў Дзісну на беларускае ігрышча, што ставіў Ігнат Буйніцкі, як вы самі падышлі да мяне і сказалі: «Добра іграеце, толькі голас лішне слабы. А вашы рукапісы, пасланыя ў «Нашу Ніву», атрымалі. Пішэце больш — будзем патрошку друкаваць». А пасьля вы нас, усю трупу зьнімалі сваім «кодаком». Памятаю кожны ваш рух, выражэньне, чырты вашага твару. Як цяпер, так і тады вы гарэлі верай у адраджэньне Беларусі і ўмелі запаліць гэтай верай іншых, асабліва моладзь. Памятаю, як вы спакойна, з ласкавай усьмішкай кідалі агністыя словы аб нашай праўдзе ў абступіўшую вас табалу яшчэ несьвядомых беларусоў-блуднікаў.

Ах, усё гэта ў маей шаснаццацёх гадовай юнацкай душы адбілася тады глыбака і ярка.

І не дарма я цяпер чую да вас болей, чымся ўдзячнасьць, затое, што вы памаглі мне стаць на цьвёрды, родны грунт, што душа мая абагачываецца, радуецца, бачачы гэты тэатр, чуючы родную песьню, разумеючы гэтую веліч нацыянальнага ўзросту.

— Э, што да мяне, дык пакіньце. А вось што Беларусь жыве, красуе, дык гэта праўда.

— Адкапалі, пане археологу, сваей шчырай, сумленнай працай, адкапалі праўду Беларусі, абаранілі ад руйнуючага часу, ад шкоднай паняверы, зьдзеку. І добрыя, знаць, сулілі пажаданьні, калі гэтая праўда шырыцца, расьце, як зара сьвітаньня...

Ён мяне спыніў, бо пачалося ужо прадстаўленьне. І мы расталіся.

— Што гэта ты і здароўкацца ня хочаш! — пакрыўдзіўся на мяне сябра.— У цябе сягоньня якісь дзіўны, асаблівы настрой. Што з табою?

— Я размаўляў з ім...

— З кім жа гэта?

Я даў сябру праграму, дзе быў адбіты патрэт Івана Луцкевіча.

— Вось з кім!

— Добры грамадзянін, шчыры і вялікі беларус, пачынальнік беларускага адраджэньня! — сказаў сябра, пільна ўзіраючыся на патрэт.— Ен з намі ёсьць, жыве, працуе. Слава яму!

А было гэта ў Менскім гарадзкім тэатры 17 студня 1920 году.

**Л. РОДЗЕВІЧ**

Анджэй КЕМПФІ

# АБ «СТАЛІЧНЫМ НАВАГРАДКУ» І АБ НАВАГРАДСКАЙ БОЖАЙ МАЦІ ЗАМКАВАЙ

Наваградская гара выразна бачна кожнаму, хто набліжаецца да горада: на 320 метраў узнімаецца яна над роўніцай мора і з'яўляецца адной з найвышэйшых гор на тэрыторыі сучаснай Беларускай ССР.

Паўночны, абрывісты схіл Наваградскай гары ў свой час выдатна адпавядаў абарончым мэтам, што і было выкарыстана пры пабудове Замка. Стромкі схіл рабіў замак непрыступным з поўначы, а з супрацьлеглага боку падножжа гары было перакапанае глыбокімі равамі і ўмацаванае валамі і агароджамі. Адзінае, што захавалася на замчышчы да нашых дзён — вядомыя па шматлікіх фотаздымках цёмна-чырвоныя руіны вежаў; ды добра, што хоць тое захавалася ад «замку на плячах Наваградскай гары», ці, паводле іншага Міцкевічавага вызначэння, ад «замку сталічнага Наваградак».

Менавіта выгляд гэтых руін сілкаваў паэтычную фантазію Адама Міцкевіча, калі пісаў ён сваю «Гражыну». І нездарма ў аўтарскіх заўвагах да паэмы, прысвечаных Наваградку і Замкавай гары, Міцкевіч пісаў: «Руіны замку і дагэтуль можна бачыць».

Наваградак — Новогрудок — Nowogródek. Наваградак поруч з Полацкам, Туравам, Горадняй і Берасцем — адзін з найстарэйшых гарадоў Белай, ці, кажучы больш дакладна, Чорнай Русі; места, гістарычны пачатак якога губляецца ў змроку стагоддзяў. Некаторыя рускія летапісцы прыпісвалі факт заснавання горада Яраславу Мудраму, іншыя лічылі заснавальнікам Наваградка сына Уладзіміра Манамаха Яраполка.

Пры Міндоўгу Наваградак развіваўся ўжо як вялікакняжацкая сталіца. У гэты час Наваградскі замак перажывае некалькі нападаў з боку крыжакоў і татараў, але паспяхова бароніцца ад захопнікаў. Прыняўшы ў 1252 годзе з рук крыжакоў хрышчэнне ў рымска-каталіцкую веру, Міндоўг карануецца ў наваградскім замку на караля, прычым у акце каранацыі бярэ ўдзел і легат папы Інакенція IV. Каранацыя была надзвычай пышнаю, прысутнічалі на ёй біскупы, магістры ды іншыя крыжацкія дастойнікі. Неўзабаве, аднак, Міндоўг парывае з хрысціянствам. Пры карэліцкім гасцінцы, адразу за Наваградкам, ёсць пагорак, які здавён называюць Міндоўгавай гарой і дзе Міндоўг нібыта пахаваны.

Наступным князем наваградскім стаў сын Міндоўга Войшалк. Ён таксама прыняў хрышчэнне, аднак не каталіцкае, а праваслаўнае і,— рэч для гісторыкаў неверагодная,— прыбраўшыся ў манаскія строі, сышоў у манастыр. Тым, хто цікавіцца гісторыяй, раім прачытаць грунтоўны матэрыял аб Войшалку на старонках «Богословских Трудов» (т. 24) аўтарства Дзмітрыя Агіцкага.

Крыжакі між тым не спынялі рабіць падкопы і нападаць на княства, але Наваградак даваў таму рашучы адпор.

У 1314 годзе крыжакі паляць замак, а ў 1391 годзе крыжацкі магістр Конрад Валенрод нішчыць яго ўдругарадзь. І, урэшце, пасля смерці Гедыміна Наваградак пераходзіць ва ўладанне вялікага князя Вітаўта.

Усё сведчыць за тое, што менавіта з будаўнічай дзейнасцю Вітаўта і трэба звязваць архітэктуру рэштак замка і наогул ягоны кшталт і выгляд, які выявіўся ў выніку доследна-кансервацыйных работ на Замкавай гары ў сярэдзіне дваццатых гадоў. Работы тыя праводзіліся адначасна з насыпам мемарыяльнага Міцкевічавага кургана і былі фінансаваныя тагачаснай польскай Акруговай дырэкцыяй грамадскіх работ. Падчас кансервацыі рэшткі вежаў былі ўмацаваныя падпорамі (на жаль, сёння падпораў тых ужо няма і ёсць пагроза абвалу вежаў! Сігналізуем аб гэтым тым, хто займаецца аховай помнікаў).

Як засведчылі раскопкі, замкавы комплекс месціўся на чатырох пагорках, якія былі аддзелены адно ад другога глыбокімі равамі. Сам замак на вышыню 3—4 метраў быў збудаваны з каменю, а верхнюю частку меў цагляную. Камунікацыйныя зносіны паміж асобнымі часткамі комплексу ажыццяўляліся з дапамогаю разваднных мастоў. Падобна на тое, што мелася толькі адна ўваходная вежа, а атачаў комплекс вастракол, які стаяў на краі абрывістай стромы.

На нутраной сцяне сярэдняй вежы захавалася спічастая ніша глыбінёй да 1,8 метра. Паводле легенды, пад гэтай нішай знаходзіўся падземны ход, які злучаў замак з Мірам ці нават з Нясвіжам, але раскопкі мясцовасці на глыбіню звыш 7 метраў паказалі, што лёху там не было.

Збудаваная з палёвага каменю ўваходная вежа была арганічна звязана з абарончым мурам і мела пераходную пройму шырынёй 160 см. Да праймы вялі цагляныя прыступкі, якія ў сваю чаргу трымаліся на каменным падмурку і якія меліся як ад боку дзядзінца, так і ад боку горада. Леваруч ад брамы, на вышыні чалавечага росту, захавалася таксама адтуліна ад кансольнай бэлькі. На тых бэльках некалі трымалася галерэя, да якой з зямлі вялі драўляныя ўсходкі.

Трэцяя, Кутняя вежа, была самай магутнай. Мела яна квадратны падмурак памерам 14×14 м і першай знікла з твару зямлі, абрынуўшыся ў выніку асядання грунту. Нарэшце, існавала яшчэ адна, чацвёртая вежа, якая стаяла на ўсходнім схіле гары, па-за межамі абарончых муроў, і прызначалася для аховы замкавага калодзежу. Лучыў яе з асноўнымі ўмацаваннямі каменны мур, у тоўшчы якога знаходзіўся адмысловы праход для вады.

Усяго, як сцвярджаюць даследчыкі, у замку было сем вежаў. Важнае значэнне ў абарончым комплексе замка адводзілася таксама і крапасным мурам. Муры мелі адпаведную вышыню і таўшчыню і з'яўляліся надзейнаю аховай разлеглага і ў гаспадарчым плане цалкам самазабяспечанага дзядзінца.

Цікавае адкрыццё чакала археолагаўдаследчыкаў наваградскай гары, пасля таго, як яны знялі на тэрыторыі дзядзінца слой друзу. Быў зняты друз уздоўж абарончага мура на глыбіню да 2 метраў, а таксама на глыбіню да 1,5 метра на тым месцы, дзе да 1850 года стаяў збудаваны ў XVII стагоддзі каталіцкі касцёл. Падчас тых раскопак былі выяўлены рэшткі нейкай пабудовы. Як высветлілася, гэта быў падмурак праваслаўнай цэркаўкі.

У 1973—1974 гг. рэшткі той царквы былі паўторна закансерваваныя калектывам ленінградскіх археолагаў пад кіраўніцтвам М. В. Малеўскай. Збудаваная ў першай палове XIV стагоддзя цэркаўка мела ў плане форму крыжа памерамі 12,2×13 м з адной апсідай і невялічкім, на захад скіраваным бабінцам. У другой палове XIV стагоддзя бажніца перабудоўвалася. Скляпенні ейныя былі ўмацаваныя чатырма слупамі; з паўночна-заходняга боку быў прыбудаваны алтар, а падлога была выкладзена цэглай. Магчыма, што бакавыя нефы і апсіда царквы мелі рабрыстыя скляпенні. Што ж тычыцца разбуранага ў 1850 годзе касцёла, ён стаяў на падмурку згаданай праваслаўнай царквы. Збудаваны ён быў у стылі барока, праўдападобна напрыканцы XVII стагоддзя. Апрача таго, раскопкі савецкіх археолагаў выявілі на тэрыторыі замкавага дзядзінца рэшткі гаспадарчых пабудоў, а таксама падмурак цікавай, квадратнай у плане, пабудовы, з цэнтральным слупам і нутранымі перагародкамі. Зацікаўленых у больш падрабязнай інфармацыі адсылаем да «Памятников монументального зодчества Белоруссии» А. А. Трусава (Мінск, 1988).

Цэркаўка XIV стагоддзя, рэшткі якой былі выяўлены на замкавым дзядзінцы, цікавая перш ад усяго тым, што яна — і аб тым сведчаць летапісныя крыніцы — была сведкаю векапомных гістарычных падзеяў.

Менавіта ў гэтай царкве па загадзе вялікага князя Вітаўта сабраўся ў 1415 годзе сабор праваслаўных епіскапаў, на якім быў абраны мітрапалітам Кіеўскім Рыгор Цамблак і тым самым быў пакладзены канец зверхніцтву маскоўскага мітрапаліта над Заходнярускаю царквою. Гэта дзякуючы яму, новаабранаму мітрапаліту, у Наваградку паўстаюць цэрквы ўсходняга абраду, пра якія ідзе гаворка ў грамаце караля Жыгімонта III. І менавіта ў гэтай, найперш праваслаўнай, а ў пазнейшых часах уніяцкай царкве, знаходзілася ікона Божай Маці, якую, насуперак некаторым аўтарытэтным думкам, дазволім сабе з'ыдэнтыфікаваць з той Маці Божай, да якой звяртаўся Паэт ва ўступе да «Пана Тадэвуша»: «Паненка... што горад замкавы

ароніш Навагрудзкі з верным ягоным людам!»*

Праўда, мне тут могуць запярэчыць. Бо, па-першае, у XVIII стагоддзі, у часы дзяцінства Міцкевіча ў Навагрудку мелася некалькі абразоў Маці Божай, якія былі акружаны ўсенародным шанаваннем. Асабліва шанаваўся абраз, які месціўся ў касцёле езуіцкім (далей будзем называць яго абразам езуіцка-навагрудскім). Абраз той меў гучную славу з нагоды цудаў, якія каля яго адбываліся, і быў услаўлены ў шматлікіх хваласпевах, а таксама ў шматлікіх іканаграфічных копіях. Адзін з тых хваласпеваў выйшаў у Вільні ў 1673 годзе пад назваю «Новая абарона бядотнай айчыне з неба дадзеная ў абразе Цудадзейным Багародзіцы Панны Марыі з касцёла Навагрудскага». Яшчэ адзін хваласпеў пабачыў свет у Вільні ў 1684 годзе і меў наступную назву: «Effigies miraculosae imaginis Deiparae Virginis, quae apud Patres Societatis lesu religiose colitur Novogrodeci».

І па-другое, сумлеў можа выклікаць і той факт, што калі смяротна хворага хлопчыка Адама прынеслі да Божай Маці, пасля чаго ён цудоўна ачуняў ад хваробы, замак даўно ўжо ляжаў у руінах, спалены ў 1710 годзе шведамі і, вядома ж, даўно ўжо не існавала замкавай царквы, у якой знаходзілася цудадзейная ікона.

І сапраўды, нельга адмаўляць таго факту, што езуіцка-навагрудская ікона існавала, як і таго, што яна карысталася ў вернікаў вялікай пашанотай, але бясспрэчны і той факт, што аўтар «Пана Тадэвуша» меў на ўвазе зусім не гэты абраз і не з ім звязваў сваё цудоўнае вяртанне да жыцця. Аргументам тут можа служыць аўтарская прыпіска да паэмы, у якой Паэт выразна назваў Маці Божую «Замкавай», што здымае ўсялякія сумлевы, бо абраз езуіцка-навагрудскі да замку не меў аніякага дачынення. Ізноў жа зацікаўленых адсылаем да артыкула, які напісаў у «Навагрудчыне Міцкевічаўскай» Вацлаў Баравы, палемізуючы з тэзаю кс. Вацлава Капуцына («Аб цудатворным абразе Маці Божай у Навагрудку» у зборніку «Мемарыяльная кніга ва ўшанаванне сотых угодкаў ад дня нараджэння Адама Міцкевіча». Варшава, 1989 г.)

Адказваючы на другое пытанне, спяшаемся сцвердзіць, што хаця ў часіны, аб якіх ідзе гаворка, цэркаўкі на замку і не было, сама святая ікона на той час знаходзілася ва ўніяцкай бажніцы, а ў 1839 годзе была перанесена ў праваслаўную Барысаглебскую царкву і не страціла ў вачах вернікаў тоеснасці са старажытнай замкавай іконай Багародзіцы.

Аб тых душэўных прасвятленнях, якія зведалі вернікі, молячыся на ікону, апавядаецца і ў выдадзенай у 1817 годзе віленскімі Базыльянамі кантычцы: «Хваласпеў найсвяцейшай Панне Марыі, цудамі слыннай у абразе Навагрудскім пад аховаю кс. Базыльянаў вякуючай».

Хваласпеў той занадта доўгі, каб яго цытаваць, аднак маем прапанаваць вашай увазе хоць невялічкі ўрывак (цытуем па кнізе кс. М. С. «Уніяцкая Божая Маці на чале Пана Тадэвуша», Львоў, 1898).

Найсвяцейшая Панна Навагрудская Дзева (...)
Славішся дабрадзействамі сваімі
Нікому не адмаўляеш у паратунку
Не адмаўляй жа і нам у сваёй абароне
Калі ў замку тваім шукаем схову
З Цябе як з крыніцы дабрадзейства здароўе
чэрпае хворы (...)
Кожны, хто верыць, пры Тваім абразе
Мае ўцеху...

Пішучы пра славуты абраз, цяжка не пагадзіцца з кс. М. С., асноўны вывад якога ў дадзеным пытанні наступны: «Цудоўная ікона, якая пакінула ў душы Паэта такі яскравы і непазбыўны ўспамін, знаходзілася не ў Вітаўтавай фары, і не ў касцёле айцоў Дамініканаў, і ні ў якім іншым лацінскім храме; месцілася яна ў царкве, якая напачатку была праваслаўнай, а пазней уніяцкай». І цалкам пераканаўча гучаць наступныя словы кс. М. С.: «Не вытрымлівае таксама крытыкі версія, згодна з якой абраз быў перанесены з замка да айцоў Езуітаў, а пазней да фары, і перш за ўсё таму, што паміж дзвюма канфесіямі, нават пасля іх аб'яднання, захоўваліся значныя адрозненні, і ніколі б уніяты лацінянам свайго слыннага абразу не аддалі б, і да таго ж вершы з кантычак выразна паведамлялі: «Маці Божая, што была калісьці на замку, пад аховаю айцоў Базыльянаў заставалася ў іхняй царкве св. Барыса і Глеба».

Ці ёсць сёння ў Навагрудку Барысаглебская царква і ці знайшлося ў ёй месца для ўвекавечанай Міцкевічам іконы Багародзіцы? Так, будынак царк-

* Пераклад Бр. Тарашкевіча.

вы існуе, але ад 50-х гадоў гэта ўжо не царква, а гарадскі архіў. Што ж тычыцца іконы, дык яе там не было ўжо ў дваццатыя гады. У 1915 годзе, пад час адступлення расейскага войска, яна была вывезена ў глыб Расеі і далейшы яе лёс невядомы.

Дадамо таксама, што векапомная ікона была намаляваная на палатне, а не на дрэве. І калі даваць веры надпісу на царкоўна-славянскай мове, які быў зроблены ў больш познія часіны, абраз неаднойчы бласлаўляў войска на палёвых набажэнствах, а калі ў замку нарадыўся пажар, быў перанесены ў царкву Барыса і Глеба «пресвитером церкви Пречистой Богородицы» Паўлам Крысковічам.

І хаця храм Барыса і Глеба — святых братоў, якія цаною ўласных жыццяў засведчылі сваю адданасць хрысціянскаму ідэалу, ужо даўно не служыць вернікам (адзіная дзейная царква св. Міколы месціцца ў колішнім касцёле францішканаў), ён і надалей прыцягвае ўвагу як гістарычны помнік. У сваім першапачатковым выглядзе царква была збудаваная князямі Астрожскімі на пачатку XVI стагоддзя. У XVII стагоддзі, стаўшы уніяцкай бажніцай, яна была перабудаваная і набыла гатычнае аблічча.

У 60-я гады падмурак царквы быў даследаваны археолагамі. Як высветлілася ў выніку раскопак, збудаваная ў XVI стагоддзі царква паўстала на месцы старажытнага храма, патронамі якой таксама былі святыя браты Барыс і Глеб. Сцены той старажытнай царквы былі складзены з плінфы і вапняковых квадратаў. З усходняга і заходняга боку да царквы былі прыбудаваныя бабінцы, а сярэдні і паўночны нефы мелі прыбудовы ў выглядзе галерэй і былі выкладзены маёлікавымі пліткамі. Час пабудовы старажытнай царквы можна акрэсліць другой паловай XII стагоддзя, г. зн. тым часам, калі «сталічны Наваградак» яшчэ быў пад уладаю ўдзельных рускіх князёў і не ўваходзіў у склад Вялікага княства Літоўскага.

Калі казаць пра наваградскія касцёлы, дык трэба адзначыць, што найбольш адчувальныя разбурэнні пад час антырэлігійнай кампаніі 50-х гадоў зведаў дамініканскі касцёл св. Міхала Арханёла на Рынку. Менавіта ў гэтым касцёле месцілася перанесеная пазней у музей памяткавая дошка з бронзавым бюстам Паэта, якая была ўсталяваная там у 1898 годзе дачкой паэта Марыяй Гурэцкай. Адзначым таксама, што побач з касцёлам Міхала Арханёла, у мурах кляштара, знаходзілася дамініканская школа-сямігодка, якую наведваў Міцкевіч.

На шчасце, не сталася ахвяраю ваяўнічага атэізму Вітаўтавая Фара і, кажучы словамі Міцкевіча, «вернаму люду» — жменьцы наваградскіх каталікоў служыць яна і да сёння. Носячы гістарычнае найменне Вітаўтавай Фары, касцёл Прэабражэння Гасподняга стаіць ля падножжа Наваградскай гары. Быў ён у свой час часткаю фартыфікацыйнай сістэмы, цэнтрам якой з'яўляўся замак. Гэта тут сямідзесяцігадовы Ягайла ажаніўся 7 лютага 1422 года з дачкой князя гальшанскага Зоф'яй, заснавальніцай дынастыі Ягелонаў. І па загаду Боскай волі, як аб тым напісана на памятнай дошцы ўласна тут, 12 лютага 1799 года, быў ахрышчаны Адам Бернард Міцкевіч, сын Мікалая і Барбары з Маеўскіх. Ахрысціў яго ксёндз Антоні Постлет, а хроснымі бацькамі былі Бернард Абуховіч і Анэля Узлоўская.

Рупескам вернікаў быў уратаваны таксама езуіцка-наваградскі абраз Маці Божай, які захоўваецца зараз у бакавой капліцы Вітаўтавай Фары. Адзначаючы гістарычную вартасць гэтай іконы, мусім аднак яшчэ раз сцвердзіць, што яе нельга атаесамляць са старажытнаю замкаваю іконай Багародзіцы, да якой звяртаўся ў сваіх паэтычных радках Адам Міцкевіч. У той жа час было б заўчасна сцвярджаць, што абраз гэты згубіўся назаўсёды — хто ведае, мо ён яшчэ і адшукаецца ў якім-небудзь схове...

Напрыканцы артыкула хацелася б падзяліцца сваёю радасцю ад убачанага ў Наваградку. Маю на ўвазе распачатыя работы па рэстаўрацыі касцёла св. Міхала, а таксама аднаўленчыя работы ў доме-музеі Паэта, якія вядуцца польскім «Будімэксам» па пагадненню з Міністэрствам культуры БССР і Беларускім фондам культуры. У выніку гэтых работ дом і акаляючы яго падворак будуць выглядаць так, як яны выглядалі пры жыцці Паэта.

Пераклад з польскай
**В. МУДРОВА**

# ПУБЛІЦЫСТЫКА АЛЕСЯ ГАРУНА
## (АЛЯКСАНДРА ПРУШЫНСКАГА)

Яшчэ не так даўно імя вядомага дзеяча беларускага нацыянальна-вызваленчага руху пачатку XX ст. Аляксандра Прушынскага ў афіцыйнай гісторыяграфіі пазначалася ярлыкамі неабгрунтаваных палітычных абвінавачванняў. Глыбокае асэнсаванне і актыўнае засваенне яго багатай духоўнай спадчыны, якое толькі пачыналася ў беларускай літаратуры 20-х гадоў, гвалтоўна перапынілі вульгарная сацыялогія і ваяўнічы канфармізм таталітарнага мыслення.

Сёння з творчай спадчынай паэта Алеся Гаруна вяртаецца і яркая публіцыстыка незалежніцкага дзеяча Прушынскага, якая да нядаўняга часу фактычна заставалася невядомай з прычынаў аб'ектыўнага і суб'ектыўнага характару. Крыптанім (П.), якім падпісаны шэраг вострапалемічных артыкулаў паэта ў перыядычных выданнях («Беларускі Шлях», «Беларусь» і інш.), даваў толькі ўскосныя падставы лічыць Прушынскага іх аўтарам. Святло на аўтарства крыптаніма (П.) пралівае нарыс паэта «У гасьцінах у Вільні». Як вядома, у канцы кастрычніка 1919 года старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту Аляксандр Прушынскі выязджаў у Вільню для наладжвання кантактаў і каардынацыі працы з беларускімі грамадска-палітычнымі арганізацыямі Віленшчыны. Там жа ён узяў удзел ва ўрачыстасцях з нагоды адкрыцця універсітэту імя Стафана Баторага, а пры ім — кафедраў беларускай і літоўскай мовы і літаратуры. Неўзабаве нарыс, падпісаны крыптанімам (П.), надрукавала газета «Беларусь» (1919, № 19—20), што і засведчыла яго аўтарства.

Перш чым акрэсліваць асноўную ідэю грамадска-палітычнай публіцыстыкі паэта і вызначаць сутнасць яго палітычнай канцэпцыі, вернемся да 1917 г. Аляксандр Прушынскі, адарваны дзевяцігадоваю сібірскай ссылкай ад актыўнай рэвалюцыйнай дзейнасці і непасрэднага ўдзелу ў нацыянальна-вызваленчым руху, у верасні 1917 г. вярнуўся ў Мінск. Які ж стан беларускай грамадска-палітычнай думкі ён заспеў?

Удзельнікі першага беларускага з'езду ў сакавіку 1917 г., дэлегаты ад беларускіх партыяў і грамадскіх арганізацый на ліпеньскай канферэнцыі ў асноўным яшчэ выказваліся за аўтаномію Беларусі ў складзе Расійскай федэрацыі. Але ўжо ў жніўні (!) Язэп Лёсік, сябра Прушынскага па ссылцы, з горкай іроніяй заўважае: «Сумна, але факт!.. у нас заява аб сваёй гістарычнай самабытнасці, аб жаданьні ўласнага культурнага жыцьця нават лепшымі людзьмі маскоўскага грамадзянства талкуецца як сэпаратызм, дзяліцьба і калатніна. Дык адкуль жа ўзяцца тэй веры?» («Вольная Беларусь», 1917, № 15).

2-ая сесія Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый (кастрычнік — пач. лістапада 1917 г.) з'явілася своеасаблівым пралогам да разумення драматычнай сітуацыі снежня 1917 — сакавіка 1918 года. Кола пытанняў, узнятых на сесіі, склалі праект аўтаноміі (усё яшчэ — аўтаноміі!) і міжнароднае становішча Беларусі.

Слова ўзяў Аляксандр Прушынскі: «...нашы сілы параскіданы па рожных заборах. Інтэлігенцыя наша тых ці іншых сацыяльных поглядаў яшчэ ні з намі. Сялянства не мае пэўнага пагляду на сацыяльную праграму, а яно ў нас — найбольшая сіла. На Маскоўскім бежэнскім з'ездзі адны глядзелі на нас як на польскіх прыслужнікаў, а другія, як на якіх інтрыганаў. Так многа наплялі на нас ворагі нашы. Яны не лічыліся ні с сумленнем, ні с чым, абы ачарніць нас у вачах народа, абы дасягнуць свае мэты. Але пара дзён размовы выявіла праўду і мы знайшлі супольны грунт і прыхільнасць. Трэба аб'еднаць гэтыя элементы, а гэта можа зрабіць адно — ідэя нацыянальная. Трэба, каб голас беларуса зычэў паважна і каб з ім лічыліся. У час гэтага вялікага пераломy, калі арганізуецца беларускае войско, мы павінны стварыць моцную Раду, каторая б бараніла б і кіравала ўсёй справаю. Нам патрэбен асобны сэкрэтарыят, каб ён назіраў за ўсім. На наш край глядзяць, як на кавалак зямлі, каторы можна разабраць. Нас могуць падзяліць».

Такім чынам, ужо напярэдадні кастрычніцкіх падзей у Петраградзе паэт добра разумеў усю важнасць неадкладнай кансалідацыі беларускіх сіл на грунце ідэі нацыянальнага адраджэння і актыўнай сацыяльна-палітычнай працы для паспяховага развіцця беларускай справы. І зусім лагічна, што ў выступе Аляксандра Прушынскага на Усебеларускім Кангрэсе (снежань 1917 г.) ідзе размова пра дзяржаўную незалежнасць Беларусі. Пазней ён напіша: «... «Брацтво» трэба адкінуць, бо неяк заўсёды здараецца, што з двух ці некалькіх братоў, адзін робіцца «старшым» і пачынаецца крыўда».

Ідэя беларускай дзяржаўнасці і палітычнай незалежнасці — магістральная ў палітычнай канцэпцыі Аляксандра Прушынскага. З будаваннем уласна-беларускага дзяржаўнага жыцця ён звязваў перспектывы палітычнага, эканамічнага і духоўнага росквіту беларускага народа. Як і Купала, Прушынскі вельмі востра рэагаваў на празмерныя захады Польшчы і Масквы ў вырашэнні беларускага пытання. Палітыка «маскоўскага імперыялізму, каторы ў гэты раз прыбраўся ў бальшавіцкія шаты», на думку паэта, мала чым адрознівалася ад польскай «крэсовай» палітыкі, якая арыентавалася на ягелонскую ідэю адбудовы Польшчы ў межах Рэчы Паспалітай да 1772 года.

Асобнага разгляду патрабуе і вядомая канцэпцыя кантонаў Ю. Пілсудскага — канцэпцыя стварэння буферных дзяржаў паміж Польшчай і бальшавіцкай Расіяй, паколькі і сёння ўсё яшчэ існуе думка, паводле якой шмат хто з беларускіх дзеячоў (у тым ліку і Прушынскі) «паверыў» у абяцанні кіраўніка польскай дзяржавы не перашкаджаць беларускай справе.

Найперш адзначым, што аўтарам канцэпцыі кантонаў з'яўляецца вядомы ўкраінскі гісторык М. Грушэўскі, які ў канфедэрацыі краін Балтыі, Беларусі і Украіны бачыў вялікі сацыяльна-палітычны і эканамічны патэнцыял. Ю. Пілсудскі нібыта ўзяў на ўзбраенне тую ж канцэпцыю, але пакінуў толькі форму, уклаўшы ў яе польскі змест і бэльвэдэрскае бачанне яе перспектывы. Думаецца, што Прушынскі, разумеючы сутнасць дактрыны Ю. Пілсудскага, прымаў у ёй толькі форму і пры спрыяльных варунках спадзяваўся на практыцы рэалізаваць ідэю канфедэрацыі М. Грушэўскага. Але ў польскай палітыцы перамагла інкарпаратыўная канцэпцыя нацыянал-дэмакратаў, а беларускія дзеячы зноў раптам адчулі «гарачую любоў» з боку бальшавікоў, іх пэўную зацікаўленасць да беларускага нацыянальна-вызваленчага руху.

Паэт глыбока перажываў за лёс Бацькаўшчыны, якая сплывала крывёй у крывавай рэвалюцыі і грамадзянскай вайне. Усё гэта вызначае ўнутраную напружанасць вострапалемічных артыкулаў Прушынскага, у якіх адчуваецца дынаміка і драматызм сацыяльна-палітычных працэсаў на Беларусі ў першыя паслярэвалюцыйныя гады.

Грамадска-палітычная публіцыстыка незалежніцкага дзеяча Аляксандра Прушынскага адкрывае новую старонку творчай спадчыны паэта Алеся Гаруна, які глыбока верыў у тое, што

І Беларусь-Маці долю агледзіць,
Устане, як Лазар, з руін, з забыцця.

**Юрась ГАРБІНСКІ**

# «РЭЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА»

Паказаўшыся пад такім аглаўкам у № 8-м «Dz. Min», артыкул сьведчыць аб новым паглядзе на «Крэсовую» палітыку, які дазравая ў мысьлях месцовых польскіх дзеячоў.

Мае яна быць дарогаю да найлепшага «нацыянальнаго і грамадзянскаго бытавання» і лічыцца з тым, што ёсць у самой рэчы. Такую палітыку можам хіба толькі вітаць.

Але нам здаецца, што артыкул мае апрача паведамлення для польскаго грамадзянства яшчэ і другі характэр і ён з'яўляецца як бы пробнай галай (пробным шарам.— **Ю. Г.**), пусьціўшы каторую мейсцовыя польскія дзеячы хацелі даведацца аб настрою, пануючым сярод беларускаго грамадзянства. У ім ёсць нікаторыя пункты, якія самі сабой высоўваюцца на мейсца пунктаў будучай умовы, патрэбнай для супольнай працы. Разгляд памянёнаго артыкулу з гэтаго боку можа быць надта цікавым.

Што-ж абецаюць беларусам? С чым прыходзяць да нас нашыя тутэйшыя паляки?

— Абецаюць «знайсьці способ да супольнаго жыцця з беларусамі». Прыйходзяць з бажаннем (жаданнем, надзеяй.— **Ю. Г.**) злучыць на Беларусі ідучыя ў разброд і па рожнаму гледзючыя ў прошласьць (а ні на будучыну?) станы (саслоўі.— **Ю. Г.**): земляўласьнікаў, якія стаяць цяпер пад знакам запытання, мешчанства, толькі пачаўшаго жыць, і працуючаго люду, цёмнаго і ніразьвітаго, каторыя ўсе маюць проціў сябе сільных і ўзапашаных у способы для змагання ворагаў.

Абецаюць ішчэ, што пры гэтым злучэнню найбольшыя афяры (ахвяраванні.— **Ю. Г.**) панясе найвыжэйшы стан.

С такімі дарамі з добрай волі хочуць прыйсьці да Беларусаў тутэйшыя палякі. Трэба сказаць, што дары вялікія і мо ў дыхт (тут у значэнні якраз.— **Ю. Г.**) такія, аб якіх мы сабе думаемо, але... але той выкуп, які сабе за гэтыя дары вымагаюць нашыя «рэяльныя палітыкі» можа хіба лішні раз абразіць беларусаў, а ні «залагодзіць ненавісьць», каторай і па-праўдзі ні трэба было-б.

Мы разумеям канечне, што паляк ніколі ні перастане быць паляком, вялікарус — вялікарусам, а жыд — жыдам (слова «жыд» у тагачаснай беларускай мове — нейтральны этнонім, пазбаўлены антысемітызму.— **Ю. Г.**). У кожнаго з іх былі і будуць свае нацыянальныя ідэалы, ад каторых барані нас, Божа, каго-нібудзь адвучаць — мы *за надта* пазналі смак гэткаго адвучання на сабе. І дзеля гэтаго мы лічым патрэбным забезпечэнне прэдстаўнікам кожнай замешканай (якая жыве.— **Ю. Г.**) на Беларусі ні беларускай нацыянальнасьці магчымасьці захавання і разьвіцця сваёй нацыянальнай культуры, і атрымання належнай часьці з матэрыяльнаго прыбытку краю.

Гэта вымагаецца нават нашым разуменнем агульнаго краёваго дабра, каторае па нашаму можа толькі выйграць ад вольнаго споўпрацаўніцтва подлуг з Беларускай ішчэ і другіх культураў.

Але нашыя мейсцовыя палякі прыходзяць да нас ні толькі для такой супольнай і братэрскай працы, аглядаючыся назад, на другіх, яны кажуць, што іх прыход — гэта толькі «лічэнне з тым, што ёсьць, і дапасаванне мэтоду рэяльнай палітыкі да варункаў данай хвілі і ні азначае саўсім іх высьвечання і прызнання вечнымі». Яны адкідаюць, як крыўдзячую іх ацэнку гэтаго становішча за «абцінанне народовай ідэі, за звужанне пэрспэктывы ўсялякіх здабыткаў і карысьцяў у палітыцэ». Яны запэўняюць, што гэта толькі рожніца ў мэтадзе чыннасьці, а саўсім ні рожніца ў мэтах, «каторыя па-суці могуць быць аднаковымі».

«Варункі данай хвілі», гэта глаўным чынам нацыянальнае прабуджэнне беларускаго народу і яго ўмацаванне ў кірунку стварэння беларускай дзержаўнасьці — гэтак мы разумеям. Калі яны для нашых тутэйшых жыхароў ні маюць быць ані паважанымі (дзе ўжо хацець «usgwéicaia»), відавочна, uświęcania — высвячэння.— **Ю. Г.**), ані прызнанымі вечнымі, якім жа чынам яны прыйдуць да паразумення з беларусамі, для каторых гэтыя «варункі хвілі» маюць наістотнейшае значэнне?

Народовая ідэя Беларуская ніколі ні згодзіцца с такой жа ягеллонскай ідэяй, а як мы ведаем толькі ягеллонская ідэя і панавала ў мысьлях польскіх палітыкаў да апошняго часу. Калі гэта ідэя і надалейшае будзе кіраваць іх працай, што-ж тады будзе за «супольнае жыццё»? Усё, што тварыціме беларуская ідэя, будзе бурыцца ягеллонскай ідэяй, каму-ж з гэтаго карысьць?

Прыпадкова прыкладам такой нікарыснай працы з'яўляецца і цяпер нават самы артыкул у «Дзенніку», у каторым аўтар, крытыкуючы «найблізшы і найрэйяльнейшы» постулат мейсцовых палітыкаў, закідае ім, што за гэты постулат трымаецца нівялікая группа грамадзянства, а паспольство (люднасьць.— **Ю. Г.**) адносіцца да яго «альбо ніяково, альбо нават з непрыязьню». У звязку з часам, калі гэта пішацца, гэта прыпамінае нам тыя спэцыяльныя інформацыі, якіе з рускаго і польскаго боку атрымоўваюць Бэрлін і Вена аб магчымасці творчай дзержаўнай працы на Украіне.

Столькі аб «рэяльнай» палітыцэ. Рэяльная іншая палітыка толькі тагды карысна народу і заслугоўвае на пашану, калі яна ў дадатку ш ч ы р а я палітыка.

Такоі шчырасьці ў палітыцэ Беларускі народ знаходзячыся ў трагічнейшым можа момэнце ўсёй яго гісторыі можа зажадаць сабе хаця б ад той часткі палякоў, каторыя з'яўляюцца тутэйшымі з крыві і косьці даўнейшымі баярамі беларускімі.

**П.**

(Аляксандр Прушынскі, «Беларускі Шлях», 1918, № 32, 30 красавіка)

# ДАЛЕЙ НІ МОЖНА

Пастановаю Выканаўчаго Камітэту Агульна-беларускаго з'езду быў створаны 20 лютаго г. г. Народны Сэкрэтарыят Беларусі, які надзяляўся ўсімі правамі праўдзіваго Ураду.

Цяпер ні варта разглядаць пытання на сколькі гэты акт адпавядаў сытуацыі, якая была нават у часе, калі ён быў выданы.

Цяпер час, калі ні толькі якая-небудзь урадовая пастанова, але кожны грамадзянін кожнаго народу павінен ні прабаўляць дарэмна часу і рабіць, рабіць на карысьць свае айчызны. Дарагі кожны момэнт.

Прайшло цэлых 70 дзён ад часу ўтварэння Сэкрэтарыяту — тэрмін роўны дзесяткам гадоў звычайнага часу — і мы маем права паглядзець, што зрабіў Народны Сэкрэтарыят Беларусі для *ўмацавання* яе дзержаўна-нацыянальных ідэалаў.

На жаль, абзнаёміўшыся с чыннасьцю Сэкрэтарыяту за гэты час, мы з смуткам для нашаго патрыотызму павінны сказаць, што для ўмацавання народна-дзержаўных ідэалаў Беларусі амаль што нічога ні зроблено.

Народны Сэкрэтарыят падгатаваў прынятыя Радай з'езду і Радай Рэспублікі акты 9 і 25 сакавіка г. г., але нават і гэтаго ні можна паставіць яму ў вялікую заслугу, бо падгатоўка заключалася толькі ў напісанні праэктаў грамат, а саўсім ні ў патрэбных дыплёматычных і арганізацыйных кроках.

І цяпер, як два месяцы таму назад мы стаім на німажліванізкім стопню (ступені, узроўню.— **Ю. Г.**) арганізацыі і выяўляем сабой нават да зрабіўшыхся нам суседскімі Цэнтральных дзержаваў «Terra incognita».

Тыя крокі, якія пачыналіся нашым урадам як у адным, так і ў другім кірунку, былі ніўдалымі і вялі за сабой часамі нават пагоршэнне беларускай справы. Напрыклад, пастанова Рады аб дзержаўнасьці беларускай мовы ў ніістнуючых пакуль што беларускіх дзержаўных (па-за Радай, разумеецца) установах нічога ні пераміняла ў тых арганізацыях, якія і да гэтуль істнуюць правам «государства Российскаго», а калі ў іх і зьмянілося што, то хіба к горшаму.

Рэляцыі (справаздачы.— **Ю. Г.**) у прэсе аб чыннасьці нашых міністраў, ні глядзя на іх «благапалучны» стыль, нічога для добраго стану справы ні даюць. Наш карабель стаіць на мейсцу.

Вінаваціць у гэтым няздольнасьць адных толькі нашых Народных Сэкрэтароў, каторыя пазначаліся Радою, ні выпадае. І наагул, мы ніхочам нікога вінаваціць. Нам толькі ходзіць аб тое, каб паправіць справу.

Цяпер у Раду ўлілася новая сіла, якая творыць радны цэнтр, і яна павінна прынесьць з сабою новыя мэтоды чыннасьці ці добрыя папраўкі да старых.

Так сама ў ва ўсіх установах Рады — Старшыне і Сэкрэтарыяце ёй павінно быць аддадзена належнае мейсцо, каб новая сіла магла выявіцца і ў працы. На нашае зданне яна павінна правесьці нікаторыя рэформы, датычучые ўнутранаго строю нашаго нічыннаго да гэтуль міністэрства.

Адкладаць далей нічога ні можна. 70 дзён працы нашых Народных Сэкрэтароў — досыць доўгі адклад.

Трэба рабіць, рабіць!

**П.**
(Аляксандр Прушынскі. «Беларускі Шлях», 1918, № 35, 4 мая)

# ПАД АДНЫМ ШТАНДАРАМ

Іменем «актывізму» пазваўся ў Польшчы кірунак палітычнай мысьлі, каторы ваюе за жывое дачыненне палякоў да палітычных падзеяў у цяперашні-ж час. Ён заклікае палякоў к будаванню Польшчы зараз-жа, ніадкладаючы гэтай працы на далей, выкарыстоўваючы тыя магчымасьці, якія істнуюць у цяперашні момэнт.

Рэялізм у палітыцэ, лёзунг, які ставіць польскіх актывістаў проці пассівістаў — староннікаў нацыянальнага максімалізму, каторым зараз-жа хацелося-б усяго, хаця гэта ўсё ні годзіцца з інтарэсамі другіх народаў і можа іх пакрыўдзіць, альбо нічога. Актывісты, ні адмаўляючыся ад ідэалоў пассівістаў, лічаць, што пачынаць можна і з меньшаго.

Ішчэ адна прыкмета актывізму (польскаго) — гэта бажанне вясьці сваю працу ў згодзе з Цэнтральнымі Дзержавамі, на іх апіраючыся.

Па сколькі ў Польшчы актывізм — з'явішчо нідаўняго часу, ён ні сказаў новаго слова. Бо раней польскіх у гэтым кірунку пайшлі літоўскія ўплывовыя партыі і, як мы бачым, раней за другіх дайшлі да пажаданых сабе скуткаў (вынікаў.— **Ю. Г.**). Вынікам іх працы ёсьць ужо дзержаўная нізалежнасьць Літвы, т. зв. Малой Літвы, на якую, ідучы рэяльнымі крокамі да свае мэты, згадзіліся літоўскія палітыкі.

Актывізм даў моцны рух наперад і польскай справе, каторая да яго з'яўлення стаяла надта кепска.

Нашыя «закордонныя» браты, беларусы Віленшчыны і Горадненшчыны, знайходзячыся пад тымі самымі ўплывамі і ў тых самых жыццёвых варунках, што і літвіны, што і палякі, так сама ні асталіся чужымі актывізму.

Як паказуе знаёмства з тамтэйшым жыццём, да яго яны прышлі адначасна з літвінамі, калі ні раней за іх, але асабліва цяжкія акалічнасьці, створаныя вайной для Беларусі, ні давалі ім магчымасьці выступіць як значнейшая сіла і дайсьці да жаданных скуткаў.

Толькі цяпер, калі для іх адчыніліся дзьверы і ў нашу частку Беларусі, калі паволі на радзімыя мейсцы варочаюцца жыхары Вільні і Горадні і Беластоку і ўсіх сёл і гарадоў той часьці Зямлі Беларускай, для нашых братоў адчынілася магчымасьць шырокай творчай працы. І вот пытанне «што рабіць?» цяпер-жа, зараз-жа становіцца тамака на чаргу.

«Гоман», адбіваючы палітычныя думкі «тае» часьці Беларусі, так атказуе на запытаньне артыкулам Яг. Х. Х. у 44 нумэры:

«Да ўсіх трагедзій Беларускаго народу прылучалася цяпер новая. Гэто раздзел Беларусі на дзьве часьці лініей Берасьцейскае умовы».

Выказуючы надзею на калішні перагляд Берасьцейскай умовы, чаго з ніцярпя-

лівасьцю чакае беларускі народ, «Гоман» гаворыць далей, што адным чаканнем ні можна агранічывацца, а трэба пры гэтым працаваць, і крэсьліць такую праграму працы для беларусаў за рубяжом, праведзенным мірнаю ўмовай.

Беларусам прыходзіцца тут, у межах акупацыі, напружаць усе свае сілы ў барацьбе с тымі, хто здаўна цікуе на згубу беларускаго народу. Нам прыходзіцца бароцца з двайным гвалтам над намі палякоў — гвалтам матэрыяльным, экономічным, і гвалтам духовым на грунце культурна-нацыянальным і рэлігійным. Дзеля нацыянальнае самаабароны мы павінны арганізоваць свае сілы на кожным грунці, а тым болей на грунці ладжэння тымчасоваго ўпраўлення нашым краем.

Другая задача, дзеля каторай мы павінны цяпер працаваць з усіх сіл сваіх,— гэта абарона нашай захадняй граніцы ад палякоў, абарона ад польскіх апэтытаў нашае Беласточыны, Бельшчыны, Горадненшчыны. Аб гэтым мы ўжо даволі пісалі, і цяпер німа патрэбы шмат тут гаварыць.

Урэшці, ёсьць і трэйцяя задача. Там, за лініей Берасьцейскага міру, ужо пачалася творчая гасударсцьвеная работа беларускаго народу — будаванне нізалежнасьці Беларусі. Тут, з гэтаго боку гэнае лініі, дагэтуль ўсё спало, бо варункі нашаго жыцця ні давалі магчымасьці пачаць будаванне сваёй дзяржаўнасьці. І калі цяпер адкрываецца перад намі магчымасьць такой працы, хоць і на грунці нізалежнасьці так-званай «малой Літвы», дык мы ні павінны сядзець, злажыўшы рукі: памятуючы, што беларусы ў межах старой нямецкай окупацыі — гэта народ тэрыторыяльны, што яны занімаюць тут свой асобны абшар (усю Горадненшчыну і безмала ўсю Віленшчыну), мы павінны на сваёй палавіне «малой Літвы» будаваць пачатак свае ўласнае гасударсцьвеннасьці, каб у прыпадку шчасьлівай разьвязкі пытання аб перэглядзе Берасьцейскае ўмовы і злучэння ў тэй ці іншай формі ўсіх беларускіх зямель мы на гэты бок фронту былі так сама прыгатаваны да самабытнаго нізалежнаго гасударсцьвеннаго жыцця, як нашы браты-беларусы з-за фронту і нашы суседзі ў старой окупацыі Літвы.

Работа для нас ёсьць, ды яе — немала. Мы павінны толькі не губляць агульна-беларускай пуцяводнай зоркі: нізалежнасьці ўсіх Беларускіх зямель,— і раней ці пазней яна давядзе нас куды трэба».

Трэці пункт гэтай праграмы — «будаваць» на сваёй палавіне «малой Літвы» пачатак уласнае гасударсцьвеннасьці, маючы мэтай «нізалежнасьць усіх Беларускіх зямель, мы адсюль можам толькі вітаць. Там і тутака мы павінны рабіць адну работу,— будаваць сваю гасударсцьвеннасьць. Там — у «малой Літве», і тутака, пакуль што ўсё яшчэ ў «Расійской федеративной соціалистической» рэспубліцэ мы павінны працаваць пад адным штандарам, на якім для ўсіх нас напісано: «Ніхай жыве Нізалежная Беларусь!»

**П**

(Аляксандр Прушынскі. «Беларускі Шлях», 1918, № 61, 7 чэрвеня)

# ПОЛЬШЧА І ЯЕ СУСЕДЗІ

Як паведамляюць тэлеграфно з Бэрну, Літоўская Рада падала тэлеграфны протэст прэмьерам Францыі, Англіі і Італіі, проціў ухвалы Версальскай ваеннай рады аб стварэнні Польскай дзержавы з доступам да мора. Літвіны знайходзяць, што гэты проэкт ні можа быць спраўджэны без нарушэння іх жыццёвых інтэрэсаў.

Азначаны факт — падача пратэсту з боку літвінаў — нас ані здзівіць,

ані здаецца чымсь такім, што-бы сьведчыло аб асобна німрыязных стасунках да палякоў. Гэто — натуральнае рэхо тае вяліка-дзяржаўнай ідэологіі, якой кіраваліся ў сваіх учынках «мужы стану» Польскай Рэчы Посполітай.

Час цясьнейшаго супольнаго дзержаўнаго жыцця — ад Люблінскай уніі 1569 г. аж да 3 раздзелу Польшчы, а потым грамадскаго споўжыцця (супольнага жыцця.— **Ю. Г.**) — ад апошняго раздзелу і да нашых дзён, навучыў суседнія з Польшчай народы асьцярожна адносіцца да запэўненняў аб братстве і спагаднасьці і як агня баяцца новаго панавання палякоў над сабой.

Ні палітыка ўсяго польскаго народу, разумеецца, але палітыка польскіх мужоў стану і, можна без вялікай крыўды для ісьціны сказаць, праца ўсей польскай інтылігэнцыі, справіла тое, што змучанае безупыннай вайной за свае нацыянальныя вольнасьці казацтво пайшло ў Перэяслаў шукаць апекі пад «высокай рукой цара маскоўскаго»; яна ж — нацыянальным і рэлігійным уціскам на Беларусі — прыгатавала грунт для пазьнейшай руссіфікацыі, на якую найахвотней пайшлі праваслаўныя беларусы, і ўжо саўсім нідаўна, у любках з Сталыпіным, «кідала жрэбій аб рызах» нашых; яна-ж пакінула па сабе на Літве прыкрую памяць аб сквапнай дэнацыянэлізацыі вышэйшых станаў і дзеі саўсім нідаўняго часу — аб змаганні з нацыянальным рухам сярод літоўскаго духавенства.

Гэто гісторыя, каторая нілёгка забываецца, хаця б нават і даваліся наймацнейшыя запэўнення, і каторую ні варто забываць. Бо ніхто ні можа спасылацца, што гэто рабіў ні ён, а яго даверанны, а ў тым ліку і ўвесь польскі народ: кожны народ мае на сваім чале таго, каго ён варт.

Аднак-жа такі стасунак да палітычных запэўненняў ні павінен стаяць на перашкодзі праўдзівым народным жаданням агульнай згоды і добраго суседскаго жыцця. («Брацтво» трэба адкінуць, бо неяк заўсёды здараецца, што з двух ці нескольк братоў, адзін робіцца «старшым» і пачынаецца крыўда).

Толькі да гэтаго трэба ісьці ні дарогай фалшываго ідэалізму ў міжнародных стасунках, які даўно ўжо збанкрутаваў у навуцэ і практыцэ, а дарогаю ўразумення абапольных зыскаў (карысцяў.— **Ю. Г.**) ад тэй, ці іншай формы зближэння с суседзямі. Тагды, абгаварыўшы наперад усе варункі (умовы.— **Ю. Г.**), як гэта робіцца ў гандлю, разам папрацаваўшы, пераканаўшыся ў чыстаце замераў з абаіх бакоў, можна дайсці і да ўзаемнага заўфання (даверу.— **Ю. Г.**).

А покуль што, у обэцны (цяперашні.— **Ю. Г.**) мамэнт, калі ішчэ на тэрыторыі былых крэсаў Польшчы і «С — западной области» Расійск. імпэрыі толькі замыкаюцца ў свае даўнейшыя гісторычныя кшталты (формы, абрысы.— **Ю. Г.**) новыя дзержаўныя адзінкі, калі агенты Польшчы, якія знайходзяцца ў абозе коаліцыі, кнуюць (тут: правакуюць.— **Ю. Г.**) тамака праціўныя гэтаму працэсу рухі, калі ішчэ ні пакінута думка *сілаю*,— апіраючыся на чыюсь сілу, хаця-бы і коаліцыі,— расцягнуць будуючае,— Польскае Каралеўства да мора, пратэсты і літвіноў, і беларусаў, і украінцаў, і ўсіх тых, праз чые землі мае пралегчы гэта дарога, будуць і натуральнымі і зразумелымі, і... патрэбнымі для таго ідэалізму ў міжнародных стасунках, на які так любяць апірацца і польскія і рускія палітыкі.

**П.**

(Аляксандр Прушынскі. «Беларускі Шлях», 1918, № 67, 15 чэрвеня)

# «НІЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ»

У адным з нумароў «Дзенніка Кіевскаго» знайходзіцца артыкул п. L. R. перадрукаваны цалком у «Dz. Polski».

Падаўшы ў пачатку артыкулу ведамасьць аб радзе і проклямаванні ею нізалежнасьці Беларусі і зьмест I устаўнай граматы п. L. R. так ацэнівае сітуацыю:

Перад усім, бяручы справу ў грунту, Беларусь мае шмат меней (за Украіну.—

**Рэд.**) данных для панствовай самаістнасьці з боку гісторычнага, экономічнага і грамадзкага, культурнага. Затым, праклямаванне нізалежнасьці Беларусі наступіло як бы крыху... ранавато і істнаванне беларускага панства (дзяржавы.— **Ю. Г.**) для сіл важачых цяпер у міжнароднай палітыцэ ні яўляецца канечнасьцю, але надта жаданым фактам.

Беларусь парвала свае дзержаўныя зьвязкі з Расіяй ужо пасьля заключэння берасьцейскага міру, устанаўліваючаго заходнія граніцы Расійскай рэспублікі саветаў, у склад якой Беларусь дагэтуль уходзіла.

Берасьцейскай умовай, каторай тэррыторыя, на якую беларускае прэдстаўніцтво мае ўгрунтаваныя і ніўгрунтаваныя прэтэнсіі, падзелено на часьці. За рубяжом астаўся Мазырскі павет і паветы Гродзеншчыны, каторыя беларусы хочуць уважаць за свае, уключаючы нават Гродно і Беласток з этнографічно-польскім округам.

Да гэтаго дня ні ведамы льосы Прыпяці на ўсход ад Выганоўскага возера, і хто ведае ці ні спаткае гэтую зямлю льос Мазырскага павету ў скутак (у выніку — **Ю. Г.**) чаго Беларусь згубіла-бы около мільёна этнографічно-беларускай людносьці і артэрыі воднай камунікацыі, маючыя агромністае гаспадарчае значэнне.

Апрача гэтаго астаюцца яшчэ споры з літвінамі, каторыя свае прэтэнсыі расьцягваюць за Берасьцейскі Кордон, і ніўрэгуліраваныя стасункі з Расіяй — да сягодняшняго дня ўпраўлянай саветамі. І нарэшці справа стасункаў да Польшчы.

Абрысаваўшы далей унутранае становішчо Беларусі пан L. R. кажа далей:

Здаецца, аднак, што сярод тварцоў беларускай дзяржаўнай ідэі ёсьць людзі, разумеючыя сітуацыю Беларусі. Людзі гэтыя стараюцца знайсьці дарогі да злучэння ўсіх беларускіх земляў і хочуць паразумецца з Літвінамі.

Прагнуць яны «урэгуліравання» беларуска-літоўскіх дзержаўна-нацыянальных стасункаў на аснове супольнаго будоўніцтва і так сама паразумення с Курляндзіяй у справе доступу да мора?

Плян гэты ёсьць у істоце плянам уваскрашэння гістарычнай Літвы, беларуска-літоўскай дзержавы.

І трэба прызнаць, што гэтая канцэпцыя магла бы аказацца жыццёвой. Землі Вялікаго Літоўскаго Княжства, звязаныя с сабой географічнымі і эканомічнымі варункамі маюць традыцыю многавекавога супольнаго істнавання...

Але — дадае п. L. R., спраўджэнне гэтай концэпцыі нізалежыць толькі ад Беларусаў і волі Літвы, але ад сілы мацнейшай, дыктуючай варункі і Літве і Беларусі, і можна сумлевацца — чы гэтай сіле было выгадным уваскрашэнне ў тэй ці іншай форме гістарычнай Літвы.

Нас артыкул п. L. R. цікавіць як першая проба закордонной польскай прэссы зрабіць больш об'ектыўную ацэнку сітуацыі на Беларусі. Большая об'ектыўнасьць і большая спакойнасьць, з якой аўтар піша аб гэтым у газеці, якая выходзіць на «kresach», дадае нам пэўнасьці, што і ў сябе мы спаткаемся прынамсі са спакойным, калі ні прыязным, стасункам да Беларускай панствовасьці з боку той часьці нашых культурных сілаў, якая лічыць сябе духоўна належачай да Польшчы.

Ні ўступаючы ў спрэчку па поваду нікаторых падробнасьцяў у артыкуле п. L. R. зазначым толькі, што сярод «тварцоў беларускай ідэі панствовай» пануе роўнае заўфанне (вера.— **Ю. Г.**) у добрае развязанне нашых «заходніх» стасункаў, і ў асобнасьці да тае сілы, у якой сумлеваецца п. L. R. Але ўконстытуяванне гэтых стасункаў рэч такая, якая ні глядзя на яе канечнасьць (неабходнасць.— **Ю. Г.**), можа быць зроблена паволі і надта сьпешаючыся. Першым і найважнейшым заданнем даннаго часу ёсьць для нас аканчацельнае ўстанаўленне нашых дзержаўных стасункаў з Усходам, толькі зрабіўшы гэта, мы здолеям аддаць больш усілкаў і больш увагі нашым заходнім справам.

**П**

(Аляксандр Прушынскі. «Беларускі Шлях», 1918. № 73, 22 чэрвеня)



**Надмагілле Сапегі і яго жонак. XVII ст. Вёска Гальшаны Гродзенскай вобласці. (Зараз — у экспазіцыі Музея старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АН БССР).**



**Беларускія майстры Клім Міхайлаў (разьбяр) і Дарафей Залатароў (пазалотчык) «со товарищи». Іканастас Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра ў Маскве. Дрэва, разьба, ляўкас, залачэнне. 1682—1686 гг.**



Магілёў. Нікольская царква.

# ПАЧАТАК НАШАГА ТЭАТРАЗНАЎСТВА

**У трэцім нумары летась «Спадчына» ўпершыню за савецкі час пазнаёміла беларускага чытача з жыццёвай і творчай біяграфіяй пісьменніка, драматурга, рэжысёра, акцёра, грамадскага дзеяча Беларусі Францішка Аляхновіча.**

**У чатырох кніжках акадэмічнага выдання «Гісторыі беларускага тэатра» (Мн., Навука і тэхніка, 1983—1987 гг.) толькі тройчы ўпамінаецца прозвішча Аляхновіча, і кожны раз у зняважлівым сэнсе. Няма там ні разгляду яго п'ес, ні аналізу дзейнасці тэатральных калектываў, якія ён узначальваў, як, дарэчы, і некаторых важных працэсаў тэатральнага жыцця напярэдадні пачатку існавання Беларускага дзяржаўнага тэатра. У сувязі з асобай і дзейнасцю Францішка Аляхновіча ўзнікае і яшчэ адзін надзвычай істотны пралік фундаментальнай працы вучоных Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. Даследуючы ў вышэй названых чатырох кнігах не толькі шлях нацыянальнага тэатра, але і развіццё тэатразнаўчай думкі, аўтары бяруць за кропку адліку рубеж саракавых і пяцідзесятых гадоў нашага стагоддзя, калі з'явіліся першыя манаграфіі Я. Рамановіча, У. Няфёда, А. Еса-**



На здымку: група беларускіх пісьменнікаў. Злева направа сядзяць: Макар Краўцоў, Францішак Аляхновіч, Самуіл Плаўнік (Змітрок Бядуля), Аляксандр Уласаў, Аляксандр Прушынскі (Алесь Гарун), Ян Луцэвіч (Янка Купала); стаяць: Альберт Паўловіч, Міхась Кудзелька (Міхась Чарот), Уладзіслаў Галубок, Язэп Фарботка.

Здымак зроблены ў маі-чэрвені 1920 г. у Мінску. Верагодна, што гэта адзін са здымкаў супрацоўнікаў і актыўных карэспандэнтаў часопіса «Рунь», пасля выхаду апошняга (10-га) яе нумара.

Здымак быў змешчаны ў часопісе «Беларускі дзень» (1927, № 10) Макарам Краўцовым, які да гэтага ў № 3 ад 19 сакавіка апублікаваў свае ўспаміны пра Алеся Гаруна «У 20-я ўгодкі з дня яго нараджэння», а таксама ў заходнебеларускіх выданнях: «Беларуская культура» (1927, № 1) і з купюрамі ў часопісе «Родныя гоні» (1927, № 1).

кова, У. Стэльмаха, С. Майхровіча, прысвечаныя творчасці або асобных дзеячаў сцэны, або асобных тэатраў рэспублікі ў савецкі час. «Першай абагульняючай работай па гісторыі нацыянальнага тэатральнага мастацтва» называецца кніга У. Няфёда «Беларускі тэатр: Нарыс гісторыі», выдадзеная ў 1959 годзе. Не верыцца, што сур'ёзныя даследчыкі не трымалі ў руках сапраўднай першай працы, не маглі не мецьяе ў сябе. Ды яна, напэўна ж, была першай прыступкай у новых, цяпер ужо больш падрабязных, даследаваннях гісторыі нацыянальнай сцэны. Але вось месца нават для ўпамінку той даўняй кнігі на тысячах старонках акадэмічнага, а значыць найбольш поўнага, фундаментальнага, выдання не знайшлося...

Беларускае тэатразнаўства і яго важнейшая галіна — гісторыя нацыянальнага тэатра — у класічным разуменні гэтых паняццяў пачалася на самой справе ў 1924 годзе, калі ў Віленскай друкарні «Lux» была надрукавана кніга Францішка Аляхновіча «Беларускі тэатр». Гэта невялікі, напісаны на нейкай сотні старонак, нарыс гісторыі нацыянальнага тэатра ад яго пачатковых форм аж да моманту поўнай прафесіяналізацыі — да ўзнікнення Беларускага дзяржаўнага тэатра. Ён мае і сёння прынцыповае навуковае значэнне. Па-першае, у тэатразнаўчым даследаванні Ф. Аляхновіча ёсць старонкі, якія, нягледзячы на сцісласць выкладання, на адсутнасць у аўтара магчымасцяў карыстання некаторымі крыніцамі, дадаюць найперш шмат новага ў нашае разуменне тэатральных і агульнакультурных працэсаў у няпросты для Беларусі перыяд 1910—1919 гадоў. Важна, што даследчык сам, асабіста, быў і ўдзельнікам і сведкам іх. Па-другое, першы беларускі тэатразнаўца і ў іншых раздзелах звяртае ўвагу на тыя факты і з'явы з гісторыі нашага тэатра, якія значна пазнейшым яго паслядоўнікам чамусьці падаліся не вартымі доследу. Так, разглядаючы п'есу «Дажынкі» П. Шпілеўскага, Ф. Аляхновіч, як і А. Луцкевіч, называе яе літаратурным плагіятам, які сатканы з запазычанняў з п'есы «Сялянка» В. Дуніна-Марцінкевіча. І, нарэшце, па-трэцяе, кніга «Беларускі тэатр» уводзіць у гісторыю нацыянальнай сцэны не толькі наўмысна забытыя факты, з'явы, падзеі, але і імя самога яе аўтара і як акцёра, рэжысёра, драматурга, арганізатара тэатральнай справы, і як тэатразнаўцы.

Упэўнены, што апошні момант дзейнасці Ф. Аляхновіча чакае сваіх даследчыкаў. Зараз жа толькі зазначу, што кніга мае дакладную кампазіцыю (ці перыядызацыю), навукова абгрунтаваныя вызначэнні такіх старадаўніх форм і з'яў тэатра, як народныя драматызаваныя абрады, скамароства, школьная драма. Напрыклад, разглядаючы зачаткі тэатра, Ф. Аляхновіч зыходзіць з пастулата, што «чалавек побач з інстынктам самазахаваўчым, палавым і інш. мае інстынкт тэатральнасці». Інтэрмедыю аўтар аналізуе як «зачатак беларускай драматычнай літаратуры», а батлейка, паводле Ф. Аляхновіча, з'яўляецца фактам «асіміляцыі школьнай драмы». Такім чынам, мы маем справу не з кароткім аглядам некаторых этапаў развіцця тэатра, а з лаканічна выкладзеным праблемна-навуковым аналізам генэзісу і паэтыкі нацыянальнага тэатральнага мастацтва. Асаблівая каштоўнасць працы Ф. Аляхновіча ў тым, што ўсе працэсы, з'явы, факты аналізуюцца пад вуглом гледжання іх ролі ў станаўленні культуры беларускага народа, у развіцці яго нацыянальнай свядомасці.

Кніга «Беларускі тэатр» Ф. Аляхновіча заслугоўвае таго, каб дайсці да сучаснага чытача. А мы пакуль што прапануем пазнаёміцца з яе заключнымі раздзеламі.

Вячаслаў РАКІЦКІ

Францішак АЛЯХНОВІЧ

# БЕЛАРУСКІ ТЭАТР

## IV

У 1807 г. у фальварку Панюшковічы ў Бабруйскім павеце Меншчыны радзіўся той, каго можам сьмела назваць бацькай беларускай камэдыі — Вінцук Дунін-Марцінкевіч.

Марцінкевіч, таксама як і яго папярэднікі — аўторы-езуіты, пісаў у дзьвёх мовах: пабеларуску і папольску. Таксама, як у старых інтэрмэдыях, паны і розныя паўпанкі гавораць папольску, сяляне — пабеларуску.

З яго сцэнічных твораў вядомы «Сялянка», «Залёты» і «Пінская шляхта».

«Сялянка» была хранолёгічна першым творам Марцінкевіча (1846 г.). Гэта двохактная камэдыя-опэра, напісаная вершам і прозай. Паны тут гавораць папольску, а войт Навум, Ціт і хор сялян — пабеларуску. Музыку да «Сялянкі» напісаў вядомы композытар, друг Марцінкевіча, Станіслаў Манюшка, таксама родам з Меншчыны. Нажаль гэтыя ноты загінулі і, ня гледзячы на ўсе стараньні, нікому нідзе не ўдалося іх знайсьці.

«Сялянка» выйшла друкаваным выданьнем з друкарні Язэпа Завадзкага ў 1846 г. Пастаўлена была першы раз на сцэне ў Менску ў 1852 г. у тэатры Польляка на Катэдральным пляцы *. Весткі аб гэтай п'есе і яе аўторы можна знайсьці ў карэспандэнцыях з Менску ў сучасных польскіх газэтах, як: «Dziennik Warszawski» 1852 г. № 97, «Gazeta Warszawska» 1855 г. № 184, «Dziennik Warszawski» 1855 г. № 188 **.

Марцінкевіч не агранічваўся толькі драматычна-літэратурнай працай. Жывучы пастаянна ў Менску, дзе ён мае службу раней у каталіцкай кансісторыі, а пасьля пры шляхоцкай дэпутацыі, ён арганізуе драматычны гурток, і ладзіць спэктаклі, прыймаючы ў іх учасьце як аўтор, рэжысэр і актор.

«Сялянка» была пастаўлена на сцэне супольнай працай двох кіраўнікоў: Марцінкевіча, аўтара лібрэтта, і Манюшкі, композытара музыкі. Спэктаклі мелі вялікі пасьпех. Ролю войта Навума гуляў сам Марцінкевіч; ён потым любіў падпісываць свае літэратурныя творы псэўданімам *Навум Прыгаворка*, ці *войт Навум*, меў такое празваньне сярод прыяцеляў і любіў яго *.

Гэта сьведчыць аб тым, што роль Навума была акторскім шэдэврам Марцінкевіча.

Цікаўна адзначыць літэратурны плягіят, які зрабіў адзін з тагачасных беларускіх пісьменьнікаў, П. Шпілеўскі. У Пецярбурзе ў 1857 г. выйшла з друку кніжка «*Дожинки. Белорусский народный обычай. Сценическое представление в двух действиях, с хорами, песнями, хороводами и плясками белорусскими*» **. Як у Марцінкевіча пэрсонажы шляхоцкага стану прамаўляюць папольску, гэтак сама ў Шпілеўскага яго *помещики*— парасейску. І тут і там сяляне гавораць пабеларуску.

Выдатны беларускі крытык Антон Навіна ў артыкуле п. з. «Літэратурны плягіят» *** гэтак піша аб гэтым творы:

«Ужо самы замысел «Дажынак» з пераадзяваньнем паненкі, Веры Палескай, за сялянку ўзяты жыўцом у Марцінкевіча. Розьніца толькі ў тым, што Вера Шпілеўскага, пераадзеўшыся за сялянку, ідзе жаць на дажынках у свайго жаніха, Пётры Драўлянскага, проста каб зрабіць апошняму сюрпрыз, а Юлія Марцінкевіча робіць свой маскарад з ідэйнай мэтай: каб прывабіць прыехаў-

* У 1884 г. гэты тэатр згарэў.

** Ромуальд Земкевіч. Станіслаў Манюшка і беларусы. (*«Беларускае Жыцьцё» 1920 году. № 1 (23)*.

* Максім Гарэцкі. Гісторыя Беларускае Літэратуры. Вільня. 1921 г.

** Назва даецца ў сучасным правапісе.— Рэд.

*** «Сын Беларуса» 1924 г. № 36.

шага з падарожы па Эўропе свайго кузэна, Кароля Лятальскага, да беларускага сялянства і гэтак удзяржаць яго ў ягоным сямейным гнязьдзе, дый даць сялянам добрага гаспадара і апякуна.

Але асабліва ярка кідаецца ў вочы «запазычаньне» ў Марцінкевіча, калі пачнем чытаць твор Шпілеўскага ад першае сцэны. Як і ў «Сялянцы», рэч дзеецца перад карчмой, куды войт *Наум* (той самы, што і ў Марцінкевіча, бо таксама сыпле прыгаворкамі!) загадаў сялянам сабрацца, каб выслухаць панскі прыказ. Зьяўляецца сярод сялян і Марцінкевічаўскі *Ціт*. Як у «Сялянцы» сабраўшыяся робяць розныя дагадкі аб прычыне войтаўскага загаду, ды кажуць аб *камэце*,— так і Ціт у Шпілеўскага, пачуўшы, што войт Наум сядзіць у карчме, кажа: «Ну, дык пойдзем туды да яго... што-ж ён за *камэта* гэткая?»

Арандар панскае карчмы, Янкель,— гэта ў «Дажынках» двайнік Марцінкевічаўскага арандатара Іцкі.— Шпілеўскі паўтарыў навет выведзены Марцінкевічам эпізод з мелам, на канцы раздвоеным: пры запісываньні на дошцы доўгу за выпітую гарэлку — Наум, пацягнуўшы мелам раз, сам робіць дзьве рыскі...

Чым-жа можна вытлумачыць тую сьмеласць, з якой Шпілеўскі «запазычыў» гэтак многа ў Марцінкевіча? І на гэта лёгка знайсьці адказ: абодва пісьменьнікі належалі да двух розных па культурным уплывам груп, і пад той час, як Марцінкевіч пісаў «Сялянку» мяшанай мовай польскай і беларускай, празначаючы яе пераважна для краёвае спольшчанае інтэлігэнцыі,— Шпілеўскі пісаў *парасейску* і пабеларуску, разьлічаючы на расейскае грамадзянства, меўшае вельмі мала стычнасьці з краёвымі «палякамі» (—«палякамі» па мове). Дык і вялікае рызыкі ня было, што «пазыка» можа выкрыцца. Ды яна, відаць, і ня выкрылася пры жыцьці абодвух аўтараў, з каторых адзін, *Шпілеўскі, быў бязумоўна пад уплывам свайго земляка, Марцінкевіча*».

Другі дайшоўшы да нас драматычны твор Марцінкевіча — «Залёты», п'еса ў 3 актах, напісана ў Люцынцы, яго фальварку пад Менскам, у сьнежні 1870 г. Гэтак сама як і «Сялянка», «Залёты» напісаны ў дзьвёх мовах: паны гавораць папольску, сяляне — пабеларуску. На сучасную літэратурную беларускую мову польскія тэксты «Залётаў» выправіў Я. Лёсік і яны надрукаваны ў Менску ў 1918 г. у «Зборніку сцэнічных твораў».

Каб даць прымернік беларускай марцінкевічаўскай мовы і ягонага шчырага юмару, даем тут адрывак з «Залётаў».

Стары Гапон з жонкай Кулінай вяртаюцца з гораду дамоў пасьля добрага пачастунку і ў дарозе абое на сваім возе засынаюць.

Кабылка, ведаючы добра дарогу дамоў, ішла добра па знаным шляху. Але перад самай вёскай злодзеі адпраглі кабылку, пакідаючы спаўшых на возе, ня ведаўшых аб гэтым здарэньні. І вось у другім акце старыя будзяцца і бачуць з дзівам сваю страту.

Гапон пяе:

Ці ты баба ашалела,
Гдзе-ж ты кабылку падзела?
Ты-ж наперадзі сядзела —
Дык на вошта-ж ты глядзела?
Што-ж ты перад носам мела?
Што-ж маўчыш? — ці асавела?..

Куліна адказвае:

То-ж ты, Гапонка, мужчына,
К табе належыць скаціна,
Мая-ж толькі віна цэла,
Што наперадзі сядзела.
І ты-ж сядзеў на калёсах,
Нос твой быў аж пры атосах...
Відаць мы абое спалі,
Як у нас кабылку кралі.
. . . . . . . . . . .
Дык за што-ж ты мяне лаеш?
Ці-ж прыгаворкі ня знаеш:
Ня вер у сьвеце нікому —
Каню ў полі, жонцы ў дому,
Бо хто толькі жонцы верыць,
Той як сітам ваду мерыць.

«Пінская шляхта» (напісана ў 1866 г.)— гэта аднаактны абразок з жыцьця дробнай шляхты Палесься, напісаны вельмі жыва, з вялізным пачыцьцём сцэны і багатым юмарам. Сюжэт стары: дзеці кахаюцца, але бацькі між сабой сварацца і дзеля гэтага маладыя ня могуць пажаніцца. Бацька дзяўчыны хоча яе жаніць са старым, але багатым суседам, аднак дзяцюк, якога яна любіць, усе бацькаўскія пляны нівэчыць сваімі хітрыкамі — і ўсё канчаецца добра.

Апрача гэтых успамянутых вышэй трох сцэнічных твораў ёсьць весткі яшчэ аб трох, да нас ужо не дайшоўшых: «Pobór rekrucki», інсцэнізацыя вершаванай яго повесьці «Гапон», «Walka muzyków» і «Woda cudowna» *, якія таксама былі пісаны ў дзьвёх мовах. Му-

* Аб гэтай апошняй нам даў вестку Р. Земкевіч.

зыку да гэтых п'есаў напісаў, таксама як і да «Сялянкі», Ст. Манюшка. І гэтыя п'есы, і музыка недзе прапалі. Аб першых дзьвёх п'есах ведама з кніжкі А. Валіцкага «Stanisław Moniuszko. Warszawa. 1873».

Але ня толькі Марцінкевіч пісаў у палове мінулага сталецьця беларускія п'есы. Арцём Вярыга-Дарэўскі (памёр у 1884 г. у Іркуцку ў ссылцы) напісаў драму «Гордасьць», камэдыю «Гнеў» і камэдыю-опэру «Грэх». Творы яго былі ў 1863 годзе сканфіскаваны ў Віцябску *. Геранім Марцінкевіч напісаў камэдыю «Аказія пры Палкоўніцах», якая ставілася ў Віцябску ў 1862 г. Адрыўкі гэтай камэдыі меў п. Вінцэнт Мяніцкі ў Віцябску **. Ёсьць навет вестка, што lirnik wioskowy — Сыракомля напісаў пабеларуску нейкую п'есу са сьпевамі, да якой скампанаваў музыку Фаўстын Лапатынскі, аб чым успамінае ў сваёй манаграфіі аб Сыракомлі польскі пісьменьнік Крашэўскі ***.

Пасьля апошняга польскага паўстаньня (1863 г.) расейская ўлада забараняе друкаваць беларускія кніжкі. Ведама, разам з гэтым спыняецца й пачаўшаяся тэатральная творчасьць. Амаль што не на працягу поў сталецьця няма беларускіх спэктакляў, ніхто ня піша беларускіх тэатральных твораў. І толькі з пачаўшымся пасьля першай расейскай рэвалюцыі беларускім Адраджэньнем пачынаецца й новая фаза ў гісторыі беларускага тэатру.

Былі, праўда, і да 1905 г. беларускія спэктаклі, але яны ніякай ролі ў гісторыі нашага тэатру ня мелі, дзеля таго што гэта былі паасобныя здарэньні, якія ня выклікалі далейшай у гэтым напрамку працы. Гэтак, напрыклад, дзеля акуратнасьці нашай тэатральнай хронікі, адзначым «спэктакль», які быў у ліпні 1902 г. ў маёнтку «Карльсбэр» вядомага беларускага археолёга і гісторыка Андрэя Сьніткі. Арганізатарам і рэжысэрам быў Юры Уласаў (брат сэнатара А. Уласава), які сам перакладзеную на беларускую мову ўкраінскую аднаактную п'еску «Па рэвізіі» і паставіў яе з удзелам ваколічных сялян і сялянак. Рэжысэру трудна было ўтрымаць «на сцэне» дысцыпліну, дзеля таго, што «артысткі», з якіх усе ў вёсцы, даведаўшыся аб рэпэтыцыях, сьмяяліся і кпінкі строілі, хутка адмовіліся ад роляў. Тады рэжысэр кінуўся на хітрыкі: ён «заангажаваў» свае артысткі... палоць траву. Дзеля гэтай работы дзяўчаты ўжо не сароміліся йсьці ў двор, дзе фактычна далей ішлі рэпэтыцыі, якія цягнуліся два месяцы. Спэктакль адбыўся ў пуні на спэцыяльна пабудаванай дзеля гэтага сцэне. Значная частка прыйшоўшай на спэктакль публікі ведала ўжо п'есу ня горш за «артыстаў», гэтак ужо абіліся аб вушы і дакучылі ўсім у двары рэпэтыцыі.

Дазвол на спэктакль адтрымалі, ашукаўшы ісправьніка быццам будуць гуляць паўкраінску (гэтак дазвалялася) *.

Яшчэ раней за гэта, бо ў 1892 годзе пісьменнік Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.), жыўшы ў Радашкавічах, дзе ён заснаваў каапэратыву, хацеў паставіць з радашкавічаўскай моладзьдзю сваю п'есу «Злодзей», але чамусьці гэтаму спэктаклю ня суджана было адбыцца **.

## V

Пасьля рэвалюцый 1905—1906 г. Вільня зрабілася цэнтрам беларускага руху. Тут, пасьля доўгай забароны друкаванага беларускага слова, паяўляецца першая газэта «Наша Доля», тут пачынаецца выдавецкая работа, тут наладжываюцца першыя беларускія спэктаклі.

У канцы студня 1910 г. арганізуецца невялічкі гурток моладзі з мэтай паставіць беларускі спэктакль на вечарыне, якая ладзілася 12 лютага ў салі Жалезнадарожніцкага клюбу ў Вільні на Хэрсонскай вул ***. Выбралі для пастаноўкі перакладзеную з украінскай мовы аднаактную п'есу Крапіўніцкага «Па рэвізіі» ****. Апрача гэтага праграма складалася з пяяньня хору пад кіраўніцтвам польскага композытара Рагоўскага, які ў гэты час жыў у Вільні, вельмі цікавіўся беларускай песьняй і шмат працы аддаў наладжэньню бе-

---

* Паводле данных п. Р. Земкевіча.

** Таксама паводле Р. Земкевіча.

*** J. I. Kraszewski. Władysław Syrokomla. Warszawa. 1863 г.

---

* З успамінаў п. А. Уласава.

** Арыгінал камэдыі «Злодзей» або «Сваім судом» ёсьць у архіве п. Р. Земкевіча. Гэтая рэч ня была друкаванай.

*** Цяпер завецца вуліцай Дамброўскага. Аўтор.

**** У п'есе выступалі: А. Бурбіс (пам. 1922 г.), Ч. Родзэвіч, Мурашка, Арлоўскі, Корсак і Ф. Аляхновіч (ён-жа й рэжысэр).

ларускага хору *, ды народных скокаў пад кіраўніцтвам Ігната Буйніцкага (пам. 1917 г.).

12 лютага саля Жалезна-дарожнага клюбу напоўнілася вялізнай грамадой народу. Тут было чуваць апрача беларускай — літоўскую, польскую, расейскую мову. Усе цікавіліся першай беларускай вечарынай.

Вось як апісвае з захопленьнем гэтую вечарыну тагочасная беларуская газэта «Наша Ніва» (№ 8):

«Дзяўчаты зіхацелі пекнымі андаракамі, гарсэтамі, вышыванымі кашулямі, устужкамі, пацеркамі; на дзявочых галоўках былі пекна павязаны чырвоныя хустачкі, белыя наміткі. Хлопцы бялелі ў магілёўскіх сьвітках, абшытых па краёх чырвоным шнурком і падпярэзаны прыгожымі вузкімі і шырокімі беларускімі паясамі; на іншых былі беларускія валеныя шапкі. І паліліся хвалі тонаў песьні прад заціхшай у салі тысячнай грамадой...

Чутно была ў песьні не разгул вялікароса з-пад Волгі, ня бойкую гульню паляка, але замкнутую ў сабе самой душу нашага беларуса з лясіста-балоцістай старой нашай бацькаўшчыны... Уся саля стала быццам бурным морам народным, уся траслася ад клікаў: «браво! браво! беларусы!» Хору прышлося па колькі разоў пяяць некаторыя песьні, што найбольш схапілі людзей за сэрца і душу сваімі словамі, музыкай. Так віталі людзі ўсіх нацыяў беларускую песьню, каторая дагэтуль лілася і разьвівалася толькі на палёх і пералесках, а цяпер адразу выйшла на сьвет шырокі. Чуцен быў скрозь гоман: «мы ня ведалі, што ёсьць беларуская песьня, і што яна асобная, свая, беларуская, мае свой дух...

Пачаліся на сцэне танцы: лявоніха, мяцеліца, юрка і верабей пад вясковую беларускую музыку. Трэба прызнацца, што яны ўдаліся на хвалу! Публіка проста адурэла... Ажно ў вачох зіхацела, як ішлі лявоніху, мяцеліцу, або як 10 пекна прыбраных пар завіваліся доўгім хвастом у «вераб'і»...

Гэтымі танцамі кіраваў Ігнат Буйніцкі.

Усе, хто цікавіўся грамадзкім жыцьцём, зьвярнулі ўвагу на гэту першую беларускую вечарыну. Загаварылі аб ёй і інш. віленскія газэты. Вельмі прыхільную рэцэнзыю дала польская газэта «Kurjer Litewski» і літоўская «Viltis». Расейскія газэты прайшлі міма гэтага факту моўчкі, апрача полуофіцыяльнага органа «Виленскій вестникъ», які ўва ўсім гэтым дагледзіўся... польскай інтрыгі *.

Хутка пасьля гэтага наладжываецца першая беларуская вечарына ў Пецярбурзі, дзе ставяць тую-ж самую камэдыю «Па рэвізіі», пяе хор, дэклямуе свае вершы поэтэса «Цётка» — Алёізія Кэйрыс (пам. 1916 г.), скачуць народныя танцы. Наагул праграма падобная да віленскай.

У гэтым-жа месяцы лютым (22-га) у Вільні ладзіцца этнографічны вечар, у якім прыймаюць учасьце й беларусы са сваім хорам, балетам і дэклямацыяй.

У гэты час у Пецярбурзі было шмат беларускай моладзі, якая вучылася там у вышэйшых расейскіх школах. У Пецярбурзі, хутка пасьля віленскай, арганізуецца першая беларуская вечарына (19 лютага 1910 г.). Ладзяцца спэктаклі ў Слуцку, Горадні ды інш. гарадох. Пад восень 1910 г. выяжджае на правінцыю першы беларускі аб'ездны тэатр пад дырэкцыяй І. Буйніцкага.

Ігнат Буйніцкі, танцор-артыст, самародак, сарганізаваўшы драматычны гурток, хор і балет, са сваей шматлюднай трупай пад канец лета выяжджае з Вільні на турнэ па правінцыі. Дазвол улады было дастаць ня лёгка, але ў канцы канцоў удалося. Прэдпрыемства было досі рызыкоўнае: з гэткім вялізным пэрсонэлям ехаць у мястэчкі, дзе яшчэ ня толькі ня чулі аб беларускім тэатры, але можа мала ведалі аб беларускім адраджэнскім руху наагул, ехаць, ня ведаючы, ці пойдзе ў тэатр публіка, як яна спаткае навізну — беларускі спэктакль. Але віленскі ўспех заахвочываў і падаваў надзею. І надзея ня здрадзіла. Усюды першы беларускі тэатр меў гарачы прыём.

У жніўні быў спэктакль Буйніцкага ў Дзісьне.

«Дзісна ня помніць такога збору народу. Інтэлігенцыя і просты народ усе шчыра віталі беларусаў; магучая ідэя нацыянальнага адраджэньня гарачымі праменьнямі сваімі ўсіх абагрэла, усіх з'яднала, разварушыла застыгшыя сэр-

---

* Л. Рагоўскі — композытар музыкі да слоў Купалы «А хто там ідзе» і Беларускай Сюіты.

* Tempora mutantur... Цяпер частка польскай прэсы адносіцца да беларускага руху як да інтрыгі расейскай. Аўтор.

цы, заіскрыла выцьвяўшы ад сьпекі вочы і першае роднае слова са сцэны вітана было не аднэй сьлязой» *...

25 і 26 верасьня адбыліся спэктаклі ў Полацку.

Супрацоўнік «Нашае Нівы», Власт, гэтак піша аб полацкіх спэктаклях:

«Вокляскам канца не было: грымела-гудзела ўся саля, як лежэнь з ройнымі пчоламі...

Тэатр беларускі становіцца ўжо, дзякуючы заходам і рупнасьці дзядзькі Ігната Буйніцкага на цьвердыя падваліны і выплываюць усё новыя і новыя сілы. За гэтыя стараньні і рупнасьць шчырае дзякуй яму, а калісь, калі прабудзецца сьвядомасьць ува ўсім беларускім народзе, памяць Ігната Буйніцкага будзе святой для ўсіх» **...

Рэпэртуар тэатру Буйніцкага складаўся з «Па рэвізіі» Крапіўніцкага і новай арыгінальнай беларускай п'ескі К. Каганца «Модны шляхцюк», якая напісана жыва, із цікаўнымі бытавымі сцэнкамі заручынаў і абсьмейвае тых людзей, якія саромяцца роднай беларускай мовы, а, калечачы польскую, думаюць, што гэткім чынам даказваюць сваю вышэйшую культуру. П'еса была добрая, як агітацыйны спосаб прабуджэньня народнага духа і, ня гледзячы на некаторыя вульгарызмы, а можа дзякуючы ім, карысталася пасьпехам у публікі.

Апрача спэктаклю праграму вечара запаўнялі: хор, дэклямацыя і скокі на сцэне, у якіх галоўнай асобай быў сам Буйніцкі і ўмеў мастацка выпаўняць народныя танцы, выцягваючы з забыцьця старыя: Юрку, Мельніка, Гневаша, Лявоніху, Качана, Чабара, Мяцеліцу, Вераб'я.

Нацыянальны беларускі рух расьце. Дзе не даедзе Буйніцкі са сваім тэатрам, там даходзіць «Наша Ніва», нясучы радасную вестку аб народным адраджэньні. Усюды арганізуюцца гурткі моладзі, якія ладзяць у сваіх мястэчках вечарыны. Гвазьдзём гэтых вечарын пасьля драматычнага прадстаўленьня зьяўляецца хор, які пяе народныя песьні.

Якуб Колас, які першы раз быў на беларускім спэктаклі, 2 лютага 1912 г. ў Вільні (гулялі «Пашыліся ў дурні» Крапіўніцкага — з украінскага), захопленыгэтым спэктаклем гэтак піша ў сваёй рэцэнзыі:

* З карэспандэнцыі ў «Нашай Ніве» 1910 г. № 35.

** «Наша Ніва» 1910 г. № 40.

«Аб адным толькі трэба пашкадаваць, аб тым, што сярод тэатральных рэчаў няма нічога свайго роднага, арыгінальнага. Праўда, тэатр у нас зачаўся нядаўна і я думаю, што няўзабаве зьявяцца новыя рэчы, каторыя ня брыдка будзе паказаць людзям. Гэты вечар паказаў мне, што канешне трэба шырыць ідэю тэатра, нясьці яго ў сёлы і вёскі» *...

І ідэя тэатра хутка пашыраецца.

Беларуская адраджэнская хваля, меўшая сваім пунктам выплыву Вільню, шырока разьліваецца на ўсей Беларусі. Ладзяцца вечарыны ў вялікшых беларускіх гарадох, у мястэчках, па вёсках.

Раскінутыя па расейскіх гарадох беларусы ўсюды арганізуюцца і, ня гледзячы на частыя перашкоды з боку ўлады, выступаюць перад публікай са спэктаклям, роднай песьняй, сваей дэклямацыяй. А перашкоды бывалі. У 1912 г. у Ніжнядняпроўску ставілі «Моднага шляхцюка» і на афішы было напісана цікаўнае апавешчаньне: «першы і апошні раз, дзеля таго што начальства забараніла»... Вось што піша тагачасны карэспандэнт у «Нашу Ніву» аб гэтай вечарыне:

«...Адно толькі бяда, што жандарскі ротмістр, да каторага хадзілі прасіць пазваленьня, не хацеў зусім пазволіць. Ён казаў: «на што вам гэтыя ўкраінскія ды беларускія п'есы, калі ёсьць пекныя расейскія» **...

Характэрна! І якая добрая паралеля да сучасных адносінаў на захадзе Беларусі!

На віленскі кліч «Нашай Нівы» адгукнуліся навет беларусы-пасяленцы ў далёкім Сыбіры і адтуль пішуць у газэту карэспандэнцыі аб беларускіх вечарынах. Беларуская моладзь, згуртаваная на Варшаўскім унівэрсытэце, і там ладзіць беларускую вечарыну, на якую прыяжджае Ігнат Буйніцкі са сваім балетам з шасьцёх пар танцораў і уласным «аркестрам», зложаным з дудара, скрыпкі ды цымбалаў. Пасьпех вялізны.

Усіх тагачасных вечарын праграма была больш-менш аднолькавая: спэктакль, хор, дэклямацыя, скокі на сцэне. Найважнейшымі часткамі праграмы, беларускай атракцыяй, былі хор і скокі. Беларускае адраджэньне брало свае сокі з народнай творчасьці, вялізны пера-

* «Наша Ніва» 1912 г. № 7.

** «Наша Ніва» 1912 г. № 22.

рыў творчасьці штучнай, не дазваляў так лёгка зьвязаць мінуўшчыну з сучаснасьцю, і вось зварот да народнай песьні, да народных скокаў, навет да сялянскай вопраткі ёсьць зьявішча паўсюднае. Сялянскія сьвіткі, жаночыя гарсэцікі паяўляюцца ня толькі на сцэне, але і сярод публікі, і ўжываюцца як штодзенная вопратка.

Тагачасны рэпэртуар складаецца з гэткіх выданых на літаграфіі твораў: «Па рэвізіі» Крапіўніцкага (з украінскага), «Мядзьведзь» і «Сватаньне» Чэхава (з расейскага), «Хам» Ажэшкі (з польскага, інсцэнізацыя повесьці), «Міхалка», «Як яны жаніліся» і арыгінальнага твору «Модны шляхцюк» Каганца. Але хутка паяўляецца новы твор маладога і будзіўшага вялікія спадзяваньні паэта Янкі Купалы — «Паўлінка» (1912 г.).

Паяўленьне на сьвет «Паўлінкі» было важным здарэньнем у жыцьці беларускага тэатру, а прэм'ера п'есы была мастацкім беларускім сьвятам. «Паўлінка», як аўтор яе скромна называе — *сцэны* са шляхоцкага жыцьця, ня ёсьць скончаны з мастацкага боку драматычны твор. Псыхалёгія дзеячых асобаў закранута толькі зьверху, драматычная інтрыга вельмі прасьценькая, палажэньні ня зусім консэквэнтна адно з аднаго выплываюць, а разьвязка нейкая няўдалая. Узапраўды гэта толькі *сцэны*. Але гэтыя сцэны так жыва напісаны, гэтулькі няхітрага простага беларускага юмару ў іх уложана, тыпы, хаця без псыхолёгічнай апрацоўкі, але сьмелымі штрыхамі з карыкатурным нахілам гэтак удачна накіданы, што «Паўлінка» здабыла сабе адразу публіку і дагэтуль яшчэ карыстаецца на беларускіх сцэнах зусім заслужаным пасьпехам.

«Паўлінку» першы раз у Вільні гулялі 27 студня 1913 г. у салі гімнастычнага таварыства «Sokół» на Віленскай вул.

Другі выдатны драматычны Купалы твор, якому няраз прыйшлося бачыць сьвет рампы, гэта — «Раскіданае гняздо», драма ў 5-цёх актах, у якой адчуваецца і шырокі размах пяра і лепшая знаёмасьць з вымогамі сцэны. Тэма «Раскіданага гнязда» — барацьба панскага двору з мужыцкай хатай, пана з селянінам. Лявона Зябліка пан выкідае з хаты. Ён, Зяблік —...«з гэтай зямелькай зжыўся, як з роднай маткай. Кожны каменьчык на полі і кожны кусьцік на сенажаці змалку ўжо знаў, як сваіх пяць пальцаў на руцэ. На гэтых гонейках пасьвіў скаціну, араў, сеяў, касіў. А тут!... Суд — вон выганяюць! Кінуць тую хату, скуль бацьку і матку на магілкі вывез, кінуць тое поле, дзе кожную скібіну потам крывавым скрапіў! *...

Гэта — трагэдыя сялянскай душы Лявона. І няма дзіва, што ён не перажывае гэтага, бо — кажа — «чалавек з зямлёй зрастаецца, як гэта дрэва: зьсячы дрэўца — засохне, адбяры ў чалавека зямлю — згіне...»

Засталіся: хворая яго жонка ды дзеці. Зоська — дачка, кволая дзяўчына, пранікнутая містычнасьцяй, мэлянхолічная, якбы ад сьвету гэтага адарваная; Сымон — старшы сын, горды і адважны, знае сабе цану і верыць у сваю сілу; Данілка і двое малых. З хаты ня йдуць. Ня кінуць зямлі. Па загаду пана дворныя людзі ламаюць ужо страху. На іхнія галовы сыплецца пясок...

Засталіся пад голым небам,— але з зямлі ня кратаюцца. Галава ў хаце пасьля бацькаўскай сьмерці — Сымон застаецца на руінах хаты і не пазваляе сваёй сям'і зыйсьці з яе. Службу давалі, можна было добра прыстроіцца, але ён з нязвычайна гордай упартасьцяй ня хоча «прыстроіцца», а чакае адкульсь нейкай справядлівасьці. Але справядлівасьці няма. Ды мала яшчэ бяды: сястра, Зоська, палюбіла паніча, «як зорка месяц...»

Але прыходзе Незнаёмы і кліча на Вялікі Сход.

«Годзе нацягаліся твае дзяды і прадзеды ношкі непасільнай! Выбіла гадзіна, і ты мусіш, як арол магучы, распусьціць сваё крыльле і ляцець туды, куды ўсе цяпер зьлятаюцца. Кончылася чалавечае вечнае начаваньне, і сьвітаньне агністае пачынаецца на зямлі ад краю да краю, ад мора да мора...»

«Дагэтуль ты сьцежкі свае ня бачыў, бо вечна нязмытыя сьлёзы на вачох тваіх віселі, хоць чырвоная кроў з цябе капала на сьляды твае. Наганяў ты сабе мазалі непазбытыя, як араў і сеяў, а груганы пражорлівыя зярняты твае сьпелыя клявалі...»

І Сымон пайшоў — «Смока выганяць...»

Драма канчаецца жудаснай сцэнай: водблеск пажару асьвятляе руіны хаты — гэта гарыць падпалены Сымонам панскі двор. На руінах хаты звар'яцеў-

* *Янка Купала. Раскіданае гняздо. Драма ў 5-цёх актах. Выдавецтва Менскага Камісарыяту Асьветы. Вільня. 1919.*

шая Зоська ў вянку з пасохшага лісьця на галаве круціцца і пяе:

Вецер іграе, зорачкі скачуць,
Месяц між імі лад водзе...

Маці і малыя з торбамі на плячох ідуць за Старцам — у сьвет...

Тут ужо не сьмяхотныя пьяненькія тыпы з «Паўлінкі», тут — панурыя, выкаваныя з жалеза беларускія сымволі. Але «Раскіданае Гняздо» не карыстаецца на сцэне гэткім пасьпехам, як «Паўлінка». Віной гэтага той літэратурны, анты-тэатральны баляст, якога шмат у «Раскіданым Гнязьдзе». А з другога боку — гэтая «літэратурнасьць» мае гэтулькі мастацкага хараства, а словы, якія кажуць героі п'есы гэтак жыўцом вырваны з акрываўленага сэрца народу, што рэжысэрскі алувок ня важыцца чыркануць старонак вялікага твору Купалы.

Разьвіўшая дзеяльнасьць беларускага драматычнага гуртка ў Вільні праявілася далей у сьмеласьці заглянуць да «клясычнага» рэпэртуару. 25 студня 1915 года ў тэатры «Фільгармонія» на Ноўгародзкай вул. ставяць першы раз ад Марцінкевічаўскіх часаў «Залёты». Вялікую працу каля гэтага спэктаклю далі Марыя Кімонт (пам. 1923), якая замест загінуўшай Манюшкаўскай музыкі напісала часткай сваю ўласную, а рэшту дабрала з розных чужых матываў, і А. Бурбіс, які першы пераклаў на беларускую мову польскія сцэны «Залётаў» і рэжысэраваў п'есу. Варта адзначыць, што роль жыда ў «Залётах» гуляў запраўдны жыд — вядомы беларускі пісьменьнік Зьмітрок Бядуля.

Няма што й казаць, што спэктакль меў вялізны пасьпех.

Гэты спэктакль быў лебядзінай песьняй старага віленскага драматычнага гуртка. Ужо йшла вайна, хаця не на палёх Беларусі, але ўжо грымелі гарматнія стрэлы. Культурныя справы сайшлі на другі плян. Моладзь паклікалі на крывавае дзела. Беларускія спэктаклі спыняюцца. Пачалася эвакуацыя Вільні. Ня час песьні пяяць, калі сьмерць усюдых сваю жніўную песьню пяе.

Прыйшла окупацыя Вільні немцамі, а з ёю новы перыяд у гісторыі беларускага тэатру.

## VI

Нямецкая окупацыя на нейкі час спыняе ўсялякую беларускую культурную працу. Але ўжо ў лютым 1916 г. нямецкі обэрбургомістр адтрымаў ад беларусаў просьбу аб дазволе адчыніць беларускі клюб, а 1-га чэрвеня ў доме Мухіна на Вялікай вуліцы а гадз. 4 па палудні Іван Луцкевіч, старшыня клюбу, адчыняе гэтую ўстанову сваей прамовай.

Іван Луцкевіч (пам. 1919) умеў гуртаваць людзей. Не было беларускае ўстановы, дзе-бы не было Івана Луцкевіча, а мала таго — не было ўстановы, якая-бы заснавалася без яго ўчасьця і ў якую ён не ўлажыў частку свайго гарачага духа.

Адкрыцьце клюбу мае значэньне ў гісторыі беларускага тэатру, дзеля таго што тут гуртуецца аматорская драматычная дружына, якой клюб ахвотна дае прыпынак, тут наладжываюцца першыя ў новых палітычных абставінах вечарыны.

І вось першая ад прыходу немцаў наладжываецца вечарына 17 верасьня 1916 г., амаль што ня роўна праз год ад дня окупацыі. Праграма яе была не надта багатая.

У клюбе кожны дзень у вечары зьбіралася моладзь, і тут на нова паўстае да жыцьця беларускі драматычны гурток. Пад рэжысэрыяй Ф. Аляхновіча пачынаюцца рэпэтыцыі і 15 кастрычніка ў салі работніцкага клюбу (б. Жалезна-дарожны кружок) на Вороняй вул. (даўней Хэрсонская) ідзе першы спэктакль. Граюць «Хама» Э. Ажэшкі. Публікі было шмат.

Спэктаклі ладзяцца даволі часта і выклікаюць патрэбу новага рэпэртуару. Ужо нельга безупынна круціцца ў коле старых колькі п'ескаў. І вось у хроніцы беларускага тэатру трэба адзначыць паяўленьне новай п'есы: «На Антокалі» Аляхновіча.

У п'есе занята больш за 20 асоб. Ня гледзячы на тэхнічныя труднасьці, пасьля трох тыдняў рэпэтыцыяў п'еса была пастаўлена 26 сьнежня 1916 г. на сцэне цырку на Лукішскім пляцы *.

У канцы лютага 1917 года беларускі тэатр мае ўжо сваю ўласную сцэну ў новым памешканьні клюбу на Віленскай вул. № 28, дзе спэктаклі адбываюцца што-нядзелю. Улетку з прычыны рэквізыцыі гэтага памешканьня ваеннай уладай клюб разам з тэатрам перабіра-

* Цыркавы будынак на Лукішскім пляцы быў тады прыспасоблены да тэатральных спэктакляў. Яго разабралі ў 1918 г.

юцца на Юраўскі праспэкт (цяпер вул. Міцкевіча) № 22, дзе таксама ёсьць сцэна.

У той час рэпэртуар узбагачваецца новымі п'есамі. С-пад пяра аўтора гэтай працы выходзяць: «На вёсцы», «Калісь», «Манька», «Бутрым Няміра». Апрача таго п. Станіслава Корф арганізуе з прытулковымі дзяцьмі вельмі ўдачныя дзіцячыя спэктаклі, для якіх дае свой уласны рэпэртуар: батлейкі, містэрыі, напамінаўшыя далёкую мінуўшчыну беларускай тэатральнай творчасьці.

У той самы час з другога боку фронту — у Менску творыцца новы асяродак беларускага жыцьця. Эканамічныя варункі там лепшыя для працы, чым у галоўнай Віленшчыне. Апрача таго палітычныя падзеі там даюць вялікшы размах усялякім культурным зачаткам.

Заснаваўшы ў Менску, дзякуючы стараньням Фальскага і Ф. Ждановіча «Першае Беларускае Т-ва Драмы і Камэдыі», наладжывае спэктаклі ў гарадзкім тэатры або на Ляхаўцы ў доме ім. М. Багдановіча і час ад часу выяжджае на правінцыю. Рэпэртуар для гэтага тэатру дае галоўным чынам У. Галубок, які раней пісаў расказы, а пасьля, захоплены тэатрам, аддаў сваё пяро толькі сцэне. Там гуляюць яго «Апошняе спатканьне», «Ганка» і шмат інш. У 1918 г. менскі рэпэртуар, дзякуючы наладзіўшайся зьвязі Вільні з Менскам, павялічваецца віленскімі п'есамі. Адначасна з тэатрам пад кіраўніцтвам Ждановіча пачынае спэктаклі у «Беларускай Хатцы» на Конскім пляцы тэатр Аляхновіча. На гэтыя спэктаклі прыходзіць ужо не адна толькі беларуская інтэлігенцыя, але шырокія масы мяшчанства.

Беларускі тэатр ужо перэстае быць тэатрам аматораў, а памалу перакшталтоўваецца ў прафэсыянальны. Ужо публіка пачынае яго мерыць іншай меркай, як было дагэтуль, адносіцца да яго больш крытычна, вымагае ад яго знаёмства свайго дзела, а конкурэнцыя двох адначасна беларускіх тэатраў уплывае на стараннасьць мастацкай падгатоўкі спэктакляў. Беларуская прэса вельмі цікавіцца сваім тэатрам, на сваіх шпальтах шмат месца ахвяроўвае гэтай справе, зьмяшчаючы крытычныя справаздачы, няраз вельмі строгія.

У той час арганізуецца беларускі хор пад кіраўніцтвам Тэраўскага, які апрача сваіх самастойных канцэртаў, часта выступае разам з тэатрам Ждановіча або Аляхновіча.

Новыя палітычныя падзеі маюць уплыў таксама й на лёс беларускага тэатру. Пасьля рэвалюцыі ў Нямеччыне нямецкае войска выходзіць з Беларусі, а ўсьлед за ім займаюць пакінутыя нем-



Пахаванне Францішка Аляхновіча. Вільня. 1944 г.

цамі тэрыторыі бальшавікі, якія даюць свой тон усялякай праяве жыцьця. У Менску ўжо на дзесяты дзень пасьля прыходу новай улады паяўляецца афіша «Беларускага Пралятарскага Тэатру», а тыдзень пазьней (22 сьнежня 1918 г.) адбылася адкрыцьце «Беларускага Савецкага Тэатру».

Гэткім чынам тэатральныя групы Ждановіча і Аляхновіча зьліваюцца ў адзін тэатр, апроч таго ў гэту-ж арганізацыю ўваходзіць, здабыўшы ўжо сабе заслужаную славу, хор Тэраўскага і наладжываецца пры тэатры аркестр (сэкстэт) пад кіраўніцтвам Ф. Тхожа.

Тэатральная работа ў гэты час пачынаецца з шырокім размахам. Спэктаклі ідуць па 3—4 у тыдзень. Праца кіпіць. Рэпэтыцыі ідуць што-дня, часта па два разы ў дзень. Аркестр прыгатаўляецца да самастойных канцэртных выступленьняў і робіць рэпэтыцыі з драматычнымі артыстамі п'есаў, якія ідуць са сьпевамі. «Паўлінка» Купалы ў гэты час першы раз ідзе з акомпаньямэнтам аркестру. Камісарыят Народнай Асьветы багата субсыдыруе тэатр. Артысты з матэрыяльнага боку абасьпечаны. Рэпэртуар узбагачваецца новымі творамі. Літэратурная сэкцыя час ад часу зьбіраецца, каб прачытаць і крытычна разабраць новыя тэатральныя творы. Праектуецца сарганізаваць пяць (!) аб'ездных драматычных дружын. Укладаецца плян заснаваньня ў Менску драматычнай студыі дзеля падгатоўкі кадраў новых артыстаў тэатральнага мастацтва...

Але зьяўляюцца новыя палітычныя абставіны — і новы лёс беларускага тэатру. Пасьля бальшавікоў займае Беларусь польскае войска. Замёршая на пераходны час тэатральная праца памалу пачынаецца нанова. З тэатральных разьбіткаў і застаўшагася хору арганізуецца «Таварыства Беларускага Мастацтва», якое пачынае ставіць спэктаклі. У канцы 1919 г. наладжываецца тэатр пад дырэкцыяй Аляхновіча, які, адтрымоўваючы ад польскай улады (Zarzád Ziem Wschodnich) субсыдыю, мае магчымасьць ставіць спэктаклі сыстэматычна. Але, маючы матэрыяльную падмогу, беларускі тэатр прымушаны змагацца з перашкодамі іншага роду. Субсыдыя выплачваецца неакуратна, карыстацца гарадзкім тэатрам беларусам дазваляецца толькі ў будныя дні, дзеля таго што ў нядзелі і сьвяты тэатр аддаецца польскай трупе, апрача таго тагочасная тэатральная цэнзура, якую вела польская поэтэса Savitri (п. Фастовіч-Загорская), надта абмяжоўвала дзеяльнасьць беларускага тэатру з боку рэпэртуарнага. Было забаронена гуляць гэткія п'есы: «Паўлінку» і «Раскіданае Гняздо» Купалы, «Моднага Шляхцюка» Каганца, «Калісь» і «Бутрыма Няміру» Аляхновіча. Пры беднасьці беларускага рэпэртуару гэтая забарона сільна адчувалася. Апрача таго праектаваўшыся выезд тэатральнай трупы на правінцыю таксама не адтрымаў дазволу ўлады.

Але вось Менску, які ўжо зрабіўся цэнтрам беларускага культурнага жыцьця, было суджана яшчэ раз зьмяніць гаспадароў: Менск ізноў пераходзе ў бальшавіцкія рукі. Арганізуецца Беларускі Дзяржаўны тэатр. Рэпэртуар павялічваецца арыгінальнымі п'есамі і перэкладамі выдатных твораў сусьветнай драматычнай літэратуры. Пэрсонэль адсьвяжаецца прытокам новых сіл: шмат хто з беларусаў, працаваўшых раней на расейскай сцэне, кідаюць службу дзеля чужой культуры і ідуць у беларускі тэатр. Наладжываецца драматычная студыя.

Заснаваньне Беларускага Дзяржаўнага Тэатру пачынае новую фазу ў гісторыі нашага тэатру, які, трэба сказаць, згуляў ужо вялізную роль у беларускім адраджэньні. Пакуль-што рэпэртуар наш яшчэ небагаты ў параўнаньні з тым, што маюць народы са старэйшай культурай. Беларускі актор яшчэ чакае сваіх Ібсэнаў, Гаўптманоў, Андрэявых, Пшыбышэўскіх... Беларуская сцэна яшчэ чакае сваіх Кокленаў, Дузэ, Варламавых, Адвэнтовічаў... Ці дачакаюцца? Ці хутка? Хто можа даць адказаць на гэта!

Але ведама адно: што беларускі народ, які ў працягу апошніх сталецьцяў узбагачываў сваімі геньямі стараўшыхся асыміляваць яго суседзяў, цяпер, калі, збудзіўшыся, усе сілы свайго духа аддасьць службе для роднай культуры,— можа скора заняць пачэсны пасад між народамі.

Віктар ШНІП

# ЗВАРОТ ПАДМАЙСТРА ДА ЛАЗАРА БОГШЫ

Ты слынны майстра быў, ты ведаў волю,
А я і таленту не меў, відаць.
Ды ўсё ж у нас аднолькавая доля,
У нас адна і радасць і бяда.
Ты Ефрасінні Полацкай быў любы,
Ты крыж стварыў для ейнае царквы.
Ды дзе той крыж? Праз Край прайшла загуба.
Царква без крыжа — як без галавы
Тутэйшы чалавек, што зрокся роду
І на магілах стайню збудаваў.
Яго, дурнога, мне найболей шкода,
Ён стаў рабом пахілым, як трава.
О майстра мой, зірні на краю цуды!
Ці жыў бы ты сярод людзей цяпер?
У целе іх з крывёй цячэ атрута,
Жыве у душах і грызе іх звер.
І хваляцца, што ёсць у іх Айчына.
Ды ў іх не разумее галава:
Без памяці, без мовы ім радзіннай
Айчына,
Нібы без крыжа царква.
Ты майстра быў, ты ведаў волю,
А я і таленту не меў, відаць.
Ды ўсё ж у нас аднолькавая доля —
За годнасць Беларусі не маўчаць.

# ПОМСТА

У атрутным тумане курганне.
Чорны прывід на чорным кані
Скача гулка насустрач світанню,
Скача ў смерці сляпыя агні.

Меч блішчыць, як маланка ліхая,
Іскры сыплюцца з-пад капытоў
І трава палымнее сухая,
А на травах — варожая кроў.

Хіжы моліцца, лоб разбівае:
«Пашкадуй ты мяне, абміні...»
Чорны прывід каня не спыняе,
Пралятае па ім на кані.

Разбягаюцца ў ноч свалачугі,
Не знаходзяць ратунку ў начы.
І звініць па-вар'яцку кальчуга,
Кроў сцякае па гострым мячы.

І ў балоты хаваюцца Гады,
І асіны ад жаху дрыжаць.
Толькі ў цемры мужыцкія хаты
Не баяцца нічога і спяць...

...У атрутным тумане курганне.
Чорны прывід на чорным кані
Скача гулка насустрач світанню,
Скача ў смерці сляпыя агні.

# ПАМЁР АД «ОЖИРЕНИЯ СЕРДЦА»...

**У апошнім нумары часопіса за мінулы год мы надрукавалі працу вядомага дзеяча беларускай культуры святара Адама Станкевіча «Вітаўт Вялікі і беларусы», папярэдзіўшы яе невялікай прадмовай. У кароткай біяграфічнай даведцы пра Адама Станкевіча было пытанне адносна яго смерці. Калі ўжо працавалі друкарскія машыны, мы нечакана атрымалі ліст з Гродна ад галоўнага захавальніка фондаў Беларускага музея гісторыі рэлігіі Н. Ляшчонак, у якім яна распавядае пра жыццёвы шлях А. Станкевіча. І, да цяпер ужо вядомых чытачам «Спадчыны» фактаў, Н. Ляшчонак дадае новыя ў выглядзе афіцыйнага дакумента, які пасля немалых намаганняў яна нарэшце атрымала. Аўтарка звяртае сваю ўвагу на заключэнне аб прычыне смерці вязня ГУЛАГа.**

**Супярэчлівыя пачуцці гэты дыягназ выклікае і ў нас.**

МВД—СССР

Управление внутрен-
них дел исполнительно-
[illegible]

25 сентября 90
9/27- 2782

Белорусский Государственный музей истории религии тов.Лещёнок Н.

230023 г.Гродно,ул.Невозамковая,3

На № 257 от 6/IX-90 г.

Сообщаю, что по учетам ИЦ УВД есть СТАНТЕВИЧ Адам Викентьевич,I89I г.рождения, осужден Особым Совещанием МГБ СССР 3I/УШ-I949 г.,по ст.58 УК РСФСР на 25 лет лишения свободы. Умер 4/ХП-I949 г. от ожирения сердца. Похоронен на кладбище Озерлага вблизи дер.Шевченко Тайшетского района, могила № 3-43

Начальник отдела [подпись] В.В.Пятница

# ПРА АЛЯКСАНДРУ ІЗМАЙЛОВІЧ І НЕ ТОЛЬКІ ПРА ЯЕ

## 1

Чаму яно як ударыла, прачытанае пра Аляксандру Ізмайловіч у літгазетаўскай публікацыі, у артыкуле, што па-новаму, не так, як пра тое гаварылася ў нас колькі дзесяцігоддзяў, вытлумачваў мяцеж у Маскве левых эсэраў летам васемнаццатага года? Чаму працяло болем расказанае сярод іншага ў тым артыкуле, што апошні раз убачыла яна неба — ці мо не неба, а закураную столь турэмнага сутарэння,— пастаўленая ўвосень сорак першага ў Арле, пры падыходзе да горада немцаў, перад расстрэльнай камандай з берыеўскага ведамства? Пастаўленая поруч з Марыяй Спірыдонавай, верным другам якой, аднадумцам і спадарожніцай на пакутных шляхах была з пары іх сумеснага сібірскага катаржанства пры цары.

Я ж ведаў ужо, разумеў, што магу на такое натрапіць: ладным часам раней прачытаны быў «Архіпелаг ГУЛАГ», на выбухова-судных старонках якога сустрэў яе імя ў радках, дзе аўтар з горкай спагадай дазваляе сабе ўсмешлівы закід у адрас колішніх эсэраўскіх правадыроў — што вось не даводзілася яму чуць, каб і са сталінскага зняволення хто з іх вынаходліва вырваўся, уцёк, канспіратыўна вярнуўся ў сталіцу, як тое за норму бывала пры казематтвах ды ссылках старарэжымных. Салжаніцын спасылаецца на фатаграфію ў кнізе, выдадзенай былым таварышам сфатаграфаваных у эміграцыі ў Лондане,— разам зноў-такі са Спірыдонавай і яшчэ знакамітымі некалі аднапартыйцамі Ізмайловіч там недзе ў ссылкавай глухмені, сцятая і панурая, як усе на фатаграфіі. Кніжка выйшла ў трыццаць пятым, значыць, паднагляднай у ссылцы яе трымалі ўжо і задоўга да трыццаць сёмага.

Ды і даўней, да таго яшчэ, як свет жахнуўся над «Архіпелагам ГУЛАГ», яшчэ рыхтуючыся пісаць на прыканцы шасцідзесятых эсэ пра Івана Пуліхава, павешанага ў 1906-ым за замах на мінскага губернатара Курлова, і раскопваючы з гэтай прычыны і што магчыма было пра Аляксандру Ізмайловіч, супольніцу Пуліхава ў замаху, даўмеўся я, вядома, што нездарма ў даваеннай Вялікай савецкай энцыклапедыі нататка пра яе ёсць, а ўжо ў энцыклапедыях, выпушчаных пасля вайны, не тое што асобнай нататкі няма — не знойдзеш успаміну аб ёй у агульным артыкульчыку, у спалучэнні з імёнамі іншымі. Толькі ў сямідзесятых у БелСЭ парушана было, нарэшце, шматгадовае табу — у даведцы пра Пуліхава названа была і яна.

Чаму ж пры тым, што для мяне не было неспадзяваным вычытанае пра канец Ізмайловіч у літгазетаўскай публікацыі, усё-такі трагедыя гэтага лёсу нават апошняй сваёй кропкай уваччу зачырванела-закрывавілася? Чалавечая сутнасць, пакуль яна чалавечая, стаць абыякавай да крыві, ды яшчэ пралітай нявінна, не можа.

## 2

Саму карціну пуліхаўскага замаху я ўзнаўляў найбольш па судовых дакументах. У Маскве ў ваенна-гістарычным архіве пасядзеў над ёмістай папкай матэрыялаў, амаль нечапаных даследчыкамі, і ўяўленню яскрава высвецілася вонкавае — як замах адбыўся і як пасля судзілі яго ўдзельнікаў.

Убачыў натоўп абывацеляў перад саборам на галоўнай плошчы горада, што сабраўся тут адліжным студзеньскім поўднем паразяўляцца на адпяванне ў саборы важнага нябожчыка. Канцылярская драбната і паважныя матроны, прышчаватыя прыказчыкі і мардатыя фурманы, чые каляскі чакалі з царквы гаспадароў, манерныя маладзіцы і вулічныя зладзюжкі, усе яны кінуліся з паліцэйскімі на маладога мужчыну з хваравітым бляскам у вачах. Хвілінай раней той, па сканчэнні малебна, калі першыя асобы губерні праводзілі труну з нябожчыкам да катафалка, падпільнаваў секунды, на якія застаўся каля катафалка адзін губернатар, і шпурнуў у яго падазроны цэглападобны пакет. Спрактыкаваныя паліцэйскія адразу скемілі — бомбу...

Убачыў, як яшчэ праз некалькі імгненняў натоўп узʼюшыўся зноў — ледзь паспелі гарадавыя скруціць мужчыну, як жанчына ў чорным паліто і чорнай хустцы, бледная, кволая, стрэліла з браўнінга ў гарадскога паліцмайстра Норава. Павалілі, аглушылі кулакамі і яе. Калі следчыя пачнуць неўзабаве дапытваць сведкаў здарэння, адзін з гарадавых прызнаецца, што пазнаў жанчыну адразу — яму неаднойчы па службе даводзілася заходзіць на кватэру да генерала Ізмайловіча. «Але паколькі мне ніяк не верылася, каб генеральская дачка магла пайсці на такое злачынства, то я да пары, да часу маўчаў...»

Убачыў, як вужакаваў ваенны суд, ведучы па справе працэс. Прызначаным у яго склад двум генералам і чатыром падпалкоўнікам, безумоўна, загадана было не дапусціць у пасяджэннях гаворкі аб матыве замаху, названым падсуднымі,— аб тым, што прыводзіўся ў выкананне смяротны прысуд эсэраўскага падполля губернатару Курлову за ўчынены паводле яго загаду расстрэл у Мінску 18 кастрычніка 1905 года масавай дэманстрацыі. «Дзеянні 18 кастрычніка ніякіх адносін да цяперашняй справы не маюць»,— запісаў суд пастанову і ўпарта гэтай пазіцыі трымаўся, як ні сцвярджалі яе абсурднасць абаронцы падсудных, адным з якіх быў пецярбургскі адвакат Сакалоў, чалавек, тады блізкі да Леніна.

Убачыў, як «даспяваў» да апошняга варыянту прыгавор: Пуліхаву — шыбеніцу, хоць яго бомба ў час не ўзарвалася, шчыраваннем правакатаркі жандары атрымалі магчымасць загадзя яе пашкодзіць, Курлоў у выніку абышоўся пярэпалахам і драпінкай на цемені; Ізмайловіч — вечную катаргу, хоць куля яе браўнінга ўсяго толькі прадзіравіла Нораву футравы каўнер паліто...

Тое ж, што ў пратаколах допытаў, у прыкладзеных да іх даведках і сведчаннях, у запісах сакратара суда адлюстраваным быць не магло, тое, што дало ўяўленне аб унутраным гарэнні людзей, якімі я цікавіўся, аб духоўнай іх прыгажосці, аб поклічы, на які яны адгукнуліся, узяўшыся здзейсніць замах,— адкрылася з успамінаў Ізмайловіч, апублікаваных у дваццатыя гады ў часопісе «Каторга и ссылка».

Запіскі Аляксандры Ізмайловіч — з ліку публікацый, якія стварылі часопісу рэпутацыю. Накіданая, як паведамляецца ў заключным раздзельчыку, у 1908 годзе ў Мальцаўскай жаночай турме, гэтая аповесць шчымліва апавядае пра перажытае аўтаркай за час, што тады мінуў пасля замаху. Пра глум, які давялося ёй сцярпець у Мінску ад паліцэйскіх. Пра тое, як ні Пуліхава, ні яе не пакідала пры чаканні смяротнага прысуду мужнасць. Пра featuredнае ў гадзіны суда — ад прыкрага да трагікамічнага. Так, выбраўшы памяшканнем для правядзення працэсу пакойчык у казарме, адказныя за падрыхтоўку не заўважылі, што на сцяне ў ім вісіць партрэт бацькі падсуднай, начальніка артылерыі дысклакаванага вакол Мінска корпуса. Вось генерал і паглядаў з фатаграфіі — сам быў на той дзень на вайне ў Маньчжурыі,— як судзяць дачку. Шмат ва ўспамінах Ізмайловіч сказана пра душэўнае яе паяднанне ў мурах Бутыркі ў Маскве, у арыштанцкім вагоне па дарозе на месца катаржанскага быцця, у астрогу пасярод тысячавярстовай тайгі — з людзьмі, што былі тады гонарам расійскага рэвалюцыйнага руху і партыі, да якой Ізмайловіч належала,— Марыяй Спірыдонавай, Настассяй Біцэнка, Ягорам Сазонавым, Марыяй Школьнік, Рыгорам Гершуні, Рэвекай Фіялка, Лідзі-



Так выглядала Аляксандра Ізмайловіч пасля арышту 14 студзеня 1906 года.

яй Язерскай. З людзьмі, якіх не выкрэсліш з гісторыі рэвалюцыі, як да іх ні ставіцца.

Непасрэдныя выканаўцы бязлітасных прысудаў баявой арганізацыі сваёй партыі, перакананыя бамбісты і стралкі, кашмарны прывід для губернатараў ды жандарскай галоўкі — якімі разам з тым заставаліся гэтыя людзі — і з запісак гэта вынікае — светлымі, духоўна прывабнымі асобамі!

Як не схіліць, напрыклад, пачціва галаву перад памяццю аб той самай Спірыдонавай? Цяпер, дзякаваць богу, пачало з'яўляцца ў нашым друку спагаднае пра галгофу ўсяго яе жыцця — ад катаванняў, якія перанесла дваццацігадовай дзяўчынай, схопленая пасля свайго стрэлу помсты ў лютага карніка, тамбоўскага віцэ-губернатара Лужаноўскага жандарамі царскімі, да апошняга дня ў сорак першым, калі белагаловую, аглухлую паставілі яе перад расстрэльнай камандай з жандармерыі сталінскай. А доўгія ж гады яна, грымотнаслынная колісь «Маруся-заступніца» для сялян, увасабленне самаахвярнасці для інтэлігенцыі, прызнаны лідэр сур'ёзнай палітычнай плыні, малявалася ў кнігах, што выходзілі ў краіне, у кінафільмах і ў тэатральных спектаклях звычайнай істэрычкай і клікушай.

Ці як было мне не ўзрушыцца сэрцам, натыркнуўшыся ў несабраным мартыралогу партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў на сітуацыю, што здавалася верагоднай толькі як плён пісьменніцкай

Сям'я генерала Ізмайловіча. Унізе другая — Аляксандра, уверсе першая злева — Кацярына.



фантазіі? Успомніце навелу Анры Барбюса «Пяшчота» — там жанчына, не могучы перанесці расстання з каханым, выбірае смерць, а каханаму пакідае пісьмы, пазначаныя датамі на гады і гады ўперад, каб, атрымліваючы іх, ён доўга яшчэ лічыў яе жывою і за здраду сябе не дакараў. Дык вось намнога раней, чым з'явілася навела Барбюса, у Расіі малады паэт, эсэр-баявік Максім Бярдзягін, чакаючы ў камеры смяротнікаў шыбеніцы як саўдзельнік тэрарыстычнага акта, пераправіў таварышам на волю стос пісьмаў да сваёй маці, датаваных на шмат гадоў уперад і памечаных як пунктамі адпраўкі назвамі замежных гарадоў. Каб таварышы адсылалі іх адрасатцы згодна пазначэнням, і яна да скону не даведалася страшнага пра сына. Балазе, Максім Бярдзягін было яго канспіратыўнае імя, якое маці не ведала,— дома ён быў Канстанцінам Бібікавым.

Або ўзяць высакароднае аблічча Рыгора Гершуні, ранняя смерць якога пасля ўцёку з катаргі была балючым ударам для пабрацімаў. Колькі прачулага пра яго і ў Ізмайловіч, і ў Спірыдонавай, і ў іншых мемуарыстаў! Адзін з распрацоўшчыкаў і здзяйсняльнікаў серыі гучных, з рэхам на ўсю імперыю расплат з асабліва стараннымі цэрберамі рэжыму, ён пачынаў як рэвалюцыянер у нас, у Мінску. На зыходзе мінулага стагоддзя тут быў у яго хіміка-бактэрыялагічны кабінет, тут тады ён плённа асветнічаў — з'яўляўся выкладчыкам школы для дарослых, лектарам, наладжвальнікам святаў для дзятвы... Ды сама Аляксандра Ізмайловіч! Яна запартрэтавала ў запісках іншых, больш сяброў і зычліўцаў, ворагаў і незычліўцаў хіба мімаходзь, як бы не жадаючы на іх траціць фарбы,— але які ж вабны паўстае з напісанага і яе аўтапартрэт: найчысцейшы чалавек, агніста-трапяткая ідэалістка, фанатычка ў добрым, нескапраметаваным сэнсе слова.

У матэрыялах суда захоўваюцца і фатаграфіі. На дзвюх з іх Ізмайловіч. На адной пабітая, з апухлай шчакой і заплылым вокам,— такою яе прывялі пасля стрэлу ў Норава ў паліцэйскі ўчастак. На другой, якую зрабілі пры вобыску ў кватэры іх сям'і, яна з бацькам, сёстрамі і цёткай.

Углядаюся ў фатаграфію сямейную, і, як гаворыцца, бачу калізію ў духу колісь у літаратуры пашыраных: верны прысязе цароў служака-генерал і адшчапенкі асяроддзя, з якога паходзілі, крамольныя дочкі. Менавіта не дачка, а дочкі: тады ж у студзені 1906-га, калі ў Мінску Аляксандра Ізмайловіч з браўнінгам у рыдыкюлі выйшла падпільноўваць асуджанага яе партыяй на смерць паліцмайстра, малодшая яе сястра Кацярына, уцёкшы спецыяльна дзеля гэтага з мінскай жаночай турмы (каб памагчы наладзіць уцёкі, у Мінск прыехаў Барыс Савінкаў), у Севастопалі пальнула з рэвальвера ў ката рэвалюцыйных матросаў адмірала Чухніна. Адмірал таксама абышоўся на той раз пярэпалахам, Кацярыну ж без суда адразу расстралялі. А што да бацькі-генерала, то, хоць у паперах, якія сабраны былі пракуратурай перад разглядам справы Аляксандры, ёсць адносна яго цыдуліна-алібі — маўляў, у выкананні ім службовых абавязкаў ніколі не было падстаў для прэтэнзій і, значыць, ні цcraft сумнення няма і ў вернападданіцтве,— з успамінаў дачкі аб спатканні з ім у турме пасля яго вяртання з Маньчжурыі, ён паўстае ў сваім горы вытрыманым. Ні слова папроку не сказаў абедзвюм, Аляксандры і Кацярыне.

Углядаюся ж ў фатаграфію паліцэйскую, і ў галаве закручваецца фабула іншая. Занадта, на бяду нашу, характэрная. Фабула, калі завязка канфлікту адметнай асобы са зненавідзеным ладам,— дзёрзкая; затым — самаахвярнасць, здзекі, пакуты; і нарэшце — развязка — падзяка пры ладзе новым, які мроіўся светлым і справядлівым, з якім лучыліся спадзяванні, і які паставіў кропку гулагаўскай куляй. Так усё і адбылося з Аляксандрай Ізмайловіч.

Малодшыя сёстры Пуліхава колісь мне расказвалі, што, вызваліўшыся пасля лютаўскай рэвалюцыі з катаргі, яна прыязджала ў Мінск. Яны памяталі яе ў сваім доме...

З надрукаванага ў газеце «Праўда» 25 снежня 1917 года паведамлення ведаю, што з групай іншых відных аднапартыйцаў уваходзіла яна, член ЦК партыі левых эсэраў, у склад паслякастрычніцкага савецкага ўрада — займала пасаду камісара ўпраўлення палацамі рэспублікі.

Ведаю з даваеннай Вялікай савецкай энцыклапедыі, што ў ліпені 1918-га прыняла яна актыўны ўдзел у выступленні левых эсэраў супраць учарашніх саюзнікаў-бальшавікоў, і што пасля разгрому выступлення была сасланая.

І здагадваюся, што далей выпадала

ёй воля адно між новымі арыштамі і ссылкамі. Выпадала нядоўгімі «аконцамі», як тады, калі апублікавала мемуары, ці калі з'явілася нататка пра яе ў энцыклапедыі. Адсюль, трэба думаць, мінорнае заканчэнне мемуараў: «у дадзены час у мяне няма ні аб'ектыўнай, ні суб'ектыўнай магчымасці працягваць пачатае»...

## 3

Успамінаецца: неўзабаве пасля таго, як на старонках «Літаратуры і мастацтва» было надрукавана напісанае мною пра Пуліхава, мне пазваніў Рыгор Бярозкін, выдатны наш крытык, і сказаў, што звоніць ад Аркадзя Куляшова. І што ў Аркадзя Аляксандравіча ёсць да мяне пытанне. Я, вядома, сумеўся — Куляшоў у маіх вачах быў асобай п'едэстальнай, і раней такога не здаралася, каб ён з нечым звяртаўся.

Пытанне ж ён задаў нечаканае, на тыя гады нават дзіўнае. Пацікавіўся, ці не спатыкаў я чаго, займаючыся Пуліхавым, пра Марыю Спірыдонаву, і калі спатыкаў, то што і дзе. Я пачаў гаварыць, як цяпер разумею, пра вонкавае — што вось там і там, напрыклад, трапляў на тое, чым Расію ў свой час скаланула: схопленую адразу ж, як Лужаноўскі ўпаў, няшчадна на месцы замаху збітую, дзяўчыну-тэрарыстку, жандары, у чыіх руках яна апынулася, у турме яшчэ і згвалцілі. Вестка пра гэта прасачылася ў друк, падонкамі ў жандарскіх мундзірах вымушана была заняцца пракуратура, але пакуль законнікі мерыліся, за сцерпленае таварышкай адплацілі яе аднаратнікі — абодвух жандараў прыстрэлілі.

Куляшоў за пачутае не ўхапіўся, сказаў, што з матэрыялам, які я назваў, знаёмы, ведае па тэме нашай гаворкі нямала і яшчэ, але будзе ўдзячны, калі я, напаўшы на што рарытэтнае, праз Бярозкіна перадам пра тое і яму. Вядома, я потым у Бярозкіна спытаўся, што ў нечаканай куляшоўскай цікавасці прычынай. Пачуў у адказ, што ў паэтавых задумах, падобна на тое,— паэма, навеяная лёсам Спірыдонавай.

Успамінаецца яшчэ: нешта пад канец сямідзесятых прыязджаў у Мінск японскі гісторык Харукі Ва́да. Прыязджаў, каб кінуць вокам на зямлю, дзе нарадзіўся Мікалай Судзілоўскі, беларус з фантастычнай жыццёвай дарогай — расійскі народнік, румынскі сацыяліст, актыўны ўдзельнік падрыхтоўкі антытурэцкага паўстання ў Балгарыі, аўтарытэтны ўрач у ЗША, прэзідэнт сената на Гаваях, рэвалюцыйны прапагандыст сярод палонных рускіх салдат у Японіі, асветнік і грамадскі дзеяч на Філіпінах і ў Кітаі. Прафесар Ва́да — аўтар двухтомнай манаграфіі пра Судзілоўскага, і колам яго знаёмых у Мінску стала найперш купка «судзілоўсказнаўцаў», тутэйшых людзей, якія што-колечы зрабілі, каб славуты наш зямляк не забываўся на радзіме. Трапіў у кола і я, таксама ж аддаў некалі даніну захаплення экзатычнай постаці змагара-вандроўніка — напісаў некалькі артыкулаў, невялікае апавяданне, п'есу для радыё, сцэнарый дакументальнага фільма.

І вось, калі мы паказвалі госцю горад, ён пачаў раптам распытваць пра Гершуні — ці не захаваўся які будынак, дзе той бываў? Аказваецца, японскі біёграф легендарнага нашага земляка ведае самую шырокую панараму грамадскай калатні ў Расіі на зыходзе дзевятнаццатага — золаку дваццатага стагоддзяў. І ўсім, што мае да яе дачыненне, цікавіцца. Аж да дэталяў. Я прывёў яго да камяніцы, дзе колькі дзесяцігоддзяў утульна мясцілася вельмі пашанотная тады ў мінчан бібліятэка імя Пушкіна,— Гершуні запрашаўся ў яе сцены як лектар, заседжваўся тут як чытач,— і рухавы, юначага выгляду такійскі навуковец забегаў вакол з фотаапаратам...

Нашто гэтыя згадкі? А хоць бы як доказ, што полымя рэвалюцыі распалена было не аднымі бальшавікамі. І не адных бальшавікоў трэба бачыць у барвовым яе полыху, не адны яны вартыя памяці.

Зазірніце ў Мінску ў велізарны Дзяржаўны музей БССР. (Дарэчы, заўсёды пацiскаю плячыма, чытаючы шыльду: што можа значыць гэтая назва? Якога характару і зместу музей — гістарычны, краязнаўчы, нацыянальнага развіцця?). У зале, што адлюстроўвае грамавітыя падзеі 1905—1906 гадоў, пашукайце не тое што іх партрэты, а хоць якое ўпамінанне пра зробленае Пуліхавым, Ізмайловіч, Лідзіяй Язерскай, якая, дарэчы, страляла ў губернатара ў Магілёве. Марна, не знойдзеце. Прынцып строгай аднапартыйнасці пакуль яшчэ распаўсюджваецца ў нас не толькі на сучаснасць, а і на мінулае. У агні перад-

кастрычніцкага рэвалюцыйнага змагання па-над Нёманам, Прыпяццю, Сожам, Дзвіной, аказваецца, не спапялялі сябе ні Беларуская сацыялістычная грамада, ні Бунд, ні іншыя паяднанні аднадумцаў — адна толькі партыя, дакладней нават, адно беспамылковае яе крыло.

Так сталася, што пры размове пра сацыялістаў-рэвалюцыянераў у школьных і студэнцкіх падручніках, у палітасветных брашурах, у іншых мільённатыражных выданнях імёны, якімі гэтая партыя ганарылася,— з шэрагу Каляева, Сазонава, Карповіча, Спірыдонавай, Гершуні, Праш'яна, Пуліхава, Ізмайловіч,— без энтузіязму называліся калі-нікалі. А вось ганьба партыі Азеф — заўсёды абавязкова, як самае для яе аблічча вызначальнае. І паспрабуй хто, скажы, што на гэткі манер і пра бальшавікоў першай генерацыі меркаваць можна не па лепшых з ленінскай гвардыі, а, скажам, па Маліноўскім, жандарскім найміце, які нават узначаліў бальшавіцкую дэпутацкую групу ў Дзяржаўнай думе.

Будзем з гісторыяй беражлівыя. З далячынь і недалячынь яе дакорліва глядзяць на нас героі, рыцары і пакутнікі, якіх нельга не шанаваць, нават не з усім, што яны спавядалі, згаджаючыся.

**Уладзімір МЕХАЎ**

# ЦІ БЫЛО ТАКОЕ ВЫДАННЕ?

## Даследчыцкі сюжэт з Багдановічам, Каліноўскім і бібліяграфічнымі рэбусамі

Супрацоўнікі БелСЭ, якія працуюць над энцыклапедычным даведнікам «Максім Багдановіч», папрасілі напісаць некалькі радкоў пра стаўленне выдатнага паэта да Каліноўскага — ці ведаў наш Максім пра Кастуся, што і дзе аб ім пісаў, што можна сказаць пра іхнія духоўныя сувязі і г. д. Прыйшлося задумацца над гэтымі пытаннямі і нават зрабіць сякія-такія дадатковыя расследаванні.

У агульным плане несумненна — гераічная барацьба, радыкальная ідэалогія, палымянае слова Кастуся Каліноўскага па сваёй сутнасці былі надзвычай блізкія дзеячам беларускага адраджэння пачатку XX стагоддзя, у тым ліку і Максіму Багдановічу. Аднак па шэрагу прычын (перарывістасць традыцый, аднабаковая на працягу доўгага часу трактоўка падзей 1863 года як паўстання выключна польскага, далёкага ад інтарэсаў беларускага народа) само імя вялікага Кастуся толькі паступова адкрывалася маладой беларускай інтэлігенцыяй. У «Нашай ніве» згадак пра Кастуся, здаецца, няма. Вялікую публікацыю, з адчуваннем маштабу дзейнасці Каліноўскага, яго нацыянальнай значнасці, прысвяціў яму ў 1916 годзе Вацлаў Ластоўскі ў «Гомане». Але яшчэ раней у артыкуле-даследаванні «Белорусское возрождение» праніклівы Багдановіч па сутнасці першы з нашаніўцаў прыгадаў Каліноўскага ў аспекце нацыянальна-культурнай гісторыі. Напомнім, што праца пісалася Багдановічам у ліпені 1914 года (якраз напярэдадні сусветнай вайны), у наступным годзе друкавалася ў маскоўскім часопісе «Украинская жизнь», былі і асобныя адбіткі (Масква, 1916). Цяпер нас цікавіць наступнае месца з яе, прачытаем гэтыя радкі ўважліва.

«Польские повстанцы 1863 г.,— адзначаў Багдановіч,— в свою очередь выпустили ряд изданий на белорусском языке. Таковы «Мужыцкая праўда», «Гутарка старога дзеда», «Перадсмертны разгавор пустэльніка Пятра» и т. д. К. Калиновский издавал в Белостоке даже белорусскую газетку «Hutarka» (стихотворную), подписываясь псевдонимом «Яська-гаспадар з-пад Вільні» (Багдановіч М. Збор твораў.— Мн., 1968. Т. 2. С. 227).

Звесткі Багдановіча яшчэ не ва ўсім дакладныя. «Беларускай газеткай» Каліноўскага была, вядома, найперш «Мужыцкая праўда», якая прыпісваецца тут па традыцыі нейкім неакрэсленым, безаблічным «польскім паўстанцам». Гэта не выключае і адзначанага Багда-

новічам хаця б ускоснага дачынення правадыра беларускай рэвалюцыйнай дэмакратыі і да іншых выданняў, скажам, да даволі радыкальнай вершаванай «Гутаркі двух суседаў», якая сапраўды выходзіла ў Беластоку (выйшла 4 нумары) і пераклікалася некаторымі важнымі прынцыповымі палажэннямі з «Мужыцкай праўдай». Як бы там не было, але сам факт звароту Багдановіча да імя Каліноўскага ў працы аб беларускім нацыянальна-культурным адраджэнні досыць паказальны. У гэтым сэнсе заслуга Багдановіча ў засваенні беларускай інтэлігенцыяй духоўнай спадчыны, традыцый Каліноўскага несумненная.

Паўстае пытанне, адкуль Багдановіч узяў гэтыя звесткі. Якімі наогул матэрыяламі карыстаўся засяроджаны ў сваім высокім прызванні яраслаўскі ліцэіст, калі са шчымлівай любоўю да далёкай бацькаўшчыны, з душэўным клопатам аб яе будучыні рыхтаваў свой гістарычны нарыс адраджэння роднай культуры, у першую чаргу роднай літаратуры? Па сутнасці гэта першы зводны курс гісторыі беларускага пісьменства. «Гісторыя» яго магутнага цёзкі Максіма Гарэцкага выйдзе ў 1920 годзе, найбольш важны з гэтага пункта погляду, завяршальны выпуск «Беларусаў» Карскага з'явіцца ў 1922 годзе. Праўда, у 1903 годзе, у першым томе «Беларусаў», Карскі даў беглую зводку літаратурна-лінгвістычных крыніц за ўвесь перыяд існавання нашага пісьменства, коратка прыгадаў там і «Мужыцкую праўду» (не раскрываючы аўтарства), але ацаніў яе ў афіцыёзным духу («Прокламация написана очень зло»).

Што яшчэ ляжала на рабочым стале вялікага працаўніка Максіма? Багдановіч перачытаў, несумненна, «Живописную Россию» (том, прысвечаны Беларусі), ведаў артыкул Ластоўскага «Памажыця!» («Наша ніва», 1913) пра пісьменнікаў XIX стагоддзя, іншыя гісторыка-літаратурныя публікацыі «Нашай нівы», працы Р. Зямкевіча, але пра Каліноўскага там нічога не было. На чым жа ён грунтаваўся ў дадзеным выпадку? Удаецца адшукаць даволі блізкую крыніцу — кнігу польскага сацыяліста (дзеяча ППС) Л. Васілеўскага (1870—1936) «Літва і Беларусь», якая выйшла ў Кракаве ў 1912 годзе. Прагрэсіўны публіцыст і гісторык, Васілеўскі, нягледзячы на зразумелую ў цэлым тэндэнцыю да перабольшання польскіх уплываў на культуру беларускага і літоўскага народаў, здолеў прывесці ў сваёй кнізе шэраг аб'ектыўных звестак з гісторыі беларускага нацыянальна-культурнага руху, адзначыў арыгінальнасць таленту Я. Купалы і Я. Коласа, паспрабаваў у кароткай форме акрэсліць іх творчыя індывідуальнасці, высока ацаніў «Нашу ніву», у прыватнасці, за яе надзіва далікатныя адносіны да іншых народаў і цесную сувязь з працоўнымі масамі.

Якраз у Васілеўскага на старонцы 274 і знаходзім шуканыя радочкі, якія можна, бадай што, беспамылкова суаднесці з прыведзеным фрагментам Багдановіча. Вось яны (у перакладзе з польскай):

«Пачатак 7-га дзесяцігоддзя прынёс новую з'яву — агітацыйную палітычную літаратуру на беларускай мове. З'яўляюцца адозвы і брашуры («Мужыцкая праўда», «Гутарка старога дзеда», «Добрыя весці», «Перадсмертны разгавор пустэльніка Пятра»), вытрыманыя ў антыўрадавым і антырускім друку. Выходзіць беларускае вершаванае перыядычнае выданне [pisemko] «Hutorka», якая выдавалася ў Беластоку Канстанцінам Каліноўскім (што ўжываў псеўданім «Яська гаспадар з-пад Вільні»). Пашыраліся песні аналагічнай тэндэнцыі».

Адпаведнасць, можна сказаць, поўная. Здаецца, Багдановіч ці не цалкам перанёс гэты фрагмент у сваю працу, надаўшы яму сваю рэдакцыю. Зразумела ж, ён уставіў гэтыя звесткі ў высокую раму сваёй патрыятычнай канцэпцыі, свайго праніклівага бачання нацыянальнай гісторыі. Можна было б яшчэ думаць, што ў Багдановіча і Васілеўскага ёсць нейкая агульная крыніца, але вядома, што наш паэт уважліва чытаў кніжку Васілеўскага, нават вывучаў з яе дапамогай польскую мову.

Звесткі пра гэта захаваліся ў перапісцы.

23 мая 1914 года (успомнім — у ліпені ён будзе працаваць над артыкулам «Белорусское возрождение») Багдановіч пісаў з Яраслаўля ў рэдакцыю «Нашай нівы» (відаць, Вацлаву Ластоўскаму — так можна расшыфраваць абсечаны ўкладальнікамі Збору твораў зварот «Пане В.!» — яшчэ зусім нядаўна імя гэтага выдатнага працаўніка беларускай культуры было пад забаронай), дык вось Багдановіч пісаў: «Скончыўшы вясеннія экзамены, адразу хачу прыступіць да свайго даўняга жадання,— а ўласна хачу вывучыць польскую мову. Дзеля таго

надашліце мне накладной платай вось якія кнігі: 1) Leon Wasilewski. «Litwa i Białoruś», 2) Слоўнік польска-рускі, не надта вялікі, па вашаму выбару. Па Васілеўскаму я і хачу вучыцца, Маю надзею, што за лета здолею такі яго прачытаць» (Багдановіч М. Зб. тв., Т. 2. С. 508—509).

Чаму для практыкаванняў у польскай мове Багдановіч выбраў менавіта кніжку Васілеўскага, якая мела падзагаловак «Мінуўшчына — сучаснасць — тэндэнцыі развіцця» і побач з грунтоўнымі беларусазнаўчымі працамі Карскага, Нікіфароўскага, Раманава, Сержпутоўскага прыхільна рэкламавалася тагачаснай беларускай прэсай, няцяжка здагадацца: паэта надзвычай цікавіла ўсё звязанае з культурным рухам і гісторыяй яго радзімы — можна ўявіць, колькі трапяткіх водгаласаў — дзе станоўчых, удзячных, а дзе і больш стрыманых, а то і крытычных — знайшла пры павольным, удумлівым чытанні гэта кніжка ў душы нашага Максіма.

Дык вось за канікулы 1914 года Багдановіч не толькі адужаў польскую мову, не толькі прачытаў даволі ёмістую, насычаную разнастайным матэрыялам кніжку Васілеўскага, як было абяцана ў цытаваным пісьме, але і напісаў (прынамсі завяршыў) выдатную, наватарскую працу аб культурным адраджэнні свайго народа. Тыя адзначаныя намі вышэй недакладнасці ў тэксце Багдановіча трэба аднесці на рахунак Васілеўскага. Ды, калі разабрацца, што можна было патрабаваць ад папулярных па сутнасці прац Багдановіча і Васілеўскага? Трэба ўлічыць таксама, што гісторыя беларускіх агітацыйных выданняў 1860-х гадоў была тады яшчэ зусім не распрацаваная — з гэтым блыталіся нават спецыялісты, якія сабаку з'елі на гісторыі паўстання 1863 года.

На гэтым можна было б і скончыць нашы нататкі, але нядаўна сюжэт гэты атрымаў свой арыгінальны працяг.

У 1986 годзе выйшла з друку выдатная абагульняльная праца нашых бібліёграфаў і кнігазнаўцаў — зводны рэтраспектыўны каталог «Кніга Беларусі: 1517—1917». З зайздроснай скрупулёзнасцю спецыялісты зафіксавалі ў ім усе вядомыя навуцы друкаваныя выданні на беларускай мове (таксама і на рускай, калі яны выходзілі на Беларусі) ад таго самага часу, як славуты палачанін Скарына запусціў у Празе свой першы друкарскі станок, ажно да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Улічана літаральна ўсё — кожная кніга, найменшая брашура, лістоўка, газета, кожны часопіс, зборнік, альманах. Прыкрыя пропускі звязаны галоўным чынам з нядаўнімі занадта строгімі патрабаваннямі Галоўліта. Але здараюцца, наадварот, і «мёртвыя душы»— бібліяграфічныя апісанні, за якімі не стаіць рэальнай друкаванай прадукцыі.

Пад № 432 тут апісана наступная бібліяграфічная пазіцыя:

Hutorka. [Газета вершам. Падпольнае выданне К. Каліноўскага]. Biełastok, 1863—1864 гг. (?)

Падпісана: «Jaśko Haspadar z pad Wilni».

І далей спасылка на адпаведнае месца ўжо знаёмай нам працы Багдановіча «Белорусское возрождение». І яшчэ адна спасылка, якая гучыць так: «У кнізе Ігнатоўскага У. «Гісторыя Беларусі XIX—XX ст.» (Мн., 1926) на 122 старонцы змешчаны фотаздымак гэтай газеты».

Вось і ўсё. Звычайна бібліёграфы больш падрабязна апісваюць выданне, прынамсі, указваюць, дзе яго можна паглядзець у натуры. А тут толькі спасылкі на працы, у якіх гэта выданне згадваецца.

Мяне гэта паведамленне каталога надзвычай зацікавіла, бо такога выдання я не ведаў, хоць у свой час давялося падняць мноства самых разнастайных матэрыялаў, звязаных з Каліноўскім і ягоным паўстаннем.

Можа, падумалася, маецца на ўвазе «Гутарка двух суседаў»? Не — яна апісана ў каталогу (і апісана вельмі грунтоўна) крыху вышэй — пад № 431. Ды «Гутарка двух суседаў» ніколі псеўданімам «Яська-гаспадар» не пазначалася і выходзіла напярэдадні, а не ў перыяд паўстання.

Трэба зірнуць ва ўказаныя ўкладальнікамі каталога крыніцы. Як выглядае справа з артыкулам Багдановіча, нам ужо вядома. Знаходзім надзвычай папулярную ў свой час кнігу Ігнатоўскага (што, як ні дзіўна, цяпер нялёгка зрабіць — яе няма нават у даволі багатай Цэнтральнай навуковай бібліятэцы нашай Акадэміі, першым прэзідэнтам якой быў Ігнатоўскі) і адкрываем на старонцы 122. Факсіміле «Гутаркі» ў поўным сэнсе, як уяўлялася, там няма, а ёсць агульны здымак пад назвай «Нелегальныя газеты ў 1863—64 гг. (Беларуская

газета «Hutarka» — «Гутарка»)». На ім пара дзесяткаў падпольных лісткоў і газет таго часу, згрупіраваных, магчыма, на нейкім стэндзе. Найбольш на польскай мове. Чытаюцца назвы: «Неподлеглосьць», «Напшуд!», «Дзеннік народовы», «Глос з Літвы», «Рух», «Правда», «Ойчызна», «Польска» і інш. (некаторыя назвы неразборлівыя). Сярод іх вытыркаецца брашурка з надрукаванай зверху назвай: паўкругам буйнымі літарамі «HUTORKA» і ніжэй яшчэ гарызантальны радок з двух слоў, якія на дробнамаштабным здымку нельга прачытаць. Але па размяшчэнні шрыфтоў я ведаю, што так (невялікай брашуркай) афармлялася «Гутарка двух суседаў». Яе першы нумар мне давялося ўласнаручна скапіраваць у аспіранцкія гады ў Маскве (тады гэта быў Цэнтральны гістарычны архіў СССР, цяпер Цэнтральны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі, фонд III аддзялення, 1 экспедыцыя, 1861 г, спр. 531, лл. 2—3). Я нават спецыяльна старанна перамалёўваў тады ў свой сшытак адмысловае размяшчэнне шрыфтоў у загалоўку, якое мяне чамусьці зацікавіла. Ды, зрэшты, факсіміле першай старонкі (з загалоўкам) гэтай «Гутаркі» надрукавана ў кнізе «Падпольная прэса 1861—1864 гг.» (частка 1-я), якая выйшла ў Польшчы ў 1966 годзе (з вядомай сумеснай савецка-польскай юбілейнай дакументальнай серыі «Паўстанне 1863 года. Матэрыялы і дакументы»). І кожны пры жаданні можа пераканацца, што размяшчэнне шрыфтоў тут абсалютна такое ж, як і на здымку ў кнізе Ігнатоўскага. Тое ж самае клішэ для загалоўка (у слове «Hutorka» вуглавата абсечанае «О») ужывалася неаднаразова. Яго выразна відаць на фотакопіі трэцяга нумара «Гутаркі двух суседаў», якая ёсць у мяне (арыгінал — у ЦДГА ЛітССР, ф. 378, Паліт. аддз., 1863 г., спр. 1027, лл. 8—9).

Такім чынам, хочаш не хочаш, трэба прызнаць — на здымку ў кнізе Ігнатоўскага пададзена добра вядомая «Гутарка двух суседаў». Трэба думаць, што гэтую «Гутарку» меў на ўвазе Васілеўскі (і ўслед за ім Багдановіч), бо ніякай іншай вершаванай «Гутаркі», якая выходзіла б як перыядычнае выданне асобнымі нумараванымі выпускамі, не было. (Вядомая «Гутарка старога дзеда» не мела працягу і слушна падаецца ўкладальнікамі каталога ў раздзеле кніг, а не перыядычных выданняў).

Паказальна, што бібліёграф 20-х гадоў Юлія Іосіфаўна Бібіла, якая, безумоўна, выдатна ведала кнігу Ігнатоўскага, падала ў сваёй бібліяграфіі беларускіх выданняў «Гутарку двух суседаў» (тады, дарэчы, былі вядомыя толькі тры яе нумары), а проста «Гутарка» ёй не пададзена.

Укладальнікі каталога 1968 года зрабілі інакш, але ці ёсць гэта крок наперад? Уключэнне ўяўнай «Гутаркі» (побач з «Гутаркай двух суседаў») у каталог рэальных выданняў наўрад ці можна лічыць апраўданым. Пры перавыданні каталога гэтую пазіцыю трэба выключыць.

...Вось такое нечаканае бібліяграфічнае расследаванне вырасла з даручэння энцыклапедыстаў напісаць некалькі радкоў пра адносіны Багдановіча да Каліноўскага.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ**





# ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ З ГАЛЬШАН

У 1985 г. намі было пачата архітэктурна-археалагічнае вывучэнне францысканскага кляштара XVII—XVIII ст.ст. у Гальшанах, якое з перапынкамі працягвалася да 1990 г. Тады мы не думалі, што ў будучым давядзецца перажыць не адно хвалюючае імгненне, звязанае з адкрыццём новых, часам унікальных матэрыялаў.

Высветлілася, што сучасны помнік пабудаваны на месцы раней існаваўшага касцёла. Унутры двара кляштара прасочаны падмуркі галерэі, якая злучала яго ўсходні і заходнія карпусы. На паўднёва-ўсходнім куце адкапаны рэшткі дзвюх вежаў. Сабрана шмат фрагментаў кафлі, дахоўкі, плітак падлогі, керамічнага і шклянога посуду XVII—XVIII ст.ст.

Аднак самыя цікавыя знаходкі нас чакалі летам 1990 г. Унутры касцёла ў трох шурфах выяўлены фрагменты фрэсак, а ў двары кляштара чатыры кавалкі скульптур з алебастру. Па інвентарных вопісах XVII ст. такія скульптуры ўпрыгожвалі капліцу Сапегаў, што была ў касцёле. Вядомы беларускі даследчык Н. Ф. Высоцкая, якая агледзела гэтыя знаходкі, датуе іх XVI—XVII ст.ст. У сутарэннях касцёла расчышчаны архітэктурныя дэталі надмагілля Сапегаў XVII ст., выкананыя з шэра-ружовага мармуру. Гэтыя матэрыялы папоўнілі экспазіцыю філіяла Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у Гальшанах.

**Алесь КУШНЯРЭВІЧ,**
**Уладзімір МАСКАЛЕЎ.**



# ГАРАДСКОЕ ЎПАРАДКАВАННЕ БЕЛАРУСІ Ў ЛЮСТЭРКУ УРБАНАНІМІІ

Гісторыю гарадоў Беларусі даследуюць многія вучоныя — і беларускія, і замежныя. Навуковых прац шмат, не менш у іх і супярэчлівых трактовак і ўяўленняў пра шляхі ўзнікнення, рысы і ўзроўні сацыяльна-эканамічнага жыцця нашых гарадоў.

Беларусі, Літве адмаўлялася нават у магчымасці стварэння гарадоў. Гарады тут, нібыта, узніклі не ў выніку эканамічнага развіцця, а дзякуючы рэцэптам нямецкага права,— сцвярджаў польскі даследчык Ст. Кутшэба ў 1921 г. Падтакваў яму ў 1931 г. І. Яворскі, які лічыў, што да прывілей на магдэбургскае права ў гарадах Вялікага княства Літоўскага не было ні спецыфічнага гарадскога права, ні элементаў самакіравання.

Абвяргаючы вывады названых аўтараў, З. Капыскі, шкадуючы аб беднасці матэрыялаў па ранняй палітычнай гісторыі беларускага горада, гаворыць: «Адзіная крыніца аб самакіраванні ў гарадах Беларусі «дамагдэбургскага» часу — даныя Полацка. Пра іншыя гарады сведчанні не захаваліся, не лічачы асобных даволі кароткіх упамінанняў».

У гэтай сувязі асаблівую значнасць набываюць даныя урбананіміі — унутрыгарадскіх назваў старажытных беларускіх гарадоў, якія даюць магчымасць атрымаць сведчанні не толькі пра значныя аб'екты, рэльеф гарадоў, іх тапаграфію, пра гаспадарчае, гандлёвае, сацыяльнае жыццё, але і пра асаблівасці гарадскога кіравання.

Пра тое, што некаторыя беларускія гарады ў «дамагдэбургскі» час ведалі вечавую арганізацыю гарадскога самакіравання, сведчаць унутрыгарадскія назвы з тэрмінам «канец», якія захоўваліся да XIX ст. Менавіта на «канцы» падзяляліся тэрыторыі гарадоў.

Так, у дакументах 1560 г., якія тычацца горада Магілёва, два разы ўпамінаецца слова «канец»: «Курденевский конец за паркаломъ мескимъ, подле водотечы» і «Комлев конец за рекой Дубровной».

І ў рахунках фурмана Магілёва за 1698 г. знаходзім гэтае важнае слова: «Реестръ платы фурманомъ, которые цеглы возили зъ Путятиного дому и зъ Папина конца».

Поўны спіс «канцоў» гэтага горада нам знайсці не ўдалося. Але калі цяжка сказаць, колькі «канцоў» было ў Магілёве, то колькасць «соцень» вядома дзякуючы тром дакументам. Першы з іх — інвентар горада за 1604 г., дзе пералічаны пятнаццаць «соцень».

Пра федэратыўны лад гарадскога жыцця Магілёва сведчыць і тое, што ў сярэдзіне XVII ст. пасольства ад горада складалася з прадстаўнікоў усіх 15-ці «соцень», назваў якіх, аднак, у дакуменце 1654 г. прыводзіцца 16: напэўна, назва Пакроўскай сотні з'яўлялася варыянтам наймення нейкай іншай сотні: Луполовская, Зарецкая, Папинская, Косковская, Трисницкая, Выгонская, Доброcоловская, Летковская, Острожская, Нагорская, Курденевская, Перехрестинская, Покровская, Гривлянская, Слободская, Беретская (назвы падаюцца ў арфаграфіі арыгінала).

«Выбиранне попрутщизны» нават у канцы XVII ст., у 1698 г., таксама ажыццяўлялася па «сотнях».

Яшчэ адзін беларускі горад, Брэст (Бярэсце), мабыць, таксама ведаў у нейкай меры канчанскае дзяленне. Такое меркаванне грунтуецца на «Продажной крепости от старосты и прихожан Воскресенской церкви в г. Берестье дворянину Андрею Шуйскому на землю», якая датуецца 1637 г., дзе ўпамінаецца пра Мікулінскі канец: «...dobrowolnie zeznali, iż maiąc oni grunt cerkiewny,... leżący w miesciu Brzesciu, w koncie Mikulińskim...»

З дакументаў сярэдзіны XVI ст. вядомы Татарскі канец у Мінску (Менску), назва якога аказалася вельмі жывучай і праіснавала амаль да XIX ст. Так, у інвентары старастваў і дзяржаў Мінскага ваяводства 1765 г., які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Літоўскай ССР, пры пераліку юрыздык у горадзе называецца Татарскі канец: «Juryzdyczanie w Tatarskim koncu».

Даследуючы гісторыю старажытных гарадоў, шмат якія вучоныя (А. В. Арцыхоўскі, М. Х. Аляшкоўскі, Л. А. Фа-

дзееў, М. Г. Рабіновіч і інш.) звярталіся да пытання пра паходжанне і ролю сістэмы гарадскіх канцоў, якія існавалі не толькі ў Ноўгарадзе і Пскове, але і ў Русе, Ладазе, Растове Вялікім, Смаленску, Серпухаве, Маскве, Вялікім Усцюзе, Цвяры, Ніжнім Ноўгарадзе, Туле, а таксама, як сведчаць даныя урбанамічнага матэрыялу, і ў гарадах «заходнерускага краю».

Яшчэ ў 1945 г. А. В. Арцыхоўскі выказаў меркаванне, што аналагічны лад (канчанскі) мелі і заходнеславянскія гарады, напрыклад, Шчэцін, які, «відавочна, дзяліўся на канцы, і іх было чатыры».

Магчыма, ведаў канчанскае дзяленне і Ліпск, пры апісанні якога ў інвентары Гродзенскай эканоміі, складзеным у 1708—1712 гг., зарэгістравана вуліца Канцовая (Ulica Koncowa — ЦДГА Літвы, ф. ДА, адз. з 11290), якая была сёмым па велічыні лінейным аб'ектам горада: на ёй налічвалася 95 з паловай пляцаў.

Своеасаблівым сведчаннем існаваўшага некалі самакіравання ў Давыдгарадку, помнікам абшчыннага савета можна лічыць назву вуліцы Радзішча (Радище) або Радзічы (Радичи), якая функцыянавала ў гэтым горадзе ў сярэдзіне XIX ст. У адпаведнасці з назіраннямі П. Шпілеўскага, які ў гэты час вандраваў па «заходнерускім краі», вуліца атрымала найменне ад раднай хаты (радной избы), дзе збіраліся выбарныя мяшчане для вырашэння мястэчковых спраў.

Сярод унутрыгарадскіх назваў звяртаюць на сябе ўвагу вуліцы 1-я Воля, 2-я Воля, 3-я Воля, якія ёсць у Магілёве. Як з боку структуры, так і з боку семантыкі гэтыя назвы займаюць асобнае месца сярод іншых адзінак сучаснага урбананімікона (зводу ўнутрыгарадскіх назваў). Яны не маюць да сябе падобных ні ў адным з гарадоў рэспублікі.

Што датычыць слова «воля», то ў наш час яно ўспрымаецца як слова з абстрактна-сімвалічным значэннем. Невялікі экскурс у дыяхранію паказвае, што ў старажытнай áктавай мове слова воля мела іншае значэнне — «дазваленне або права, дадзенае вотчыннікам свабоднаму чалавеку карыстацца якой-небудзь часткаю ворнай зямлі на вызначаны тэрмін». Н. Гарбачэўскі ў «Слоўніку старажытнай актавай мовы Паўночна-заходняга краю і Царства Польскага» (Вільна, 1874 г.) падкрэсліваў, што ў XIX ст. «яшчэ сустракаюцца назвы невялічкіх пазямельных уладанняў пад імёнамі — волі, волькі, воліцы». Так, у 29-м артыкуле IX раздзела Статута Літоўскага чытаем: «Уставуемъ, коли бы человекъ вольный пришолъ за котораго князя або пана и за земенина и селъ на воли, а выседевши волю, або и не выседевши до конца, хотелъ за се прочъ пойти, тогды первей маеть заслужити тому пану своему только, колько на воли сиделъ. А естли бы не хотелъ заслужити, тогды маетъ пенези заплатити за каждую неделю по шести грошей».

З цягам часу апелятыў «воля» анімізаваўся і пачаў выкарыстоўвацца ў якасці ўласнага імя лінейнага аб'екта. Айконімы з назвай Воля былі даволі частымі на заходніх тэрыторыях Беларусі. Напрыклад, у адным з дакументаў, датаваным 1601 г., знаходзім: «...до дороги, идучое зъ Воли пана Илиничовы до Каменца...» Мястэчка Воля, якое было прыватнай уласнасцю, зарэгістравана ў XIX ст. у Гродзенскім павеце. У Гродзенскім павеце былі таксама вёскі (сёлы) Жыльвіцкая Воля і Новая Воля. Вёска Кухоцкая-Воля і мястэчка Святая-Воля ўнесены ў спіс населеных месцаў Пінскага павета пры апісанні ў 1890 г. валасцей і гмін Мінскай губерні.

Яшчэ пра адну форму самакіравання ў горадзе расказвае ўнутрыгарадская назва — вуліца Збарова (улица Зборова),— якая існавала ў Мінску да XIX ст. Самая ранняя фіксацыя яе, паводле даных рукапіснага аддзела бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР (ф. ERS, дак. 232), адносіцца да 1583 г. Назву сваю вуліца атрымала ад збаровай хаты, якая знаходзілася на ёй, месца сходаў «збора» — самакіравальнай абшчыны яўрэяў, якія групаваліся вакол сваіх сінагог і могілкаў. Члены «збору» выбіралі сваіх старшынь, якія пад кіраўніцтвам доктара (рабіна) складалі калегію. Больш падрабязна пра гэта напісана М. К. Любаўскім у «Нарысе гісторыі Літоўска-Рускай дзяржавы да Люблінскай уніі ўключна» (1910 г.).

Такім чынам, вывучэнне ўнутрыгарадскіх назваў Беларусі дае шмат каштоўнай гістарычнай інфармацыі, якая вельмі часта не засведчана якімі-небудзь іншымі крыніцамі.

**Ганна МЕЗЕНКА**



**Сучасны рух Беларусі да суверэнітэту, да адбудовы дзяржаўнасці абуджае натуральную цікавасць да старабеларускае палітычнае, філасофскае, праўнае думкі. Постаць жа Канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі — дзяржаўнага дзеяча, выдатнага юрыста, укладальніка Статута Вялікага Княства,— нягледзячы на еўрапейскую маштабнасць здзейсненага гэтым чалавекам, дагэтуль шырока не вядомая. Прапануем увазе чытача адзіны ў беларускай гісторыяграфіі грунтоўны манаграфічны нарыс пра Льва Сапегу. Ён апублікаваны ў Гадавіку Беларускага Навуковага Таварыства (кн. 1, Вільня, 1933) і выйшаў асобным адбіткам. Назва арыгіналу — «У трохсотныя ўгодкі сьмерці Вялікага Канцлера Льва Сапегі». Тэкст друкуецца паводле арыгіналу.**

**М. ШКЯЛЁНАК**

# ЛЕЎ САПЕГА

...Аб Сапезе захавалася да нашых радзён вельмі многа аўтэнтычных дакумэнтаў, на падставе каторых асабістасьць яго можна зусім выразна схарактэрызаваць, дэфінітыўна азначыць яго нацыянальнасьць і культурную прыналежнасьць. Між іншым, у гэтым артыкуле аўтар карыстаўся ў вялікай меры пісьмамі Льва Сапегі да віленскага ваяводы Крыштофа Радзівілла. Пісьмы гэтыя, выдадзеныя ў VIII томе збору «Scriptores rerum polonicarum», маюць вялікую вагу дзеля пазнаньня асабістасьці Сапегі і прадстаўляюць гісторычны матэрыял першараднае вагі, бо, як слушна сказаў прадмоўца да ўспомненага збору, пісьмы вялікіх людзей эпохі Сапегі мелі шмат вялікшае значэньне, чым звычайная карэспандэнцыя. Яны былі свайго роду артыкуламі, у якіх даная асоба выказвала свае пагляды і давала рады па розным пытаньням дня. Пісьмы Сапегі, атрымліваныя Крыштофам Радзівіллам, датаго-ж ставаліся ведамымі і шырэйшаму агулу шляхты пры радзівіллаўскім двары, комэнтаваліся, выклікалі дыскусію і ў выніку крысталізавалі публічную думку. А зьмест пісем Сапегі асабліва цікаўны і вельмі добра характэрызуе Вялікага Канцлера, як абаронцу правоў Вялікага Князьства і панаваўшае ў ім беларускае культуры. Апрача таго, пісьмы гэтыя падаюць запраўдныя матывы паступаньня Сапегі ў розных важных справах. Гэтыя ўкрытыя матывы маюць далёка большае значэньне, чым штучна прыдумываныя пры афіцыяльных выступленьнях.

Леў Сапега жыў у эпоху, каторая ў гісторыі Беларусі можа быць названа эпохай рэфармацыі і познага гуманізму. Аднак, ня глядзячы на вялікі ўздым культурнага жыцьця, эпоха Сапегі мела ўжо ўсе зачаткі палітычнага і культурнага заняпаду. Асабліва вялікай заслугай Сапегі зьяўляецца іменна тое, што ён адзін ясна бачыў гэтыя прычыны заняпаду, пе-

расьцерагаў перад імі свае грамадзянства і, як мог, стараўся іх паралiжаваць.

Каб адзначыць трохсотлецьце сьмерці Льва Сапегі і даць запраўдны абраз гэтае нязвычайнае адзінкі, пяройдземо да агляду жыцьця і працы Вялiкага Канцлера.

Сапегі — вельмі стары беларускі род, які быў у далёкай кроўнай сувязі з Гедымінавічамі і згуляў даволі важную ролю ў гісторыі беларускіх зямель ужо да XV стагодзьдзя. Паводле дакумэнтаў Мэтрыкі Вялікага Князьства Літоўскага, калыскай роду Сапегаў была Смаленшчына. Продкі Сапегі былі праваслаўнае веры, аб чым сьведчаць іх імёны: Семенъ, Иванъ (Ивашка), Богданъ, Глеб і другія. Род Сапегаў быў, аднак, бедны, і Леў першы залажыў асновы яго пазьнейшае вялікасьці і магутнасьці. Бацькамі Льва былі: Іван Іванавіч Сапега, стараста дарагічынскі і ваявода падляскі (пам. 1580 г.) і княгіня Багдася Друцкая-Сакалінская (пам. 1584 г.). Радзіўся Сапега ў 1557 г. ў двары Астраўку і меў двух братоў: Грыгора, падкаморага аршанскага (пам. 1600 г.), і Андрэя, які быў перш аршанскім старастам, пасьля віцебскім кашталянам і мсьціслаўскім ваяводам (пам. 1611 г.). Акром братоў меў тры сястры.

Ідучы за тагачасным звычаем, бацькі аддалі свайго сына яшчэ колькігадовым хлапчуком на нясьвежскі двор вялікага магната Мікалая Радзівілла Чорнага, славутага апякуна беларускіх кальвіністаў. Тутака, у атмасфэры рэлігійных навінак, малады Леў хутка пакінуў старую рэлігію сваіх продкаў і прыняў кальвінства. Толеранцыя, якая панавала на нясьвежскім двары і ў якой гадаваўся Сапега, заклала ў яго душу глыбокія асновы рэлігійнае вольнасьці і не дала яму стацца, як гэта часта тады здаралася, фанатыкам свае веры. Князю Мікалаю Радзівіллу Чорнаму Сапега спадабаўся адразу сваімі здольнасьцямі, спрытам і глыбокай любоўю да свайго краю. Пазнаўшы маладога хлапца з найлепшага боку, Мікалай Радзівілл паслаў яго яшчэ трынаццацігадовым хлапцом на слаўны ў той час унівэрсытэт у Лейпцыгу. Тамака Леў, разам з сынамі Радзівілла, пільна студыяваў юрыдычныя навукі, клясыкаў і філёзофію, пазнаваў нямецкае жыцьцё і адначасова паглыбляў сваю веду аб уласнай бацькаўшчыне. Знаёмства з рэлігійнымі адносінамі на Захадзе яшчэ больш узмоцніла ў ім рэлігійную цярпімасьць.

Па сканчэньні навукі ў Лейпцыгу Сапега быў добра падгатаваным палітыкам, дыплёматам і выказваў шырокую і ўсебаковую эдукаванасьць. Вярнуўшыся з Нямеччыны, ён задзівіў Сьцяпана Батуру [1], перад якім бараніў справу свайго бацькі, дасканалай знаёмасьцю лацінскае мовы і — не бяз рады сваіх апякуноў Радзівіллаў — астаўся пры двары, каб сьцерагчы інтарэсы Вялікага Князьства. У 1580 г., на 23 годзе жыцьця, Сапега абняў урад сэкрэтара Вялікага Князьства.

Ня лёгка прыходзілася маладому Льву на новым становішчы і ў новым асяродзьдзі. З аднаго боку ня было для яго тайніцай, што польскія ўплывы штораз глыбей уразаліся ў жыцьцё беларускіх магнатаў і шляхты, а з другога — ён адразу спасьцярог, што Карона ўсялякімі спосабамі імкнулася да пэўнае гэгемоніі над Вялікім Князьствам Літоўскім, пагражаючы зьнішчэньнем навет тых правоў, каторыя мела Князьства пасьля вуніі 1569 г. Кіруючыся любоўю да ўласнае айчыны — з аднаго боку, а з другога — разумеючы магутнасьць радзівіллаўскага дому і бачучы ў ім адзіную рэальную сілу, на якой мог-бы апірацца ў барацьбе за інтарэсы Князьства, Сапега адразу ўявіў тую вялікую небясьпеку для яго айчыны, якая-б паўстала ў прыпадку цеснага паразуменьня Радзівілаў з каралём, і таму — з вялікім спрытам ня толькі выкарыстоўваў і паглыбляў спрэчкі і непаразуменьні між імі, але стараўся няраз сам іх тварыць. Праз увесь час пабыту пры двары Сьцяпана Батуры і Жыгімонта III Сапега падтрымліваў цесную лучнасьць з Радзівіламі, часта да іх прыязджаў і пісаў шмат лістоў, у якіх скардзіўся на крыўды, робленыя Вялікаму Князьству, абгаварваў сродкі абароны і парушаў [2] нагул унутраныя справы Князьства.

**Распачатая з вялікім князем маскоўскім Іванам Грозным вайна дала магчымасьць Льву Сапезе адзначыцца**

[1] Беларуская форма імя Стэфана Баторыя (1533—1586), караля Польскага, вялікага князя Літоўскага.— **Рэд.**

[2] Закранаў.— **Рэд.**

Ціснены на скуры кніжны знак Льва Сапегі (каля 1600 г.). Літары L, S, M, D, L, C абазначаюць: Leo Sapieha Magni Ducatus Lituaniae Cancellarius (лац.: Леў Сапега, канцлер Вялікага княства Літоўскага). У коле — надпіс FRVSTRA VIVIT QVI NEMINI PRODEST (лац.: Марна жыве той, хто нікому не дапамагае). У шчыце — герб Сапегаў Ліс.




Палац Сапегаў у Вільні XVI ст. Фота А. Кунчуса

на ваенным і дыплёматычным полі. Сфармаваўшы на свой кошт гусарскі полк, ён зьвярнуў на сябе ўвагу ў бітвах пры Завалаччы, Вялікіх Луках і аблозе Пскова. Па сканчэньні вайны Сапега едзе на чале пасольства ў Маскву, куды ў тэй жа ролі езьдзілі раней дзядзькі яго — віцебскі ваявода Мікалай і менскі Андрэй. Сапега не застаў ужо жывым Грознага і з яго наступнікам Хведарам Іванавічам падпісаў умову згоды на 10 гадоў, паводле якой Масква атрымала Смаленшчыну, але з'абавязалася вярнуць Полаччыну, Вяліжскую і Інфлянцкую землі. Гэта быў першы дыплёматычны выступ Сапегі і пры гэтым вельмі ўдалы. Папераджаючы бег выпадкаў, трэба заценіць, што праз 16 гадоў, паіменна ў 1600 г., ужо пры цары Барысе Гадунове, Сапега ізноў езьдзіў з пасольствам у Маскву і падпісаў з ёй умову аб міры на 20 гадоў.

Вярнуўшыся з першага пасольства, Сапега атрымаў урад падканцлера Вялікага Княства, а ў 1586 г. абшырнае слонімскае староства, як бы нагароду за пакінутыя ў Смаленшчыне маемасьці яго продкаў. Галоўная пара дзейнасьці яго наагул прыпадае на часы пасьля Люблінскае вуніі 1569 г., каторая на даўжэйшы час устабілізавала адносіны між Вялікім Княствам Літоўскім і Каронаю. І хоць з праўнага гледзішча становішча абедзьвюх частак супольнае Рэчы паспалітае было роўнае, аднак, дзякуючы фактычнай перавазе Кароны над Вялікім Княствам, узьнімалася небясьпека поўнага пераходу кіраўніцтва да Кароны. Адносіны Сапегі да вуніі былі заўсёды ад'емныя. Ён добра разумеў небясьпеку перавагі Кароны і, прымушаны сілаю факту лічыцца з новым палажэньнем свайго краю, пастанавіў не дапусьціць да гэгемоніі Кароны і гэткім чынам абараніць раўнапраўнае палажэньне Вялікага Княства ў новай дзяржаве. Аднак, роля Сапегі ня зводзілася толькі да абароны свайго краю ад супрэмацыі [1] Кароны. З пададзеных ніжэй фактаў трэба зрабіць той вывад, што Сапега — ў справах асаблівае вагі для Вялікага Княства — папросту ігнараваў пастановы вуніі і супольных соймаў, чым выклікаў абурэньне з боку палякоў. Няпрыхільныя адносіны Сапегі да вуніі ясна бачацца з яго пісем да ваяводы

[1] Вяршэнства.— **Рэд.**

віленскага Крыштофа Радзівілла, як прыкладам з пісьма, пісанага 19 студня 1609 году, дзе Сапега кажа:

«Добра ведама, як нам гэту вялебную вунію датрымоўваюць; з радасьцю зрабілі б з нас Валынь *. Агулам — дрэнная справа з імі, бо яны ахвотна хацелі б мець нас сваімі галдаўнікамі [1], а асабліва тыя, што паходзяць з кузьні гэнага нябошчыка, які зваў нас «gens inimica mihi»** [2]

Больш ясна выступае барацьба Сапегі з вуніяй у сувязі з працамі над Трэцім Статутам. Адкладаючы агляд сутнасьці гэтае барацьбы да адпаведнага месца, трэба заценіць, што Сапега, маючы перад сабой дакананы факт вуніі, у сваей дзейнасьці лічыўся з створаным вуніяй станам, каторы меў прыметы стану трывалага.

У 1586 годзе памёр Сьцяпан Батура. Кожная з дзьвюх узаемна сабе варожых польскіх партыяў: Замойскага і Збароўскіх — імкнулася правесьці на каралеўскі пасад свайго кандыдата. Замойскі пратэгаваў сына швэдзкага караля Яна III і Кацярыны Ягелёнкі — Жыгімонта Вазу; Збароўскія выстаўлялі контр-кандыдатуру брата цэзара Рудольфа II, маладога і амбітнага Максымільяна. Гэтай апошняй кандыдатуры спрыяла Літва і перадусім Радзівіллы. Сапега, паводле некаторых гісторыкаў, трымаўся кандыдатуры Жыгімонта Вазы і сваім уплывам спрычыніўся да выбару апошняга на каралеўскі пасад. Аднак, з гэтым трудна згадзіцца дзеля наступных прычынаў. Перш за ўсё Сапега ў часе выбару Жыгімонта Вазы яшчэ ня меў вялікшых уплываў і тым больш сярод грамадзянства Вялікага Княства, каторае трымалася кандыдатуры Максымільяна. Па-другое, калі-б і згадзіцца з тым, што Сапега спрычыніўся да выбару Жыгімонта III, дык незразумелымі былі-б варожыя адносіны да яго новага Гаспадара, якія асабліва вострa выступалі ў першыя гады панаваньня Вазы. Па-трэцяе — трудна дапусьціць, каб Сапега, апіраючыся на Радзівіллаў, адважыўся адкрыта выступіць супраць сваіх апякуноў. Хутчэй трэба дапусьціць, што, калі Сапега і не стаяў за кандыдатуру Максымільяна, дык у кожным

* Валынь была інкорпорована да Кароны ў 1569 г.

** Сьцяпан Батура.

[1] Васаламі.— **Рэд.**

[2] Варожы мне род (лац.) — **Рэд.**

прыпадку ніякая з дзьвюх кандыдатураў яго асабліва не прыцягала.

У першыя гады свайго панаваньня новы гаспадар паказваў варожыя адносіны да Вялікага Князьства і вялікую непрыязьнь да Сапегі, палажэньне катарага пры двары было вельмі цяжкое. Гэта выразна бачыцца з пісем Сапегі да віленскага ваяводы Крыштофа Радзівілла, у якіх ён скардзіцца, што з яго зрабілі не падканцлера, а «пісарчука», і што кароль раней, чымся даць адказы на яго дэзыдэраты [1], доўга нараджаўся з палякамі. Гэтак у пісьме з 31-га студзеня 1588 году Сапега піша:

«Вельмі перамогай над Максымільянам узмацніліся паны палякі і асабліва народу літоўскаму зрабіліся гардымі [2], кажучы: каб гэта навіна прышла перад заканчэньнем нашых справаў літоўскіх, не дазволілі-б нам ані нашых постулятаў, ані супакою, ані паловы Інфлянцкае зямлі. Пан Асецкі, пасол ад войска, іменем гэтмана і ўсіх жаўнераў даказваў, што мы да зямлі Інфлянцкае нічога ня маем, і досыць ушчыпліва народ літоўскі ўспамінаў, чаго мы ня хочучы слухаць, бо нам у спрэчкі з імі аб гэтым удавацца не гадзілася, пайшлі прэч, няхочучы даслухаць гэтага іхняга пасольства. Вакансіі літоўскія ўсе разданы перш, чымся мне аб іх з каралём прышлося гутарыць, ды і радзіцца мяне не хацеў».

А ў пісьме з 17 лютага 1588 г. Сапега піша:

«Кароль казаў, што больш паляком павінен, чымся Літве, бо яму палякі больш жычлівасьці паказалі, як Літва. І ня толькі гэтак кажа, але і робіць. Ужо там больш палякі ў нас* дастаюць, чымся сама Літва; ліцьвіну зараз адмовяць, а паляку зараз дадуць. Дзеля гэтага азнаймляю Вашай Міласьці, што, як толькі штосьь адчыніцца ў Літве, дык усё паляком хоча* даваць».

Сапега просіць Радзівілла пісаць аб усіх дэзыдэратах, каб мог:

«апіраючыся на іх, з рэзультатам пратэставаць перад каралём, бо самому цяжка бароцца з Панам і панамі палякамі, каторыя лісьлівасьцю сваей Жыгімонту хочуць спадабацца. Апіраюся, як кот на лёдзе, але калі ня буду магчы, хіба што з якойсь пратэстацыяй гэтак сама ад'еду дамоў».

* у Вялікім Князьстве.
[1] Пажаданні.— **Рэд.**
[2] Дзёрзкімі, напышлівымі.— **Рэд.**

А ў пісьме з 7 чэрвеня 1588 г. Сапега яшчэ выразьней піша аб адносінах да яго асабіста і ўсяго літоўскага народу новага гаспадара. Трэба зацеміць, што пісьмо гэтае было выклікана і двумя іншымі фактамі, маючымі гістарычную цікавасьць. Пайменна, Сапега жалее, што Радзівілл, прыймаючы ўчасьце ў вывязеньні цела Сьцяпана Батуры з Горадні, дзе ён памёр, адвёў жалобны кондукт [1] толькі за мост, тады, калі, паводле Сапегі, трэба было адвесьці да граніцаў Вялікага Князьства. Апрача гэтага, Сапега апісвае абурэньне караля і асабліва каралевы з тэй прычыны, што Радзівілл затрымаў усе кляйноты [2] Сьцяпана Батуры і ня выдаў іх новаму каралю. Пераходзячы-ж да адносінаў між ім і Жыгімонтам III, піша:

«Ня толькі я, але і ўвесь народ наш ёсьць у вельмі лёгкім паважаньні ў караля; жыву тут толькі дзеля формы; аўдыенцыі ніяк не магу дабіцца і не хачу больш падноскаў абіваць».

У пісьме з 15 ліпня 1588 г. Сапега, адказываючы на пытаньне Радзівілла, што «кароль здаецца ўжо лепш адносіцца да нашага народу», заўважае скептычна, што ён

«гэтага не абсэрвrouteаў [3], а наадварот з рэспонсу [4] пану Мінскаму відаць, што кароль жалее таго, што калі-колечы зрабіў ліцьвіну. Не хачу быць pro forma пры двары і ўраду свайго наражаць на зьнявагі, бо ўрадуе камора, а ўраднікі ёсьць непатрэбнымі».

Аднак, ня гледзячы на гэтыя труднасьці, Сапега астаўся пры двары. Узаемаадносіны паміж Жыгімонтам і Сапегаю зьмяніліся крыху на лепшае, калі паўстала небясьпека вайны з туркамі і татарамі. Гэтую небясьпеку выклікаў Жыгімонт III сваёй вузка дынастычнай палітыкай. Шукаючы прыхільнікаў, Ваза стараецца зьяднаць сабе Сапегу, ведаючы, што апошні здабываў штораз вялікшы аўторытэт у Вялікім Князьстве. Як бы ў сувязі з гэтым, Жыгімонт даручае Сапезе важныя справы, датычучыя Вялікага Князьства, і перадусім згаджаецца на ягонае кіраўніцтва працамі над Трэцім Статутам. Прыступаючы да спаўненьня гэтага вялікага заданьня, Сапега меў 31 год, аднак, ня гледзячы на гэткі малады век, абавязкі свае споў-

* Жыгімонт III.
[1] Шэсце.— **Рэд.**
[2] Тут: каралеўскія знакі.— **Рэд.**
[3] Назіраў.— **Рэд.**
[4] З адказу.— **Рэд.**

ніў бліскуча, здабыўшы ўдзячнасьць сучасьнікаў, памяць і хвалу ў патомкаў.

Статут 1588 г. вырас паступова. Ужо на Люблінскім Сойме 1569 г. было пастаноўлена стварыць адумысную [1] камісію, каторая-б занялася перапрацоўкай статуту 1566 году, зьмяняючы апошні адпаведна да пактаў Люблінскае вуніі і новага палажэньня Вялікага Князьства. У склад камісіі ўвайшлі гэткія асобы, выбраныя на Люблінскім Сойме. З рады гаспадарскае ўвайшлі: Валерыян, біскуп віленскі, Мэльхіор Шэмет, кашталян Жамойцкі; да іх назначаны быў сэкрэтаром «доктар абайга правоў» Аўгустын Ротундус, віленскі войт. Ад шляхты ў камісію ўвайшлі прадстаўнікі ад кожнага ваяводзтва Вялікага Князьства Літоўскага — па адным: Мікалай Дарагастайскі, князь Лукаш Сьвірскі, Ян Стэцковіч, Бэнэдыкт Юрага, князь Павал Сакалінскі, Ян Скалка, Кірдзей Крычэўскі, Сялецкі, Марцін Валадкевіч. Да гэтых дэпутатаў ад ваяводзтваў былі прыдзелены два земскія пісары: Андрэй Мачковіч — віленскі і Пятро Станіслававіч — ашмянскі. Працы камісіі адбываліся ў Вільні. На ўтрыманьне дэпутатаў быў вызначаны, аж да сканчэньня працы, асобны падатак, які плацілі толькі грамадзяне Вялікага Князьства (акром украінскіх земляў). Склад камісіі ня быў праз увесь час адзін і той-жа, бо некаторыя сябры паміралі, іншыя зьмяняліся. Паводле соймавае канстытуцыі, направа [2] Статуту павінна была адбывацца такім чынам, каб дэпутаты ня толькі зьмянілі або зусім выкрэсьлілі спрэчныя з пактамі Люблінскае вуніі артыкулы, але самае права цывільнае Вялікага Князьства памагчымасьці зблізілі да права Кароны. Апрацаваны гэткім спосабам Статут павінен быў быць, паводле тэй-жа Люблінскае ўмовы, перагледжаны і зацьверджаны «супольным» польска-літоўскім Соймам.

Працы камісіі пасоўваліся, аднак, вельмі павольна; і толькі тады, як справа гэта была даручана Льву Сапезе,— праз два гады, пайменна ў 1588 г., статут быў гатовы. Леў Сапега вельмі добра справіўся з сваім заданьнем і ня толькі апрацаваў Статут, але і выдаў яго ўласным коштам і пад асабістым даглядам у 1588 г. ў Вільні.

[1] Спецыяльную.— **Рэд.**

[2] Тут: рэдагаванне.— **Рэд.**

Выдаючы новы статут, Леў Сапега зламаў пастановы Люблінскага Сойму ў двух найгалаўнейшых кірунках: фармальным і матэрыяльным. Фармальнае зламаньне выявілася ў тым, што Статут 1588 г. атрымаў абязываючую сілу не на падставе пастановы «супольнага» Сойму (як вымагала Люблінская вунія), а на падставе пацьвярджэньня яго гаспадарам Жыгімонтам Вазай асабіста, г. зн. парадкам, які абязываў у Вялікім Князьстве Літоўскім пры выдаваньні законаў перад Люблінскай вуніяй. Апрача гэтага прывілей гаспадара, пацьвярджаючы Статут, быў выданы за аднэй пячацьцю Вялікага Князьства Літоўскага, за подпісам гаспадара Жыгімонта III і за змацаваньнем падканцлера Льва Сапегі ды пісара Габрыэля Войны. Гэтым спосабам Сапега выэлімінаваў магчымасць якіх-колечы фармальных прэтэнсіяў з боку Кароны да свае працы. Матэрыяльнае зламаньне пастановаў Люблінскага Сойму выявілася ў тым, што Трэці Статут ня толькі ня зьліў права Вялікага Князьства з польскім, як гэтага дамагаліся палякі ў Любліне, але навет захаваў усе тыя артыкулы, якія выклікалі вялікае абурэньне ў кароннай шляхты.

Гэткім парадкам пакінены быў артыкул трэці другога разьдзелу Статуту 1566 г. (у Статуце 1588 г. яму адпавядаў артыкул чацьверты трэцяга разьдзелу), каторы абязываў гаспадара пільнаваць цэласьці граніцаў Вялікага Князьства:

«тэж дабра панства таго Вялікага Князьства Літоўскага ня ўменшым і то, што будзець цераз непрыяцеляў таго панства аддалена, разабрана і ку іншаму панству ад таго панства нашага калікольвек упрошана, то ку ўласнасьці таго Вялікага Князьства прывесьці, прыўлашчыці й граніцы направіці абяцуем; а хаця быхмо тэж каму загранічнікам пры граніцах тых, верху менёных, землі, іменьня, сёлы і людзі далі, тагды таковыя маюць з таго служыці вялікаму Князьству Літоўскаму, а хтобы не хацеў служыці, таковых прывілееў ня маем мы і патомкі нашыя дзяржаці».

Гэтак сама пакінуты быў бяз зьменаў артыкул аб раздаваньні ўрадаў, маемасьцяў і староstваў чужаземцам, загранічнікам і суседзям Вялікага Князьства; — усё гэта можна было даваць «толькі Літве, Русі, Жмудзі, родзічам старажытным і ўраджэнцам Вялікага Князьства Літоўскага і тых зямель, таму Вялікаму Князьству прыналежачых».

Калі-б хто-колечы, акром Літвы, Русі і Жмудзі, і атрымаў за свае заслугі аселасьць праз наданьне, то ён карыстацца мог толькі ўчыніўшы прысягу ў «вернасьці і жычлівасьці» Вялікаму Князьству, выконваючы адносна да яго ўсе абавязкі, аднак у кожным выпадку на ніякія ўрады «ані прыпушчоны, ані ад гаспадара ўстаноўлены» быць ня мог.

Падобна да Другога, Статут 1588 году засьцерагае ўжываньне беларускае мовы ў ва ўсіх земскіх урадах Вялікага Князьства, кажучы:

«а пісар земскі маець па руску ўсе лісты, выпісы і позвы пісаці, а не іншым языком і словы».

Агулам трэба сцьвярдзіць, што Статут 1588 г., апрацаваны ў зусім адменных умовах палітычнага жыцьця Вялікага Князьства, дзякуючы Льву Сапезе, аказаўся прасякнуты тым самым духам, як і Другі, сьпісаны перад вуніяй. Тутака заслугуе на ўвагу яшчэ наступны факт, каторы выразна сьведчыць аб нэгатыўных адносінах Льва Сапегі да Люблінскае вуніі. Пры выданні Статуту 1588 г. трэба было на пачатку зьмясьціць pacta [1] Люблінскае вуніі і іншыя пастановы, каторыя тварылі г. зв. права публічнае Вялікага Князьства. Дзеля таго, аднак, што пастановы гэтыя па вуніі, як і сам пакт вуніі, былі недагодныя для Князьства, бо абмяжоўвалі яго правы, як самастойнае дзяржавы, Леў Сапега пастанавіў зусім выкінуць іх із Статуту. Некаторыя польскія гісторыкі называюць гэты паступак Сапегі «magnackim wybrykiem»[2], што зусім было-б слушным, калі-б стаяць на пункце гледжаньня інтарэсаў Кароны. Аднак, Сапега гэтымі інтарэсамі не кіраваўся, а, ідучы на барацьбу з вуніяй 1569 г., пільна прыслухоўваўся да голасу тагачаснага беларускага грамадзянства і ў першую чаргу радзіўся з магутным радзівілаўскім дваром, з каторым стараўся падтрымліваць найлепшыя адносіны. Маючы гэткую падпору, ён і дэцыдаваўся [3] на гэтакае рашучае ламаньне пастановаў вуніі. Гэта ясна бачыцца з яго пісьма да Крыштофа Радзівілла з 15 ліпня 1588 г., у якім Сапега, між іншымі важнымі пытаньнямі, закранае справу выданьня Статуту, пішучы:

«Статут новы загадаў ужо друкаваць парускy [4]; хацеў-бы яго выдаць і папольску, аднак, калі-б прышлося de verbo ad verbum [1] яго перакладаць паводле рускіх словаў і сэнтэнцыяў,— вышла-б вельмі «niegrzecznie»[2], а інакш ня сьмею. Ахвотна пачуў бы рады Вашае Міласьці. Прывілеі гэтак сама ахвотна-б выдаў пры Статуце, аднак дзеля таго, што ня ўсе яны нам на руку — у адных пачатак добры, а сяродак дрэнны, у другіх сяродак добры, а пачатак і канец дрэнныя,— не магу здэцыдавацца, ці падабае выкінуць тое, што шкадлівае, ці не».

Працай над Статутам Сапега выказаў ня толькі вялікую здольнасьць і веданьне права, але і вялікі пісьменьніцкі і красамоўчы талент. Аб апошніх пераконваюць пасьвячэньне Статуту гаспадару Жыгімонту III, зьмешчанае на пачатку статуту, і прамова Сапегі ў Сойме, надрукаваная ў тым-жа Статуце. У абедзьвюх гэтых працах Сапега выказаў шмат гэткіх высокіх думак, якія адпавядалі толькі XVIII і XIX стагодзьдзям. У пасьвячэньні Статуту гаспадару Сапега на першым месцы засьцерагае, што права ў першую чаргу зьяўляецца патрэбным пануючым асобам, каторыя павінны асабліва яго трымацца, бо ў праціўным выпадку яны зробяцца зьненавіджанымі тыранамі, падобнымі да дзікіх зьвяроў, якія патрапяць здаваляць толькі свае «грубыя зьвярыныя похаці». На пацьвярджэньне гэтае думкі Сапега кажа, што ўжо

«былі тыя часы, Найясьнейшы і Міласьцівы Гаспадару Каралю, калі ў тым зграмаджэньні а паспалітаваньні людзкім, каторае мы рэчаю паспалітаю называем, не правам якім апісаным, або статутам, але толькі сваім зданьнем і ўпадабаньнем уладнасьць сваю гаспадары і каралі таго сьвету над людзьмі расьцягалі, але іж частакроць ад прыстойнае свае павіннасьці адступавалі, а на свой толькі пажытак рэчы нацягаючы, а спольнае дабро ўсіх мала дбалі, адтуль то было ўрасло, што людзі брыдзячыся іх панаваньнем і зьверхнасьцю і не гаспадарамі, але тыранамі оныя называючы, на самым толькі статуце і праве апісаным усё бесьпячэнства і добрае рэчы паспалітае засажалі».

Слушнасьць свае думкі пацьвярджае Сапега цытатамі з твораў старадаўных філёзафаў, а ў першую чаргу Арыстотэля, каторы казаў: «там бэльлюа, а па-

[1] Умовы (*лац.*).— **Рэд.**
[2] Магнацкім выбрыкам.— **Рэд.**
[3] Рашыўся.— **Рэд.**
[4] Па-беларуску.— **Рэд.**

[1] Даслоўна (*лац.*).— **Рэд.**
[2] Недалікатна.— **Рэд.**



Генеалогія роду Сапегаў. Наверсе — Віцень і Гедымін. Леў Сапега — першы злева ў IV шэрагу.

нашаму дзікія зьверы, пануець, дзе чалавек паводле ўпадабаньня свайго уладнасьць расьцягаець; а дзе права або статут гару маець, там сам Бог усім уладаець». Гэтую жыватворчую сілу мае права дзеля таго, што яно зьяўляецца — паводле думкі другога старадаўнага філёзафа: «оным праўдзівым рассудкам а мудрым чалавечага ўмыслу бачэньнем, каторым Пан Бог натуру чалавечую абдарыў» з тэй мэтаю, каб розум і бачэньне гэтае дапамагалі адрозьніць «пачцівыя рэчы ад непачцівых», першыя насьлядаваць, другіх высьцерагацца.

Гэтыя разважаньні Сапегі паказваюць, што пагляды яго згаджаліся з пастулятамі пазьнейшае школы натуральнага права, каторая казала, што існуе права абсалютнае, аб'ектыўнае, справядлівае для ўсіх народаў у-ва ўсе часы іхняга існаваньня; трэба толькі пазнаць гэтае права і знайсьці крытэрыум дзеля адрожненьня праўнага ад бяспраўнага. Права натуральнае мела быць ідэалам, да якога павінна імкнуцца недасканалае права людзкое, перш за ўсё празначанае для паўстрыманьня небясьпечнае самаволі паасобных людзкіх адзінак. У гэтым сэньсе права, як пэўныя цуглі, паўстрымліваючыя людзей ад бяспраўных учынкаў, патрэбна ня толькі для пануючага, але і для падданых. Думку гэту Сапега выражае так: «Леч, іж ня ўсіх так прыроджаньне справіла, абы больш розуму аніжэлі маетнасьцей сваіх а бэстыяльскіх папудлівасьцей насьледавацi мелі,— тое ўдзіла або мунштук на зухвальцы[1] Пан Бог і права яго сьвятое ўлажыла, абы тыя за неўчцівыя справы свае слушнае караньне, а цнатлівыя прыстойную заплату аднасілі».

Праўны парадак у дзяржаве ёсьць зарукай і фундамэнтам яе дзяржаўнага ладу, бо, паводле Сапегі, толькі там «панствы і каралеўствы стаяць і ў цэласьці сваей захаваны бываюць, дзе ліхія помсту, а добрыя заплату адносяць». Моцнага права ўласнае дзяржавы і непашаны яго дамагаюцца толькі тыя, для каторых «свая воля міла а розум ім непрыяцелем».

У канцы, Сапега, паклікаючыся на прыклады із старадаўнае гісторыі, праводзіць думку, што навет найгоршае права ёсьць лепшым ад неабмяжованага панаваньня аднае асобы. З гэтага гледзішча Сапега апраўдывае ўзрастаўшае пашырэньне правоў шляхты коштам улады гаспадара.

Другі твор Сапегі — прамова на Сойме з прычыны выданьня Статуту,— хоць і паўтарае часткова думкі, выказаныя ў папярэдняй працы, аднак, з увагі на тое, што тутака Сапега зварачаецца не да гаспадара, а да шляхты, ён зьмяшчае шмат новых паглядаў, больш дакладна характэрызуючых праўную псыхіку Сапегі, яго глыбокую эдукацыю, нязвычайную справядлівасць і перадусім яго нацыянальны воблік.

Дзеля таго, што прамова гэтая зьяўляецца найпрыгажэйшым прыкладам беларускага красамоўства канца XVI ст., а такжа з увагі на яе будову і зьмест, падаем яе поўнасьцю.

«Абачывалі то ўсіх вякоў людзі мудрыя, што ў каждай рэчыпаспалітай чалавеку пачціваму нічога ня маець быці дарожшага над вольнасьць, а няволяй так ся маець гыдзіці, што ня толькі скарбамі, але і сьмерцю яе ад сябе адганяці павінен. А пра гэта людзі пачцівыя ня толькі маетнасьці, але і горлаў сваіх проціў кождаму непрыяцелю выносіці не жалуюць, абы пад іх акрутнае панаваньне ня прыходзілі, а з вольнасьці сваей будучы злуплены, водлуг волі і мысьлі іх, яко нявольнікі, ня мусілі жыці.

«Але ўжо мала-б і на тым было, каб чалавек, з няволі ад пастароннага непрыяцеля быў волен, а дамовага непрыяцеля над сабою цярпеці мусіў-бы.

«Тагды тот мунштук або удзіла на пагамаваньне каждага зухвальца ёсьць вынайдзена, абы ся, баючы права, ад каждага гвалту і збытку пагамаваў[1], а над слабшым і худшым ня паствіўся і ўціскаці яго ня мог. Бо для таго правы пастаўлены, абы можнаму і патужнаму ня ўсё было вольна чыніці, а як паведзіў Цыцэро, іж естэсьмо нявольнікамі праў для таго, абы вольнасьці ўжываці маглі.

«А есьлі чалавеку пачціваму нічога нет мільшага над тое, калі ў айчыне сваей бясьпечна мешкаючы, не баіцца абы яго хто на добрай славе змазаці, або на целе і на здароўі яго абразіці, або на ўласнай маетнасьці яго ўкрыўдзіці мог, тагды то нічому іншаму, адно праву, прычытаці маець, за каторым ад каждага ў пакою сядзіць і жаднага[2] ўсільства абэлжаньня[3] і ўкрыўджаньня на сабе не паносіць. Бо той цэль і скутак усіх праў ёсьць і маець быць на

[1] На нахабнікаў, на дзёрзкіх.— **Рэд.**

[1] Устрымаўся.— **Рэд.**
[2] Ніякага.— **Рэд.**
[3] Абылгання.— **Рэд.**

сьвеце, абы кажды добрую *славу сваю, здароўе і маемасьць у цэласьці меў* і на тым жаднага ўшчэрбку не цярпеў.

«*І то ёсьць наша вольнасьць*, каторай мы межы іншымі народы хрысьціянскімі хвалімся, *што пана, іж-бы водле волі сваей*, а не водле праў нашых панаваў, *над сабой ня маем* і як славы учцівае, так жывата і маетнасьці вольна ўжываем. Бо хто-бы колечы з тых трох рэчаў у чым нас укрыўдзіці і водле ўпадабаньня свайго, а ня водле праў нашых, над намі паствіцца меў, тот бы ўжо ня панам нашым, але сказіцелем праў і вольнасьцяў нашых быў, а мы бы нявольнікамі яго быці мусілі.

«І слушна за праўду маем, за што Пану Богу дзякаваці, што пад панаваньнем каралёў іх міласьцяў і вялікіх князёў паноў нашых, тую ўладу і вольнасьць у руках сваіх маем, а правы самі сабе творачы, яко найбольш можам вольнасьці сваей ва ўсім пасьцерагаем; бо ня толькі сусед, а спольны наш абываталь у айчыне, але і сам гаспадар, пан наш жаднае зьверхнасьці над намі зажываці ня можаць, адно толькі, сколькі яму права дапушчаець.

«Пра то маючы таковый скарб у руках нашых, каторый жаднаю сумаю праплачаны быці ня можаць, прыстоіць каждаму пачціваму чалавеку, абы а нём ведаў, а будучы добра ведамый, як сам сябе і папудлівасьці свае гамаваў і водле права пісанага справаваўся і нікога ня крыўдзіў, так, есьлі бы ад каго быў укрыўджаны, абы ведаў, дзе абароны і лякарства ў крыўдзе сваей іскаці маець.

«Бо яко адзін сэнатар рымскі другога штрафаваў, што права айчыны свае ня ўмеў, так кажды абываталь годны ёсьць наганеньня, каторый вольнасьцю хваліцца і праў сваіх умеці і разумеці ня хочаць, каторым правам усю вольнасьць сваю абвараванай [1] маець. А есьлі *каторому і народу ўстыд праў сваіх ня ўмеці, пагатовя нам, каторыя ня обчым якім языком, але сваім уласным правы сьпісаныя маем і каждага часу чаго нам патрэба ку адпору ўсякае крыўды ведаці можам.*

«А іж тая труднасьць ня мала заважыла, што ня каждый статут мог меці для труднага і доўгага перапісываньня,— тады і ў тым тэй патрэбе каждага абываталя фальгуючы [2] і пажытку рэчы паспалітае служачы, важыўся гэтую працу на сябе падняці, а кошту і накладу свайго не жалуючы, у друк падаў і дарогу мацнейшую і снаднейшую каждаму ку ведамасьці права паказаў. А гды то ўжо ў руках сваіх кажды, калі захочаць, мець можаць, прашу: *рачце-ж ваша міласьць* тую працу ад мяне ўдзячна прыняці, а маючы вольнасьці свае правам добра абвараваныя, *таго пасьцерагаці*, абы вы да судоў і трыбуналаў ня толькі людзей добрых а тых праў нашых добра умеетных абіралі, але баячыхся Пана Бога і цнатлівых, каторыя бы не для пажытку свайго ані ку шкодзе бліжняга, для лакомства свайго і для падаркаў, права выкручалі, але простым трыбам ідучы, сьвятой праўды і справядлівасьці пасьцерагалі, а тую вольнасьць, каторай цешымся, уцэласьці нам захавалі».

Як бачым, за найвялікшае дабро грамадзян дзяржавы Сапега ўважае вольнасьць. Бараніць адпаведна свае вольнасьці грамадзяне патрапяць толькі тады, калі сярод іх будзе пашырана веданьне права і адсюль сьвядомасьць правоў і абавязкаў. А калі якому-колечы народу — кажа Сапега — сорамна няведаць уласнага права, дык пагатовя ганебнай ёсьць рэччу няведаць свайго права грамядзянам Вялікага Князьства, каторыя маюць права пісанае ня ў чужой мове, а ў сваей уласнай. Апошнія словы Сапегі маюць для сучаснага дасьледчыка беларускае культуры і гісторыі нязвычайную вартасьць дзеля выяўленьня характару культуры Вялікага Князьства Літоўскага з гледзішча нацыянальнай яе прыналежнасьці,— тым болей, што словы гэтыя сказаны былі вуснамі найвялікшага прадстаўніка гэтае культуры. Як ведама, г. зв. «руская» мова Літоўскіх Статутаў ёсьць мовай беларускай, Літоўскія Статуты былі пісаны па-беларуску. Гэткім парадкам Сапега лічыў *уласнай мовай* — і пры гэтым ня толькі сваей, але і ўсяго грамадзянства Вялікага Князьства,— мову Трэцяга Статуту, значыць — *беларускую*. А калі ўзяць пад увагу, што аб нацыянальнай прыналежнасьці гэтак высака культурнае адзінкі, як Сапега, перадусім дэцыдавала і дэцыдуе тая мова, каторую ён сьведама, з пашанаю і любоўю называў уласнаю і правоў каторае гэтак старэнна бараніў,— дык трэба прыйсьці да вываду, што *Сапега*, паводле цяперашняе тэрмінолёгіі, *залічаў сябе сам да беларускае нацыянаЛь-*

[1] Абароненай.— **Рэд.**

[2] Патураючы, ідучы насустрач.— **Рэд.**

*насьці*. З другога боку ведама, што Сапега — за прыкладам сваіх сучасьнікаў — называў сябе «ліцьвіном», а народ свой, які гутарыў мовай беларускай, «літоўскім». Дык з гэтага сам сабой выплывае лёгічна бясспрэчны вывад, што назовы «ліцьвін», «літоўскі» былі нічым іншым, як *гістарычнымі* назовамі беларускага народу.

Упарадкаваньнем пісанага права і выданьнем Статуту Сапега здабыў для сябе шчырую ўдзячнасьць сучасьнікаў, каторыя не шкадавалі яму заслужоных пахвалаў, а тагачасныя пісьменьнікі называлі яго «айцом айчызны» і літоўскім Солёнам. У 1589 г. Сапега заняў найвышэйшае ў сваей дзяржаве становішча канцлера, якое перад ім займаў Крыштоф Радзівілл.

Абгаварваючы справу ўпарадкаваньня Сапегаю пісаных законаў Вялікага Князьства, трэба ўспомніць яшчэ адзін факт, які меў месца перад выданьнем Статуту і знаходзіўся ў цеснай сувязі з арганізацыяй судоў у Вялікім Князьстве. Гэтым фактам было ўтварэньне Літоўскага Трыбуналу, які паўстаў у 1581 годзе (на 11 гадоў пазьней, чым у Кароне), дзякуючы ў вялікай меры стараньням Льва Сапегі, каторы хацеў бачыць судоўніцтва Вялікага Князьства незалежным ад Кароны. Трыбунал быў найвышэйшай апэляцыйнай інстанцыяй у справах цывільных і складаўся з дэпутатаў сьвецкіх, выбіраных праз соймікі, і духоўных, высыланых капітуламі (выключна дзеля справаў касьцельных). Сябры Трыбуналу выбіралі маршалка, які кіраваў працамі Трыбуналу. Трыбунал меў свае кнігі, у якія сьпярша земскі пісар таго павету, дзе адбывалася сэсія, а пасьля асобны трыбунальскі пісар упісваў усе акты ў мове беларускай («рускай»). Пачаткова Трыбунальскія Суды адбываліся ў чатырох местах: Вільні, Троках, Наваградку і Менску. Пазьней — ад 1588 году, за згодаю ўсіх станаў Вялікага Князьства, сэсіі Трыбуналу адбываліся толькі ў двух местах: Вільні (куды перайшлі справы, разгляданыя раней у Троках), і Менску або Наваградку (пачарзе). На сэсіі ў Вільні разглядаліся справы наступных ваяводзтваў: Віленскага, Троцкага, Полацкага і зямлі Жамойцкае. На разгляд справаў кожнага ваяводзтва прызначаліся тры тыдні, і толькі справы Полацкага ваяводзтва разглядаліся ў працягу двух тыдняў. У Менску або Наваградку трыбунальская сэсія пачыналася цераз 22 тыдні пасьля Вялікадня, прычым справы кожнага ваяводзтва (менскага і наваградзкага) разглядаліся ў працягу трох тыдняў. Характэрна, што Літоўскі Трыбунал быў устаноўлены толькі для земляў этнаграфічнае Беларусі, бо зямля Жамойцкая (этнаграфічная Літва) мела свой асобны трыбунал у Росенях [1], аднак з яго не карысталася і ў 1588 годзе дабравольна паддала свае справы Літоўскаму трыбуналу *. Гэткім парадкам зьнік асобны Трыбунал для Жамойцкае зямлі, каторая ад 1588 году пасылала сваіх трох дэпутатаў у Трыбунал Літоўскі. У сувязі з паўстаньнем Літоўскага Трыбуналу, Сапега ў 1616 годзе выдаў працу «А спосабе абароны трыбунальскіх правоў».

Выданьне Трэцяга Статуту і ўвядзеньне Трыбуналу былі першымі вялікімі крокамі Сапегі ў галіне ўпарадкаваньня ўнутраных адносінаў Вялікага Князьства. Наступнай галінаю ўнутранага жыцьця Вялікага Князьства, у каторай выявілася ня менш кіпучая дзейнасць Сапегі, была справа ўпарадкаваньня хаосу рэлігійных адносінаў, які паўстаў на Беларусі з хвілінаю ўвядзеньня царкоўнае вуніі 1595 году. На-жаль, у гэтай галіне інгерэнцыя [2] Сапегі ня мела вялікшых рэзультатаў, бо было шмат іншых дзейнікаў, параліжаваўшых шляхотныя імкненьні Сапегі. У дадатку Вялікі Канцлер зрабіў сам тут памылку, дапамагаючы вуніі ў часе яе тварэньня, хоць кіраваўся самымі шляхотнымі, як з пункту гледжаньня агульна-людзкага, так і інтарэсаў беларускага народу, думкамі. Памылку гэту Сапега пазьней сам зразумеў, вельмі яе жалеў, аднак паправіць яе, ня гледзячы на сваё жаданьне, ня мог. Усё-ж справа ўдзелу Сапегі ў рэлігійным жыцьці Вялікага Князьства мае для беларускае гісторыі вялізарнае значэньне, бо яна выясьняе ролю магутнае пастаці Сапегі ў ратаваньні сваей айчыны ад тае агоніі, у якой яна апынулася ў выніку бязупынна трываўшае рэлігійнае вайны між дзьвюма часткамі аднаго і таго-ж народу.

Гэтая роля Сапегі ўвідочніца лепш на агульным фоне тагачасных рэлігійных адносінаў у Эўропе і Вялікім Князьстве Літоўскім, дзеля чаго і трэба ўдзяліць крыху месца дзеля намалёваньня гэтага фону.

---

* Для земляў этнаграфічна ўкраінскіх быў устаноўлены асобны Трыбунал у Луцку.

[1] Цяпер Расейняй.— **Рэд.**

[2] Умяшанне.— **Рэд.**

Што рэлігійная проблема ня толькі ў сярэднявеччы, але і ў новыя вякі адыгрывала вялікую ролю ў жыцьці народаў Эўропы, а ў тым ліку і беларускага народу,— факт знаны. Аднак, калі ў сярэднявечча рэлігія займала дамінуючае палажэньне ў параўнаньні з дзяржаўнымі інтарэсамі паасобных краін і народаў, дык у новыя вякі скончылася служэньне паасобных нацыяў інтарэсам рэлігіі, і амаль у-ва ўсей Эўропе пачалося імкненьне да падпарадкаваньня рэлігіі інтарэсам народным або дзяржаўным. Пачаліся запраўдныя войны з універсальным каталіцкім касьцёлам, ведзеныя ў імя пагарджаных дагэтуль нацыянальных ідэалаў.

Аднак, гэтыя войны не аслаблялі значэньня рэлігіі, як магутнага дзейніка духовае культуры. Дык зусім натуральна, што ў новыя вякі — эпоху крысталізацыі паасобных нацыянальнасьцяў у сяньняшнім разуменьні гэтага слова, нацыянальнасьцяў, каторыя стаўлялі сабе азначаныя мэты і да зьдзейсьненьня іх імкнуліся перадусім,— у палітычных павадыроў гэтых нацыянальнасьцяў выяўляецца імкненьне да выкарыстаньня рэлігіі дзеля нацыянальнага ўсьведамленьня і аб'яднаньня народаў. Амаль у кожнай дзяржаве, збудаванай на прынцыпе нацыянальнае адзінасьці, пачаліся спробы *нацыяналізаваньня* касьцёлу. Часамі ролю нацыянальнага касьцёлу адыгравала новае веравызнаньне; часамі — тое-ж рымскае каталіцтва, ня гледзячы на свой унівэрсалізм. Апошняе мела месца, да прыкладу, у Польшчы. Даволі сягнуць да гісторыі Польшчы і прыпомніць сабе тое значэньне ў аформленьні нацыянальнага ўсьведамленьня польскага народу, якое згуляла рымскае каталіцтва, стаўшыся, пасьля барацьбы з рэфармацыяй, запраўднай польскай нацыянальнай рэлігіяй. Хопіць спыніцца над жыцьцём і дзейнасьцю выдатнага польскага ксяндза-патрыёты Пятра Скаргі, каб зразумець, як гэты прадстаўнік польскага нацыянальнага касьцёлу цесна лучыў пытаньні нацыянальныя з інтарэсамі рэлігіі. Лучэньне гэтае ішло так далёка, што — паводле Скаргі — у межах даўнае Рэчыпаспалітае кожны паляк павінен быў быць каталіком і — наадварот. І хоць Скарга не абараніў Польшчы ад пазьнейшых разьдзелаў, аднак ягоны ўплыў на выпрацоўку польскага нацыянальнага сьветапагляду быў колёсальны. А вядома, што рымска-каталіцкі касьцёл у Польшчы, як касьцёл нацыянальны, меў многа другіх прадстаўнікоў, каторыя падобна Скарзе, хоць з меншым красамоўствам і слабейшай аргумэнтацыяй, будзілі ў польскім народзе пачуцьцё ўласнае годнасьці, патрыятызму, але побач з гэтым і рэлігійны фанатызм дый нетолеранцыю да інакш веруючых. Калі-ж яшчэ ўзяць пад увагу глыбокую рэлігійнасьць польскага народу, дык ясным станецца значэньне, якое мела выкарыстаньне ўплываў рымска-каталіцкае веры ў кірунку паглыбленьня польскіх нацыянальных ідэалаў.

Умовы рэлігійнага жыцьця на Беларусі склаліся зусім інакш, чымся ў другіх народаў Эўропы, патрапіўшых стварыць свае нацыянальныя касьцёлы. На Беларусі адразу выступілі адна проці аднае дзьве магутныя рэлігійныя сілы — усходняя праваслаўная царква і заходні рымска-каталіцкі касьцёл. Найменшае іскры было даволі, каб паміж імі пачалося змаганьне не на жыцьцё, а на сьмерць. Аднак, палітычныя абставіны на Беларусі злажыліся гэтак, што гэнае іскры ня было аж да 1595 году. Да гэтага часу рэлігійнае жыцьцё беларускага народу аформілася перадусім у рэлігійнай толеранцыі, самай шырокай і шляхотнай, якая калі-колечы была ведама цывілізаваным народам. Прыпомнім сабе, што ў тыя часы, калі на Захадзе адбываліся бартламееўскія ночы і рэлігійныя войны, калі Пётр Скарга шырыў у суседняй краіне глыбокую нетолеранцыю і ненавісьць да інакш веруючых, на Беларусі шляхта і перадусім магнаты, бяз розьніцы рэлігійных пераканаьняў, уласным коштам будавалі сьвятыні *розных вераў* і, уміраючы, адказывалі на іх карысьць маемасьці. Багаты каталік будаваў і абдорываў ня толькі касьцёлы, але і цэрквы, праваслаўны — ня толькі цэрквы, але і касьцёлы. Аб гэтым сьведчаць захаваныя ў множстве да сяньняшняга дня тэстамэнты з тых часоў. У духу гэтакай рэлігійнай толеранцыі ўзгадаваліся найвыдатнейшыя прадстаўнікі беларускага народу, у іх ліку — і Леў Сапега. І толькі гэтай атмасфэрай рэлігійнае цярпімасьці можна вытлумачыць тую нязвычайную ў разгляданую эпоху, ня маючую сабе роўнай, шляхотнасьць паглядаў на рэлігійныя проблемы Льва Сапегі. Як убачым ніжэй, думкі выказаныя Львом Сапегай у рэлігійных пытаньнях, знайшлі сваё аформленьне і здабылі права на існаваньне пасьля

нязьлічоных людзкіх ахвяраў толькі ў XIX ст.

Аднак, трэба сцьвярдзіць, што рэлігійная толеранцыя на Беларусі, побач з узгадаваньнем шляхотнасьці паглядаў у рэлігійных пытаньнях, мела і свой ад'емны бок: яна выклікала хаос у рэлігійных адносінах. Кожная рэлігійная навінка мела тутака права на жыцьцё. Прыхільнікі кожнае рэлігіі заклалі ўласныя друкарні, выдавалі ня толькі неабходныя багаслоўскія кнігі, але і палемічныя творы. Гэтакае зьявішча спрычынілася паволі да выялавеньня беларускай дзяржаўнай думкі, бо скіравала яе на шлях абстракцыйна-тэорэтычных разважаньняў аб лепшасьці догматаў паасобных рэлігіяў, а аддаляла ад найбольш істотных інтарэсаў беларускага народу. Ня было мовы аб тым, каб якая-колечы з існаваўшых на Беларусі рэлігіяў, а перадусім праваслаўе або каталіцтва, сталася запраўднай нацыянальнай царквой так, як гэта было на Захадзе і ў Польшчы, бо ніводная з іх не пачувалася да абавязку прыняць на сябе адказнасьць за ўзгадаваньне народу ў нацыянальным духу.

Пры гэткіх умовах рэлігійнага жыцьця, панаваўшых на Захадзе і на Беларусі, абаснаванымі былі імкненьні да стварэньня нацыянальнага беларускага касьцёлу. І вось найвыдатнейшыя прадстаўнікі народу шукалі спосабу стварэньня гэткага касьцёлу, маючы на ўвазе ягоны магутны ўплыў на нацыянальнае ўсьведамленьне народу. Мікалай Радзівілл Чорны, пашыраючы рэфармацыю ў Вялікім Князьстве, рабіў гэта з тэй мэтай, каб зрабіць кальвінізм нацыянальнай рэлігіяй і адгарадзіцца гэткім чынам і ад каталіцкае Польшчы, і ад праваслаўнае Масквы. Спробы яго, аднак, скончыліся няўдала, бо ён, прымушаны сілай абставінаў апірацца ў сваёй дзейнасьці на рэфарматараў-палякоў, спрычыніўся толькі да полёнізацыі беларускіх земляў: польскія рэфарматары, друкуючы сваю рэлігійную літэратуру, рабілі гэта ў польскай мове. Гэтакайжа спробай заснаваньня нацыянальнага касьцёлу на Беларусі была і рэлігійная вунія 1595 г. у вачох Льва Сапегі і іншых беларускіх мужоў, якія ёй дапамагалі. Нейкая агульная сынтэза існаваўшых на Беларусі рымска-каталіцкае і праваслаўнае веры, а ў далейшым — заходняе і ўсходняе культуры, была неабходнай дзеля таго, каб ня даць перамогі адной з іх і гэтым самым недапусьціць да ўтраты Беларусяй сваей нацыянальнасьці на карысьць Масквы ці Польшчы. Дзеля гэтага ідэя вуніі знайшла спогад у Льва Сапегі, які, нядаўна зьмяніўшы кальвінства на каталіцтва, аказаў ён на Берасьцейскім сынодзе 1595 г. сваё падтрыманьне. Аднак, адзначаючыся можа лішне вялікім рэлігійным індыфэрэнтызмам, а хутчэй — будучы перадусім глыбокім толерантам, недапушчаўшым навет думкі аб перасьледаваньні аднае рэлігіі другой, Леў Сапега не ўсьведамляў сабе тых сродкаў, якімі вунія будзе пашырацца сярод народу, і тых сумных вынікаў, да якіх яна ў рэзультаце давяла. Гэта ясна бачыцца з яго пісьма да полацкага арцыбіскупа Язафата Кунцэвіча з 22. III. 1622 г. (тэкст яго падамо ніжэй), у якім Сапега, выказаўшы сваё ўжо нэгатыўнае адношаньне да вуніі, хоць і не выракаючыся факту дапамаганьня ёй, сцьвярджае з горыччу, што ён ніколі ня думаў, «каб вунія пашыралася гэткімі гвалтоўнымі і згубнымі для народу спосабамі». Гэтая глыбокая горыч Льва Сапегі для нас тым больш зразумелая, што, як ужо сказана, пачаткова ўглядаўся ён на вунію, як на беларускі нацыянальны касьцёл, ускладаў на яе вялікія надзеі і аказаў ён сваю дапамогу, кіруючыся ў гэтым не абстракцыйнымі рэлігійнымі мэтамі, не карысьцю рымска-каталіцкага касьцёлу, як кароль Жыгімонт і езуіты, а тым больш не інтарэсамі Польшчы, як Пётр Скарга, польскія езуіты і наагул палякі, дапамагаўшыя вуніі, — а выключна толькі любоўю да ўласнага народу і краю, пазбаўленага такое важнае ўласнае крыніцы духовае культуры, якой была нацыянальная рэлігія з гледзішча яе ўплываў на будову нацыянальнага сьветапагляду. Рэлігійная вунія 1595 г. не апраўдала ўскладаных на яе Львом Сапегай надзеяў, бо, з аднаго боку, зьнішчыўшы рэлігійную толеренцыю, якая панавала на Беларусі, вунія ня сталася беларускім нацыянальным касьцёлам, а з другога — вунія, дзякуючы ўзьнятай ёй унутранай рэлігійнай вайне у лоне беларускага народу, давяла яго да такога духовага заняпаду, што ён пачаў выбірацца з гэтага заняпаду — і то напоўсьвядома — толькі ў пачатках XIX стагодзьдзя.

З трох найвыдатнейшых дзеячоў вуніі (Кунцэвіч, Іпаці Пацей і Вэльямін Рутскі) мы спынімся над мэтадамі

і дзейнасьцю Язафата Кунцэвіча, бо між ім і Львом Сапегай паўстала колізія і змаганьне.

Язафат Кунцэвіч выступае на арэну рэлігійнага змаганьня за вунію ўжо ў 1600 г., калі, толькі-што высьвячаны на ксяндза, ён бліснуў сваімі казаньнямі, прыдбаўшымі яму імя «душахвата» ў праваслаўных. Вядучы нязвычайна суровае жыцьцё, спрыяўшае разьвіцьцю рэлігійнага фанатызму, Кунцэвіч ужо ў гэтым часе адзначаўся сваей нетолеранцыяй у адносінах да праваслаўных. І калі навет у 1614 г. ён заняў становішча архімандрыты манастыра сьв. Тройцы ў Вільні, дык, хаця адміністрацыя манастыра, яшчэ беднага, але меўшага ўжо шмат манахаў, адбірала ў яго шмат часу і чыніла нямала клопатаў. Кунцэвіч ні на хвіліну ня спыняецца ў зьдзейсьняньні свае галоўнае мэты — наварачаваньня праваслаўных на вунію ў Вільні і паза Вільняй, часта з небясьпекаю для ўласнага жыцьця. Дзякуючы бязупыннай працы Кунцэвіча над пашырэньнем вуніі, хутка пачалі выяўляцца плады яе. Ваявода полацкі кн. Міхал Друцкі-Сакалінскі і ваявода наваградзкі Тодар Скумін-Тышкевіч пакідаюць праваслаўе і пераходзяць на вунію. Яшчэ раней, дзякуючы Кунцэвічу, навярнуліся да вуніі Мялешкі і Трызны. Характэрна, што Тышкевіч — яшчэ за Рагозы — быў, пад уплывам Кн. Канстантына Астрожскага, праціўнікам вуніі і казаў: «як жа я маю вучыцца цэрамоніяў лацінскіх, калі палаціне ня ўмею?» Здабыцьцё шляхты для вуніі фактычна азначала і здабыцьцё сялянства, каторае рэдка мела ўласнае перакананьне і переважна ішло за панамі. З надыходам 1617 г. амаль уся Вільня была вуніяцкай. Також і на правінцыі было ня мала асяродкаў яе. У гэтым жа часе Кунцэвіч быў назначаны коад'ютарам арцыбіскупа полацкага з правам наступства. Насяленьне Беларусі прыняло даволі спакойна вестку аб номінацыі Кунцэвіча. Ня было тутака яшчэ ані агітатараў, ані брацтваў (за выняткам Магілёва) — галоўных вогнішчаў бунту супраць вуніі. Насяленьне Полаччыны яшчэ ня было вуніяцкім, аднак спраціву вуніі спачатку не рабіла і даволі пакорна прыняло Кунцэвіча, а навет прыгатовіла яму ўрачыстае спатканьне ў самым Полацку, галоўнай — побач з Віцебскам і Мсьціслаўлем — сядзібе арцыбіскупаў. У гэтым прыняцьці ня толькі люднасьць вясковая і мяшчане, а навет шляхта брала ўчасьце. Перад брамай места быў збудаваны алтар, пры якім Кунцэвіч адправіў малітвы і потым з урачыстай працэсіяй скіраваўся ў старадаўнюю полацкую катэдру сьв. Зофіі, каб там прыняць абяцаньне паслухмянасьці ад прысутнага пры інтронізацыі духавенства. Аднак, гэты трыумфальны ўезд Кунцэвіча ў Полацак не адбыўся бяз пэўных дыссонансаў *, каторыя былі першай перасьцярогай для новага ўладыкі перад яго пазьнейшымі гвалтамі і нетолеранцыяй — з боку люднасьці, агулам добра яго прыняўшае.

У хуткім часе новы арцыбіскуп распачаў аб'езд сваей дыэцэзіі. Навет у вялікшых местах не спатыкаўся з адпорам. Даволі спакойна прыняў яго также Віцебск, хоць Кунцэвіч адразу адчуў, што ў гэтым месьце няма прыязных да вуніі. Толькі Магілёў, у каторым было праваслаўнае брацтва, аказаў зацяты адпор новаму арцыбіскупу. Духавенства і мяшчане ўзьнялі бунт, як толькі Кунцэвіч пад'ехаў да муроў места, і выступілі супраць яго, як непрыяцеля. Брамы места былі зачынены перад новым уладыкай, а люднасьць, узброіўшыся, сабралася на баштах і ў акопах. Кунцэвіч адступіў, але аб буньце данёс Жыгімонту III, які даручыў справу дасьледаваньня і пакараньня вінаватых Льву Сапезе, ведамаму ўжо ў-ва ўсім Княстве сваей справядлівасьцю. Сапега выдаў прысуд сьмерці на правадыроў бунту, але гэты прысуд ніколі ня быў споўнены. Магілёўскія цэрквы аднак былі аддадзены вуніі.

Гэты факт нязвычайна лёгкага здабыцьця дыэцэзіі для вуніі тлумачыцца адно тым хаотычным станам, у якім знаходзілася праваслаўная царква ў Вялікім Княстве. Гісторыкі рэлігійных адносінаў тае эпохі на Беларусі згодна сьцвярджаюць, што ў разгляданую эпоху праваслаўная царква была ў стане поўнага ўнутранага заміраньня. Духоўнікі, без ніякае эдукацыі, часта няграматныя, ня ведалі навет малітваў. Сярод іх панавала распуста, п'янства, убогасьць матэрыяльная і найдалей сягаючая несубор-

---

* Яшчэ ў часе малітваў перад брамай места адзін палачанін спытаўся ў Кунцэвіча: «Уладыка, ці моцна трымаешся нашае рускае веры?» Іншы ізноў крыкнуў: «Калі прыходзіш да нас з добрым намерам,— вітаемо цябе; калі-ж не,— тады няхайбы ты лепш ніколі не ўваходзіў у Полацак». Гэтыя воклікі паўтарыліся вастрэй, калі ў катэдру сьв. Зофіі разам з Кунцэвічам увайшлі і езуіты.

дынацыя. Догматы рэлігіі ня толькі ня былі ведамы шырэйшаму агулу люднасьці, а ў першую чаргу шляхце, але — паза лічанымі выняткамі — і самому духавенству. Зьмест рэлігіі фактычна зводзіўся да выконваньня абрадаў і адмаўляньня малітваў без разуменьня іх сэнсу. З гэтых прычынаў вунія, хоць догматычна рэлігія адменная, але пакідаўшая абрадавы бок царквы пастараму, для шырэйшых масаў была фактычна тым-жа праваслаўем. І толькі дзякуючы гэтаму ўнутранаму хаосу вунія нязвычайна шпарка здабывала праваслаўныя асяродзьдзі. Але, калі праваслаўныя пачалі спробы арганізацыі царквы, калі ў гэтым кірунку пачалі працаваць што раз больш чысьленыя брацтвы, гуртаваўшыя найбольш дзейныя адзінкі,— толькі тады праваслаўная царква адразу пачула сьмяротную небясьпеку з боку вуніі і распачала рашучае змаганьне.

Гэтакім зваротным годам у жыцьці праваслаўнае царквы быў 1620 год, у якім ерузалімскі патрыярх Тэофан, пазнаёміўшыся па дарозе з Масквы з прычынамі заняпаду праваслаўя ў Вялікім Князьстве Літоўскім, учыніў радыкальныя крокі дзеля яго аздараўленьня. Перш за ўсё Тэофан устанавіў у кожнай дыэцэзіі супраць вуніяцкага біскупа — праваслаўнага, вызначаючы на гэтыя становішчы найбольш здольныя адзінкі; другім яго крокам было ўвядзеньне дысцыпліны між духавенствам. Між іншым на арцыбіскупа полацкага ён вызначыў Мялеція Сматрыцкага, мужа вялікіх здольнасьцяў і ня менш вымоўнага за Кунцэвіча. Ад гэтага году праваслаўная царква арганізуецца нанова і распачынае вайну з вуніяй, што выяўляецца перш за ўсё на літэратурным груньце. Абедзьве рэлігіі ў вялікім ліку выпускаюць адзовы, палемічныя творы і г. далей, у якіх узаемна цяжка сябе зьневажаюць і адкрыта падбухторваюць народ да варожых выступленьняў супраць праціўніка.

Дзякуючы гэтай агітацыі, пачалі адпадаць ад вуніі гэтак лёгка здабытыя беларускія месты. Віцебск, Магілёў, Ворша першыя вярнуліся да праваслаўя, а за іх прыкладам адбыліся апостазіі іншых местаў. Навет у Полацку, рэзыдэнцыі Кунцэвіча, быў узбураны настрой.

У часе, калі адбыліся гэтыя першыя страты для вуніі, Кунцэвіч быў на Сойме ў Варшаве. Па атрыманьні вестак аб іх, ён хутка вярнуўся ў Полацак, каб ратаваць палажэньне. Полацак яму ўдалося супакоіць, але затое ў Віцебску падняўся адкрыты бунт. Падбураная агітатарамі Сматрыцкага люднасьць некалькі разоў грамадна зьбіралася перад ратушам і дамагалася адабраньня цэркваў ад вуніятаў і звароту іх праваслаўным. Скончылася тым, што цэрквы былі вернены праваслаўным, а непакорныя духоўнікі-вуніяты былі выгнаны з места. На вестку аб гэтым Кунцэвіч пасьпяшыў у Віцебск, а тым часам супраць яго паўсталі Магілёў, Ворша і другія месты, а навет у Полацку, скуль ён быў выехаўшы, паўстаў ізноў вялікі фэрмэнт. Суровыя сродкі, тасаваныя Кунцэвічам да непакорных, як замыканьне і апячатваньне цэркваў, забарона прычашчаць і хаваць пакойнікаў і іншыя, не памагалі, а толькі больш узбуралі народ. Бачучы, як уцякаў грунт з-пад яго ног, Кунцэвіч пастанавіў зьвярнуцца да Жыгімонта III, каб той выдаў унівэрсал да збунтаваных местаў і загадаў-бы ў ім толькі яго, Кунцэвіча, лічыць запраўдным полацкім арцыбіскупам, а Сматрыцкага абвясьціць інтрузам. Жыгімонт III выдаў жаданы унівэрсал. Аднак, навет у Полацку гэтага унівэрсалу не ўдалося прачытаць публічна. Абураная праваслаўная люднасьць грамадой зьбіралася ў часе публікацыі перад ратушам, спыняла чытаньне і варожа крычэла па адрасу вуніі, Кунцэвіча і навет уладаў.

Публічны супакой быў усюды ў небясьпецы. У часе набажэнства здараліся ўзаемныя напады, якія канчаліся звычайна біцьцём царкоўных слуг і разграбленьнем царкоўных скарбаў, як прыкладам у Віцебску, калі там сам Кунцэвіч адпраўляў імшу.

Гэтакі стан рэлігійных адносінаў быў вельмі небясьпечны для Вялікага Князьства, бо перадусім выклікаў згубныя ўнутраныя бунты, а падругое — поўнае зьдзічэньне нацыянальна-дзяржаўнае думкі, кіруючы яе на шляхі бязупыннае і бескарыснае дыскусіі і сварак на рэлігійныя тэмы. У далейшым ён паглыбляў падзел між беларускім народам і пхаў вуніятаў у рукі Польшчы, а праваслаўных — Масквы, скуль кожная частка чакала збаўленьня і дапамогі ў барацьбе.

Леў Сапега, як глыбокі патрыёт сваее айчыны, ня мог спакойна пазіраць на гэткі ход падзеяў. Ня ўпрыклад іншым, ён адзін стаяў на становішчы адзінства і цэласьці народу бяз розьніцы рэлігійных пераканаваньняў. Яго інтэрвэнцыя сталася неабходнай, а ў першую чаргу

яна выявілася ў тым, што між Сапегай і Кунцэвічам паўстала вострая палеміка. Як высокі ўрадовец, Сапега стараўся поўнасьцю выкарыстаць сваё становішча, каб стрымаць згубную дзеяльнасьць Кунцэвіча. З свайго боку Кунцэвіч, маючы падтрыманьне Жыгімонта III, езуітаў і ўсяго польскага духавенства ды грамадзянства, выступаў востра проці Сапегі.

З усей перапіскі між імі на гэтым месцы падамо ў скарочаньні знамянітае пісьмо Льва Сапегі да Кунцэвіча з 22 сакавіка 1621 г., якое вельмі добра характэрызуе становішча Сапегі ў рэлігійным пытаньні наагул, а адносна да вуніі асабліва. Тэкст пісьма гэтакі *.

Нярад удаюся з Вашай Міласьцю ў ліставаньне і спрэчкі; аднак бачучы, як упорна трываеце Вы пры зданьню [1] сваім і што ніякія заўвагі ня могуць Вас ад яго адвесьці, мімаволі чуюся прымушаным на беспадстаўнае пісьмо Вашае адказаці. Не пярэчу, што я сам прыкладаў стараньня каля вуніі і пакінуць яе было-б справай неразумнай, аднак ніколі мне ня прыходзіла ў думку, каб Ваша Міласьць уздумала людзей да яе прыводзць гэткімі гвалтоўнымі спосабамі. Вы Вашымі неразважнымі гвалтамі падбурылі і, скажу, прымусілі народ Рускі да апору і зламаньня ўчыненае яго каралеўскай Міласьці прысягі. Трудна Вам пярэчыць гэтаму, бо Вас пераконваюць пададзеныя ад іх найвышэйшым урадьнікам польскім і літоўскім жалабы. Ці-ж Вам няведамы нараканьні неразважнага люду, каторыя даюцца чуць у тым, што яны прагнуць лепш быць у падданстве турэцкім, чымся цярпець гэтакі ўціск веры і набажэнства свайго? Паводле Вашых слоў толькі некаторыя мніхі з эпархіі Барэцкага і Сматрыцкага спраціўляюцца вуніі. Аднак просьба, пададзеная гаспадару і каралю, не паходзе ад некалькіх манахаў, але ад усяго запарожскага войска, якое жадае, каб Барэцкага і Сматрыцкага ў іхніх эпархіях пацьвердзіць, а Вас з іншымі адсунуць. Бяда таму, хто ёсьць лёгкадумным; абставіны гэтыя зусім інакш прадстаўляюцца ў успомненых вышэй жалабах, і неразумна было-б згубным гвалтам ламаць гэтак пажаданую згоду, а гэтым самым і належную гаспадару паслухмянасьць. Вы надужыцьцём свае ўлады, кіруючыся хутчэй гультайствам і прыватнай ненавісьцю, чымся любоўю да бліжняга, супраць сьвятой волі і навет забароне Рэчыпаспалітае, былі прычынай і паджогай тых небясьпечных іскраў, каторыя ўсім нам пагражаюць пажарамі ці то вельмі згубнымі, ці то ўсё травячым. Вы пішаце, што і палітыка мае зьверненую да іх увагу, а я дадам, што ня толькі палітыка, але і ўрад, бо з іхняе паслухмянасьці вялікшыя для краю вынікаюць карысьці, чымся з Вашае вуніі. Дзеля гэтага павінны Вы ўладу сваю і абавязкі духоўніка прытасоўваць да волі гаспадарскае і да намераў ураду, ведаючы, што ўлада Вашая абмежаная і што імкненьні Вашыя, праціўныя супакою і карысьці грамадзянства, справядліва могуць быць уважаны за абражэньне Маестату. Калі-б Вы адважыліся на штось падобнае ў Рыме або ў Вэнэцыі, напэўна-б Вас там навучылі, колькі трэба мець развагі на палажэньне або палітычныя намеры ўраду. Пішаце аб наварачаваньні на вунію адшчапенцаў і г. д.; запраўды, трэба падумаць аб іх наварачаваньні, дбаючы аб тым, каб была адна аўчарня і адзін пастыр; але ў гэтым трэба пастyпаць асьцярожна і разумна, кіруючыся абставінамі часу, асабліва ў нашай айчыне, дзе зусім ня служыць гэная сэнтэнцыя «прымушай іх увахадзіць». Трэба, каб гэтая нашая пільнасьць і жаданьне агульнага аб'яднаньня апіралася на асновах любові, водле слоў апостала Паўлы. Але бачу, што Вы аддаліліся ад навукі гэтага апостала, і таму нядзіўна, што тыя, каторыя былі пад Вашай уладай, вышлі з належнае Вам паслухмянасьці. Што датычыць небясьпекі, пагражаючай Вашаму жыцьцю, дык можна сказаць: «кажды сам прычынай сваей бяды». Трэба карыстацца з памысных абставінаў, але ня трэба паддавацца неразумнаму захапленьню, асабліва, калі ідзе аб веравызнаньне, бо тады правадыры бываюць выстаўлены на нялічаныя небясьпекі.— «Я абязаны — пішаце — насьлядаваць біскупаў і г. д.». Ёсьць рэччу пахвальнай насьлядаваць сьв. біскупаў, напр. Златавуснага; але насьлядаваць іх трэба

* Пісьмо гэтае было напісана ў беларускай мове. Пасьля было перакладзена на польскую і расейскую мовы. Аўтар пераклаў яго з польскага тэксту, зьмешчанага ў працы Чацкага «O Litewskich i Ruskich prawach»,— на беларускую мову, карыстаючыся сучаснай беларускай транскрыпцыяй, але пакідаючы асаблівасьці стылю Сапегі. Ці арыгінал пісьма захаваўся да нашых часоў, гэтага аўтару, нажаль, устанавіць не ўдалося.

[1] Пры меркаванні.— **Рэд.**

такжа ў пабожнасьці, навуцы, цярплівасьці і даваньню добрых прыкладаў. Прачытайце жыцьцяпісы ўсіх пабожных біскупаў, творы Златавуснага, а ня знойдзеце ў іх ані жалабаў, ані пратэстацыяў, працэсаў, спрэчак, позваў на суд аб перасьледаваньне, аб скідаваньне з урадаў з асабістых карысьцяў, аб пазбаўленьні жыцьця пабожных духоўных; знойдзеце там толькі тое, што павялічывае славу Божую, асьвету і будову душаў людзкіх і ўласкавеньне Эўдоксіі, гнеўнай на слуг царквы. Вернемся-ж цяпер да ўчынкаў Вашае Міласьці: у Вас поўныя земскія суды, поўныя магістраты, поўныя трыбуналы, поўныя ратушы, поўныя біскупскія канцэлярыі позваў, працэсаў, пратэстацыяў, чым ня толькі вуніі ўзмоцніць немагчыма, але і апошняя ў грамадзянстве сувязь любові разьбіваецца. «Але, калі — пішаце — неправаверныя на мяне адважна наступаюць, дык я мімаволі прымушаны бараніцца». Запраўды-ж ня гэтак вучыў нас Хрыстос: ён, ведзены на сьмерць, маліўся за сваіх ворагаў,— гэтак і Вашай Міласьці трэба паступаць. Яшчэ пішаце: «на соймах падносяцца галасы, шкадлівыя ня толькі для вуніі, але і для ўсяго рымскага духавенства». Хто-ж гэтаму вінен? Адна вунія прычынай гэтых усіх няшчасьцяў! Калі гвалціце людзкія сумленьні, калі замыкаеце цэркви, каб людзі без абедні, без абрадаў хрысьціянскіх, без таенстваў гінулі, як няверныя, калі самавольна надужываеце любові і павагі да гаспадара, дык тады абходзіцеся бяз нас, але калі з прычыны ўціскаў паўстаець у народзе непакой, каторы трэба ўціхамірыць,— тады намі добра дзьверы запхнуць. Таму і праціўная старана думае, што мы з Вамі паразумеліся, каб супольне гвалціць людскія сумленьні і нарушаць агульны супакой,— чаго ніколі ня было! Сьцеражыце вуніі для сябе і выконвайце спакойна свае абавязкі, не наражаючы нас на агульную ненавісьць, сябе-ж самога на небясьпеку і гэтакі вялікі перад усім народам упадак. «На няпрымаючых вуніі — пішаце — выдаць загад і выгнаць іх з дзяржавы». Барані Божа! Няхай ня дзеецца ў айчыне нашай гэтакае страшэннае бяспраўе! Даўно ў гэтых гаспадарствах уведзена сьвятая рымска-каталіцкая вера і пакуль ня мела насьлядаўнічкі набажэнства свайго і паслухмянасьці для сьв. Айца, датуль славілася любоўю да супакою і магутнасьцю ўнутры і вонках краю. Цяпер жа, прыняўшы ў грамадзкасьць сваю неякую калатлівую і неспакойную таварышку, церпіць з гэтае прычыны на кожным Сойме, на кожным народным сабраньні, на кожным павятовым сойміку шмат якія сваркі і зьнявагі. Здавалася-б, лепш і карысьней для грамадзянства было-б парваць зусім з гэтакай калатлівай таварышкай, бо мы ніколі ў айчыне нашай ня мелі гэтакіх сварак, якія нам прынесла гэтая рознакалёрная вунія. Хрыстос не пячатаваў і не замыкаў цэркваў. «Маюць яны (вуніяты) — кажаце — адпаведных ксяндзоў», дай Божа, каб іх было досыць, але гэтага мала, што Вы самі іх хваліце: уласная хвала заўсёды ёсьць падазронай. Трэба, каб іноверцы бачылі добрыя ўчынкі іхнія і ішлі за імі па сьцежках іхніх. Аднак, я чуў, якіх Вы папоў пасьвячаеце, г. ё. такіх, ад каторых царкве больш упадку, чымся збудаваньня здарыцца можа.

Агульна Вам закідаюць, што ў Вас няма адпаведных папоў, а хутчэй поўна сьляпых. Гэтак папы Вашыя цягнуць за сабой народ на згубу. «Аддаваць — пішаце — цэрквы на пасьмешышча і зьдзекі»,— але пячатаваць і замыкаць цэрквы і зьдзекавацца над кім-колечы — гэта знача ламаць брацкую аднамыснасьць і ўзаемную згоду. Па гэтым усім, няхай мне Ваша Міласьць пакажа, каго Вы прыдбалі, каго зьяднали гэтай сваей срогасьцю, суровасьцю, гэтым пячатаваньнем і замыканьнем цэркваў? І запраўды пакажацца, што Вы страцілі нават і тых, каторыя ў Полацку ў Вас былі ў паслухмянасьці; з авечак зрабілі казлоў: сьцягнулі небясьпеку на край, а можа і згубу на ўсіх нас каталікоў. Заместа вясельля прынесла нам Ваша гэтак хвалёная вунія клапоты, несупакойнасьць, нязгоду і так нам зрабілася горкай, што мы прагнулі-б лепш быць без яе, чымся з прычыны яе цярпець непакоі, горыч і дакуку. Вось плады Вашае вуніі. Знамянітай запраўды ёсьць яна прычынай сварак і нязгоднасьці паміж людзьмі і ў краі. Бо калі-б, чаго сьцеражы Божа, айчына наша ўзбурылася (да чаго Вы гэтакую дагодную дарогу сваей суровасьцю паказываеце), ня ведаю, што-б тады з Вашай вуніяй было...

А па гэтым усім гаспадар загадвае цэрквы іхнія распячатаваць і адчыніць, аб чым я Вашай Міласьці пішу. А калі Вы па гэтым маім напамінаньні не адпячатаеце і не адчыніце цэркваў, дык я

сам загадаю іх распячатаць і праваслаўным аддаць, каб яны паводле свайго набажэнства ў цэрквах свае абрады маглі-б справаваць. Жыдам і Татарам не забараняецца ў гаспадарствах каралеўскіх мець свае сынагогі і мячыці, а Вы хрысьціянскія пячатаеце цэрквы! З гэтага поваду разыходзіцца ўжо ўсюды пагалоска, што яны прагнуць быць лепш у няверных Туркаў у падданстве, чымся цярпець гэтакі ўціск свайго сумленьня.

Што датычыць Палачанаў і іншых супраць Вас бунтаўнікоў, дык гэта магчыма, што яны гэтакімі ёсьць. Але Вы самі іх да бунту падбурылі. Былі яны Вам у-ва ўсім паслушныя, царкву Вашу не пакідалі, але Вы самі іх ад сябе адкінулі. І дзеля гэтага ня хочам больш, каб Ваша толькі для нас згубная вунія да канца нас зьнішчыла.— Гэта мае аб'ясьненьні, каторыя даю на Вашае пісьмо. Жадаю сабе на прышласьць быць вольным ад спораў з Вамі. Прашу толькі Найвышэйшага аб усялякую для Вас памысловасьць і адначасна аб духу лагоднасьці і любові да бліжняга, застаючыся з паважаньнем *Леў Сапега*».

З гэтага пісьма выяўляюцца пагляды Сапегі на рэлігійную праблему наагул і вунію 1595 г. у асаблівасьці. Выказаны яны гэтак ясна, што асобных камэнтарыяў не патрабуюць. Трэба толькі сцьвярдзіць, што паглядамі на рэлігійнае пытаньне Сапега апярэдзіў сваю эпоху на сотні гадоў і зьяўляецца прыкладам справядлівасьці і запраўднай толеранцыі. З гэтага гледзішча ён ня мае роўных сабе сярод сучасьнікаў. Дзеля ілюстрацыі тагачасных пагляда̃ў — і пры гэтым пагляда̃ў найвыдатнейшых людзей — на рэлігійнае пытаньне падамо пісьмо папы Урбана VIII да Жыгімонта III, пісанае з прычыны забойства Кунцэвіча. Пісьмо гэтае, як антытэза паглядам Сапегі, вельмі характэрнае.

«Устань, устань — пісаў папа Урбан,— слаўны сваімі перамогамі над туркамі, і з ненавісьцю, якую да цябе жывяць няверныя, вазьміся за кружжа дый, калі збаўленьне людаў гэтага вымагае, нішч агнём і мячом заразу схізмы. Хай сьвятая вунія паднясе галаву. Чулі мы аб існаваньні схізматыцкіх брацтваў. Хайжа твая каралеўская павага, каторая павінна быць абаронай веры, зломіць іхнюю апорнасьць. Хвальшывых біскупаў рускіх, каторыя сеюць забурэньні, пакарай сурова паводле заслугаў. Апякуйся вуніяцкімі біскупамі, аблягчы ім доступ да двара і сойму і зраўняй іх з біскупамі лацінскімі».

Успомнім яшчэ, што ў Польшчы, навет пад канец XVIII стагодзьдзя, выдаваліся канстытуцыі, забараняўшыя некаталіком хаваць нябожчыкаў удзень і вязьці іх па галоўных вуліцах.

Але ня толькі справа вуніі і праваслаўнае царквы захапляла ўвагу Сапегі. Цікавіў яго і каталіцкі касьцёл на Беларусі, вызнаўцаў каторага ён хацеў абараніць ад полёнізацыі, якая пашыралася штораз мацней у яго асяродзьдзі. За часоў Сапегі беларуская каталіцкая люднасьць ня была польскай і крэпка трымалася сваей нацыянальнасьці, даючы адпор варожым імкненьням да яе зьнішчэньня. Гэта ясна бачыцца з наступнага факту, у якім Сапега прыймаў значны ўдзел.

У 1590 годзе памёр кракаўскі біскуп. На яго катэдру кароль хацеў назначыць віленскага біскупа кардынала Юрыя Радзівілла. Леў Сапега, даведаўшыся аб гэтым, напісаў да Радзівілла наступны ліст: «Маю ведамасьць, што, па сьмерці Кракаўскага біскупа, вакансію гэту аддаюць Яго Міласьці Кардыналу, біскупу Віленскаму. Я рад служу Яго Міласьці і ніякай рэчы ня бачу, якой-бы паводле думак Кс. Кардынала яму не жадаў. Але баюся, каб якая з гэтага поваду мутацыя да нас ня ўнеслася і каб не казалі напотым: «а вось літвін быў біскупам кракаўскім, няхай-жа будзе цяпер паляк віленскім». Але каб з гэтага факту ня было ўшчэрбку народу нашаму напотым дык тады няхай Яго Міласьць катэдры не даходзіць».

Радзівілл згодзіўся прыняць кракаўскую катэдру, але, як і прадбачыў Сапега, кароль зараз-жа вызначыў віленскім біскупам паляка — Мацееўскага. З гэтага поваду канцлер напісаў Крыштофу Радзівіллу ўспомненае вышэй пісьмо наступнага зьместу.

«Ані права, ані рацыі нашыя ня могуць вымагчы на каралю, каб зьмяніў свае адносіны на карысьць нашага народу, асабліва каб не вызначаў віленскім біскупам паляка. Я з асобы маёй даховываю веру Айчыне маей і ня толькі пячатаваць ня буду таго, што будзе супраць правоў нашых, але і працістаўіцца супраць гэтага з вамі разам буду, *каб ня толькі да гэтакіх дыгнітарскіх урадаў* [1], *але і да меншых бэнэфіцыяў* [2]

[1] Тут: высокіх пасадаў.— **Рэд.**
[2] Тут: пасадаў.— **Рэд.**

*і навет да дзяржаваў*[1] *і лясьніцтваў народу нашага ніхто не папераджаў».*

І запраўды Леў Сапега ў дадзеным прыпадку проціставіўся разам з народам і пры гэтым з пазытыўным рэзультатам. Біскупа Мацееўскага, паляка, жыхарства Вільні ня прыняла, дзеля чаго віленская біскупская катэдра засталася неабсаджанай да 1600 году.

Гэта былі найважнейшыя праявы дзейнасьці Сапегі ў галіне ўпарадкаваньня ўнутраных адносінаў у Вялікім Князьстве. З няменшай энэргіяй бараніў Сапега інтарэсаў сваей бацькаўшчыны і вонках, а ў першую чаргу перад Каронаю, якая, асабліва пасьля вуніі 1569 году, імкнулася да гэгемоніі і поўнае інкорпорацыі Вялікага Князьства. Вышэй было ўспомнена аб нэгатыўным становішчы Сапегі адносна да Люблінскай вуніі. Толькі адна акалічнасьць у вачох Сапегі апраўдавала яе часткова: гэта — неабходнасьць супольнае, у інтарэсах абодвух народаў ляжаўшае абароны звонку. Гэтую думку Сапега выказаў у лісьце да Крыштофа Радзівілла з 29.1.1590.

«Ня мае француская зямля гэтакіх ворагаў каля сябе, як Літва і Польшча; дзеля чаго самі паміж сабой б'юцца і ніхто іх не разводзіць. Але нас разьвялі-б хутка: з аднэй стараны турчын, з другой татарын, а з трэцяй масквіцін, а падобна-б і немцы ня спалі.

Гэтак толькі апраўдаваў Сапега вунію 1569 г. Паза гэтым ідуць ужо тыя асаблівасьці абодвух народаў, каторыя ўсьцяж падкрэсьліваў Сапега і каторыя ўпаважнялі яго казаць: «*Мы і палякі, хоць і брацьця, але зусім адменных звычаяў*» *. Абарона гэтых звычаяў у першую чаргу перад Каронай і зьяўляецца вонкавай дзейнасьцю Сапегі. Юрыдычна гэтыя «асаблівыя звычаі» трэба разумець, як тую частку дзяржаўнае самастойнасьці, каторая асталася Вялікаму Князьству пасьля вуніі 1569 г. І запраўды Вялікі Канцлер бараніў гэтае самастойнасьці з задзіўляючай энергіяй і субтэльнасьцю[2]. Прыкладам можа служыць наступны факт. Льву Сапезе палякі рабілі закіды, што ён забараняе прыймаць недагодныя дзеля яго ўрадаў пратэстацыі. Сапега адказаў, што гэта няпраўда, што пратэстацыі яго ўрадам прыймаюцца, і толькі пратэстацыя шляхціца Гарабурды супраць справаў польскіх, парушаных на Сойме, прынята і ўпісана ня была, што Канцлер апісавае гэтак:

«досыць яму Гарабурдзе пратэставацца ў сваіх справах, а ня супраць усяго Сойму, бо што каму з нас да спраў польскіх, як і мы ня хочам, каб яны аб нашых ведалі».

Запраўды, з пункту гледжаньня дзяржаўных інтарэсаў Вялікага Князьства і правоў беларускага шляхціца прыняцьце гэткае пратэстацыі было немагчымым, бо яна зацірала-б існаваўшую юрыдычную розьніцу паміж Вялікім Князьствам і Каронай, нішчыла-бы гэныя «асаблівыя звычаі» бацькаўшчыны Сапегі дый была-бы крокам да зьліцьця ў адно цэлае дзьвюх палітычна розных частак аднае дзяржавы.

Сапега ўважаў за патрэбнае перадусім бараніць тэрыторыяльную цэласьць Вялікага Князьства, разумеючы гэта ў самым шырокім сэньсе. Леў Сапега пашыраў правы свае бацькаўшчыны на ўсе тыя тэрыторыі, якія калісьці належалі да гістарычнае Літвы. Па меры адбіраньня беларускіх этнаграфічных тэрыторыяў ад дзяржаў, якія захапілі іх, Леў Сапега дамагаўся бязумоўнага далучэньня іх да Літвы, нэгуючы[1] рашуча ўсе правы да іх Кароны.

Гэтак было з Інфлянцкай зямлёй, якая, дзякуючы хвілёваму паводжаньню, была адабрана ад швэдаў і адразу інкорпаравана да Рэчы паспалітай Абодвух Народаў. Леў Сапега пісаў па гэтаму поваду Крыштофу Радзівіллу ў лісьце з 12.III.1585 году:

«Выдзерта няпраўна, сілай, невядома як Інфлянцкую зямлю нашаму народу, да якой паляк грошам не прылажыўся пра колькінаццаць гадоў, і толькі, калі па вялікіх ахвярах нашых прыйшло да канца вайны, тады пан паляк пачаў адбіраць ад нас тыя замкі, што мы за нашы Лукі, Завалачча і іншыя дабылі. А мы toto nocte laboravimus et nihil cepimus[2], аддаўшы на гэта ня толькі ўсе скарбы нашыя, але навет дзеля гэтае зямлі Інфлянцкае, баронячы яе, згубілі нашу зямлю. Палякі-ж ня толькі забралі бяспраўна інфлянцкія замкі, але нават і тыя, што народ наш трымаў, як Рыга, Кесь. Гэта страцілі мы дзеля таго, што

---

[1] Да арэнды.— **Рэд.**

* Пісьмо да Крыштафа Радзівілла з дн. 5.VI.1588 г. і інш.

[2] Тонкасцю.— **Рэд.**

[1] Адмаўляючы.— **Рэд.**

[2] Усю ноч працавалі і нічога не дапялі (*лац.*). — **Рэд.**

самі з сабой не прававаліся. Ад шчырага сэрца напісаў гэта».

Тое самае было і з землямі, адабранымі ад Масквы падчас вайны 1610—1613 г., як напр. Смаленскай. Сапега 25 сьнежня 1611 г. пісаў да таго-ж Крыштофа Радзівілла:

«А паны палякі канстытуцыю напісалі народу нашаму шкадлівую і, гэты фундамэнт канстытуцыі залажыўшы, назвалі яго дыплёмам, прывілей сабе напісалі на Смаленск і на іншыя правінцыі і замкі, што ім даруе кароль усё, што ад Масквы будзе здабыта. Я быў змушаны ўчыніць пратэстацыю супраць гэтае канстытуцыі і супраць гэнага дыплёму, каторую пратэстацыю, хоць у канцэлярыях каронных прыняць не хацелі, а навет палякі забаранілі прыймаць яе гораду, аднак горад прыняў».

А яшчэ раней, адразу па здабыцьці Смаленска, менавіта 30-га чэрвеня 1611 г., з Смаленска Леў Сапега, разгадаўшы імкненьні палякоў далучыць Смаленскую зямлю ўпалове да Кароны, пісаў да Крыштофа Радзівілла, называючы двор «злым торгам», і хацеў навет «асесьці на ральлі, перапрасіць плуг, бо яго ўжо ніхто ня склоніць на дворскую полеўку, якую ён ведае добра».

Тут трэба замеціць, што Леў Сапега ня толькі бараніў правы свае айчыны да адабраных чужымі дзяржавамі тэрыторыяў, але ўсьцяж дараджываў, як адабраць іх, і ведаючы, што найлепшым спосабам да гэтага ёсьць «жаўнер літоўскі», радзіў у цэлым радзе лістоў да Крыштофа Радзівілла, як напрыклад у лісьце з 13 ліпня 1611 г. у часе вайны за Інфлянты, каб:

«жаўнер наш не аддыхаў, а замачкі ў Інфлянтах займаў і каб перад прыходам кароннага жаўнера займаў іх як найбольш, бо тады паны палякі ня змогуць нам сказаць, што мы Інфлянты страцілі, калі нямалую іх часьць ізноў рэкупэруемо [1]».

А ў адным з папярэдніх лістоў да таго-ж Радзівілла з 22-га сакавіка 1594 г. чытаем:

«Гэтман Каронны зьбірае выбранцаў і мае вока на татараў, каторыя гвалтам хочуць праз Польшчу да Нёмна. Добра-б было, каб і ад нас палякі помач якую мелі, бо трэба-ж братоў ратаваць, тым больш, што і аб нашу ўласную скуру тут ідзе. Бо сьцеражы Бог няшчасьця на іх, ці-ж нам тады ад палякоў не дастанецца! А калі палякі абойдуцца бяз нашай помачы, тады гэты одыюм [1] узаемнай непрыязьні і ненавісьці, каторы паміж намі з палякамі цяпер кіпіць, яшчэ больш узрасьце і пры нас будзе culpa [2]. Трэба ім памагчы і жаўнерам нашым, а калі-б гэта не магло быць, тады хоць татарамі».

[1] Вяртаем.— **Рэд.**

Гэты ліст вельмі характэрны яшчэ і дзеля таго, што ён выразна сцьвярджае стан антаганізмаў, існаваўшы тады між Каронаю і Вялікім Князьствам, а з другога боку ён сьведчыць аб надзвычайнай шляхотнасьці Сапегі, каторы не хацеў, каб яго народ даў повад да паглыбленьня гэтае ненавісьці.

Аднак, ня толькі на дыплёматычным, але і на ваенным полі Сапега бараніў цэласьці Вялікага Князьства. Калі ў 1620-ых гадох уварваліся швэды — пад камандай Густава-Адольфа і не без дапамогі Масквы — у межы Вялікага Князьства, Сапега ізноў, ня гледзячы на свой 63-гадовы век, станавіцца на абарону краю і адзначаецца ў ваенных дзеяньнях. Пры гэтым ён не ашчаджае сваей фортуны і паносіць вялікія выдаткі на абарону, за што гаспадарства было яму асабліва ўдзячнае. У гэту цяжкую для Вялікага Князьства пару, калі — апрача вайны — шырылася яшчэ і маравое паветра, Сапега абняў галоўнае камандаваньне ваеннымі сіламі, як Вялікі Гэтман Літоўскі.

Пасьля вайны Сапега, будучы віленскім ваяводам, спакойна дажываў свой век, працуючы над упарадкаваньнем Мэтрыкі Вялікага Князьства Літоўскага, інакш кажучы — архіву спраў Дзяржаўнае Канцэлярыі Вялікага Князьства Літоўскага, які знаходзіўся пад асабістым даглядам і кіраўніцтвам Вялікага Канцлера Літоўскага. Архіў гэты зьмяшчае арыгінальныя дакумэнты ад XIII стагодзьдзя і копіі дакумэнтаў, выданых з Дзяржаўнае Канцэлярыі, ды мае надзвычайна вялікую цэннасьць дзеля беларускае гісторыі *.

[1] Тут: горыч.— **Рэд.**
[2] Віна (*лац.*).— **Рэд.**
* Гэты скарб сяньня раскіданы па ўсей Расеі і Польшчы. Часткі Мэтрыкі знаходзяцца ў Ленінградзе, Маскве, Варшаве (найстарэйшыя акты ад 1386 да 1551 году). Агулам Літоўская Мэтрыка абыймала акты Вялікага Князьства да 1794 год і мела 556 тамоў, у якіх у хронолёгічным парадку адзначаны ўсе важнейшыя здарэньні дзяржаўнага жыцьця.

Яшчэ ў 1594 г., у Вільні, канцлер Леў Сапега апрацаваў рэестр дакумэнтаў Літоўскай Мэтрыкі, а пад канец жыцьця ён упарадкаваў гэты архіў, перапісаўшы кнігі нанова.

Акты Мэтрыкі былі пісаны ў беларускай мове, а дзеля таго, што яны абыймаюць стагодзьдзі, можна на аснове іх прасачыць абраз разьвіцьця беларускае мовы.

Незадоўга да сваей сьмерці Сапега атрымаў годнасьць Маршалка Вялікага Князьства і ў гэтай годнасьці, як прадстаўнік дзяржавы, спатыкаў у 1633 годзе новага караля Уладыслава IV. Сапега меў тады 76 гадоў. Праз два тыдні пасьля гэтая сустрэчы ён памёр і быў пахаваны ў Вільні ў касьцёле сьв. Міхала, ім жа ўфундаваным. Перад сьмерцяй Сапега багата адбараваў уфундаваныя ім цэрквы і касьцёлы. Цела яго, аднак, доўга не магло знайсьці супакою. Над ім надругаліся два разы маскоўцы, асабліва ў 1655 годзе, выкідаючы труну на вуліцу.

У асобе Льва Сапегі Вялікае Князьства страціла апошняга абаронцу сваіх правоў, а беларускі народ — абаронцу свае культуры, мовы і нацыянальнасьці. Пасьля сьмерці Сапегі аканчальны заняпад палітычнага і культурнага жыцьця Беларусі зближаўся шыбкімі крокамі, і ўжо ў 1697 г. зьявілася соймавая пастанова, касаваўшая правы беларускае мовы, як мовы ўрадавае і загадаваўшая земскаму пісару ўсе акты пісаць папольску. Не падлягае сумліву, што факт гэты стаўся-бы значна раней, калі-б ня было Сапегі.

Дзеяльнасьць Сапегі не ўратавала Вялікага Князьства і беларускае культуры ад пазьнейшага заняпаду. Тлумачыцца гэта тымі вялікімі супярэчнасьцямі ўнутранага жыцьця Вялікага Князьства, каторых навет Сапезе, паміма задзіўляючых высілкаў з яго боку, не ўдалося зьнішчыць. І ўсё-ж такі эпоха Сапегі астанецца назаўсёды ў гісторыі беларускага народу і яго культуры залатой парой, а магутная постаць Вялікага Канцлера будзе ўсьцяж яскравым доказам вялікіх творчых сілаў, укрытых у беларускім народзе.

Леў Сапега застанецца назаўсёды для ўдзячных патомкаў узорам мудрага палітыка і дыплёматы ды гарачага патрыёты, прыкладам запраўднае справядлівасьці, несфальшаванае толеранцыі і высокае эдукаванасьці.

**Галоўныя крыніцы:** Scriptores rerum polonicarum. Tomus VIII: Archivum Domu Radziwiłłów. Kraków, 1885 г.

**Ластоўскі В.** «Гісторыя Беларускае (Крыўскае) Кнігі», Коўна, 1926 г. T. Czacki: «O Litewskich i Polskich Prawach». Warszawa, 1800—1801 г.

# «ЛЕТАПІС ВЯЛІКІХ КНЯЗЁЎ ЛІТОЎСКІХ»

У XIV ст. з малога і няўстойлівага княства ў Верхнім Панямонні ў выніку самаахвярнай працы беларускага і літоўскага народаў, гераізму іх мужных вояў і актыўнай дзейнасці літоўска-беларускіх князёў вырасла магутная еўрапейская дзяржава, з якою вымушаны былі лічыцца нямецкі Ордэн, татара-мангольская Арда і іншыя моцныя суседзі. Яе межы сягалі ад Буга і да Акі, ад Балтыйскага і аж да Чорнага мора. У яе складзе апынулася даўняя сталіца старажытнай Русі — горад Кіеў. І не выпадкова ў перыяд найбольшага ваенна-палітычнага ўзвышэння Літоўска-Беларускай дзяржавы вялікага князя Вітаўта, яе кіраўніка і абаронца, сучаснікі прызнавалі палітычным лідэрам усяе Усходняй Еўропы.

Гэта быў час росту нацыянальна-патрыятычнай і гістарычнай самасвядомасці нашых продкаў, больш глыбокага разумення велічы і каштоўнасці сваёй гісторыі, памяць пра якую неабходна перадаць наступным пакаленням, захаваць дзеля будучыні. Менавіта ў эпоху Вітаўта (1392—1430) склаліся асабліва спрыяльныя ўмовы для заснавання агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапісання. Багацце і своеасаблівасць нашых летапісаў і хронік даюць падставы разглядаць іх як асобную галіну еўрапейскай гістарыяграфіі.

Збіральніцкая, аб'яднаўчая палітыка Вітаўта на ўсходнеславянскіх землях знайшла падтрымку не толькі перадавых колаў тагачаснага літоўска-беларускага рыцарства, але і праваслаўнага ду-

Рукапісная старонка «Летапісу вялікіх князёў Літоўскіх».

хавенства. Асабліва плённым супрацоўніцтва вышэйшых свецкіх і духоўных улад было ў 20-я гады XV ст., калі на бок Вітаўта перайшоў агульнарускі мітрапаліт Фоцій, што яшчэ больш узмацніла ўплыў гэтага князя на Русі. На 1429—30 гг. прыпадае адна вельмі важная палітычная акцыя Вітаўта, якая атрымала вялікі розгалас у Еўропе: яго спробы дамагчыся кароны і надаць Вялікаму княству статус каралеўства.

Хутчэй за ўсё, менавіта ў сувязі з гэтай неардынарнай дзяржаўнай падзеяй і быў складзены ў Смаленску ў асяроддзі беларускага праваслаўнага духавенства першы літоўска-беларускі летапісны звод. Ён адкрываецца кароткай гісторыяй Кіеўскай і Маскоўскай Русі, запазычанай з рускіх летапісаў, а завяршаецца «Летапісам вялікіх князёў літоўскіх» — арыгінальным апавяданнем пра Літоўска-Беларускую дзяржаву часоў Вітаўта, напісаную на стара-беларускай мове.

Твор гэты вылучаецца чыста свецкім характарам, цэласнасцю і прастатою выкладу, дынамічнасцю і займальнасцю гістарычнага зместу, высокім літаратурным майстэрствам. Паводле сваёй жанравай формы ён мала нагадвае традыцыйны летапіс. Першапачатковае ядро гэтага помніка складае аповесць пра князя Кейстута, напісаная прыкладна ў канцы XIV ст. з мэтай абараніць паводзіны князя Вітаўта ў міжусобнай барацьбе, абгрунтаваць яго правы на вялікакняскі пасад у Вільні і асудзіць дзеянні Ягайлы. Гэты твор, несумненна, узнік у асяроддзі, блізкім да князя Вітаўта, пра што сведчыць багацце розных дэталяў, звязаных з асобай гэтага князя, наяўнасць простай мовы і іншыя факты. Вельмі верагодна, што тое яркае, дасведчанае і праўдзівае апісанне падзей, звязаных з гісторыяй апошніх гадоў жыцця і смерці князя Кейстута, якое мы сёння чытаем у нашым «Летапісу», расказваў шэсцьсот гадоў таму назад яго аўтару сам князь Вітаўт. Можна толькі пашкадаваць, што беларуска-літоўскі летапісец, пачынаючы сваё апавяданне ад Гедыміна, фактычна зусім абмінуў багатую гісторыю яго княжання.

Не менш была насычана цікавымі падзеямі і эпоха панавання князя Альгерда, якая таксама не знайшла разгорнутага адлюстравання ў яго хроніцы. Па ўсім відаць, што аўтар не ставіў перад сабой мэту стварыць палітычную гісторыю Вялікага княства Літоўска-Беларускага XIV ст. У яго былі іншыя, больш прагматычныя і публіцыстычныя мэты. І можа якраз дзякуючы гэтаму, ён змог скласці твор, у якім таленавіта спалучана дакументальна-дакладнае апісанне значных гістарычных падзей з жывым і займальным іх выкладам. Аўтар умее трымаць у напружанні чытача. І тут у значнай меры дапамог і рэальны жыццёвы матэрыял, які лёг у аснову першай часткі гэтага твора. Усё гэтае дае падставы бачыць у «Летапісу вялікіх князёў літоўскіх» не толькі выдатны помнік гістарыяграфіі Літвы і Беларусі эпохі Сярэднявечча, але і яркі ўзор беларускай гістарычнай белетрыстыкі той гераічнай пары.

**Вячаслаў ЧАМЯРЫЦКІ**



Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага — Ягайла (1348—1434).



Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага — Альгерд (1296—1377).



Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага — Кейстут (1382).

**У вялікага князя літоўскага Гедыміна 7 сыноў было: старэйшы Мантывід, затым Нарымонт, затым Альгерд, бацька караля [Ягайлы], затым Яўнут, затым Кейстут, бацька вялікага князя Вітаўта, затым Карыят, сёмы Любарт. Мантывіду бацька даў Карачоў і Слонім, Нарымонту — Пінск, Альгерду, бацьку караля,— Крэва; да таго ж князь віцебскі сыноў не меў і прыняў [Альгерда] да дачкі ў Віцебск у зяці, Яўнута [Гедымін] пасадзіў ў Вільні на вялікае княжанне, Кейстуту даў Трокі, Карыяту — Ноўгарадак, а Любарта прыняў уладзімерскі князь да дачкі ва Уладзімер і ў Луцк і на ўсю зямлю Валынскую.**

**Альгерд, бацька караля [Ягайлы], і Кейстут, бацька вялікага князя Вітаўта, жылі ў вялікай дружбе і любові. І не спадабалася ім, што вялікі князь Яўнут так узвысіўя, і змовіліся паміж сабою браты, князь вялікі Альгерд і князь вялікі Кейстут, як бы яго адтуль (з Вільні) выгнаць, а каму-небудзь з іх сесці [на яго месца]. Змовіўшыся паміж сабою, [яны] выбралі пэўны час, калі б да Вільні прыгнаць і заняць горад пад братам, вялікім князем Яўнутам.**

**Вялікі князь Альгерд з Віцебска не паспеў ва ўмоўлены тэрмін у Вільню, а вялікі князь Кейстут прыімчаў да горада Вільні і ўварваўся ў горад. Вялікі ж князь Яўнут выскачыў [з горада] і ўцёк у горы і даліны, і там адмарозіў ногі. Яго схапілі і прывезлі да яго брата, вялікага князя Кейстута. Ён жа, чакаючы брата свайго старэйшага, вялікага князя Альгерда, пасадзіў яго (Яўнута) пад варту, а насустрач брату свайму, вялікаму князю Альгерду, паслаў ганца [з весткаю], што ўжо ў Вільні сеў і брата свайго, вялікага князя Яўнута, паланіў. І сустрэў яго ганец у Крэве, і князь вялікі Альгерд хутчэй паспяшаўся і хутка прыехаў [у Вільню] да брата свайго, вялікага князя Кейстута.**

**І сказаў князь вялікі Кейстут брату свайму, вялікаму князю Альгерду: «Табе належыць князем вялікім быць у Вільні, бо ты старэйшы брат, а я з табою за адно жыву». І пасадзіў яго [Кейстут] на вялікае княжанне ў Вільні, а Яўнуту [яны] далі Заслаў. І ўчынілі ўмову паміж сабою вялікі князь Кейстут і вялікі князь Альгерд, што ўсе іх браты павінны слухацца вялікага князя Альгерда, што здабудуць, горад ці валасць, усё дзяліць напалам. І прысягнулі яны адзін аднаму быць да канца жыцця ў любові і дружбе і ніколі не задумваць нічога благога. І захавалі яны клятву да канца жыцця свайго.**

**Сыноў жа было ў вялікага князя Альгерда 12, а ў вялікага князя Кейстута — 6. І паміж усіх сыноў найбольш любіў вялікі князь Альгерд князя вялікага Ягайлу, а князь вялікі Кейстут [найбольш] палюбіў князя вялікага Вітаўта. І яшчэ пры сваім жыцці вырашылі яны (Альгерд і Кейстут), што быць ім (Ягайлу і Вітаўту) на іх месцах — на вялікіх княжаннях. Яны, вялікі князь Ягайла і князь вялікі Вітаўт, таксама вельмі дружалюбна жылі пры сваіх бацьках...**

Потым вялікі князь Альгерд памёр, і князь вялікі Кейстут не забыў просьбы брата свайго, вялікага князя Альгерда, з якім да самае смерці ў еднасці жыў, пачаў трымаць князем вялікім у Вільні яго сына, князя Ягайлу, і пачаў таксама прыязджаць на даўнія рады [у Вільню], як і да брата свайго старэйшага прыязджаў.

Быў у вялікага князя Альгерда нейкі парабак-нявольнік, халоп Вайдыла. Спачатку быў ён пекарам, а пасля [князь Альгерд] прызначыў яго пасцель сабе слаць і ваду падаваць сабе піць. Пасля [Вайдыла] так палюбіўся яму, што даў яму [князь Альгерд горад] Ліду трымаць і ўзвысіў яго. Потым жа, пасля смерці вялікага князя Альгерда два ці больш гадоў мінула, князь вялікі Ягайла яшчэ больш узвысіў Вайдылу і аддаў за яго сястру сваю родную — княгіню Марыю, што пасля была [замужам] за князем Давыдам.

І быў той Вайдыла ў вялікай моцы ў вялікага князя Ягайлы, і пачаў ён з немцамі соймы чыніць і граматы ўкладаць супраць вялікага князя Кейстута. Быў нехта астродскі комптур, звалі яго Гунстынам. Ён быў кумам князю вялікаму Кейстуту, хрысціў княгіню Янушаву, дачку яго. Той [Гунстын] расказаў князю вялікаму Кейстуту: «Ты таго не ведаеш, як князь вялікі Ягайла часта пасылае да нас Вайдылу і ўжо змовіўся з намі, каб цябе пазбавіць тваіх уладанняў, а яму б з маці яны дасталіся».

Князь вялікі Кейстут, ведаючы, што князь вялікі Вітаўт добра жыве з князем вялікім Ягайлам, пачаў скардзіцца сыну свайму, вялікаму князю Вітаўту: «Ты з ім добра жывеш, а ён ужо змовіўся на нас з немцамі». Князь жа вялікі Вітаўт [так] гаварыў бацьку свайму: «Не вер гэтаму, гэта няпраўда, бо ён жа са мною добра жыве і, напэўна, паведаміў бы мне [пра гэта]».

Потым адбылася знамянальная падзея: князь вялікі Ягайла аддаў Полацк брату свайму, князю Скіргайлу, а яны (палачане) не прынялі яго. І князь вялікі Ягайла паслаў усё сваё войска літоўскае і рускае з братам сваім князем Скіргайлам на Полацк, і магістар лівонскі прыйшоў з войскам да Полацка, і аблажылі яны горад. І князь вялікі Кейстут зноў пачаў скардзіцца сыну свайму, вялікаму князю Вітаўту, моцна крыўдуючы на князя Ягайлу: «За Вайдылу сястру сваю, а маю братавую аддаў; ад немцаў мне паведамілі, што яны змовіліся супраць нас; а па-трэцяе: з кім мы ваюем? З немцамі. А яны з імі Полацк здабываюць. Усё гэта паказвае, што яны з немцамі за адно супраць нас». І сказаў князь вялікі Вітаўт бацьку свайму, вялікаму князю Кейстуту: «Яшчэ і гэтаму не зусім веру». Прамовіўшы гэта, паехаў вялікі князь Вітаўт у Драгічын.

Князь жа вялікі Кейстут сабраў усе свае сілы і ўварваўся ў Вільню, і паланіў вялікага князя Ягайлу з яго маці і братамі, і граматы тыя знайшоў, якія з немцамі [яны] ўклалі, а да сына свайго, вялікага князя Вітаўта, ганца паслаў у Драгічын [паведаміць] пра тое, што ўчынілася. І ганец той знайшоў вялікага князя Вітаўта ў Гародні. І князь вялікі Вітаўт за адзін дзень з Гародні прыімчаў да бацькі свайго, вялікага князя Кейстута [у Вільню]. Ён жа сказаў сыну свайму, вялікаму князю Вітаўту: «Ты мне не верыў, а вось тыя граматы, [якія сведчаць], што яны змовіліся [з немцамі] супраць нас, але Бог нас збярог. Я ж князю вялікаму Ягайлу нічога [дрэннага] не ўчыніў, не рушыў ні скарбаў яго, ні стадаў, а самі палоненыя ходзяць толькі з невялікаю вартаю. Вотчыну ж яго, Віцебск і Крэва і ўсе землі, што бацька яго трымаў,— усё гэта аддаю яму і на нішто іхняе не пасягаю. А ўчыніў ўсё гэта, аберагаючы галаву сваю, уведаўшы, што на мяне змова рыхтуецца».

Князь вялікі Ягайла вельмі ўзрадаваўся прыезду вялікага князя Вітаўта. І прысягнуў князь вялікі Ягайла вялікаму князю Вітаўту і дзядзьку свайму, вялікаму князю Кейстуту, што ніколі супраць яго выступаць не будзе, а заўсёды і ва ўсім будзе ў яго (Кейстута) волі. І князь вялікі Кейстут адпусціў яго (Ягайлу) з маці і з братамі, і з усім яго скарбам. І князь вялікі Ягайла паехаў у Крэва, а князь вялікі Вітаўт суправаджаў яго да Крэва, і паехаў Ягайла з Крэва ў Віцебск.

А як сеў князь вялікі Кейстут у Вільні, паслаў двух чалавек да Полацка: аднаго чалавека ў войска, а другога ў горад. Палачане ўзрадаваліся і клікнулі на збор раці, і воі [Ягайлы] адступілі ад князя Скіргайлы і пайшлі ў Вільню да вялікага князя Кейстута. Князь жа Скіргайла пайшоў да немцаў у Лівонію з малою дружынаю.

Потым князь вялікі Кейстут пайшоў к Ноўгарадку Северскаму на князя Карыбута, а сына свайго, вялікага князя Вітаўта, пакінуў у Вільні. Ідучы да Ноўгарадка Северскага [князь вялікі Кейстут] загадаў павесіць Вайдылу, а князю вялікаму Ягайлу ісці з Віцебска разам з ім. Аднак вялікі князь Ягайла хутка забыўся на сваю прысягу [вялікаму князю Кейстуту], не пайшоў туды і падгаварыў мяшчан віленскіх і дворню Га́нуля захапіць Вільню. Князь вялікі Вітаўт быў у той час у Троках, а князь вялікі Ягайла з усёю сваёю дружынаю з Віцебска прыімчаў да Вільні. І князь вялікі Вітаўт паслаў к Ноўгарадку Северскаму бацьку свайму вестку пра гэта. Пра гэтыя падзеі ўведалі і немцы прускія, і маршал прускі вельмі спешна пайшоў з вялікім войскам на дапамогу князю Ягайлу.

І калі ўведаў пра гэта князь вялікі Вітаўт, што прускія немцы да Вільні і Трокаў ідуць, а князь вялікі Ягайла з Вільні да Трок ідзе з войскам злучацца з немцамі, паехаў ён з Трок у Гародню са сваёю маці. І калі падступіў да Трок князь вялікі Ягайла, здаліся Трокі яму. І прыйшоў князь вялікі Кейстут у Гародню да сына свайго. Тут і жонку сваю знойдзе і пашле яе ў Бярэсце, спадзеючыся на Януша, князя Мазавецкага, зяця свайго. Сам жа [князь вялікі Кейстут] пайшоў у Жамойць, а сына свайго, вялікага князя Вітаўта, пакінуў у Гародні. Князь жа Януш забыўся на дабрыню і прыязнь цесця свайго і цешчы і шваграў сваіх, пайшоў раццю да Драгічына і ўзяў яго, Сураж і Камянец заваяваў і асадзіў у Бярэсці цешчу сваю. Не здабыўшы Бярэсця, пайшоў адтуль, асадзіўшы тыя два гарады, Драгічын і Мельнік.

Князь вялікі Кейстут, сабраўшы ўсіх сваіх жамойтаў і ўсе войскі, пайшоў да ракі Віліі, а князь вялікі Вітаўт, сабраўшы ўсё сваё войска са сваёй бацькаўшчыны, пайшоў з Гародні насустрач свайму бацьку. І злучыліся яны ля Віліі за дзве мілі вышэй Коўна. Там войскі пераправіліся, пайшлі да Трокаў і, прыйшоўшы, асадзілі горад. І пачуў вялікі князь Кейстут, што вялікі князь Ягайла з Вільні ідзе з войскам, а з ім нямецкае і лівонскае войска. Раней немцы абоім ворагі былі: і князю вялікаму Кейстуту, і князю вялікаму Ягайлу. Першы раз лівонскае войска прыходзіла на дапамогу князю Скіргайлу да Полацка, а потым з маршалкам прускае войска да Трок прыходзіла, а [цяпер] ужо ў трэці раз лівонскае войска з ім жа прыйшло. Усё гэта паказвае, што [немцы] з ім (Ягайлам) заадно супраць вялікага князя Кейстута.

І выступіў на бітву вялікі князь Кейстут са сваім сынам, вялікім князем Вітаўтам, супраць вялікага князя Ягайлы. І за тры ці чатыры стрэлы да зыходжання войскаў [на бітву] прыгналі князі і баяры ад вялікага князя Ягайлы ў войска вялікага князя Кейстута і пачалі пытацца вялікага князя Вітаўта, каб пагаварыць з ім. Пачалі яны гаварыць вялікаму князю Вітаўту: «Князь вялікі Ягайла паслаў нас да цябе, каб ты памірыў нас са сваім бацькам, каб мы валодалі сваім, а вы сваім, а бітвы паміж намі не было і крывапраліцця не ўчынілася. Прыехаў бы ты да свайго брата, да вялікага князя Ягайлы, а мы табе прысягаем, што табе бяспечна [будзе] зноў у сваё войска вярнуцца, каб між вамі ўсё добра скончылася». Князь вялікі Вітаўт так ім адказаў: «Прысягу ад вас прымаю, але каб і князь Скіргайла ў маё войска прыехаў і таксама прысягнуў, і я [тады] выеду». Паслалі яны да князя Скіргайлы, і князь Скіргайла таксама прысягнуў вялікаму князю Вітаўту, як і яны.

Князь вялікі Вітаўт паехаў да вялікага князя Ягайлы і яго войска, а войскі [праціўнікаў] стаяць, нічога не пачынаючы паміж сабою. І князь вялікі Ягайла пачаў прасіць вялікага князя Вітаўта, каб той памірыў іх і крывіпраліцця не было б. І князь вялікі Вітаўт прысягу ўзяў у яго, у вялікага князя Ягайлы, дзеля бацькі свайго, што бацьку яго, вялікаму князю Кейстуту, прыехаўшы і зноў бяспечна раз'ехацца. А яшчэ сказаў князь вялікі Вітаўт вялікаму князю Ягайлу: «Яшчэ, браце, пашлі князя Скіргайлу, каб ён і я прысягу далі бацьку свайму, каб яму бяспечна паехаць і зноў ад'ехаць [назад] у сваё войска, а князь бы Скіргайла ад цябе прысягнуў бы [яму]». І князь вялікі Вітаўт з князем Скіргайлам прыйшлі ў войска да бацькі свайго, да князя вялікага Кейстута, і даў [Вітаўт] прысягу бацьку свайму ад вялікага князя Ягайлы, князь жа Скіргайла даў прысягу [вялікаму князю Кейстуту] ад вялікага князя Ягайлы і ад сябе.

І князь вялікі Вітаўт з бацькам сваім, вялікім князем Кейстутам, пайшлі

абодва ў войска да Ягайлы, спадзеючыся на тыя прысягі. Князь жа вялікі Ягайла пераступіў тыя прысягі. [Ён] сказаў: «Паедзем у Вільню і там канчаткова дамовімся». Войскі ж, нічога не пачынаючы, засталіся. І як толькі ў Вільню прыехалі, князя вялікага Кейстута, дзядзьку свайго, [Ягайла паланіў] і, закаваўшы, паслаў у Крэва, і там пасадзілі яго ў вежу, а князя вялікага Вітаўта пакінулі яшчэ ў Вільні. І там у Крэве ў пятую ноч князя вялікага Кейстута задушылі каморнікі Ягайлавы: Прокша, што ваду падаваў яму, а былі і іншыя — Мосцеў брат, [Гедка, краўлянін], і Кучук, і Лісіца Жыбянцяй. Такі канец стаўся князю вялікаму Кейстуту.

Пасля смерці князя вялікага Кейстута паслаў князь вялікі Ягайла князя вялікага Вітаўта ў Крэва разам з жонкаю і загадаў яго моцна ахоўваць у пакоі [у замку]. Помсцячы за Вайдылу, [Ягайла загадаў] двух калесаваць: адного, Відзімонта, дзядзьку маці вялікага князя Вітаўта, [а другога — Бутрыма], роднага брата яго маці, што трымаў Ульяну, якая пасля была [замужам] за Манівідам, і шмат іншых баяр пакараў смерцю, помсцячы за Вайдылу.

Князь вялікі Вітаўт сядзеў у Крэве пад моцнаю вартаю ў пакоі, а дзве жанчыны прыходзілі ў пакой класці спаць яго і княгіню і, паклаўшы, выходзілі, а побач знаходзілася стража. І вось вялікая княгіня пачула ад людзей: калі князь вялікі Вітаўт [яшчэ] будзе сядзець [у вязніцы], то з ім тое самае ўчыняць, што і з яго бацькам. І параіла яму так [зрабіць]: як прыйдуць жанчыны, то яму пераадзецца ў адзенне адной з іх і выйсці з другою, а той жанчыне, у адзенні якой ён выйдзе, застацца з ёю (княгіняю), так яго навучыла. І ён, адзеўшы ўбранне адной жанчыны, выйшаў з другою, спусціўся з замка і ўцёк да немцаў у Прусію.

Працяг будзе.

## КАМЕНТАРЫІ

Вялікі князь Гедымін нарадзіўся каля 1275 г., загінуў у 1341 г. у бітве з крыжакамі. Паходжанне яго дакладна невядома. Вялікакняскі пасад ён заняў у 1316 г. пасля смерці свайго брата Віценя. Паводле гістарычнага падання Гедымін заснаваў Вільню, якую каля 1323 г. зрабіў сталіцаю Літоўска-Беларускай дзяржавы. Пры ім у склад Вялікага княства ўвайшла асноўная частка беларускіх зямель разам з Падляшшам (цяпер у складзе Польшчы). Апрача сямі сыноў меў яшчэ пяць дачок. Адна з іх, Марыя, была замужам за Дзімітрыем, князем цверскім, другая, Ганна, у 1325 г. стала жонкаю польскага караля Казімера Вялікага, а трэцяя, Аўгуста, у 1333 г. выйшла замуж за маскоўскага князя Сімяона Гордага.

Як сведчаць іншыя крыніцы, Мантывіду (Монвіду) бацька даў не Карачоў, што за Бранскам, а Кернаў, што ля Вільні.

Яўнут быў пазбаўлены братамі вялікакняскага пасада ў 1345 г., памёр пасля 1366 г.

Альгерд, трэці сын Гедыміна, нарадзіўся дзесьці на пачатку XIV ст., стаў вялікім князем у 1345 г., памёр у маі 1377 г. Як сведчаць рускія летапісцы, ён «не столькі сілаю, колькі ўмельствам ваяваў». Больш чым у два разы пашырыў ён межы Літоўска-Беларускай дзяржавы, далучыўшы да яе большую частку Украіны і землі на ўсходзе Белай Русі. Пры ім беларуская мова стала агульнадзяржаўнаю ў Вялікім княстве.

У князя Альгерда было 12 сыноў і 9 дачок. Ад першай жонкі, Марыі віцебскай (памерла ў 1346 г.): Андрэй, Дзмітрый, Канстанцін, Уладзімер, Фёдар і тры дачкі; ад другой, Ульяны цверскай (памерла ў 1392 г.): Ягайла Уладзіслаў, Скіргайла Іван, Карыбут Дзімітрый, Лінгвен (Лугвеній) Сямён, Карыгайла Казімер, Вігунт Аляксандар, Свідрыгайла Баляслаў і пяць дачок. Сыны Альгерда ад першай жонкі нарадзіліся і выхоўваліся на Беларусі, таму адразу былі хрышчаны па праваслаўнаму абраду і атрымалі славянскія імёны. Сыны ж ад Ульяны нарадзіліся тады, калі Альгерд ужо быў вялікім князем у Вільні, таму спачатку атрымалі літоўскія язычніцкія імёны. Пазней жа, пры хрышчэнні па каталіцкаму або праваслаўнаму абраду яны набылі другія імёны.

Кейстут, які загінуў гвалтоўнаю смерцю ў 1382 г., непасрэдна валодаў Гародняй, Трокамі і Жамойцю, але быў фактычна другою асобаю ў Літоўска-Беларускай дзяржаве пасля вялікага князя Альгерда. Меў шэсць

сыноў: Пацірг (Патрыкей), Войдат, Бутаў, Вітаўт Аляксандар, Таўцівіл і Жыгімонт. Было ў яго і чатыры дачкі: Марыя, Данута, якая выйшла замуж за Януша, князя Мазавецкага, Ганна і Рынгала. Вядома таксама імя адной з дзвюх жонак Кейстута — Бірута.

Га́нуль (Ганс), пры дапамозе якога Ягайла змог вярнуць сабе Вільню,— немец з Рыгі, служыў вялікакняскім намеснікам у гэтым горадзе і, відаць, камендантам Віленскага замка.

Драгічын, Сураж і Мельнік — беларускія гарады ў Падляшшы, былі доўгі час у складзе Літоўска-Беларускай дзяржавы.

Гедка краўлянін, г. зн. з Крэва — гэтае імя аднаго з удзельнікаў забойства князя Кейстута не захавалася ні ў адным з вядомых спісаў «Летапісу вялікіх князёў літоўскіх». Адноўлена тут намі паводле хронік Я. Длугаша і М. Стрыйкоўскага, а таксама лацінскага перакладу першапачатковага тэксту гэтага помніка — «Origo regis».

Прадмова, пераклад са старабеларускай і каментарый Вячаслава ЧАМЯРЫЦКАГА



Так выглядала ў 1936 г. татарская мячэць у Мінску, пабудаваная ў Татарскім канцы горада на месцы драўлянай мячэці XVI ст. Цяпер на яе месцы гасцініца «Юбілейная».

# КРЫВІЧ

Пазнаёміўшы чытача з прозаю Вацлава Ластоўскага, «Спадчына» робіць наступны крок і распачынае сістэматычную публікацыю працаў Ластоўскага — вучонага-гісторыка, этнографа, філолага.

Вацлаў Ластоўскі, сын Юстына і Ганны (20.Х.1883 г., засценак Калеснікі Дзісенскага пав. Віленскай губ.—1938 г.) нарадзіўся ў сям'і дробных беззямельных арандатараў-земляробаў; скончыў «народную» школу на радзіме, у мяст. Стары Пагост. «На зайцы» ў 1904—1905 гг. слухаў лекцыі ў Пяцярбургскім універсітэце (так што ёсць падставы назваць яго энцыклапедычна адукаваным самавукам). З маладых гадоў у беларускім руху: быў дзеячом Беларускае Сацыялістычнае Грамады, рабіў у «Нашай Ніве»; у 1916—1917 гг. рэдагаваў віленскую газету «Гоман». У 1919 г. Ластоўскага выбралі на Старшыню Рады Народных Міністраў БНР. Эміграваўшы ў Коўна (Каўнас, Літва), з 1923 г. ён адышоў ад актыўнае палітыкі ды грунтоўна заняўся навукаю, выдавецкаю справай (варта заўважыць, што ўжо ў юнацтве, вандруючы па Беларусі, збіраў старасвеччыну, вёў фальклорныя, дыялекталагічныя, этнаграфічныя нататкі;— гэта ўсё прыдалося). У Коўне, апрача дапаможнікаў і слоўнікаў для беларускіх школаў, Ластоўскі выдаў 12 нумароў «тоўстага» часопіса «Крывіч», фундаментальныя «Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» (1924) і «Гісторыю беларускае (крыўскай) кнігі» (1926). Як буйны аўтарытэт у моваснаўстве, быў запрошаны на Акадэмічную канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу і азбукі (Менск, 1926 г.), дзе яму прапанавалі пераехаць у БССР. З 1927 г. Ластоўскі — дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея, неадменны сакратар Інстытута Беларускае Культуры. З 1928 г.— акадэмік, неадменны сакратар БАН, кіраўнік катэдры этнаграфіі. Сабраў для музея паўсотні слуцкіх паясоў, адшукаў і перадаў у музей Крыж Св. Ефрасінні Полацкай.

Арыштаваны ў 1930 годзе; высланы ў Саратаў. У 1937 г. зноў арыштаваны. Засуджаны на смерць Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 23 студзеня 1938 г. Часткова пасмяротна рэабілітаваны ў 1958 г., цалкам — у 1988 г.

Вацлаў Ластоўскі быў чалавекам, што паставіў справу беларускага Адраджэння на навуковы грунт; быў тым гісторыкам, што ўпершыню ў новыя часы паглядзеў на падзеі з беларускага гледзішча; быў мовазнаўцам, які самабытнасць мовы лічыў сведчаннем яе жыццёвае сілы ды перспектыўнасці. Заставаўся прытым рамантыкам: гэта і ён зачароўваў Багдановіча ды Купалу беларускаю старасвеччынай.

Ластоўскаму належыць першая беларуская гістарычная манаграфія «Кароткая гісторыя Беларусі» (Вільня, 1910), дзе ён намеціў шэраг праблемаў, распрацоўцы якіх прысвяціў сваё навуковае жыццё. Паглыбляў пошукі ў беларускай гісторыі, археаграфіі, кнігазнаўстве і надалей, а вынікі працы публікаваў у ковенскім «Крывічы» пад рознымі псеўданімамі (Юры Верашчака, Васіль Люцьвяг і інш). Часопіс захапляе багаццем і унікальнасцю самых разнастайных звестак з нашае гістарычнае, культурнае, моўнае спадчыны.

Вынікам росшукаў стала заснаванне Ластоўскім г. зв. волата-крыўскае тэорыі паходжання нашага народу. Ён прыйшоў да высновы пра неабходнасць увядзення (лічыў — вяртання) іншае саманазвы беларусаў — крывічы (а трэба зацеміць, што з саманазваю ў нас — праблемы: іх было некалькі — крывічы — русіны — ліцвіны — беларусы, і гэтая пярэстасць, вядома, не паспрыяла ўмацаванню нацыянальна-гістарычнае свядомасці нашага народу).

Артыкул «Гуды — Крывічы — Русь» быў змешчаны ў «Крывічы» № 1 за 1923 год. Тэрмін «Русь» Ластоўскі трактуе ў традыцыях нарманізму; большасць сучасных этымолагаў таксама схіляецца да германскага яго паходжання. Але вельмі рызыкоўнае збліжэнне «гудаў» з «гетамі»: буйны літоўскі мовазнаўца Казімерас Буга яшчэ ў 20-я гады бачыў у слове «гудас» (беларус, наогул іншапляменнік) след даўнейшай саманазвы готаў gudh-(готы — германскае племя з балтыйскага ўзбярэжжа, што прайшло праз нашыя землі аж да Крыму). Знаходка ў раёне Белавежскае пушчы ў 1978 г. польска-балтамоўнага («яцвяжскага») слоўніка часоў позня-

га сярэднявечча пацвярджае гэтую этымалогію: guti па-«яцвяжску» — крыжакі.

Развіцця чакаюць выказаныя Ластоўскім меркаванні, што да назвы Крывіч, Крывія, яго імкненне паставіць гэтыя словы ў агульнаіндаеўрапейскі кантэкст і тым сцвердзіць самабытнасць ды старажытнасць паходжання беларусаў-крывічоў. Не лішне будзе тут зацеміць, што санскрыт ведае словы kriwi і guda — назвы старажытных і вядомых стараіндыйскім аўтарам народаў.

Чытач публікаванае працы мусіць зважаць на тое, што прарадзіма славянаў дагэтуль невядомая: гіпотэзаў нямала, але навукоўцы да згоды не дайшлі. І яшчэ: сучасныя археолагі, мовазнаўцы, антраполагі адназначна прызнаюць надзвычай істотную ролю карэннага балцкага насельніцтва Падняпроўя, Падзвіння, Панямоння ў сфармаванні асобнага беларускага этнасу.

Думаю, што аднаўленне для шырокага беларускага чытацтва працаў В. Ластоўскага — не толькі акт гістарычнае справядлівасці, але і магутны імпульс да развіцця, карэкцыі, паглыблення — да адраджэння ў беларускай свядомасці закладзеных у працах вялікага Крывіча ідэяў.

Вінцук ВЯЧОРКА

**Юры ВЕРАШЧАКА**

# АБ НАЙМЕНЬНЯХ — «ГУДЫ»,— «КРЫВІЧЫ»,— «РУСЬ»

## ГІСТОРЫКА-КРЫТЫЧНЫ НАРЫС

Panta rei — ўсё цячэ.

*Гаракліт*

Німа народу, які-бы засяляў свой край спершапачатку: як далёка ні заглянем мы ў мінуўшчыну,— заўсёды акажацца, што людзі, якіх мы застаём, на самай зары іх гісторыі, засяляючымі даны край, не сядзелі там спрадвеку, а абавязкова зьнекуль прышлі і засталі на гэнай зямлі другіх людзей, раней за іх асеўшых.

Гэтае старое жыхарства блізка ніколі прыходцамі саўсім не вынішчалася і не выселялася пагалоўна з краю. Хоць частка пракавечнага, тубыльчага жыхарства, але аставалася на месцы.

І німа ніводнага народу, які-бы на працягу ўсей сваей гісторыі заўсёды насіў адно і тое самае імя. Пад уплывам — перасяленьняў, ўнутраных асоцыяцый, чужаземных заваяваньняў, зьмены пануючай дынастыі або веры, заснаваньня новага нацыянальнага цэнтру і г. п. прычын — найменьні народаў і дзяржаў зьмяняліся.

Калі прыходцы бралі верх сілай, то ўмацоўваліся гаспадарамі: надавалі сваё імя краю і вытваралі пануючы стан, а мясцовае жыхарства займала, ў стасунку да іх, безпраўнае палажэньне паняволеных, вытварала т. зв. «просты народ», які прымушан быў служыць і плаціць даніну сваім няпрошаным загадчыкам.

Калі прыходцы былі культурнейшымі за тубыльцаў, то яны накідалі ня толькі сваю ўладу, але сваё найменьня, свой сьветагляд, абычай, права, а ня рэдка і мову. І, наадварот, малакультурныя заваёўнікі (прыкл. Манголы ў Кітаі) падлягалі найчасьцей культурнаму ўплыву падбітых імі народаў: прымалі іх мову і быт. Аднак, як у першым, так і ў другім здарэньні ўзаемны ўплыў двох розных стыхій вёў да абмену цэннасьцямі, і, натуральным працэсам, вытвараў новае, сярэдняе.

Усе гэтыя перамены перажываў наш край, і гэткім самым працэсам вытвараўся беларускі народ. Сьляды гэтага захаваліся да сягоньня ў номанклятуры, якую, дзеля абазначаньня нашага народу, тасуюць да яго Літвіны і Латышы. Першыя, г. зн. Літвіны, называюць беларусаў — Gudai, другія — Латышы — Kreewu.

Першапачатковыя, славянскія летапісі аднагалосна цьвердзяць, што славяне

перасяліліся на ўсходна-эўрапэйскую раўніну з берагоў Дунаю. Пацьвярджае гэта архэолёгія, этнаграфія і, часьцю, номанклятура мясцовасьцяў. Лелевэль прыводзіць больш шасьцідзесяці геаграфічных імён з-над Дунаю, сходных з такімі-ж імёнамі на абшары ўсходнай славяншчыны. Наш народ, з нейкай сьвятарнай пашанай і любоўю, ў сваіх пракавечных песьнях і казках ўспамінае аб «шырокім», «сівым», «ціхім», «старым», «белым» Дунаю. Дагэтуль некаторыя рэкі мянуюцца гэтым запаведным найменьням. Гэтак, у самым Вітабску, рэчка, ўплываючая ў Дзьвіну, завецца Дунаем; Бесядзь, ўпадаючая ў Сож, носіць яшчэ назову Задункі; Дунаец у Быхаўскім павеце, і, ўрэшце, некалькі рэчак на абшары Горадзеншчыны, ды два ці тры Дунайцы ў тэй самай Магілёўшчыне.

Аздобы на рэчах, знаходжаных ў прыдунайскіх магілах бронзавага веку, пацьвярджаюць еднасьць культуры з жыхарамі, падобнага-ж тыпу магільнікаў, з абшару паміж Прыпяцьцю і Дзьвіной, Дняпром і Нёманам.

Зрэшта, акром славянскіх, ёсьць яшчэ пісаныя гістарычныя даныя аб перасяленьні славянаў з-над Дунаю, захаваўшыяся ў гісторыі Рымскай імпэрыі.

У першым стагодзьдзі хрысьціянскай эры, на берагох Дунаю, была саргарганізаваўшыся сільная славянская, Дака-Гецкая дзяржава[1], якая доўгі час вяла змаганьне з Рымам. У 86 годзе па Н. Х., ваявода Гетаў, Дэцыбал, пачаў з пераменным шчасьцем, бітвы з Рымскімі войскамі, якія былі пад даводзтвам Карнэлія Фукса. Паход Даміцыяна на Гецыю ў 89 гаду быў катастрафальным для рымлянаў; у выніку — Рым абавязаўся плаціць штогодны падатак Гетам. Траян сьКінуў гэтае паняволеньне з Рыму і ў 100 гаду даведзены да апошняй роспачы нападамі Рымлян цар Гетаў Дэцыбал, будучы акружан Траянам ва ўласнай сталіцы, Зармізегеце, затапіўшы ўсе свае скарбы у р. Саргет (Стрыю) спаліў сябе дабравольна на груду, каб не трапіць ў рукі сваіх ворагаў.

«Дацыя паняволена, Дацыя абернута ў Рымскую правінцыю, аднак ня зысьціліся надзеі рымлянаў! Яны пабачылі відовішча, якому ня было падобнага: Дака-Гэты, народ ратайскі, які жыў у вёсках і гарадох, ня хочучы паддацца рымскаму паняволяньню, спрамогся на нязвычайны чын, векапомны прыклад любові да незалежнасьці народнай: кінуў вельмі старую зямлю бацькоў сваіх, і рушыў на другі бераг Дунаю»[1] — «Ідзі на вуліцы старога Рыму, а пабачыш там гэты векапомны выхад народу»[2].

Рымскія пісьменьнікі далей разрожніваюць дзьве Дацыі — старую, ці Траянаву, якая асталася пустой, бязлюднай, куды прышлося сьцягаць Рымлянам перасяленцаў са ўсіх канцоў сваей дзяржавы, і новую.

Геты пакіравалі сваё перасяленьне да Днестру і Бугу, а пасьля павярнулі далей на ўсход — да Дняпра і Зах. Дзьвіны.

З географаў: Марына (110 г.), Пталамэй (160 г.) і, асабліва, з рымскага дарожніка т. з. «Пэнтынгерскіх табліц 210 г.» відаць, што па цячэньню Дняпра, ў цяперашняй Магілёўскай губэрні, ад суток Іпуці з Дняпром, ўніз, да суток Уці з Сожам — жыў народ — Дака-Гета-Парьяны.

Пад літоўскім найменьнем «Gudai» захавалася да нашых дзён прастарая назова славянскага народу Гетаў, вышоўшага з-над Дунаю і асеўшага між Дзьвіною і Прыпяцьцю, Дняпром і Нёманам ў першыя стагодзі нашай эры.

Захаваньне літоўскім народам прастарай назовы «Gudai» — Геты гаворыць аб тым, што Літвіны гэту назову прынясьлі з Дунаю, перасяляючыся, праўдападобна, разам са славянамі.

Цікава азначыць, што на пагранічны, ад стараны вялікаросаў «Гэтунамі», «Гегунамі», «Гецікамі» называюць Вялікарусы да сягоньня Беларусаў, зазначаючы адменную вымову Беларусамі слоў — гэта, гэты.

Магчыма, што маюць нейкую зьвязь з імям «Геты» беларускія міфічныя «Гаўры»[3], якіх, спраўляючы «Дзяды», заклікаюць формулай:

---

[1] Дакі і Геты адзін і той самы народ, якога Рымляны называлі Дакамі, а Грэкі — Гетамі.

---

[1] Турчыновіч. Обзор Историі Белоруссіи, СПБ. 1857.

[2] Выражаный на калоне Траяна; словы рымскага паэты.

[3] «Гаўры» — сазгучны з імям «Гірры», упамінаным у старасьвецкіх географаў на ўсходна-эўрапэйскім абшары. Трэба лічыць, што перасяленьне славяноў адбывалася ў радавы пэрыёд і гэтыя найменьні зьяўляюцца радавымі або племяннымі, тых родаў і плямён, якія ляглі ў аснову пазьнейшай крывічанскай дзяржавы.

«Стаўры — Гаўры гам»,
«Хадзіце к нам».

Веснавыя-ж (Радуніцкія) памінкі, побач з назовамі «Стаўраўскі», «Наўскі» Вялікдзень, носяць яшчэ назову: «Гаўскі Вялікдзень» (Дзіс. павет, вёскі: Пілаты, Шышкі, Сталіца, Буды). На «Гаўскі Вялікдзень» (ён-жа «Наўскі», «Стаўраўскі») ходзяць памінаць «Дзядоў» ня толькі на могілкі блізкіх сваякоў, але і на «валатоўкі» (капцы бронзавага веку), дзе разьбіўшы аб зямлю чырвонае яечка, закапываюць яго да палавіны ў пясок.

Найменьне «Gudai» у гістарычнай літэратуры новае і не разпрацаванае; дзякуючы таму, што яно не захавалася ў пісаных гістарычных памятніках, вядома яно толькі навейшай этнаграфічнай літэратуры. Дзеля гэтага, на вялікі жаль, я не магу прывясьці справак гістарычнай крытыкі аб гэтым найменьні.



Саўсім другая справа з найменьням «Крывічы», яно зафіксавана ў першапачатковай летапісі і рожных кроніках, ня толькі ўсходна-, але і заходна-славянскіх (польскіх). Аб гэтым імяні маецца цэлая літэратура.

Перш за ўсё найменьне «Крывічы» зьвярнула ўвагу гісторыкаў сваей па нага паганскага сьвятара літоўскіх плямён — Крывэ-Крывэйты. На сазгучча шэтых імён зьвярнуў увагу, яшчэ ў палавіне XVIII ст., акадэмік Мільлер і выказаў домнеўку аб паходжаньні назовы Крывічоў ад дастойнасьці гэтага паганскага першасьвятарніка, паказуючы на магчымасьць істнаваньня ў паганскія часы цесных рэлігійных адносін паміж Літвінамі і Крывічамі.

Вядомы гісторык Шлецар адкінуў гэты погляд, кажучы, што сазгучча найменьняў, ў гэтым здарэньні, трэба лічыць за чыстай вады прыпадак.

Карамзін аднак-жа ня згодзіўся са Шлецарам і пісаў у сваей гісторыі: «Рускіе пагане, як піша Адам Брэмэнскі, езьдзілі ў Курляндзію і Самогіцыю *, дзеля пакланеньня багом, дык знача мелі адных багоў з Латышамі, калі ня ўсе, то хоць некаторыя з славянскіх плямён, прыкладам Крывічы, бо іх найменьне здаецца сьведчыць, што яны прызнавалі Латышскага першасьвятарніка галавой сваей веры».

Тацішчеў выводзіў найменьне Крывічоў ад Сармацкага слова «крэвэ», выражаючага, бытцам, «верх ракі».

Надеждін, апіраючыся на тым, што грэкі называлі жыхароў поўначы «Гіпэрборэямі» (Паўночнікамі), Немцы — «Норманамі», такжа паўночнікамі, лічыў, што найменьне «Крывічы» значыла ў славянаў тое-ж самае, што ў грэкаў і немцаў, бо дагэтуль у Балканскіх славянаў і ў Мадзьяраў «Крыванoм» называецца паўночна-ўсходны вецяр.

Мікуцкі і Салаўёў шукаюць тлумачаньня ў літоўскім слове «Kirba», што знача ў перакладзе — дрыгва, крокаць, балота, ў выніку чаго найменьне «Крывічы» — азначае «жыхары балот».

Кеппэн і Лелевэль выводзяць гэтае найменьне ад Тракійскага народу — Кробізаў, або Кровізаў і лічаць Крывічоў іх нашчадкамі.

Літоўскі Нарбут і наш Кіркар падзелялі погляд Мільлера і Карамзіна.

Вывад ад Кробізаў, прызнаючы племя Крывічоў старым, сусім не тлумачыць яго імяні. Пагляд Тацішчава даўно ўжо ўтраціў усякае значэньне, як абапёрты на больш чым мала вядомай мове Сарматаў, адналітнае істнаваньне якога народу цяпер гістарычнай крытыкай адкінута. Погляд Надеждіна, абаперты на дамнеўным значэньні славянскага караня «крыў», у значэньні поўначы, такжа вымагае больш пэўных довадаў. Ноўгародцы жылі яшчэ далей на поўнач, чым Крывічы.

Паходжаньне ветру «Крыван» — можа трэба шукаць ня ў паўночным яго кірунку, а акурат у тым, што ён атхіляецца ад гэтага кірунку, веючы з поўнача-ўсходу, а ня проста з поўначы. Погляд Салаўёва і Мікуцкага такжа не бязгрэшны. Літоўскае слова «Kirba» ў Беларусі мае аналёгічнае, мясцовае — дрыгва. Ад гэтага апошняга слова атрымала сваю назову другая група славянаў — Дрыгвічы. Чаму-ж бы мела адна славянская група браць сабе назову ад літоўцаў, калі другая дзеля абазначаньня таго-ж паняцьця абылася словам мясцовым. Зрэшта, каб гэтае найменьне было запазычана ад Літвіноў і перашло з пераробкай (зам. Кірбічы — Крывічы) да славянаў, то ў Літвіноў павінна было бы захавацца гэтае найменьне, а тымчасам, агульна-народнае Літоўскае найменьне, стасаванае да беларусаў, «Gudai».

Ня выключаючы магчымасьці, што паміж Крывічамі і Літвінамі была рэлігій-

* Жмудзь.— **Рэд.**

ная блізасьць, а нават дабачаючы гэтую блізасьць у беларускай і літоўскай этнолёгіі і міфалёгіі, нельга дапусьціць, каб славянская галіна крэўскай веры мянавалася веравызнаўчым найменьням, ў той самы час, калі літвіны нідзе і ніколі не называлі сябе «крыўцамі», як бы гэтага можна было чакаць ад аднаверцаў.

Пяройдзем цяпер да першапачатковых летапісяў.

Аб прыходзе славянскіх плямён з Дунаю і разсяленьні іх на ўсходна-эўропэйскай раўніне летапісец кажа:

«Словене пришедше и седоша по Днепру и нарекошася ПОЛЯНЕ, а друзии ДРЕВЛЯНЕ, зане седоша в лесех, а друзии седоша межю Припетью и Двиною и нарекошася ДРЕГОВИЧИ; инии седоша на Двине и нарекошася ПОЛОЧАНЕ, речки ради, яже втечеть в Двину имянем Полота, от сея прозвашася своим имянем; а друзии седоша по Десне и по Семи и по Суле и нарекошася СЕВЕРЬ».

Тут, як бачым, у ліку плямён, перасяліўшыхся з Дунаю, аб Крывічах не ўпамінаецца. Затое Палачане азначаны як асобнае, самаістае племя, роўнае другім.

Ніжэй летапісец апавядае аб дзяржаўнасьці ў розных плямён:

«И по сих братьи (Кій, Шчэк и Хорив) держати почаша род их (Рурыкоў) княженіе в Полях; в Деревлях свое, а Дреговичи свое, а Словене свое в Новегороде, а другое на Полоте еже есть Полочане; от нихже КРИВИЧИ, иже сидять вверх по Волзе и вверх Двины и вверх Днепра, их же град Смоленск: туда бо сидять Кривичи».

Тут першы раз упамінаюцца Крывічы, нет ведама адкуль ўзяўшыяся; прычым яны прызнаюцца за аднаплемных з Палачанамі і Ноўгародцамі.

Усьлед за апавяданьнем аб прызваньні князёў, летапісец кажа:

«И по тем городом суть находници Варязи; а первии насельници в Новогороде Словене, Полотьски — КРИВИЧИ».

Тут ужо аказваецца, што таксама першапачатковымі жыхарамі Полацка былі Крывічы.

Словам, першапачатковы летапісец ня толькі знае Крывічоў, але знае таксама тэрыторыю, займаную імі: «верх Волгі, верх Дзьвіны, і верх Днепра». Па Дзьвіне, ў ніз, знаходзіць ён Крывічоў на тэрыторыі полацкага княжства, а значэ Крывічы займаюць падзьвіньне да граніц латышскіх і літоўскіх. Акром гэтага, паводле летапісца, Крывічы і Словене Ноўгародзкія — адно і тое-ж, «от нихже Кривичи». Гэткім чынам тэрыторыя Крывічоў займала абшар: з захаду ад латышскіх і літоўскіх граніц, на ўсход да Дзесны і Семі, і ад Прыпяці да Ладажскага возера, бо да Крывічоў належаў і Ізбарск [1].

Найменьня «Крывічы» летапісец не тлумачыць, прымае за «племя». Пры гэтым годнае увагі, што летапісец часта зьмешывае тэрміны «племя», «княжэніе» і «язык». Зьмешываньне першых двох тэрмінаў, з пункту яго гледжаньня, зразумела, бо кождае племя «жывяху особе и имяху свое княженіе»; тэрмін «язык» ён ужывае ў значэньні іншай мовы, іншай нацыі, народу. Стасаваньне ім слова «язык», у прылажэньні да славянскіх груповак, будзе зразумелым нам толькі тады, калі уявім сабе для каго была пісана летапісь, калі, і якія цікавала мэты.

Сам летапісец кажа, што летапісь сваю ён піша для князя; пісаў ён яе ў XI ст., ў разгар, калі чужаземная дынастыя «прымучывала» падбітых ужо ёю словенаў, або імкнулася загарнуць яшчэ не падбітых. Мэты, якія цікаваў аўтор «Повесьці временных лет», былі— апраўдаць панаваньне Русаў над славянамі, якія ўжо падбіты, і ўгрунтаваць прэтэнсыі да зямель яшчэ не падбітых імі.

Падбітыя плямёны ў часы летапісца насілі імя пануючай дынастыі — «Русь».

У адным месцы летапісец вылічае, якія плямёны ў яго часы ўходзілі ў склад Русі, або іначай кажучы — якія былі паняволены русамі і знаходзіліся пад іх панаваньнем:

«Се бо токмо Словенск язык в Русі: Поляне, Древляне, Ноўгородци, Полочане, Дреговичи, Север, Бужане, зане седоша по Бугу, после-же Велыняне».

У ліку прапушчаных плямён маюцца: Крывічы, Радзімічы, Вяцічы і інш. Аб Крывічах летапісец уцьверджае, што яны былі ў ліку добравольна прызываўшых з-за мора Русаў, а ў той самы час выходзіць, што Крывічы ў склад Русі ня ўходзяць, Русамі не называюцца і за Русь нікім ня лічацца.

Вернемся цяпер да разшыфраваньня імя «Крывічы». Дзеля выясненьня гэтага найменьня далёкіх крыніц шукаць ня

[1] Батюшков. «Белоруссія и Литва» (стр. 7), лічыць Ізбарск нараўне з Смаленскам і Полацкам Крывічанскім цэнтрам.

прыходзіцца. На тэрыторыі, займанай калісь Крывічамі, а цяпер іх простымі нашчадкамі Беларусамі, слова «крывіч» дагэтуль жыве ў народзе, ўжываецца ў штодзенным жыцьці, як агульна вядомае і ўсім зразумелае. У перакладзе на расійскую мову яно азначае — «родственник»; слова аднаго і таго-ж караня з польскім — «krewny».

Славяне, перасяляючыся з-над Дунаю на ўсход, прыходзілі не ў пустую зямлю: тут былі свае хананэйцы, якіх трэба было прыходцам выціснуць. У працэсе змаганьня, з аднэй стараны, утвараўся адналітны фронт розанаіменных славянскіх родаў і плямён, пад агульным, аб'яднываючым найменьнем — «Крывічы»; з другой стараны — стаяў фронт месцовых родаў, чужых славянам: Чудзь — чужынцы. Змаганьне трывала цэлыя стагодзьдзі. У гэты час паасобныя плямёны мала-памалу зьліваюцца ў адзін народ, а разам з гэтым у адну дзяржаўную арганізацыю, цэнтрам якой летапісец па сьвежай ў яго часы традыцыі зусім правільна называе Смаленск.

У гістарычнай літэратуры даўно ўжо адмечалася істнаваньне на абшарах ўсходнай славяншчыны два дзяржаўных цэнтры: балтыйскага і понтыйскага, разьдзеленых Прыпяцьцю і Сожам (Надеждин). Першы групаваўся каля Смаленска, другі — каля Кіева.

Ад галоўнага Крывічанскага цэнтру, Смаленска, ішла колонізацыя на поўнач і захад, дзе вытварыліся свае цэнтры: Ізбарск, Ноўгарад, Пскоў, Полацак. Ў пазьнейшыя часы Ізбарск і Пскоў вайшлі ў склад Ноўгародзкіх зямель.

Істнаваньне Крывічанскай дзяржавы памятае і пачатковы летапісец, які кажа, што па сьмерці легендарнага Кія ў Кіеве пачалі княжыць патомкі прызваных варагаў, «род іх», а ў той-жа самы час: «у Палянаў былі свае князі, у Дрыгвічоў свае, у Палачанаў і Смаленцаў свае».

І так, на тэрыторыі, займанай цяпер беларускім народам, да IX ст. істнавала дзяржава Крывічоў, якая ў пазьнейшыя часы распалася на некалькі цэнтраў (Смаленск, Полацак, Тураў), істнаваўшых далей пад тым самым імем. Крывічы — аб'яднываючае, дзяржаўнае найменьне розанаіменных славянскіх родаў. Цяперашнія «Беларусы» займаюць ўсю тэрыторыю даўнейшых Крывічоў і зьяўляюцца іх патомкамі і насьледнікамі.

Адносіны «Русі» і славянаў, паводле летапісі, пачаліся з таго, што варагі, прыходзячы з-за мора, прымушалі плаціць сабе дань. Славяне сьпярша цярпелі, пасьля сабраўшыся прагналі іх, ды, відаць, ня чулі сябе даволі сільнымі, каб раз назаўсёды ад іх адкараскацца. Аставалася адно — прыняць да сябе на вядомых варунках аднаго з варажскіх конунгаў з яго шайкай, з тым, каб ён бараніў славянаў ад другіх варажскіх шаек. «Поимем себе князя, которій-бы володел нами по ряду» (на умове).

Прызывалі князя Ноўгародзкія Словене, і, бытцам, разам з імі Крывічы і Чудзь. Адкуль яны прышлі — гэта паказваюць іх імёны: ў Рурыку, Ігару, Олегу ня трудна пазнаць нормандзкіх Рэрыка, Хелега. (Chelgi). Яшчэ ў X стагодзьдзі яны гаварылі асобнай, сваей, «рускай» мовай. Канстантын Багранародны прыводзіць цэлы рад такіх «рускіх» назоў дняпроўскіх парогаў, усе яны тлумачацца з швэдзкай мовы [1].

Прыходцы прынясьлі з сабой дэспатызм, ў аснову якога паложана была мысьль, што князь зьяўляецца ўласьнікам на прыватным праве ўсей тэрыторыі свайго княжства. Гэткае паняцьце новапрызваных князёў з трудом ужывалася з славянскім народапраўствам і вечавым укладам. Дзеля гэтага мы бачым, што прызваныя князі пачынаюць сабе шукаць «валасьцей» па-за межамі Ноўгарада, на поўдні. Смаленск яны сьпярша абходзяць кругом «зане град велик и многолюден» і ўмацоўваюцца ў Кіеве, які робяць галоўным цэнтрам сваей экспансыі.

«Аб ніякіх пачатках грамадзянскасьці, бытцам то прынесеных князямі з-за мора, ня можа быць мовы. Арабскі пісьменнік Ібн-Даст апавядае аб русах, што яны робяць напады на славянаў, пад'еджджаюць да іх на лодках і выходзяць на бераг і палоняць народ, які адпраўляюць пасьля ў Хазэран да Баўгараў на продаж. Гэта быў галоўны замежны гандаль, побач чорных саболяў і куніц, тагочаснай «Русі» [2].

Умацаваўшыся ў Кіеве і седзячы па умове ў Ноўгарадзе, дынастыя русаў адчувала вялікую нявыгоду ў сваім гандлі, што паміж Ноўгарадам і Кіевам німа беспасярэднай граніцы: кожды тавар, правожаны з Кіева на поўнач і з Ноўгарада на поўдзень, павінен быў праходзіць праз Крывічанскую тэрыторыю, Смаленскую або Полацкую, і плаціць

[1] Покровский. История России.
[2] Там жа.

мыта. І вось пачынаецца доўгалетняя вайна, каб заваеваць гэтыя паміжлеглыя тэрыторыі з іх пракавечнымі гарадамі.

Пры ўсякіх экспансыях захватчыкі апіраюцца ня толькі на голую сілу, але і на «святыя правы». І аўтар «Повесьці», які жыў у час паняволеньня і «прымучываньня» славянаў, заносіць у сваю летапісь легенду, што старэйшым цэнтрам, адкуль ішло разсяленьне славян, быў Ноўгарад. Гэта знача, што выходным, пачатковым пунктам варажскай навалы быў Ноўгарад.

Характар «Повесьці временных лет» носіць ўсе азнакі афіцыяльнай кронікі дынастыі Рурыкавічаў; гэта ёсьць, сьцісла кажучы, выказ яе чынаў і сьветагляд з пункту яе інтэрасаў і імкненьняў. Тут мы маем сабраныя ўсе аргуманты ў карысьць апраўданьня панаваньня гэтай дынастыі над Усх. славянскімі плямёнамі, прычым не адзін раз асаблівы націск кладзецца на права Рурыкавічаў да Крывічанскай тэрыторыі:

а) Прыведзена легенда аб дабравольным прызваньні Рурыка ня толькі Ноўгародцамі і Чудзьдзю, але і Крывічамі.

б) Падкрэсьлена, што Рурык, бытцам, пасадзіў ва ўсіх большых гарадох сваіх мужоў, па праву законна прызванага валадара, у тым ліку і ў гарадох Крывічанскіх (аднак Рурыкоў муж, Алег, ідучы на поўдзень, абходзіць кругом Смаленск, а па сьмерці Рурыка пасьля 20-ці летняга змаганьня дабывае яго з бою).

в) Легенда аб жанідзьбе Валадзімера з Рагнедай і г. д.[1].

І ня гледзячы на ўсе аргуманты, якія меліся ў распараджэньні Русаў ў апраўданьне панаваньня іх над Крывічамі, полацкія землі, якія пасьля заваяваньня Смаленска сталіся палітычным цэнтрам Крывічоў, *ніколі ня ўходзілі ў удзельную сыстэму Кіеўскіх русаў*; трымаліся зусім асобна, мелі сваю асобную дынастыю, якую Рурыкавічы называлі «Рогваложымі ўнукамі». Крывічанскія землі, знача, ніколі не лічыліся «воласьцю» Кіеўскага вялікакняжага стала, а былі для яго адзіна аб'ектам да заваяваньня.

Пашырэньне імені «Русь» на тэрыторыю Крывічоў адбывалася не дынастычным парадкам, а шляхам пашырэньня хрысьціянства. Прыняцьце хрысьціянства В. Кн. Кіеўскім Валадзімерам мела вельмі важныя вынікі для дынастыі Русаў і іх дружыны. Дынастыя з дружынай, пад ўплывам славянскай граматнасьці, асымілявалася з падбітымі славянамі (таксама, як і раней ў Баўгарыі было), прыняла іх мову; ў свой чарод хрысьціянства, якое сьпершапачатку было верай пануючага клясу, князёў і дружыны, верай русаў, атрымала найменьне «рускай веры». «Рус» і «Хрысьціянін» былі найменьні ўзаемна сябе пакрываючыя. Ад гэтага часу «прымучываньне» славянаў варагамі пакрывалася высокімі мэтамі пашырэньня «рускай веры», пашырэньня хрысьціянства. Манаполь хрысьціянства ў руках Кіеўскіх Русаў сыграў грамадную ролю ў сэнсе ўгрунтаваньня іх улады і пашырэньня ўплываў. Па іхняй старане была цяпер хрысьціянская царква з яе арганізацыяй і граматнасьцю, ды ў дадатку цэнтрам гэтай царквы быў іх-жа «богаспасаемы» горад Кіеў. Хрысьціянства, меўшае ўжо перад тым карані між гарадзкога жыхарства ўсяго абшару ўсходнай славяншчыны, пачало скора шырыцца, і пад яго націскам за 200 гадоў увесь усходна-славянскі абшар становіцца хрысьціянскім і прыбірае імя Русь. Старыя племянныя і дзяржаўныя найменьні прасьледуюцца, як азнака зваяванага паганства, як азнака адсталасьці і некультурнасьці. У пераходны час ад паганізму да хрысьціянства прыймаецца імя «Русь» і Крывічанскім народам. Аднак найменьне «Крывічы», як моцна ўкаранілўшаеся, уступае сваё мейсца новаму тэрміну не адразу. Мы ўжо бачылі вышэй, што ў XI ст. Кіеўскі летапісец не расьцягае імені Русь на Крывічоў. Латышы да сягоньня не ўжываюць імені «Беларусы», а называюць, па старой памяці, нас Крывічамі (Kreevu). Найменьне гэтае да нядаўна фігуравала ў статыстыцы (Н. Столпянскай, «Девять губерний Западного Края», СПБ., 1866 г.), а знача ў памяці народнай, як найменьне нацыянальнае.

З гэтага вынікае, што: а) найменьне «Русь» не славянскага паходжаньня, занесена яно на славяншчыну Нарманамі ў IX стагодзьдзі; б) пашыралася між славянскіх плямён, як тэрмін дынастычны і, галоўна, як веравызнаўчы, ў гэтым апошнім значэньні яно ўмацавалася і сярод Крывічоў.

---

[1] Праф. Доўнар-Запольскі ў сваей працы «Очерк Истории Кривичанской и Дреговичанской земель» саўсім справядліва заўважае, што пад легендай аб прымусовай жанідзьбе Валадзімера з Рагнедай крыецца алегорыя паняволяньня полаччыны Русамі.

# НОВЫ ЗАПАВЕТ ГОСПАДА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА ПАВОДЛЕ МАРКА СВЯТОЕ ДАБРАВЕСЦЕ

Раздзел 9

## ПЕРАМЯНЕННЕ ІСУСА НА ГАРЫ

**1 І Ён казаў ім: «Папраўдзе кажу вам: некаторыя з тых, што стаяць тут, не зазнаюць смерці, аж пакуль не ўбачаць, як прыходзіць у моцы Божае Царства».**

Мацв. 16, 28; Лук. 9, 27

**2 І праз шэсць дзён бярэ Ісус Пятра, і Якава, і Іаана і ўзводзіць асобна іх адных на высокую гару. І перамяніўся Ён перад імі,**

Мацв. 17, 1

**3 І Яго адзенне зрабілася бліскучае, незвычайна белае, што бялільшчык на зямлі не можа так выбеліць.**

**4 І ўбачыўся ім Ілля з Майсеем і размаўлялі з Ісусам.**

**5 І, азваўшыся, Пятро кажа Ісусу: «Раввi, добра нам тут быць, і зробім тры будыны, Табе адзін, і Майсею адзін, і Іллі адзін.»**

**6 Бо не ведаў ён, што сказаць, бо яны перапалохаліся.**

**7 І паўстала воблака, якое пакрыла іх, і пачуўся голас з воблака: «Гэта Мой Сын улюбёны, слухайце Яго!»**

**8 І раптам, аглядзеўшыся навокал, яны ўжо нікога не ўбачылі, толькі аднаго Ісуса з сабою.**

**9 І, калі спускаліся з гары, Ён наказаў ім, каб нікому не расказвалі таго, што бачылі, аж пакуль Чалавечы Сын не ўстане з мёртвых.**

**10 І трымалі яны гэтае слова, разважаючы між сабою, што значыць «устаць з мёртвых».**

**11 І пыталіся ў Яго, кажучы: «Чаму кніжнікі кажуць, што Ілля павінен спярша прыйсці?»**

Мацв. 17, 10

**12 А Ён сказаў ім: «Ілля, сапраўды, прыйшоўшы спярша, адновіць усё; а як жа напісана пра Чалавечага Сына? — шмат Яму належыць выцерпець і быць зняважаным.**

Пс. 21, 7; Іс. 53, 3; Дан. 7, 13; 9, 26

**13 Але кажу вам, што і Ілля прыйшоў і зрабілі яму, што хацелі, як напісана пра яго.»**

Мал. 4, 5; Мацв. 17, 12

**14 А прыйшоўшы да вучняў, убачылі вялікі натоўп навокал іх ды кніжнікаў, што спрачаліся з імі.**

**15 І адразу ўвесь натоўп, убачыўшы Яго, вельмі здзівіўся, і, падбягаючы, яны віталі Яго.**

**16 І Ён спытаўся ў іх: «Аб чым спрачаецеся з імі?»**

## ВЫЛЕЧВАННЕ АПАНТАНАГА НЯМЫМ ДУХАМ

**17 І адказаў Яму адзін з натоўпу: «Настаўніку, я прывёў да Цябе свайго сына, які мае нямога духа.**

Мацв. 17, 14; Лук. 9, 38

**18 І дзе ён ні схопіць яго, кідае вобземлю, а ён пену пускае, і скрыгоча зубамі і карчанее; і я сказаў Тваім вучням, каб выгналі яго, ды яны не змаглі».**

**19 А Ён у адказ ім кажа: «О племя бязвернае, дакуль буду з вамі? Дакуль буду цярпець вас? Прывядзіце яго да Мяне».**

**20 І таго прывялі да Яго. І, убачыўшы Яго, дух адразу скруціў таго курчам і той, упаўшы на зямлю, качаўся, пу-**

* Працяг. Пачатак гл.: «Спадчына», 1989, № 2, 1990 №№ 1, 2, 3, 4.

скаючы пену.
21 І Ісус запытаўся ў яго бацькі: «Колькі часу, як гэта здарылася з ім?» Той жа сказаў: «З дзяцінства.
22 І часта дух кідаў яго ў агонь і ў ваду, каб загубіць яго; але, калі што можаш, дапамажы нам, злітаваўшыся над намі!»
23 Ісус жа сказаў яму: «Калі можаш!» — усё мажлівае таму, хто верue».
Мацв. 16, 20; 21, 22
24 Адразу ўсклікнуўшы, хлопцаў бацька казаў: «Верую. Дапамажы маёй няверы».
25 Ісус жа, убачыўшы, што збягаецца натоўп, забараніў нячыстаму духу, кажучы яму: «Нямы і глухі дух, Я загадваю табе: выйдзі з яго і больш не ўваходзь у яго!»
26 І, ускрыкнуўшы і моцна скурчыўшы яго, той выйшаў; а ён зрабіўся як мёртвы, так што многія казалі: памёр.
27 Ісус жа, узяўшы яго за руку, падняў яго, і ён устаў.
28 І калі ўвайшоў Ісус у дом, Яго вучні на адзіноце спыталіся ў Яго: «Чаму не змаглі мы выгнаць яго?»
29 І Ён сказаў ім: «Гэты род ніяк не можа выйсці, толькі ад малітвы [і посту]».

## ІСУС ДРУГІ РАЗ ГАВОРЫЦЬ ПРА СВАЮ СМЕРЦЬ І ЎВАСКРЭСЕННЕ

30 І, адтуль выйшаўшы, яны праходзілі праз Галілею; і Ён не хацеў, каб даведаўся хто;
31 Бо Ён навучаў Сваіх вучняў і казаў ім: «Чалавечы Сын будзе выдадзены ў рукі чалавечыя, і заб'юць Яго, і, забіты, Ён праз тры дні ўваскрэсне».
Мацв. 17, 22; Лук. 9, 22; 24, 7
32 Яны ж не разумелі гэтага слова і баяліся ў Яго спытацца.

## ХТО НАЙБОЛЬШЫ Ў НЯБЕСНЫМ ЦАРСТВЕ

33 І прыйшлі ў Капернаум. І калі быў дома, Ён спытаўся ў іх: «Што вы дарогаю абмяркоўвалі?»
34 Яны ж маўчалі; бо ў дарозе абмяркоўвалі між сабою: хто большы.
35 І, сеўшы, Ён паклікаў Дванаццаць і кажа ім: «Калі хто хоча быць першы, няхай будзе з усіх апошні і слуга ўсіх».
36 І, узяўшы дзіця, Ён паставіў яго пасярод іх, і, абняўшы яго, сказаў ім:
Мацв. 18, 5; Лук. 9, 48
37 «Хто прыйме адно з такіх дзяцей у Маё імя, Мяне прымае; і хто Мяне прыйме, не Мяне прымае, але Таго, Хто паслаў Мяне».

## ХТО НЕ СУПРАЦЬ НАС, ТОЙ ЗА НАС

38 Сказаў Яму Іаан: «Настаўніку, мы бачылі чалавека, што Тваім імем выганяе дэманаў, і забаранялі яму, бо ён не ішоў услед за намі».
Лук. 9, 49
39 Ісус жа сказаў: «Не забараняйце яму. Бо няма таго, хто зрабіў бы цуд у Маё імя і мог бы неўзабаве кепска казаць пра Мяне,
І Кар. 12, 3
40 Бо хто не супроць нас, той за нас.
41 Бо хто напоіць нас кубкам вады дзеля імя, што вы Хрыстовы, папраўдзе кажу вам: не страціць ён сваёй узнагароды.
Мацв. 10, 42
42 І хто ўвядзе ў грэх аднаго з гэтых малых, што веруюць [у Мяне], лепей было б яму, калі б млынавы жарон павесілі яму на шыю і кінулі ў мора.
Мацв. 18, 6; Лук. 17, 1

## ЗАСЦЯРОГА АД СПАКУС

43 І калі ўводзіць у грэх цябе твая рука, адсячы яе; лепей табе калекім увайсці ў жыццё, чым, дзве рукі меўшы, адысці ў геену, у нязгасны агонь[1].
Друг. 13, 8; Мацв. 5, 29; 18, 8
Іс. 66, 24
45 І калі твая нага ўводзіць у грэх цябе, адсячы яе; лепей табе ўвайсці ў жыццё кульгавым, чым, дзве нагі меўшы, быць кінутаму ў геену.
47 І калі тваё вока ўводзіць у грэх цябе, вырві яго; лепей табе аднавокім ўвайсці ў Божае Царства, чым, два вокі меўшы, быць укінутаму ў геену,
49 Бо кожны агнём пасоліцца [і кожная ахвяра соллю пасоліцца].
Лев. 2, 13; Іез. 43, 24
50 Соль — добра; калі ж соль абяссолее, чым яе прыправіце? Майце соль у сабе і майце мір між сабою!»
Мацв. 5, 13; Рым. 14, 19; Кал. 4, 6

---

[1] Вершы 44 і 46 ранейшых перакладаў літаральна супадаюць з вершам 48, але ў адрозненне ад гэтага апошняга, не сустракаюцца ў найстаражытнейшых рукапісах Мк.

Раздзел 10

## ШТО БОГ ЗЛУЧЫЎ, НЯХАЙ ЧАЛАВЕК НЕ РАЗЛУЧАЕ

**1 І, вырушыўшы адтуль, прыходзіць Ён у межы Іудзеі і ў Заіярданне, і зноў збіраюцца да Яго натоўпы, і Ён, як звычайна, зноў навучаў іх.**

**2 І, падышоўшы, фарысеі пыталіся ў Яго выпрабоўваючы: «Ці дазваляецца мужу адпускаць жонку?»**

Мацв. 19, 3

**3 У адказ Ён сказаў ім: «Што вам запаведаў Майсей?»**

**4 Яны ж сказалі: «Майсей дазволіў напісаць разводны ліст і адпусціць».**

Друг. 24, 1; Мацв. 5, 31; Лук. 16, 18

**5 А Ісус сказаў ім: «З-за вашага нячулага сэрца ён напісаў гэтую запаведзь.**

**6 Ад пачатку ж стварэння Бог «мужчынаю і жанчынаю стварыў іх.**

Быц. 1, 27; Мацв. 19, 4

**7 Таму пакіне муж свайго бацьку і маці [і прылепіцца да свае жонкі]**

Быц. 2, 24; І Кар. 6, 16

**8 І будуць яны абое адным целам», так што яны ўжо не два, але адно цела.**

**9 Дык вось, што Бог злучыў, няхай чалавек не разлучае».**

І Кар. 7, 10

**10 І ў доме вучні зноў пра гэта пыталіся ў Яго.**

**11 І Ён кажа ім: «Хто адпусціць сваю жонку і ажэніцца з іншаю, той чыніць пералюб супроць яе;**

**12 І калі яна, пакінуўшы свайго мужа, выйдзе замуж за іншага, чыніць пералюб».**

## ІСУС БЛАСЛАЎЛЯЕ ДЗЯЦЕЙ

**13 І прыносілі да Яго дзяцей, каб Ён дакрануўся да іх; вучні ж забаранялі ім.**

Мацв. 19, 13; Лук. 18, 15

**14 Ісус жа, убачыўшы, абурыўся і сказаў ім: «Дазвольце дзецям прыходзіць да Мяне, не забараняйце ім, бо такіх ёсць Божае Царства.**

Мацв. 18, 4; І Пет. 2, 2; І Кар. 14, 20

**15 Папраўдзе кажу вам: Хто не прыйме Божага Царства, як дзіця, той не ўвойдзе ў яго».**

Мацв. 11, 25

**16 І, абняўшы іх, блаславіў, усклаўшы на іх рукі.**

Мацв.19, 15

## ЯК АТРЫМАЦЬ У СПАДЧЫНУ ВЕЧНАЕ ЖЫЦЦЁ

**17 І, калі выходзіў Ён у дарогу, падбег адзін і, упаўшы на калені перад Ім, спытаўся ў Яго: «Дасканалы Настаўніку, што рабіць мне, каб атрымаць у спадчыну вечнае жыццё?»**

Мацв. 19, 16; Лук. 18, 18

**18 Ісус жа сказаў яму: «Што ты завеш Мяне Дасканалым? Ніхто не дасканалы, толькі адзін Бог.**

**19 Ты ведаеш запаведзі: «Ні забі, не чыні пералюбу, не ўкрадзі, не сведчы фальшыва, не ашуквай, шануй свайго бацьку і маці».**

Зых. 20, 12 — 17; Друг. 5, 17
Мацв. 5, 21; Лук. 18, 20

**20 А ён сказаў Яму: «Настаўніку, усё гэта я захоўваў са сваёй маладосці».**

**21 Ісус жа, паглядзеўшы на яго, упадабаў яго і сказаў яму: «Аднаго табе не хапае: ідзі, усё, што маеш, прадай, і раздай убогім, і будзеш мець скарб у небе, і прыходзь, і ідзі ўслед за Мною [узяўшы крыж]».**

Мацв. 6, 1

**22 А той, пануры́ўшыся ад гэтага слова, пайшоў засмучаны: бо меў вялікі набытак.**

**23 І, паглядзеўшы навокал, Ісус кажа Сваім вучням: «Як цяжка будзе тым, што маюць багацце, увайсці ў Божае Царства».**

Іоў. 31, 24; Іак. 2, 5; І Цім. 6, 17

**24 Вучні жахнуліся ад Яго слоў. Ісус жа зноў кажа ім: «Дзеці, як цяжка ўвайсці ў Божае Царства [тым, што ўскладаюць надзею на багацце].**

**25 Лягчэй вярблюду прайсці праз ігольнае вушка, чым багатаму ўвайсці ў Божае Царства».**

**26 Яны ж надзвычай уразіліся, кажучы між сабою: «І хто ж можа збавіцца?»**

**27 Паглядзеўшы на іх, Ісус кажа: «Людзям гэта немажліва, але не Богу: бо ўсё мажліва Богу».**

Іоў. 42, 2

**28 Пачаў казаць Пятро Яму: «Вось мы пакінулі ўсё і пайшлі ўслед за Табою».**

Мацв. 19, 27; Лук. 18, 28

**29 Сказаў Ісус: «Папраўдзе кажу вам, няма нікога, хто пакінуў дом, ці братоў, ці сясцёр, ці маці, ці бацьку, ці дзяцей, ці палі дзеля Мяне і дзеля Дабравесця,**

**30 І не атрымае ў сто разоў больш цяпер, у гэты час, дамоў, і братоў, і сясцёр, і мацярок, і дзяцей, і палёў, пры ганеннях, а ў веку наступным — вечнае**

жыццё.
31 Многія ж першыя будуць апошні-
мі і апошнія першымі».
Мацв. 19, 30; Лук. 13, 30

## ІСУС ТРЭЦІ РАЗ ГАВОРЫЦЬ ПРА СВАЮ СМЕРЦЬ І ЎВАСКРЭСЕННЕ

32 Былі ж яны ў дарозе, падымаючы-
ся ў Ерусалім, і Ісус ішоў паперадзе іх,
і яны жахаліся, а тыя, што ішлі ўслед
за Ім, баяліся. І, узяўшы, зноў Два-
наццаць, Ён пачаў казаць ім, што павін-
на адбыцца з Ім:
33 «Вось, узыходзім мы ў Ерусалім
і Чалавечы Сын будзе выдадзены перша-
святарам і кніжнікам, і засудзяць Яго
на смерць, і выдадуць Яго язычнікам,
Мацв. 20, 18; Лук. 18, 31
34 І насміхацца будуць з Яго, і бу-
дуць пляваць на Яго, і будуць бічаваць
Яго, і заб'юць, ды праз тры дні Ён увас-
крэсне.»

## ХТО ХОЧА БЫЦЬ ПЕРШЫМ, НЯХАЙ БУДЗЕ ЎСІМ РАБОМ

35 І падходзяць да Яго Якаў і Іаан,
Завядзеевы сыны, і кажуць яму: «На-
стаўніку, каб Ты зрабіў нам тое, што
мы Цябе папросім».
Мацв. 20, 20
36 А Ён сказаў ім: «Што вы хочаце,
каб Я зрабіў вам?»
37 Яны ж сказалі Яму: «Дай нам, каб
мы адзін праваруч Цябе, адзін леваруч
сядзелі ў славе Тваёй».
38 Ісус жа сказаў ім: «Не ведаеце, што
просіце. Ці можаце піць келіх, які Я
п'ю, ці хрысціцца хрышчэннем, якім Я
хрышчуся?»
39 Яны ж сказалі Яму: «Можам». Ісус
жа сказаў ім: «Келіх, які Я п'ю, будзеце
піць, і хрышчэннем, якім Я хрышчуся,
будзеце пахрышчаны,
40 А сядзець паваруч ці леваруч не
Мне даваць, але тым, каму ўгатавана».
41 І, пачуўшы, дзесяць пачалі гневац-
ца на Якава і Іаана.
Мацв. 20, 24; Лук. 22, 24
42 І, паклікаўшы іх, Ісус кажа ім: «Вы
ведаеце: тыя, што лічацца начальнікамі
над народамі, пануюць над імі, і вяльмо-
жы іх паказваюць сваю ўладу над імі;
43 Ды не так між вамі, але хто між
вас хоча вялікім быць, няхай будзе ва-
шым слугою;
44 І хто хоча між вамі быць першым,
хай будзе рабом усіх;
Мар. 9, 35
45 Бо і Чалавечы Сын не дзеля таго
прыйшоў, каб Яму паслужылі, але каб
паслужыць і аддаць Сваё жыццё ў вы-
куп за многіх».
Іан. 13, 15; І Пят. 5, 3; Філ. 2, 7

## ВЫЛЕЧВАННЕ СЛЯПОГА ВАРТЫМЕЯ

46 І прыходзяць яны ў Ерыхон. І ка-
лі выходзіў Ён з Ерыхона са Сваімі
вучнямі і вялізным натоўпам,— Тымееў
сын, Вартымей, сляпы папрасімец, ся-
дзеў пры дарозе.
Мацв. 20,29
47 І, пачуўшы, што гэта Ісус Назара-
нін, пачаў ён крычаць і прасіць: «Сыне
Давідаў, Ісусе, злітуйся нада мною!»
48 І сварыліся на яго многія, каб за-
моўк; а ён яшчэ мацней крычаў: «Сыне
Давідаў, злітуйся нада мною!»
49 І, спыніўшыся, Ісус сказаў: «Пакліч-
це яго». І клічуць сляпога, кажучы яму:
«Мацуйся, устань, кліча цябе!»
50 Ён, жа скінуўшы сваю вопратку,
ускочыў і падышоў да Ісуса.
51 І, азваўшыся, Ісус сказаў яму: «Што
ты хочаш, каб Я табе зрабіў?» Сляпы ж
сказаў Яму: «Раввуні, каб бачыў я».
52 І Ісус сказаў яму: «Ідзі, твая ве-
ра ўратавала цябе». І той адразу стаў
бачыць і пайшоў услед за Ім па дарозе.

Раздзел 11

## УРАЧЫСТЫ ЎЕЗД У ЕРУСАЛІМ

1 І калі наблізіліся яны да Ерусалі-
ма, да Вітфагіі і Віфаніі, на Аліўнай
гары, Ён пасылае двух Сваіх вучняў
Мацв. 21, 1. Лук. 19, 29
2 І кажа ім: «Ідзіце ў паселішча, што
перад вамі, і адразу, увайшоўшы ў яго,
знойдзеце прывязанае асляня, на якое
яшчэ ніхто з людзей не садзіўся; адвя-
жыце яго і прывядзіце.
3 І калі хто вам скажа: «Што гэта вы
робіце?», скажыце: «Яно патрэбна Госпа-
ду, і Ён адразу яго адашле зноў сюды».
4 І яны пайшлі і знайшлі асляня, пры-
вязанае да варот знадворку на вуліцы,
і адвязваюць яго.
5 І некаторыя з тых, што там стаялі,
казалі ім: «Што вы робіце, адвязваючы
асляня?»
6 Яны ж сказалі ім так, як сказаў
Ісус, і тыя адпусцілі іх.
7 І прыводзяць асляня да Ісуса і кла-
дуць на яго сваю вопратку, і Ён сеў
на яго.
Мацв. 21, 7. Лук. 19, 35

**8 І многія пасцілалі сваю вопратку на дарогу, а іншыя — галінкі, зрэзаўшы іх у палях.**

Іаан. 12, 13

**9 І тыя, што ішлі перад Ім і ўслед за Ім, усклікалі: «Асанна! Благаславёны той, хто ідзе ў імя Госпада!**

Пс. 117, 26

**10 Благаславёнае царства, што надыходзіць, бацькі нашага Давіда! Асанна ў вышынях!»**

**11 І Ён увайшоў у Ерусалім у святыню і, агледзеўшы ўсё,— час ужо быў позні — выйшаў у Віфанію з Дванаццацьцю.**

**12 І на другі дзень, калі выйшлі яны з Віфаніі, Ён прагаладаўся.**

**13 І, убачыўшы здалёку фігавае дрэва, на якім было лісце, падышоў: ці не знойдзе чаго на ім, і, прыйшоўшы да яго, нічога не знайшоў, толькі лісце, бо не была пара фігаў.**

**14 І, азваўшыся, Ён сказаў яму: «Няхай больш павек ніхто не есць ад цябе плоду!» І чулі гэта Яго вучні.**

## АЧЫШЧЭННЕ СВЯТЫНІ

**15 І прыходзяць яны ў Ерусалім. І, увайшоўшы ў святыню, пачаў Ён выганяць прадаўцоў і пакупцоў у святыні і абярнуў сталы грашаменаў і ўслоны прадаўцоў галубоў.**

Мацв. 21, 12. Лук. 19, 45. Іаан. 2, 14

**16 І не дазваляў, каб хто якое начынне праносіў праз святыню.**

**17 І навучаў Ён і казаў ім: «Хіба не напісана: «Мой дом домам малітвы будзе названы для ўсіх народаў»? Вы ж зрабілі яго «пячораю разбойнікаў».**

Пс. 56, 7. Іер. 7, 11

**18 І пачулі гэта першасвятары і кніжнікі і шукалі, як бы Яго загубіць, бо яны баяліся Яго, бо ўвесь натоўп дзівіўся Яго навуцы.**

**19 І калі надышоў вечар, яны выйшлі за горад.**

**20 І, праходзячы ўранні, убачылі, што фігавае дрэва засохла ад кораня.**

**21 І, успомніўшы, Пятро кажа Яму: «Раввí, зірні, фігавае дрэва, якое Ты пракляў, засохла».**

**22 І ў адказ Ісус кажа ім: «Майце веру ў Бога.**

**23 Папраўдзе кажу вам: Хто скажа гэтай гары: «Падыміся і кінься ў мора» і не ўсумніцца ў сваім сэрцы, але будзе верыць, што спраўдзіцца тое, што кажа,— тое будзе яму.**

**24 Таму кажу вам: аб чым вы моліцеся і просіце, верце, што атрымаеце,— і будзе вам.**

Мацв. 7, 7. Лук. 11, 9. Іаан. 14, 13.

## ЯК ТРЭБА МАЛІЦЦА

**25 І, калі стаіце на малітве, даруйце, як што маеце супроць каго, каб і ваш Бацька, Які ў нябёсах, вам дараваў вашы правіны.**

Мацв. 6, 14. Еф. 4, 32. Кал. 3, 13

**[26 Калі ж вы не даруеце, то і ваш Бацька, Які ў нябёсах, не даруе вашых правінаў.]»**[1]

**27 І прыходзяць яны зноў у Ерусалім. І калі Ён хадзіў у святыні, падыходзяць да Яго першасвятары і кніжнікі і старэйшыны.**

Мацв. 21, 23. Лук. 20, 1.

**28 І казалі Яму: «Якою ўладаю Ты гэта робіш? Або хто Табе даў гэтую ўладу, каб Ты рабіў гэта?»**

**29 Ісус жа сказаў ім: «Спытаюся ў вас адно слова і адкажыце мне і скажу Я вам, якою ўладаю раблю гэта;**

**30 Іаанава хрышчэнне было з неба ці ад людзей? Адкажыце Мне».**

**31 І разважалі яны між сабою, кажучы: Калі мы скажам: «З неба», Ён скажа: «Чаму ж вы не паверылі яму?»**

**32 Дык скажам: «Ад людзей»? Яны баяліся натоўпу. Бо ўсе ўважалі, што Іаан быў сапраўды прарок.**

**33 І ў адказ яны кажуць Ісусу: «Не ведаем». А Ісус кажа ім: «І Я не скажу вам, якою ўладаю гэта раблю».**

## Раздзел 12

## ЛІХІЯ ВІНАГРАДАРЫ

**1 І пачаў Ён казаць ім упадабненнямі: «Насадзіў чалавек вінаграднік і абнёс агароджаю, і здаў у арэнду вінаградарам і выехаў.**

Пс. 79, 9; Песн. П. 8, 12; Іс. 5, 1; Мацв. 21, 33

**2 І ў пэўны час паслаў да вінаградараў раба, каб узяў у вінаградараў ад плёну вінаградніка;**

**3 А тыя, схапіўшы яго, збілі і адаслалі ні з чым.**

Мацв. 5, 12; 23, 34

**4 І зноў паслаў да іх іншага раба і таго ранілі ў галаву і зняважылі.**

**5 Тады паслаў наступнага; і таго забілі,**

---

[1] Гэтых радкоў, якія амаль літаральна супадаюць з Мацв. 6, 15, няма ў старажытных рукапісах Мк

і многіх іншых каго збілі, каго забілі.
6 Яшчэ аднаго ён меў: улюбёнага сына; паслаў яго апошнім да іх, кажучы: «Пасаромеюцца майго сына!»
7 А тыя вінаградары разважалі між сабою: «Гэта спадкаемец; хадзем заб'ем яго, і спадчына будзе наша.»
Мацв. 26, 3—4
8 І, схапіўшы, яны забілі яго і выкінулі яго за вінараднік.
Яўр. 13, 12
9 Што зробіць гаспадар вінаградніка? Прыйдзе і знішчыць тых вінаградараў і здасць вінараднік іншым.
10 Няўжо вы і гэтага Пісьма не чыталі: «Камень, які адкінулі будаўнікі, зрабіўся галавою вугла;
Мацв. 21, 42
11 Ад Госпада зрабілася гэта і яно дзіўнае ў нашых вачах»?
Пс. 117, 22—23
12 І стараліся Яго схапіць, ды баяліся натоўпу, бо зразумелі, што супроць іх сказаў Ён упадабненне. І, пакінуўшы Яго, адышлі.

## АДДАВАЙЦЕ КЕСАРАВА КЕСАРУ, А БОГУ БОЖАЕ

13 І пасылаюць да Яго некаторых з фарысеяў і з ірадыян, каб злавіць Яго на слове.
Мацв. 22, 15; Лук. 20, 20
14 І тыя, прачытаўшы, кажуць Яму: «Настаўніку, мы ведаем, што Ты праўдзівы і ні на кога не зважаеш: бо не глядзіш на асобу чалавека, але праўдзіва настаўляеш на Божую дарогу; ці можна даваць падаткі кесару ці не? Даваць нам ці не даваць?»
15 Ён жа, ведаючы іх крывадушнасць, казаў ім: «Што вы Мяне выпрабоўваеце? Прынясіце Мне дынарый, каб я паглядзеў».
16 Яны і прынеслі. І Ён кажа ім: «Чыя гэта выява і надпіс?» Тыя ж адказалі Яму: «Кесарава».
17 Ісус жа сказаў ім: «Кесарава аддавайце кесару, а Божае Богу». І вельмі здзіўляліся Яму.
Мацв. 22, 21

## СПРЭЧКА ПРА ЎВАСКРЭСЕННЕ

18 І прыходзяць да Яго садукеі, якія кажуць, што няма ўваскрашэння, і пытаюцца ў Яго, кажучы:
Лук. 20, 27
19 «Настаўніку, Майсей напісаў нам: «Калі ў каго брат памрэ і пакіне жонку і не пакіне дзяцей, то няхай яго брат возьме жонку і ўзновіць патомства свайму брату».
Друг. 25, 5; Мацв. 22, 24; Лук. 20, 28
20 Было сем братоў: і першы ўзяў жонку і, паміраючы, не пакінуў патомства;
21 І другі ўзяў яе і памёр, не пакінуўшы патомства; і трэці таксама;
22 І сямёра не пакінулі патомства. Пасля ўсіх памерла і жонка.
23 Ва ўваскрэсенні [калі ўваскрэснуць] каго з іх будзе яна жонкаю? Бо сямёра мелі жонкай яе.»
24 Сказаў ім Ісус: «Ці не таму вы памыляецеся, што не ведаеце ні Пісьма, ані Божай сілы?
25 Бо калі ўстануць з мёртвых, не будуць ні жаніцца, ані замуж выходзіць, але будуць як анёлы ў нябёсах.
26 Пра мёртвых жа, што ўваскрэснуць, хіба не чыталі вы ў Майсеевай Кнізе пра купіну, як сказаў яму Бог, прамаўляючы: «Я Бог Аўраамаў, і Бог Ісакаў, і Бог Якава»?
Зых. 3, 6; Мацв. 22, 32; Лук. 20, 37
27 Ён не Бог мёртвых, але жывых: вы вельмі памыляецеся.

## НАЙБОЛЬШАЯ ЗАПАВЕДЗЬ

28 І, падышоўшы, адзін з кніжнікаў, які чуў, як яны спрачаюцца, і бачачы, што добра Ён адказаў ім, спытаўся ў Яго: «Якая запаведзь першая з усіх?»
Мацв. 22, 35; Лук. 10, 25
29 Адказаў Ісус: «Першая: «Слухай, Ізраіле! Госпад, наш Бог, ёсць Госпад адзіны;
Друг. 6, 4—5; Мацв. 22, 37; Лук. 10, 27
30 І любі Госпада, Бога свайго, усім сэрцам сваім, і ўсёю душою сваёю, і ўсім розумам сваім, і ўсёю сілай сваёю.»
31 І вось другая: «Любі свайго бліжняга, як самога сябе.» Няма іншай запаведзі большай за гэтыя.»
Ляв. 19, 18; Мацв. 5, 43; Іак. 2, 8; Рым. 13, 9; Гал. 5, 14
32 І сказаў Яму кніжнік: «Добра, Настаўніку! Праўдзіва сказаў Ты, што Ён адзіны і няма другога, акрамя Яго:
33 І любіць Яго ўсім сэрцам, і ўсім розумам і ўсёю сілаю, і любіць бліжняга, як самога сябе,— больш за ўсе цэласпаленні і ахвяры».
34 І Ісус, убачыўшы, што ён разумна адказваў, сказаў яму: «Недалёка Ты ад Божага Царства». І ніхто больш не адважваўся пытацца ў Яго.

## ЧЫЙ СЫН ХРЫСТОС

**35 І, азваўшыся, Ісус казаў, навучаючы ў святыні: «Як жа кажуць кніжнікі, што Хрыстос — Давідаў сын!**

Мацв. 22, 41; Лук. 20, 41

**36 Сам Давід сказаў Святым Духам: «Сказаў Госпад майму Госпаду: сядзь праваруч Мяне, аж пакуль Я не пакладу Тваіх ворагаў пад Твае ногі.»**

Пс. 109, 1

**37 Сам Давід кажа, што Ён — Госпад: дык як жа Ён яго сын!»**

**І вялікі натоўп ахвотна слухаў Яго.**

**38 І ў Сваёй навуцы Ён казаў: «Сцеражыцеся кніжнікаў, што любяць праходжвацца ў доўгай вопратцы і каб віталі іх на рынках,**

**39 І першыя лавы ў сінагогах і першыя месцы на банкетах,**

Мацв. 23, 6; Лук. 11, 43

**40 Што праядаюць удовіны дамы і для выгляду доўга моляцца; гэтыя атрымаюць цяжэйшы прысуд».**

Іез. 22, 25; Лук. 20, 47

## УДОВІНА ЛЕПТА

**41 І, сеўшы насупроць скарбніцы, Ён глядзеў, як натоўп укідае медзь у скарбніцу. І многія багацеі шмат укідалі.**

Лук. 21, 1

**42 І прыйшла адна ўбогая ўдава і ўкінула дзве лепты, гэта значыць кадрант.**

**43 І, паклікаўшы Сваіх вучняў, Ён сказаў ім: «Папраўдзе кажу вам: гэтая ўбогая ўдава ўкінула больш за ўсіх, што ўкідалі ў скарбніцу;**

**44 Бо ўсе ад сваіх лішкаў укідалі, яна ж ад свайго недастатку, усё, што мела, укінула, усю сваю спожыць».**

## Раздзел 13

## ДОЛЯ ЕРУСАЛІМСКАГА ХРАМА

**1 І, калі Ён выходзіў з святыні, кажа Яму адзін з Яго вучняў: «Настаўніку, паглядзі, якое каменне і якія будынкі!»**

Мацв. 24, 1. Лук. 21, 5

**2 І Ісус сказаў яму: «Бачыш гэтыя вялікія будынкі! Не астанецца тут каменя на камені, які б не быў зруйнаваны».**

Лук. 19, 44; 21, 6

## ПАЧАТАК ПАКУТЫ, ПАЯЎЛЕННЕ ФАЛЬШЫВЫХ ХРЫСТОСАЎ І ПРАРОКАЎ

**3 І калі Ён сядзеў на Аліўнай гары, насупроць святыні, пыталіся ў Яго на адзіноце Пятро, і Якаў, Іаан, і Андрэй:**

**4 «Скажы нам, калі гэта будзе і што за знак, калі ўсё гэта павінна збыцца!»**

**5 Ісус жа пачаў казаць ім: «Глядзіце, каб хто вас не звёў;**

Мацв. 24, 4; Лук. 21, 8; Еф. 5, 6; Фес. 2. 3

**6 Многія прыйдуць пад Маім імем, кажучы: «Гэта Я», і многіх звядуць.**

**7 Калі ж пачуеце пра войны і ваенныя пагалоскі, не жахайцеся: гэта павінна адбыцца, але гэта яшчэ не канец.**

**8 Бо паўстане народ на народ і царства на царства, будуць землятрусы месцамі, будзе голад; гэта пачатак родавых боляў.**

**9 Глядзіце ж вы за сабою; будуць выдаваць вас у судзілішчы і будуць біць у сінагогах і перад намеснікамі і царамі будуць вас ставіць з-за Мяне на сведчанне ім.**

Іаан. 15, 20

**10 Але ва ўсіх народах спярша павінна быць аб'яўлена Дабравесце.**

**11 І калі вас павядуць, выдаючы, не турбуйцеся загадзя, што вы скажаце, але што вам будзе дадзена ў тую гадзіну, тое кажыце: бо не вы будзеце казаць, але Святы Дух.**

Мацв. 10, 19; Лук. 12, 11

**12 І выдасць брат брата на смерць і бацька сына, і паўстануць дзеці на бацькоў і пазабіваюць іх;**

**13 І будуць усе вас ненавідзець з-за Майго імя. А хто выцерпіць да канца, будзе збавёны.**

**14 Калі ж убачыце брыдоту спусташэння там, дзе не павінна быць — хто чытае, няхай разумее — тады тыя, хто ў Іудзеі, няхай уцякаюць у горы,**

Дан. 9, 27; Мацв. 24, 15; Лук. 21, 20

**15 Хто [ж] на даху — няхай не спускаецца і не ўваходзіць узяць што з свайго дому,**

**16 І хто ў полі, няхай не вяртаецца назад узяць сваё адзенне.**

**17 Бяда ж тым, хто мае ў лоне, і тым, што кормяць грудзьмі ў тыя дні.**

**18 Маліцеся ж, каб не здарылася гэта зімою;**

**19 Бо тыя дні будуць пакутаю, якой не было ад пачатку свету, што стварыў Бог, аж дагэтуль, і не будзе.**

**20 І калі б не скараціў Госпад гэтых дзён, не ўратавалася б нішто жывое; але дзеля выбраных, якіх выбраў Сабе, скараціў Ён гэтыя дні.**

**21 І тады, калі хто вам скажа: «Вось, тут Хрыстос», «Вось там», не верце.**

Мацв. 24, 23; Лук. 17, 23

**22 Бо паўстануць фальшывыя хрыстосы і фальшывыя пракрокі і будуць рабіць знакі і цуды, каб звесці, калі б было можна, выбраных.**

**23 Вы ж глядзіце; Я наперад сказаў вам усё.**

**24 Але ў тыя дні пасля той пакуты, сонца зацьміцца і месяц не дасць свайго святла**

Іс. 13, 10; Іез. 32, 7; Іаіл. 2, 31; Мацв. 24, 29; Лук. 21, 25.

**25 І зоркі будуць падаць з неба і сілы, што ёсць у нябёсах, парушацца.**

## ПРЫЙСЦЕ ЧАЛАВЕЧАГА СЫНА

**26 І тады ўбачаць Чалавечага Сына, што будзе ісці ў воблаках з вялікаю сілаю і славаю.**

Мацв. 24, 30; Атк. 1, 7

**27 І тады пашле Ён анёлаў і збярэ [Сваіх] выбраных «ад чатырох вятроў, ад краю зямлі да краю неба».**

**28 Ад фігавага дрэва вучыцеся падабенству: калі яе галіна ўжо мякчэе і выпускае лісце, вы ведаеце, што блізка лета;**

**29 Так і вы, калі ўбачыце, што гэта робіцца, ведайце, што блізка, пры дзвярах.**

**30 Папраўдзе кажу вам: не праміне гэты род, пакуль усё гэта спраўдзіцца.**

Мацв. 24, 34

**31 Неба і зямля мінуцца, а Мае словы не мінуцца.**

**32 Пра той жа дзень ці гадзіну не ведае ніхто, ні анёлы ў небе, ні Сын,— толькі Бацька.**

**33 Глядзіце, будзьце пільныя [і маліцеся]: бо не ведаеце, калі надыдзе часіна.**

Мацв. 24, 42; 25, 13

**34 Як чалавек, што выехаў з краю і пакінуў свой дом і даў сваім слугам разгарненне кожнаму — сваю працу, а прыбрамніку — быць чуйным.**

**35 Дык будзьце чуйныя: бо не ведаеце, калі гаспадар дому прыйдзе: увечары, ці апоўначы, ці ў пеўневыя галасы, ці раніцаю,**

**36 Каб, прыйшоўшы неспадзявана, не заспеў вас сплючы.**

**37 Дык што вам кажу, Я ўсім кажу: будзьце чуйныя!»**

# Раздзел 14

## ЗМОВА СУПРОЦЬ ІСУСА

**1 А праз два дні была Пасха і Свята Праснакоў; і шукалі першасвятары і кніжнікі, як Яго хітрасцю схапіць і забіць;**

Мацв. 26, 2; Лук. 22, 1

**2 Бо яны казалі: «Не ў свята, каб не было замяшання ў народзе».**

## ПАМАЗАННЕ ІСУСА

**3 І калі Ён быў у Віфаніі, у доме пракажонага Сімана і ўзлягаў, прыйшла жанчына, маючы алябастравую пляшачку міра з чыстага і дарагога нарда; разбіўшы пляшачку, яна ўзліла Яму на галаву.**

Мацв. 26, 7; Іаан. 11, 2; 12, 3

**4 А былі ж некаторыя, што абураліся між сабою; «Навошта гэтая трата міра?**

**5 Бо гэтае міро можна было б прадаць больш за трыста дынарыяў і раздаць убогім.» І сурова выгаворвалі ёй.**

**6 Ісус жа сказаў: «Пакіньце яе: што вы ёй прыкрасць робіце? Добры ўчынак яна Мне зрабіла.**

**7 Бо ўбогіх вы заўсёды маеце з сабою і, калі хочаце, можаце добра ім рабіць, Мяне ж не заўсёды маеце.**

**8 Што магла, яна зрабіла: загадзя памазала Маё цела для пахавання.**

**9 Папраўдзе кажу вам: дзе ні будзе аб'яўлена Дабравесце ва ўсім свеце, дык і пра тое, што зрабіла яна, будзе сказана ў яе памяць».**

Мацв. 26, 14; Лук. 22, 4

## ЮДАВА ЗДРАДА

**10 І Юда Іскарыёт, адзін з Дванаццаці, падаўся да першасвятароў, каб ім выдаць Яго.**

**11 А яны, пачуўшы, усцешыліся і абяцалі яму даць срэбранікаў. І ён шукаў, як бы пры зручным выпадку выдаць Яго.**

## ТАЙНАЯ ВЯЧЭРА

**12 І ў першы дзень Праснакоў, калі ў ахвяру прыносілі Пасху, кажуць Яму Яго вучні: «Хочаш, каб мы, пайшоўшы, падрыхтавалі Табе спажыць пасху?»**

Мацв. 26, 17; Лук. 22, 7

**13 І пасылае двух Сваіх вучняў і кажа ім: «Ідзіце ў горад і сустрэне вас чалавек, што будзе несці гляк вады; ідзіце ўслед за ім.**

**14 І куды ён увойдзе, скажыце гаспадару таго дома: «Настаўнік кажа: «Дзе Мой пакой, у якім спажыў бы пасху з Маімі вучнямі?»**

**15 І ён вам пакажа на гары вялікую за-**

лу, усланую, гатовую: там і падрыхтуй-
це нам».
16 І пайшлі вучні і прыйшлі ў горад
і знайшлі, як Ён казаў ім, і падрыхта-
валі пасху.
17 І калі надышоў вечар, прыхо-
дзіць ён з дванаццаццю.
18 І калі яны ўзлягалі і елі, Ісус
сказаў: «Папраўдзе кажу вам: адзін з вас
прадасць Мяне: ён есць са Мною.
Пс. 40, 10; Мацв. 26, 20; Лук. 22, 14;
Іаан. 13, 21
19 Яны пачалі сумаваць і казаць Яму
адзін за адным: «Няўжо я!»
20 Ён жа сказаў ім: «Адзін з Дванац-
цаці, што мачае ў міску са Мною.
21 Хоць Чалавечы Сын адыходзіць, як
напісана пра Яго, ды бяда таму чалавеку,
праз якога Чалавечы Сын будзе прада-
дзены; лепш было б яму, калі б ён не
радзіўся».
22 І, калі яны елі, Ён, узяўшы хлеб,
паблаславіўшы, паламаў і даў ім і сказаў:
«Вазьміце, [ешце], гэта цела Маё.»
Мацв. 26, 26; Лук. 22, 19; І Кар. 11, 24
23 І, узяўшы келіх, узнёс падзяку,
падаў ім: і пілі з яго ўсе.
24 І Ён сказаў ім: «Гэта Мая кроў
Згоды, што праліваецца за многіх.
25 Папраўдзе кажу вам, што не буду
больш піць ад плоду вінаграднай лазы аж
да таго дня, калі буду піць яго новым у
Божым Царстве».
26 І, адспяваўшы хвалебную песню,
выйшлі на Аліўную гару.
27 І кажа ім Ісус: «Усе вы адступі-
цеся [у гэтую ноч], бо напісана: «Уда-
ру пастуха і рассыплюцца авечкі».
Зах. 13, 7; Мацв. 26, 31; Іаан. 16, 32
28 Але калі ўваскрэсну, Я пайду перад
вамі ў Галілею».
Мар. 16, 7
29 Пятро ж сказаў Яму: «Хоць усе
адступяцца, але не я».
30 І кажа яму Ісус: «Папраўдзе кажу
табе, што ты сёння, у гэтую ноч, перш
чым двойчы запяе певень, тройчы ад
Мяне адрачэшся».
Мацв. 26, 34; Лук. 22, 34; Іаан. 13, 38
31 А ён з яшчэ большым націскам
казаў: «Хоць бы я павінен памерці з
Табою, не адракуся ад Цябе». Гэтаксама
казалі і ўсе.

## МАЛІТВА Ў ГЕФСІМАНІІ

32 І прыходзяць яны да сядзібы, зва-
най Гефсіманія.
Мацв. 26, 36; Лук. 22, 39
33 І бярэ з Сабою Пятра, Якава і
Іаана. І пачаў Ён жахацца і тужыць.
34 І кажа ім: «Збалела Мая душа аж
да смерці; астаньцеся тут і не спіце».
35 І, адышоўшы крыху, упаў на зямлю
і маліўся, каб яго, калі можна, абмінула
гэтая гадзіна.
36 І сказаў: «Авва Ойча! Усё мажліва
Табе; пранясі гэты келіх міма Мяне; ды
не чаго Я хачу; але чаго Ты.»
Мацв. 26, 39; Філ. 2, 8; Яўр. 5, 7—8
37 І прыходзіць і знаходзіць іх сплючы
і кажа Пятру: «Сімане, ты спіш! Аднае
гадзіны не змог не паспаць!
38 Не спіце і маліцеся, каб не трапіць
у спакусу: дух моцны, а цела кволае».
Лук. 22, 40
39 І зноў, адышоўшыся, маліўся, кажу-
чы тое ж слова.
40 І зноў, падышоўшы, знайшоў іх
сплючы, бо іх вочы абцяжэлі; і не веда-
лі яны, што Яму адказаць.
41 І прыходзіць трэці раз і кажа ім:
«Вы ўсё спіце і спачываеце! Годзе! На-
дышла гадзіна: вось выдаецца Чалавечы
Сын у рукі грэшнікаў.
42 Уставайце, хадзем, вось наблізіўся
мой прадажнік».

## УЗЯЦЦЕ ІСУСА

43 І адразу, пакуль Ён яшчэ казаў,
прыходзіць Юда, адзін з Дванаццаці,
і з ім натоўп з мячамі і каламі — ад
першасвятароў, кніжнікаў і старэйшын.
Мацв. 26, 47; Лук. 22, 47; Іаан. 18, 3
44 А Яго здраднік падаў ім умоўны
знак, кажучы: «Каго пацалую, Той і ёсць:
хапайце Яго і вядзіце ўзмоцнена».
45 І, прыйшоўшы, адразу падышоў
да Яго і кажа: «Раввi!» і пацалаваў Яго.
46 А тыя ж налажылі рукі на Яго
і схапілі Яго.
47 Адзін з тых, што стаялі пры Ім, вы-
хапіўшы меч, ударыў першасвятаровага
слугу і адсек яму вуха.
48 І, азваўшыся, Ісус сказаў ім: «Як
на разбойніка выйшлі з мячамі і каламі,
каб схапіць Мяне;
49 Штодня быў Я з вамі ў святыні,
навучаючы, і не ўзялі Мяне; але няхай
спраўдзіцца Пісьмо».
Іоў. 19, 13; Пс. 21,7; 68,9; 87,9; Іс. 53,12
50 І, пакінуўшы Яго, усе паўцякалі.
51 Нейкі юнак ішоў далей за Ім, ахінуў-
шы голае цела кужэльным пакрывалам.
І яны хапаюць яго.
52 Ён жа, пакінуўшы пакрывала, голы
ўцёк.

## НАЧНЫ СУД

**53 І адвялі Ісуса да першасвятара; і сходзяцца ўсе першасвятары і старэйшыны і кніжнікі.**

Мацв. 26, 57

**54 І Пятро здалёку ішоў услед за Ім аж у сярэдзіну на падворак першасвятара; і сядзеў разам са службаю і грэўся пры агні.**

**55 А першасвятары і ўвесь сінедрыён шукалі супроць Ісуса сведчанняў, каб асудзіць на смерць, і не знаходзілі.**

Пс. 26, 12; 34, 11; Мацв. 26, 59

**56 Бо многія фальшыва сведчылі супроць Яго, але сведчанні іх не супадалі.**

**57 І некаторыя, устаўшы, фальшыва сведчылі супроць Яго, кажучы:**

**58 Мы чулі, як Ён казаў: «Я зруйную гэты рукатворны храм і за тры дні збудую іншы, нерукатворны».**

Мар. 15, 29

**59 Але і ў гэтым сведчанне не супала.**

**60 Тады першасвятар, стаўшы пасярэдзіне, пытаўся ў Ісуса, кажучы: «Ты нічога не адказваеш, што сведчаць яны супроць Цябе?»**

**61 Ён жа маўчаў і нічога не адказваў. Зноў першасвятар спытаўся ў Яго і сказаў Яму: «Ці Хрыстос ты, сын Блаславёнага?»**

Іс. 53, 7; Дзеян. 8, 32; Яўр. 1, 5

**62 Ісус жа сказаў: «Я; і вы ўбачыце Чалавечага Сына, што ўсядае праваруч [Божай] Сілы і прыходзіць з нябесным воблакам.»**

Мацв. 26, 64; 2 Фес. 1, 10

**63 Першасвятар жа, разарваўшы шаты свае, кажа: «Якую яшчэ патрэбу мы маем у сведчаннях?**

**64 Вы чулі богазнявагу? Як вам здаецца?» Яны ж усе асудзілі Яго, што варты смерці.**

**65 І пачалі некаторыя пляваць на Яго і закрываць Яму твар, і біць па шчоках і казаць Яму: «Прароч», і службоўцы білі ў твар.**

## ПЯТРО ТРОЙЧЫ АДРАКАЕЦЦА АД ІСУСА

**66 І калі Пятро быў унізе на падворку, падыходзіць адна з першасвятаровых служанак**

Мацв. 26, 69; Лук. 22, 56; Іаан. 18, 25

**67 І, убачыўшы, што Пятро грэецца, угледзелася ў яго і кажа: «І ты з Назаранінам, з Ісусам.»**

**68 Ён жа адрокся, кажучы: «Я не ведаю і не разумею, што ты кажаш». І выйшаў на пярэдні двор [і запяяў певень].**

**69 А служанка ўбачыўшы яго, зноў пачала казаць да тых, што стаялі там: «Гэты з іх».**

**70 Ён жа зноў адрокся. І неўзабаве зноў тыя, што там стаялі, казалі Пятру: «Сапраўды ты з іх, ты ж і галілеянін».**

**71 Ён жа пачаў заракацца і клясціся: «Не ведаю я гэтага чалавека».**

**72 І адразу паўторна запяяў певень. І ўспомніў Пятро слова, сказанае яму Ісусам: «Перш, чым двойчы прапяе певень, ты тройчы адрачэшся ад Мяне». І выбухнуў плачам.**

Мацв. 26, 75; Мар. 14, 30

Раздзел 15

## ІСУС ПЕРАД ПІЛАТАМ

**1 І адразу раніцаю першасвятары з старэйшынамі і кніжнікамі і ўвесь сінедрыён, зрабіўшы змову, звязалі Ісуса, адвялі і перадалі Пілату.**

Мацв. 27, 2; Лук. 22, 66

**2 І спытаўся ў Яго Пілат: «Ці Ты Іудзейскі Цар?» Ён жа кажа яму ў адказ: «Ты кажаш».**

Мацв. 27, 11; Лук. 23, 3; Іаан. 18, 33; І Цім. 6, 13

**3 І першасвятары абвінавачвалі Яго ў многім.**

**4 А Пілат зноў спытаўся ў Яго, кажучы: «Ты нічога не адказваеш? Глядзі, як шмат цябе абвінавачваюць».**

**5 Ісус жа больш нічога не адказаў, так што Пілат здзіўляўся.**

**6 На свята ж ён адпускаў ім аднаго вязня, якога яны прасілі.**

**7 А быў адзін, якога звалі Варава, зняволены разам з паўстанцамі, што ў часе паўстання учынілі забойства.**

**8 І, падняўшыся, натоўп пачаў прасіць аб тым, што ён звычайна рабіў для іх.**

**9 Пілат жа спытаўся у іх кажучы: «Хочаце, адпушчу вам Цара Іудзейскага?»**

**10 Бо ён ведаў, што праз зайздрасць выдалі Яго першасвятары.**

**11 А першасвятары падбухторылі натоўп, каб лепш ён адпусціў ім Вараву.**

Мацв. 27, 20; Лук. 23, 18; Іаан. 18, 40; Дзеян. 3, 14

**12 Пілат жа ў адказ зноў сказаў ім: «Што ж мне рабіць з Тым, Каго вы называеце Іудзейскім Царом?»**

**13 Яны ж зноў закрычалі: «Укрыжуй Яго!»**

**14 А Пілат казаў ім: «Што ж зрабіў Ён благое?» А яны яшчэ мацней закры-**

**чалі: «Укрыжуй Яго!»**

**15 Пілат жа, хочучы дагадзіць натоўпу, адпусціў ім Вараву і выдаў Ісуса пасля бічавання, каб укрыжавалі.**

Мацв. 27, 26; Іаан. 19, 1

**16 Воіны ж адвялі Яго ў сярэдзіну двара, гэта значыць, прэторыю і склікаюць усю кагорту.**

**17 І апранаюць Яго ў баграніцу і, сплёўшы з церняў вянок, надзяваюць на Яго;**

**18 І пачалі вітаць Яго: «Радуйся [1], Цар Іудзейскі!»**

**19 І білі Яго па галаве шастом і плявалі на Яго і, апускаючыся на калені, кланяліся Яму.**

## ГАЛГОФА

**20 І калі наглуміліся з Яго, знялі з Яго баграніцу і апранулі Яго ў Ягонае адзенне.**

**І выводзяць Яго, каб укрыжаваць Яго.**

**21 І прымушаюць нейкага прахожага Сімана Кірынеяніна, які ішоў з поля, бацьку Аляксандра і Руфа, каб узяў Яго крыж.**

Мацв. 27, 32; Лук. 23, 26

**22 І прыводзяць Яго на месца Галгофу, што ў перакладзе значыць: лобнае месца.**

Мацв. 27, 33; Лук. 23, 33; Іаан. 19, 17; Яўр. 13, 12

**23 І давалі Яму запраўленага смірнай віна, але Ён не ўзяў.**

Пс. 68, 22

## СМЕРЦЬ ІСУСА ХРЫСТА

**24 І ўкрыжоўваюць Яго і дзеляць між сабою вопратку Яго, кінуўшы жэрабя на яе, каму што дастанецца.**

Пс. 21, 19; Іаан. 19, 24

**25 Было ж тры гадзіны, і Яго ўкрыжавалі.**

**26 І было напісана абазначэнне Яго віны: Цар Іудзейскі.**

Мацв. 27, 37

**27 І з Ім укрыжоўваюць двух разбойнікаў, аднаго праваруч, другога леваруч Яго.**

**[28 І спраўдзілася Пісьмо, што кажа: «І да злачынцаў Яго залічылі.»]** [1]

Пс. 68, 21; Іс. 53, 12

**29 І тыя, што побач праходзілі, зневажалі Яго, ківаючы сваімі галовамі і кажучы: «Гэй, Ты, што храм руйнуеш і за тры дні будуеш,**

Мацв. 26, 61; 27, 40; Мар. 14, 58; Лук. 22, 37; Іаан. 2, 19

**30 Уратуй Самога Сябе, зыдзі з крыжа!»**

**31 Гэтаксама і першасвятары глуміліся разам з кніжнікамі, казалі адзін аднаму: «Іншых ратаваў, Сябе Самога не можа ўратаваць!**

**32 Хрыстос, Цар Ізраілеў, няхай цяпер зыдзе з крыжа, каб мы ўбачылі і ўверавалі!» Нават укрыжаваныя разам з Ім бэсцілі Яго.**

**33 І калі надышло шэсць гадзін, настала цемра па ўсёй зямлі аж да дзевяці гадзін.**

**34 І ў дзевяць гадзін ускрыкнуў Ісус моцным голасам: «Элаі, Элаі! лама савахфані!», што ў перакладзе значыць: «Божа Мой, Божа Мой! Навошта пакінуў Мяне Ты!»** [1]

Пс. 21, 2; Мацв. 27, 46

**35 І некаторыя з тых, што стаялі пры Ім, пачуўшы, казалі: «Вось, Ілллю кліча».**

**36 А нехта, пабегшы і намачыўшы губку воцатам, насадзіў на мерны шост і даваў яму, кажучы: «Давайце паглядзім, ці прыйдзе Ілля зняць Яго».**

Пс. 68, 22; Мацв. 27, 48

**37 Ісус жа, ускрыкнуўшы моцным голасам, аддаў дух.**

**38 І заслона храма разадралася надвое ад верху аж да нізу.**

**39 А сотнік, што стаяў насупроць Яго, убачыўшы, што Ён гэтак аддаў дух, сказаў: «Сапраўды Гэты Чалавек быў Сын Божы!»**

**40 Былі ж і жанчыны, што назіралі здалёк, між іх і Марыя Магдалена, і Марыя, маці Якава Меншага і Іасіта, і Саламея,**

**41 Тыя, што ішлі ўслед за Імі і прыслугоўвалі Яму, калі Ён быў у Галілеі, і шмат іншых, што разам з Ім узыходзілі ў Ерусалім.**

## ПАХАВАННЕ

**42 І калі ўжо настаў вечар, бо быў падрыхтоўчы дзень, гэта значыць, перадвечар суботы,**

Мацв. 27, 57

**43 Прыйшоў Іосіф з Арымафеі, паважаны радца, што і сам чакаў Божага Царства, і, адважыўшыся, увайшоў да**

---

[1] Тут у значэнні «няхай жыве»

[2] Верша 28, які супадае ў другой сваёй частцы з Лк. 22.37б, няма ў найстаражытнейшых рукапісах Мк.

[1] Больш дакладны пераклад гучаў бы так: «Божа Мой! Божа Мой! Чаму Ты ахвяраваў Мною».

**Пілата і папрасіў Ісусава цела.**
Лк. 23, 50; Іаан. 19, 38
**44 Пілат жа здзівіўся, што Ён памёр ужо; і, паклікаўшы сотніка, спытаўся ў яго, ці даўно Ён памёр.**
**45 І, даведаўшыся ад сотніка, ён падараваў цела Іосіфу.**
**46 І, купіўшы кужэльнага палатна, той зняў Яго, абгарнуў тым кужалем і паклаў Яго ў магілу, што была высечана ў скале, і прываліў камень да ўваходу ў магілу.**
**47 А Марыя Магдалена і Марыя Іасітава [маці] глядзелі, дзе паклалі яго.**

Раздзел 16

## ВЕСТКА ПРА ЎВАСКРЭСЕННЕ

**1 І калі мінула субота, Марыя Магдалена, і Марыя Якава, і Саламея купілі духмянасцяў, каб, прыйшоўшы, памазаць Яго.**
Мац. 28, 1; Лук. 24, 1; Іаан. 20, 1
**2 І вельмі рана ў першы дзень тыдня прыходзяць яны да магілы, калі ўзыходзіла сонца.**
**3 І казалі між сабою: «Хто адваліць нам камень ад уваходу ў магілу?»**
**4 Ды, паглядзеўшы, бачаць, што камень адвалены; а быў ён надта вялікі.**
**5 І, увайшоўшы ў магілу, яны ўбачылі юнака, што сядзеў праваруч і быў апрануты ў белыя шаты; і жахнуліся.**
Іаан. 20, 12
**6 А Ён кажа ім: «Не жахайцеся! Ісуса вы шукаеце Назараніна ўкрыжаванага; Ён уваскрос, Яго няма тут. Вось месца, дзе паклалі Яго.**
**7 Але ідзіце, скажыце Яго вучням і Пятру, што Ён ідзе паперадзе вас у Галілею; там Яго ўбачыце, як Ён казаў вам».**
Мацв. 26, 32; Мар. 14, 28
**8 І, выйшаўшы, пабеглі яны ад магілы, бо іх ахапіла трымценне і ўзрушэнне і нікому нічога не сказалі, бо баяліся.**

## ІСУС ПРЫХОДЗІЦЬ ДА СВАІХ ВУЧНЯЎ

**9 А ўваскросшы рана ў першы дзень тыдня, Ён паказаўся спярша Марыі Магдалене, з якой выгнаў сем дэманаў.**
Мацв. 28, 9; Лук. 8, 2; Іаан. 20, 14
**10 Яна, пайшоўшы, абвясціла тым, што бывалі з Ім, а цяпер сумавалі і плакалі;**
**11 І тыя, пачуўшы, што Ён жыве і што яна бачыла Яго,— не паверылі.**
**12 Пасля ж гэтага адкрыўся Ён двум з іх у іншым вобразе дарогаю, калі яны ішлі ў вёску;**
**13 А тыя, пайшоўшы, абвясцілі астатнім, але і ім не паверылі.**
**14 Пазней [жа] адкрыўся Ён і самім Адзінаццаці, калі яны ўзлягалі (на вячэры) і дакараў за нявер'е іх і нячуласць сэрца, што яны тым, хто бачыў Яго ўваскрослым, не паверылі.**

## АБВЯШЧАЙЦЕ ДАБРАВЕСЦЕ

**15 І сказаў ім: «Ідучы па ўсім свеце, абвяшчайце Дабравесце кожнаму стварэнню.**
Іс. 2, 3; 52, 10; Мацв. 28, 19; Іаан. 15, 16
**16 Хто ўверуе і хрысціцца — будзе збавёны, а хто не ўверуе — будзе асуджаны.**
Іаан. 12, 48
**17 Адзнакаю ж тых, хто ўверуюць, будзе такое: Маім імем будуць яны выганяць дэманаў, будуць гаварыць новымі мовамі,**
Дзеян. 2, 4; І Кар. 12, 10
**18 Будуць браць гадаў [у рукі], а хоць бы смяротнае што выпілі, ім не пашкодзіць, на хворых ускладуць рукі і добра тым будзе».**
Лук. 10, 19; Дзеян. 28, 8; Іак. 5, 14

## УЗНЯСЕННЕ ГОСПАДА

**19 І вось Госпад пасля размовы з імі ўзнёсся на неба і сеў праваруч Бога.**
Пс. 109, 1; Лук. 24, 51; Дзеян. 1, 9
**20 А тыя, выйшаўшы, абвяшчалі ўсюды, Госпад дапамагаў ім і слова засведчваў услед знакамі/[1].**

[1] Вершаў 9—20 няма ў найстаражытнейшых рукапісах Мк.

**Працяг будзе.**

9, 10. Апосталы, вядома, чулі пра ўваскрэсенне. Але ім здавалася, што іх Месія не павінен бы і паміраць.

9, 20. Ісус у гэты час сам навучае апосталаў, і важна было, каб пра ўсё гэта ведала менш людзей, бо фарысеі і ірадыяне збіраліся забіць Хрыста.

9, 48—50. Гэта значыць: чалавек павінен прайсці праз выпрабаванні цярпеннем і болем. Агонь і соль — здаўна вядомыя ачышчальныя сродкі. Паводле Старога Запавету кожная ахвяра Богу павінна саліцца.

Соль таксама сімвал дружбы. Адсюль і такая згадка ў верш. 9, 50.

10, 2—12. У іудзеяў права на развод меў толькі муж. У тым, што і жонка можа разводзіцца з мужам, адчуваецца ўплыў рымскага заканадаўства.

10, 24. Чаму вучні жахаліся пры гэтых словах, будзе зразумелым, калі ўзяць пад увагу тое, што ў іудзеяў багацце і дабрабыт лічыліся за Божае бласлаўленне.

10, 32. Вучні ішлі ў страху, і іх моцна ўражвала, што Ісус ідзе паперадзе іх няўхільна насустрач небяспецы, пра якую ведаў. Яны ж усё яшчэ спадзяваліся, як можна меркаваць з верш. 36—37, што іх Настаўніка ўрачыста сустрэнуць у Ерусаліме.

10, 50. Вопратка — даволі шырокі плашч — толькі б перашкаджаў бегчы сляпому.

11, 2. Пры абрадах выкарыстоўвалася жывёла толькі чыстая, а ёю якраз лічылася тая, на якую яшчэ ніхто не садзіўся.

11, 13—14. Не надышло яшчэ лета, калі выспяваюць плады; але Хрыстос праклінае дрэва за тое, што ў красавіку, калі яшчэ не бывае на фігавых дрэвах зяляніны, гэтае было ўбрана лісцем.

Абразок мае сімвалічны сэнс: той самы падман меў тагачасны Ерусалім з яго першасвятарамі.

11, 17. Толькі ў Дабравесці паводле Марка адзначаецца гэта: Госпад назваў Храм домам малітвы не толькі для іудзеяў, але і «для ўсіх народаў».

12, 10—11. Будаўнікі гэтыя — іудзеі, якія адкінулі самы важны камень — Хрыстова Дабравесце. А яно зрабілася краевугольным каменем-апораю будынку Царквы, адчыненай для ўсіх людзей.

12, 38. Носячы доўгую вопратку, фарысеі і кніжнікі хацелі тым выдзеліцца (просты люд насіў зручную пры рабоце кароткую).

13, 15. У палестынцаў дахі пляскатыя. Там зручнае месца пабыць уранні і ўвечары, калі не паліць сонца, а таксама атрымаць пры сустрэчы з суседзямі першыя розныя навіны.

14, 36. «Авва» па-арамейску: татухна, «ойча».

14, 51. Большасць даследчыкаў мяркуюць, што гэта быў сам евангеліст Марк, бо ў іншых Евангеллях гэтай падрабязнасці няма. Ён сапраўды мог быць там, калі сад належаў яго маці Марыі (дом яе пасля быў першаю царквою ў Ерусаліме).

14, 61. Тут «Блаславёны» ўжыта ў значэнні Божага імя.

14, 64. Тое, што Ісус назваўся Божым Сынам, для сінедрыёна было даволі, каб палічыць гэта богазнявагай, а блюзнерства паводле Майсеевага закона (Лев. 24, 15—16), каралася смерцю.

15, 7. Варава на ўкрыжаванне быў асуджаны пэўна ж за ўдзел у паўстанні, бо ўкрыжоўвалі пераважна паўстанцаў.

15, 8. «Падняўшыся» — відаць, пракуратараў палац быў на ўзвышаным месцы. Мяркуюць, на заходнім пагорку (дзе быў і палац Ірада Вялікага).

15, 15. Кагорта — атрад рымскіх салдат (300 чалавек).

16, 1. Жанчыны, не паспеўшы купіць духмяных мазяў у пятніцу (у суботу гэта быў бы вялікі грэх), павінны былі перачакаць, калі мінецца шабат.

16, 2. «У першы дзень тыдня» — у нядзелю.

16, 9—20. Мяркуюць, што гэтыя радкі Марк дапісаў пасля, каб і ў яго Дабравесці, як і ў іншых, былі ўпамінанні пра сустрэчы з ужо ўваскрослым Хрыстом.

**Пераклад і каментарыі Анатоля КЛЫШКІ**

# ВЯРТАННЕ КЛАСІКІ

Янка Купала. **«Тутэйшыя».** Спектакль Беларускага тэатра імя Янкі Купалы. Рэжысёр М. Пінігін, мастак Б. Герлаван

З усіх драматычных твораў Янкі Купалы самы цяжкі, пакутны лёс напаткаў «Тутэйшых». Завершаныя ў жніўні 1922 года, упершыню былі надрукаваны ў часопісе «Полымя» толькі ў 1924 годзе.

Купала перадаў п'есу для пастаноўкі ў Беларускі дзяржаўны тэатр, з якім тады быў цесна звязаны — часта наведваў спектаклі, рэпетыцыі, кансультаваў артыстаў па мове, выступаў з водгукамі аб працы калектыву. У гэтым тэатры ўжо ставіліся яго «Паўлінка», «Раскіданае гняздо», «Прымакі», «Адвечная песня». Трэба сказаць, што творы Янкі Купалы дабратворна паўплывалі на станаўленне, развіццё маладога тэатральнага калектыву, якому пазней па справядлівасці будзе нададзена яго імя.

Інакшыя стасункі атрымаліся з «Тутэйшымі». Купала, якога падтрымлівалі многія беларускія пісьменнікі, дамагаўся пастаноўкі, у тэатры ж знайшліся праціўнікі п'есы, сярод якіх быў і галоўны рэжысёр Еўсцігней Міровіч. Свае адмоўныя адносіны да «Тутэйшых» яны вытлумачвалі іх несцэнічнасцю, хоць, вядома ж, справа была не ў гэтым — занадта вострыя, балючыя праблемы ўзнімаліся ў драматычным творы.

Пісьменнікі перамаглі: спектакль, хоць і з вялікім спазненнем, усё ж у 1926 годзе быў даведзены да прэм'еры. Але тут жа і зняты. Нібыта для дапрацоўкі, у тым ліку і п'есы аўтарам. Аднак дапрацоўкі не было, спектакль, што называецца, закрылі.

Яшчэ раз «Тутэйшыя» пабачылі свет у 1927 годзе — п'еса была змешчана ў трэцім томе Збору твораў Янкі Купалы. Але зноў жа яе жыццё выдалася кароткім.

П'есу нібыта ніхто і не забараняў, маўляў, не было ж нейкай спецыяльнай пастановы. Але рэпрэсіраваліся творы, як правіла, не пастановамі, дзейнічалі зусім іншыя механізмы, калі нават слядоў іх не адшукаеш. Зрэшты, адносна «Тутэйшых», сляды ўсё-такі засталіся, і да таго ж — вельмі выразныя. З шасцітомнага Збору твораў Янкі Купалы быў выняты з агульнага карыстання якраз трэці том, і, прынамсі, большая частка яго тыражу знішчана. А каб гэта не кідалася ў вочы, у 1932 годзе адзначаны том выдалі нанова, але ўжо без Купалавай п'есы.

«Тутэйшыя» на доўгія гады аказаліся выкрасленымі са спадчыны паэта. Расказваюць, што падчас падрыхтоўкі і выдання апошняга Збору твораў песняра масцітыя і напрактыкаваныя члены рэдкалегіі адхілялі «Тутэйшых»





з той аргументацыяй, што публікацыяй гэтай п'есы была б зроблена дрэнная паслуга (?) Янку Купалу. Ну, а калі б яны ўсё ж прапанавалі яе да друку, то ці хапіла б арэапагскай літаратурнай і акадэмічнай моцы адстаяць твор перад «всесильными мира сего»?

Прынамсі, калі стараннямі Міхаіла Дубянецкага арганізоўвалася выданне альманаха «Спадчына», першы выпуск якога прымяркоўваўся да стагадовых юбілеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа, была зроблена спроба змясціць у ім «Тутэйшых». І хоць да п'есы дадаваліся вельмі памяркоўнае ўступнае слова Андрэя Макаёнка і артыкулкаментарый, у якім вытлумачваліся і як бы згладжваліся «вострыя вуглы» драматычнага твора, нічога не атрымалася. Набор не толькі «Тутэйшых», а і ўсяго зборніка быў рассыпаны, выданне альманаха забаронена. «Праціснуць» у друк Купалаву п'есу ўдалося толькі ў 1988 годзе, калі цэнзура хоць яшчэ і ўладарнічала, але ўжо крыху «памякчэла».

А перад гэтым была зроблена спроба сцэнічнага ўвасаблення твора. Да агляду, прысвечанага стагоддзю Купалы і Коласа, Магілёўскі абласны драматычны тэатр паставіў кампазіцыю паводле «Тутэйшых» і драматычнай паэмы «Адвечная песня». Рэжысёр В. Маслюк падзеі першага з гэтых твораў як бы адсоўваў на другі план, мікшыраваў іх, значную частку тэксту ўвогуле скарачаў. Усё ж і такі абыходны манеўр спектакль не ўратаваў. Ад мясцовага начальства, праўда, удалося атрымаць дазвол на паказ яго на сцэне, нават вылучыць пастаноўку на заключны тур дэкады, што праходзіла ў Мінску. І вось тут...

Цікавасць да спектакля была найвялікшая, нямала слынных людзей звярталася за дапамогай, каб патрапіць у тэатр імя Янкі Купалы, на падмостках якога выступалі магіляўчане. Спектакль ігралі пры перапоўненай, біткам набітай зале. Памятаю, як з ходам падзей над пастаноўкай усё больш згушчаліся хмары, а заканчвалася яна ў поўнай цішы, усё адно як пераднавальнічнай. Тэатр меўся яшчэ раз сыграць для мінчан гэты спектакль, але паказ не адбыўся. Пастаноўку забаранілі.

П'еса «Тутэйшыя» была ўвасоблена і ў 1989 годзе ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце як дыпломны спектакль, але ўжо пасля яе публікацыі ў друку.

І вось драматычны твор зноў з'явіўся на падмостках. Як і першы раз, цяпер ён атрымаў жыццё ў Беларускім тэатры імя Янкі Купалы.

Пра прынцып сцэнічнага вырашэння «Тутэйшых» можна меркаваць яшчэ да пачатку спектакля. На адкрытых падмостках на пярэднім плане ў цэнтры размешчана высокая будыніна ў форме батлейкі. На ёй развешаны лялькі. Побач з батлейкай каля правай кулісы такой жа велічыні стаіць царква, каля левай кулісы — касцёл. А невялікія макеты царквы і касцёла знаходзяцца на прасцэніуме, якраз паабапал батлейкі.

У Купалы няма канкрэтных указанняў на сувязь «Тутэйшых» з батлейкай. Але што п'еса загрунтаваная на народных творах,— несумненна. Таму пагодзімся з тымі прыёмамі, якімі будуць увасабляць на сцэне «Тутэйшых» рэжысёр Мікалай Пінігін і мастак Барыс Герлаван. Прымем іх, так бы мовіць, напавер, настроімся ўспрымаць падзеі твора ў прапанаваным нам ключы.

Тым часам пачаўся і сам паказ спектакля. На падмосткі выйшлі Белы анёл з двума малодшымі калегамі і Чорны анёл — таксама са сваімі двума паплечнікамі. Як увасабленні светлага і змрочнага пачаткаў. Цяпер жа яны на нейкі час нібыта паядналіся. Маўляў, дабро і зло ідуць зусім поруч. Анёлкі знялі лялькі, адкацілі батлейку ў глыбіню сцэны.

Раскрыліся створкі батлейкі. У верхнім яе ярусе з'явіўся Белы анёл, а з ніжняга на падмосткі выйшла насустрач немаўлятку, што з вышыні спускаецца ў калысцы, маці (у яе ролі выступае выканаўца Ганулі Зносчыхі). Яна люляе дзіця, прыгаворваючы словамі Янкі Купалы:

Спі, маленькі мой
сыночак!
Вочкам не міргні;
Свяціць месяца кружочак,
Ты ж аб долі сні.

Месца Белага анёла займае Чорны. Разварочваецца на падмостках касцёл, з якога паяўляецца ксёндз. Ён падыходзіць да дзіцяці і служыць малебен на польскай мове. Потым тое ж адбываецца з царквою, і поп працягвае службу па-руску. Затым яны,

беручы ўсё больш высокія таны, адначасна гавораць абодва, кожны заяўляючы сваё права на дзіця, аж пакуль маці не выхапіць яго з калыскі і не схаваецца ў батлейцы.

Гэтай сцэны няма ў «Тутэйшых», яна цалкам прыдумана рэжысёрам, як, дарэчы, і некаторыя іншыя. Як выявіцца крыху пазней, усё рэжысёрам уважліва прадумана, лагічна абгрунтавана і дакладна «працуе» на змест п'есы і ідэю спектакля.



А затым з батлейкі выйшла на падмосткі Гануля Зносчыха, неўзабаве адтуль жа з'явіўся і далучыўся да яе Янка Здольнік, і падзеі «Тутэйшых» забурлілі сваім парадкам. Яны ў Купалавым творы калейдаскапічна стракатыя і напружана імклівыя. Падзеі п'есы пачынаюцца напярэдадні акупацыі Менска кайзераўскай Германіяй, потым разгортваюцца пры самой акупацыі. Затым уступаюць у горад часці Чырвонай Арміі, а праз нейкі час яго пакідаюць. Цяпер ужо Менск захопліваюць белапалякі. І, нарэшце, зноў вяртаецца ўлада чырвонаармейцаў.

Частыя палітычныя перамены пастаноўшчык з мастаком пазначаюць такім чынам: напачатку, у часы безуладдзя, персанажы «Тутэйшых» з'яўляюцца на падмосткі з глыбіні сцэны, з батлейкі. Калі ж наступаюць з захаду немцы ці пазней белапалякі, то з левай кулісы, амаль франтальна паварочваецца будынак касцёла, і акупанты выходзяць адтуль. А калі з'яўляюцца з усходу чырвонаармейцы, то такім жа чынам паварочваецца з правага боку царква, і адпаведныя персанажы дзейнічаюць у яе абсягах і ваколіцы. Словам, злева — захад, там адны сілы, а справа — усход, там другія. Пасярэдзіне ж — месца для тутэйшых, і гэтую іх тэрыторыю топчуць, ірвуць і з аднаго, і з другога боку. А Немца, Нямецкага афіцэра, Польскага афіцэра, Чырвонаармейца, які пазней становіцца Начальнікам патруля,— усіх гэтых персанажаў увасабляе адзін акцёр У. Кін-Камінскі. Ён часта мяняе, так бы мовіць, амуніцыю, а воблік, пры ўсёй акцёрскай вынаходлівасці і разнастайнасці фарбаў, застаецца адзін і той жа. Гэта ў спектаклі набывае сімвалічнае значэнне. Як і аднолькавае пры змене розных улад гучанне бравурнай музыкі. І яшчэ адзін выкарыстоўваецца сімвал: пры чарговым захопе Менска — а ўсе падзеі «Тутэйшых» разгортваюцца менавіта ў ім,— як і ў пачатковай сцэне, пад трывожныя, поўныя скрухі музычныя акорды зверху апускаецца калыска з дзіцем, ля яе становіцца маці, якую потым гвалцяць — цягнуць у батлейку, закрываючы яе створкі. І немец, і белапаляк, і чырвонаармеец. Вось ён, лёс нашае бацькаўшчыны...

Янка Купала, паказваючы чахарду са зменай уладаў, выкарыстоўвае адзін і той жа драматургічны прыём. А менавіта: пры кожнай пертурбацыі на падмосткі пачаргова выходзяць усе персанажы — асобна ці аб'яднаныя ў пэўныя групы. Гэта дае ім магчымасць выказаць уласныя погляды на падзеі, выявіць свае адносіны да перамен. Разам з тым ствараецца ўражанне, што аўтар узводзіць на падмосткі і выводзіць адтуль свае персанажы ўсё адно як шахматныя фігуры. Персанажы падкрэслена ўмоўныя, а гэта ўласціва народнаму тэатру. І таму сам выбар формы існавання персанажаў «Тутэйшых» як батлеечных падаўся ў спектаклі і апраўданым, і вельмі арганічным.

Героі не толькі з'яўляюцца з батлейкі, яны і рухаюцца, увогуле жывуць, як лялькі, ў народным відовішчы. Так аднафарбна існуюць у спектаклі Дама, Поп, Спраўнік, Пан — у ролях адпаведна выступаюць Н. Качаткова, А. Памазан, І. Дзянісаў, В. Паўлюць.

Маглі б застацца ў гэтых межах Заходні вучоны і Усходні вучоны, на якіх ляжыць выразны адбітак традыцый інтэрмедый народнага тэатра. Аднак рэальная сітуацыя з паланізацыяй беларусаў з аднаго боку і русіфікатарства з другога, занадта сур'ёзная, таму акцёры Ю. Авяр'янаў і Г. Давыдзька не абмяжоўваюць сваіх персанажаў функцыямі лялек, не абмалёўваюць іх камедыйнафарсавымі фарбамі. Яны прынцыпова раскрываюць рэакцыйную сутнасць як Заходняга, так і Усходняга вучоных. І гэта павышае грамадзянскую тэмпературу спектакля.

З народных вобразаў бліжэй да батлейкі Лявон Гарошка (А. Луцэвіч) і яго дачка Аленка (З. Белахвосцік), пададзеныя ў драматычным творы толькі ў агульных рысах, і, бадай, найдалей — Га-

нуля Зносчыха, ролю якой М. Захарэвіч іграе з душэўнай пранікнёнасцю, у лірычна-драматычнай танальнасці. А вось В. Філатаў стварае вельмі кідкі, маляўнічы вобраз Генрыха Мотавіча Спічыні («спэц адбеларушчываць, а да абеларушчывання яго яшчэ змалку адвярнула») у сатырычным плане. Так камедыйна-сатырычныя, лірычна-драматычныя фарбы ў спектаклі не проста суседнічаюць між сабою, яны зусім натуральна ўваходзяць у яго цэласную, паліфанічную структуру.

У цэнтры ж спектакля — Мікіта Зносак і Янка Здольнік.



Наконт Янкі Здольніка ў нашай пакуль што вельмі небагатай на п'есу «Тутэйшыя» крытыцы існуюць розныя, нават палярна супрацьлеглыя думкі і меркаванні: ад прызнання за ім выключнай станоўчасці — да амаль поўнага адмаўлення гэтай станоўчасці.

Вядома, можна заўважыць пэўную абмежаванасць у поглядах Янкі Здольніка, у яго жыццёвай пазіцыі, як і тое, што персанаж слаба падключаны ў творы да канфліктнай барацьбы. І ўсё ж Янка Здольнік бачыцца прывабнай асобай, няхай сабе хоць і як рупар ідэй, якія да таго ж і на сённяшні дзень вельмі актуальныя. І, відаць, нездарма ва ўсіх папярэдніх спробах сцэнічнага ўвасаблення «Тутэйшых» гэтаму вобразу надавалася асаблівая ўвага.

Так, у першай пастаноўцы п'есы роля даручалася акцёру агністага тэмпераменту і вялікага абаяння Уладзіміру Крыловічу. Рэжысёр спектакля на магілёўскіх падмостках Валерый Маслюк, які сам жа і іграў Янку Здольніка, падмацоўваў яго «матэрыялам» з «Адвечнай песні», увогуле Купалавым лірычным «я». Пастаноўшчык «Тутэйшых» на студэнцкай сцэне Б. Утораў таксама дапаўняў вобраз, выводзячы яго ў ранг героя — змагара і пакутніка.

Не парушаюцца тэатральныя традыцыі ва ўзвышэнні Янкі Здольніка і ў новай сцэнічнай версіі. Герой у спектаклі выводзіцца на пярэдні план, ён з'яўляецца на падмостках часта, амаль пры ўсіх сітуацыях, прытым нярэдка ў верхнім ярусе батлейкі, як бы ўзвышаючыся над іншымі асобамі. Ды і раз-пораз актыўна, дзейсна сутыкаецца са сваім антыподам — Мікітам Зносакам. Выканаўца ролі А. Лабуш патэтычна палкі, словы Здольніка прамаўляе з падкрэсленым пафасам. На пачатку жыцця спектакля акцёр крыху іранізаваў з гэтай тэатральнай пафаснасці, што не заўсёды разумела зала. Пазней ён адмовіўся ад іранічнага стаўлення, іграе ў абранай танальнасці з поўнай сур'ёзнасцю і аддачай. І гэта не выклікае пярэчанняў. Рупар ідэй ёсць менавіта рупар. А ў народным відовішчы, у стылістыцы якога вырашаюцца «Тутэйшыя», і фарс, і гратэск, і сатыра, і патэтыка — родныя браты і сёстры.

Палярная ў параўнанні са Здольнікам характарыстыка Мікіты Зносака. В. Манаеў пачынае першы эпізод з выбуховым тэмпераментам. Яго герой літаральна ўрываецца на падмосткі, і нідзе, ні ў чым няма яму супынку. І нездарма. Ніхто з персанажаў так непасрэдна не ўцягнуты ў вір падзей, звязаных з усё новымі палітычнымі сітуацыямі, як Мікіта Зносак. З усіх сіл намагаецца прыстасавацца да чарговага рэжыму, да кожнай абставіны і ніяк не пападае, адно толькі набівае сабе вялікія гузакі.

В. Манаеў іграе з выключнай віртуознасцю. З натхненнем і высокім выканаўчым майстэрствам. Пачаўшы з востра сатырычных фарбаў, ён па ходу падзей пачынае драматызаваць лёс героя. У апошні свой выхад Мікіта Зносак ужо варты жалю. Без верхняй вопраткі, якую з яго зняў белапольскі акупант, з выглядам мокрай курыцы, ён не толькі душэўна стомлены, але і зусім разбіты. Так і не даслужыўся і ўжо не даслужыцца да асэсарскага рангу, не атрымае і рукі Насты Пабягунскай. Усё-ўсё пайшло прахам. А тут яшчэ з'явіліся чырвонаармейцы і ледзьве не найперш прыйшлі трэсці Мікіту Зносака. Яны ж яго і арыштоўваюць. Сцэна завяршаецца ціхім плачам — галашэннем Ганулі Зносчыхі. У Купалы ёсць яшчэ адна вельмі шматзначная дэталь. Пасля таго, як павялі арыштаванага Мікіту Зносака, за вокнамі на вуліцы разлягаецца песня:

Ой ты, яблочко,
Куда коцішся?
Не туда попадзёш —
Не вароцішся...

Гэтай песні няма ў спектаклі. Але ў яго ўводзіцца цэлая сцэна, як і ў пачатку, інтэрмедыйнага плану, што адназначна давяршае падзеі. Рэжысёр дае нам магчымасць прасачыць за далейшым лёсам персанажаў «Тутэйшых»



і замест аўтарскага шматкроп'я цвёрда ставіць сваю кропку, падмацаваную нашым гістарычным вопытам. Чырвонаармейцы на чале з Начальнікам патруля, што прыйшлі да Мікіты Зносака, так і засталіся на падмостках. І цяпер, перагрупаваўшыся, з наведзенымі рэвальверамі, хоць і не змянілі сваёй формы, сталі жывым увасабленнем страшнай, злавеснай сілы, якую народ наш пазней пазнае крывёю. На прыступах батлейкі як прывід узнікае кашчавая з касою. Абяссілены, зусім змардаваны Мікіта Зносак падыходзіць да ямы, што ўтварылася на падмостках блізка ля прасцэніума. Раздаюцца стрэлы, і ён валіцца ў гэтую яму. Выходзяць выканаўцы з лялькамі асобных персанажаў, даюцца новыя залпы, і галовы тых персанажаў таксама ляцяць уніз. Грымяць чэргі па касцёле — і падаюць усе яго служкі. Такім жа чынам расстрэльваецца і праваслаўнае духавенства. Нарэшце, чарга дайшла і да Янкі Здольніка. Ён выходзіць бледны, разгублены, набліжаецца да чырвонакрывавай ямы, становіцца на калені. З яго вуснаў гучыць купалаўскі верш, поўны высокага драматызму:

...О так! Я — пралетар!..  
Яшчэ учора раб пакутны—  
Сягоння я зямлі ўладар  
І над царамі цар магутны!

Мне бацькаўшчынай цэлы свет,  
Ад родных ніў я адвярнуўся...  
Адно... не збыў яшчэ ўсіх бед:  
Мне сняцца сны аб Беларусі!

У Янку Здольніка таксама страляюць, і яго цела папаўняе магілу Курапатаў.

З каласнікоў зноў апускаецца калыска, але ўжо без дзіцяці, пустая. Як звычайна, насустрач выйшла маці (цяпер у гэтай ролі выступае выканаўца Аленкі — прадстаўнік новага пакалення), яе схапіў і павалок НКУСавец. Чорны анёл, што знаходзіцца ў верхнім ярусе батлейкі, даў бясслоўную каманду двум іншым анёлам, і яны прасціраюць ад ямы да калыскі чырвонае палотнішча — крывавы шлях, дарогу пакутнікаў.

Але вось месца Чорнага анёла заступіў Белы анёл, і яго памочнікі бяруць з калыскі два сувоі бялюткага палатна і раскочваюць іх абапал чырвонай паласы аж да магільнай ямы. Утвараецца вялікі, на ўсю сцэну, бел-чырвона-белы сцяг, які пад гукі харалу ўрачыста-велічна ўзвіваецца ўвысь. Ці не ўпершыню з падмосткаў купалаўцаў за ўсю іх сямідзесяцігадовую гісторыю!

Дарэчы, спектакль «Тутэйшыя» і на магілёўскай сцэне таксама завяршаўся ўзняццем сцяга — чырвона-зялёнага, дзяржаўнага, пад гукі дзяржаўнага гімна рэспублікі. Па-праўдзе, і сцяг, і гімн былі непатрэбныя ў тым спектаклі і служылі толькі, як бы тут далікатней мовіць, адпаведным лістком, каб сёе-тое прыкрыць у пастаноўцы ды і ў Купалавым творы таксама. Але тады выкарыстанне нават дзяржаўных атрыбутаў выклікала ярасны гнеў начальства. Тым больш, што падчас рытуалу даводзілася ўставаць, ды яшчэ прымусова. Цяпер жа, калі бел-чырвона-белы сцяг плыве ўгару, раздаюцца авацыі. На іншых жа паказах усталёўваецца незвычайная цішыня, глядзельная зала нібы замірае, каб потым узарвацца шквалам апладысментаў...

Такім чынам, спектакль на купалаўскіх падмостках палітызаваны. Не ў тым вузкім ці вульгарным сэнсе палітыканства на злобу дня, а ў шырокім, менавіта творчым мастакоўскім плане. Гэтага вымагала і сама п'еса «Тутэйшыя». У ёй Янка Купала, бадай, як ні ў адным іншым творы, паўстае вялікім празарліўцам, прарокам. Дакладна люструючы жыццё і асабліва палітычныя сітуацыі ў Беларусі ў 1918—1920 гадах, ён у «Тутэйшых» прадбачыў і трыццатыя гады, і нашае сёння, і, мабыць, далёкае заўтра. Нацыянальныя праблемы, пастаўленыя ў п'есе, надзённыя і сёння, і

не хутка будуць зняты з парадку дня, дый ці знімуцца яны ў Беларусі наогул. У гэтым плане ў нас пакуль няма больш актуальнага твора, чым «Тутэйшыя». І спектакль купалаўцаў красамоўна пацвярджае такую выснову. Вартасць новай пастаноўкі і ў тым, што з яе з'яўленнем канчаткова павінен развеяцца міф пра несцэнічнасць п'есы, які стварыўся пад уражаннем ад чытання, а не тэатральнага ўвасаблення. Драматычны твор «Тутэйшыя», як выразна выявілася, не проста дзейсны. Вялікая энергетыка закладзена ў самім Купалавым слове, што азначае вышэйшы пілатаж драматургічнага майстэрства.

У дадзенай пастаноўцы важна і тое, што вельмі ярка раскрыліся мабільныя сілы купалаўскага калектыву, як акцёраў малодшага і сярэдняга пакалення, так і пастановачнай групы — мастака Б. Герлавана, кампазітара У. Кур'яна, балетмайстра Г. Шылянковай. Асабліва трэба вылучыць рэжысёра Мікалая Пінігіна. І раней не было сумнення наконт яго адоранасці. Але стваралася ўражанне, што рэжысёрскія пошукі, у тым ліку і на добрай драматургіі, вяліся дзесьці на перыферыі. На гэты ж раз пападанне поўнае, што называецца, у дзесятку.

Спектакль зажыў багатым, змястоўным жыццём. Папярэднія пастаноўкі, як адзначалася, напаткаў нешчаслівы лёс. Які будзе лёс новай, чацвёртай пастаноўкі?! Пытанне, улічваючы яго вельмі складаную партытуру, калі дастаткова невялікіх збояў, каб парушыць агульны рытм, увогуле мастацкую цэласнасць, зусім не рытарычнае. Карацей — спектакль вымагае асаблівай увагі і беражлівага да яго стаўлення. Зрэшты, усё гэта ў руках калектыву.

Захаваць жа спектакль у першароднай свежасці неабходна яшчэ і вось дзеля чаго. У апошнія гады сярод многіх бед, якія напаткалі тэатр імя Янкі Купалы, была і згуба менавіта свайго гледача. Мы маем на ўвазе нацыянальную інтэлігенцыю, асабліва з пісьменніцкага асяроддзя, так бы мовіць, мазгавы цэнтр, які ў мінулыя часы нямала садзейнічаў пошукам і здзяйсненням купалаўскага калектыву. Не задача тут разблытваць складаны клубок прычын, якія паўплывалі на адчужэнне беларускіх інтэлектуальных сіл ад купалаўцаў,— гэта асобная тэма размовы. Але найпершы цяпер абавязак — павярнуць іх зноў да тэатра. «Тутэйшыя» якраз і ёсць той спектакль, які можа паслужыць кансалідуючым мэтам. І першыя яго паказы гэта пацвердзілі.

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ**

**Фота А. Дзмітрыева**

# З РАКІ ПАМЯЦІ

**Шляхам гадоў.** Гісторыка-літаратурны зборнік. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1990.

Пра такі зборнік у выдавецтве «Мастацкая літаратура» думалі даўно. Здавалася б, і справа зрушылася з месца, калі ў набор быў пасланы першы выпуск штогодніка «Спадчына». Сталася, аднак, так, што ён свету не пабачыў, бо на той час мелі яшчэ моцную ўладу перастрахоўшчыкі ад літаратуры і бюракраты ад мастацтва, а меркавалася ж надрукаваць нават забароненага Янку Купалу.

Сёння ўжо і Купала надрукаваны, і «крамольныя» «Дзве душы» М. Гарэцкага вернуты з небыцця, і А. Гарун нарэшце прыйшоў да сучаснага чытача, і М. Арол ужо вядомы кожнаму, хто цікавіцца беларускай паэзіяй. Пакрысе мы ўсё больш упэўнена, а галоўнае — паслядоўна і мэтанакіравана чэрпаем ваду з ракі памяці, каб спаталіць душы родным, кроўным, каб далучыцца да лепшых набыткаў нацыянальнай літаратуры і культуры.

«Шляхам гадоў»— яшчэ адзін такі гаючы глыток з ракі памяці. Зборнік гісторыка-літаратурны, што адпаведным чынам паўплывала і на яго змест. Уласна кажучы, пра змест гэты ва ўступным артыкуле падрабязна расказвае ўкладальнік Г. Кісялёў. У дадзеным выпадку слова «Ад укладальніка» ўспрымаецца і як свайго роду візітная картка, і адначасова — як рэклама новага выдання. Прапагандаваць жа ёсць што, бо, як відаць па першаму выпуску, зборнік павінен задаволіць самыя розныя мастацкія густы.

Змястоўны атрымаўся першы раздзел — «Пісьменнікі пра сябе. Эпісталярная спадчына». Акном у творчую лабараторыю Івана Шамякіна стаў артыкул «Біяграфія рамана», у якім вядомы пісьменнік расказвае пра сваю працу над гістарычным раманам «Петраград — Брэст». Мы можам прасачыць, як І. Шамякін у рамане «Петраград — Брэст» ці не першы ў савецкай мастацкай Лeнініяне адмовіўся ад хрэстаматыйнага паказу падзей, звязаных з падпісаннем Брэсцкага мірнага дагавора. Некаторыя з чытачоў гатовыя адразу запярэчыць, што з вышыні сённяшняга дня ў гэтым творы бачацца і пэўныя недагаворкі. Магчыма, але нават сказанае ў рамане сустрэла адмоўную рэакцыю з боку асобных «звышле-

нінцаў»: «З гэтай нагоды ўспамінаю спрэчку з некаторымі сваімі рэдактарамі «Петраграда — Брэста». Ф. Э. Дзяржынскі і С. М. Урыцкі займалі памылковыя пазіцыі ў пытанні заключэння міру, схіляліся да «левых» камуністаў. Мне казалі: «Людзі засталіся ў гісторыі партыі? Навошта кідаць на іх цень?»

Э. Ялугіну дакументальную аповесць пра Цішку Гартнага «Пасля нябыту» (кніжны варыянт — «Без эпітафіі») давялося пісаць у іншых умовах. У адрозненне ад І. Шамякіна, які ў асноўным карыстаўся больш-менш даступнымі матэрыяламі, яму давялося весці вялікую пошукавую работу. Як праходзіла яна, відаць з дыялога Э. Ялугіна з гісторыкам В. Скалабанам «Надпіс на памятным камені». Дыялог адметны і тым, што ў ім, хаця гаворка ўвесь час ідзе вакол канкрэтнага твора, адначасова закранаюцца надзённыя праблемы развіцця біябібліяграфічнага жанру ў літаратуры, ліквідацыі так званых «белых плям», сувязі пісьменнікаў і гісторыкаў. Нарэшце, пытанні перагляду нашай нядаўняй гісторыі, каб сказаць усю праўду пра падзеі эпахальнай важнасці. На жаль, само ўтварэнне БССР доўгі час трактавалася аднабакова, прыніжалася роля тых, хто на самай справе дбаў пра лепшую будучыню беларускага народа, у тым ліку і Зміцера Жылуновіча. Разам з тым нараджаліся надуманыя ідэалы «дабрадзеяў», якія на самай справе не надта рупіліся аб прадастаўленні беларусам дзяржаўнасці.

Услед за дыялогам хацелася б паставіць праблемна і тэматычна блізкія матэрыялы «Пачэсны пасад між народамі» (публікацыя, уступнае слова і пасляслоўе У. Содаля), якія сведчаць аб тым, як беларускія пісьменнікі і грамадскія дзеячы ўспрынялі абвяшчэнне БССР.

Каб завяршыць гаворку пра першы раздзел, зазначу, што, безумоўна, прыцягнуць увагу лісты Уладзіміра Караткевіча да латышскіх сяброў, ташкенцкая пошта Якуба Коласа, новыя матэрыялы пра сувязі Янкі Купалы і А. Новікава-Прыбоя (публікацыі адпаведна А. Вераб'я, Л. Мазанік, Я. Саламевіча). Скажам, У. Караткевіч чарговы раз звяртаецца да Ераніма-Стулпана. Канечне, сваё: «Как думаешь быть летом? Когда отпуск? Как здоровье семьи?» Але вось прыпіска... Усяго некалькі радкоў, а па сутнасці — мінірэцэнзія, дакладная і справядлівая ацэнка перакладу Р. Барадуліным паэзіі Я. Райніса: «Рыгоров перевод «Ветрык, вей» и «Сосен» — во!!!!!! Первоклассный перевод, лучше в сто раз, чем русский. Будет явлением в белорусской литературе, посмотришь».

Гэта пра тое, што эпісталярная спадчына заўсёды вартая абнародавання, калі не стрымліваюць толькі прычыны асабістага характару. Дарэчы, у лістах У. Караткевіча што-кольвечы тактоўна апушчана. Засталося тое, што дае ўяўленне пра душэўнасць, шчодрасць пісьменніка, шырыню яго кругагляду.

«Публікацыі. Пошукі і знаходкі»— найбольш аб'ёмны раздзел зборніка. Яго можна лічыць і стрыжнявым, бо ў матэрыялах, прадстаўленых тут (у тым ліку і ва ўжо згаданых выказваннях пра абвяшчэнне Савецкай Беларусі), можна знайсці новыя звесткі, новае вытлумачэнне вядомых падзей і, канечне ж, адкрыццё імён. Напрыклад, упершыню па-сапраўднаму знаёміцца чытач з паэтам Сяргеем Астрэйкам, што быў адной з ахвяраў сталінізму. Хочацца падзякаваць І. Багдановічу і А. Шарахоўскай за грунтоўны артыкул «Узнёслых гадоў наструнованы верш»— гэта і слова пра жыццёвы шлях пісьменніка, і ўдалая спроба аналізу яго творчасці. Доўгі час паэма С. Астрэйкі «Смарагды кроз» захоўвалася ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР. Цяпер, нарэшце, гэты твор надрукаваны.

Дарэчы, пра друкаванне першакрыніц. Колькі адкрыццяў толькі ў гэтым выпуску! Акрамя паэмы С. Астрэйкі, тут змешчана выступленне Б. Тарашкевіча ў польскім сойме 9 ліпеня 1924 г. у абарону беларускай мовы, пракаменціраванае А. Лісам. Публікацыя З. Санько адкрывае для літаратуры яшчэ аднаго беларускага паэта-селяніна — Баляслава Дэмбскага, які жыў на Маладзечаншчыне,— і яго антываенную гутарку 1918 г. «Ваенная праўда».

Кожны з гэтых матэрыялаў варты высокай ацэнкі чытачоў. Аднак, бадай, выкажу думку многіх, хто паспеў пазнаёміцца ўжо са «Шляхам гадоў»: рукапісы А. Рыпінскага (публікацыя В. Скалабана) перагортваеш ці не з найбольшай радасцю і хваляваннем. Колькі гадоў меркавалася, што сшытак А. Рыпінскага, які ў свой час трапіў да М. Піятуховіча,назаўсёды згублены. Цяпер жа ёсць магчымасць пазнаёміцца яшчэ з адной рэдакцыяй паэмы «Тарас на Парнасе», з паэмай «Два д'яблы», вершаванай п'есай «Адвячорак». Даследчыкі высветляць, хто на самай справе аўтар «Тараса...». А. Рыпінскі мяркуе, што Канстанцін Вераніцын...

Перагортваючы старонкі зборніка, вельмі лёгка і спакусліва перайсці на звычайны пералік. Столькі матэрыялаў, і ў кожным адкрываецца штосьці новае, невядомае. Матэрыялы судовай справы Алеся Гаруна і перапіска Францішка Багушэвіча з Янам Карловічам, новыя звесткі пра яраслаўскае акружэнне Максіма Багдановіча, і пра тое, як браты Каліноўскія карысталіся Публічнай бібліятэкай у Пецярбургу, некаторыя сакрэты беларускіх тэкстолагаў... Аўтары Н. Мазоўка, Я. Янушкевіч, М. Нікалаеў, В. Мікута, М. Мушынскі... Музейныя работнікі, навукоўцы, пісьменнік...

У канцы зборніка ёсць невялікі даведнік, дзе коратка сказана пра кожнага з аўтараў. Сярод іх У. Мархель, які пераклаў польскамоўныя вершы Янкі Купалы, і А. Жлутко, што пазнаёміў

з творчасцю лацінамоўнага беларускага пісьменніка Міхала Карыцкага... Гэтыя матэрыялы ўключаны ў раздзел «Цвяток радзімы васілька...». Прадстаўлены ў зборніку і такія раздзелы, як «Літаратурныя пенаты», «Роздум. Рэцэнзіі. Хроніка. Весці з архіваў, музеяў, бібліятэк».

Ахоп тэм, накірункаў — шырокі. Твар зборніка ўжо вымалёўваецца, ён павінен, як і задумана, стаць штогоднікам. Але не будзем забываць, што так меркавалася яшчэ тады, калі не было часопіса «Спадчына». Па ўсім відаць, адзін выпуск ужо прапушчаны.

Цяпер некаторыя пажаданні. Магчыма, у далейшым лепш адмовіцца ад усіх гэтых «весцяў»— на гэта ёсць перыёдыка. Штогодніку не абысціся без штрыхоў да творчых партрэтаў пісьменнікаў, прадстаўнікоў мастацтва, якія рупна працуюць на гістарычнай ніве. Скажам, хто не захоча, узяўшы ў рукі чарговы зборнік, прачытаць пра Л. Дайнеку, В. Коўтун, В. Іпатаву, К. Тарасава. А нарысы пра гісторыкаў, краязнаўцаў? М. Ермаловіч, М. Улашчык, браты Грыцкевічы, М. Мельнікаў... Спіс гэты можна прадоўжыць.

Увогуле, на маю думку, назвы раздзелаў трэба было б удакладніць. Пакуль што яны доўгія і грувасткія і паўтараюцца ў нечым. Скажам, тая ж публікацыя Я. Саламевіча «Янка Купала і А. С. Новікаў-Прыбой: новыя матэрыялы»— хіба гэта не «пошукі і знаходкі»? А «Чалавек, які нарадзіўся не ў сваю эпоху...» (новае з перапіскі Францішка Багушэвіча з Янам Карловічам) Я. Янушкевіча — ці не «эпісталярная спадчына»?

Аб'ём штогодніка немалы — 20 улікова-выдавецкіх аркушаў. Хочацца бачыць у ім больш мастацкіх твораў, якія ёсць і ў тым жа архіве-музеі літаратуры і мастацтва, і ў іншых сховішчах, і публікацый гістарычных матэрыялаў.

Апошняе... Афармленне вокладкі і заставак у стылі «рэтра» (мастак Б. Лалыка) апраўданае. Хай жа і ўсе наступныя зборнікі выглядаюць аднолькава. Не будзем забываць, што выпуск кніг серыямі, бібліятэчкамі ў многім дысцыплінуе чытача, прымушае сачыць за чарговай навінкай.

Застаецца толькі вітаць чарговае выданне. Адно з многіх, якія прыйшлі да чытача, дзякуючы перабудове, і адно з самых неабходных.

**Алесь ВІШНЕЎСКІ**

**«НАСЛЕДИЕ»**
**(на белорусском языке)**



Апостал Пётра. Дрэва, разьба. XVIII ст. Вёска Прошкава Глыбоцкага р-на Віцебскай вобласці. (Зараз — у Музеі старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АН БССР).

